*Ці ж усе з нас свядомыя, да якой справы ў Беларусі прыдатная звычайная вясковая лавачка і тая, якая апынулася раптам перад гарадскім шматпаверхавіком? Гэта месца, у якім мы даведаемся пра ўсё багацце беларускіх уяўленняў пра справядлівасці і несправядлівасці гэтага свету. Тут свабодна можна панаракаць на ўладу, мужа ці жонку, сусветную палітыку і рост цэн у крамах і на рынках. І менавіта лавачка, а не агульнавядомая з літаратуры савецкая кухня, з'яўляецца сімвалічным беларускім светам размоў ад душы. Свет лавачных быляў гэта працяг шматвяковага вуснага, народнага расказу пра фантасмагорыю сялянскага грамадства наконт паданняў, забабонаў, веры, пералякаў, жахаў, якія стараецца аднайсці сябе ў новым, метафізічным свеце знакаў і сімвалаў. І менавіта той пераход ад традыцыйнай, патрыярхальнай, сялянскай рэчаіснасці да гарадской, мяшчанска-савецкай пабытухі становіцца крыніцай абсалютна ірацыянальных паводзін і неправўдападобных здарэнняў беларускай рэчаіснасці. А ўсё залежыць ад багацця ўяўленняў лавачнікаў, дзе свет сапраўдных гісторый неад'емна пераплецены з фантазіяй апавядальніка, якога чарговыя сказы часта вышэй за булгакаўскія запісы.*

*Пісьменнікам, які ў Беларусі ў форме літаратурнага запісу знакаміта перадае лавачную народнасць з'яўляецца Віктар Сазонаў. Ягоныя „Суседскія былі" з малюнкамі Міраслава Здрайкоўскага цягам 2006-2007 гадоў друкаваліся ў тыднёвіку беларусаў Польшчы „Ніва". Гэтыя кароткія апавяданні карысталіся папулярнасцю сярод чытачоў і ўрэшце дачакаліся свайго кніжнага выдання. А што цікава, у 2011 годзе ў кніжным выглядзе выйшаў ужо пераклад гэтых апавяданняў на польскую мову пад загалоўкам „Bajdy sąsiedzkie", зроблены Марцінам Рэмбачам. Нагадаю, што выдадзеныя раней „Нівай" апавяданні Віктара Сазонава „Занатоўкі кантрабандыста" атрымалі сапраўдны поспех у беларускай літаратурнай прасторы.*

*Перачытваючы „Суседскія былі" складаецца неадольнае ўражанне, што за героямі некаторых падзей, толькі прыхаваўшыся пад мянушкай, скрываецца і сам аўтар. Усё згодна традыцыі ўсіх неблагіх баюноў... „пережыў і выпрабаваў шмат, але дзецям і ўнукам няшмат распавядаць". Але сябрам і чытачам, згодна прынцыпу малога мядзведзіка, тоесёе можна распавесці.*

*Героі расказаў Сазонава гэта людзі, якія па-свойму імкнуцца дагнаць уцякаючыя перад імі мары пра іхняе шчасце. Адным гэта будзе пагоня за новенькай машынай, другім няўдачнікам — духоўнае галавацяпства ў змаганні з савецкай і постсавецкай рэчаіснасцю. Гэтыя ж жыццёвыя разлады надта часта падліваюцца празмернай колькасцю піўца і гарэлкі. І менавіта празмернасць выпітай гарэлкі адрознівае героя гарадской лавачкі ад упарадкаванага, мудрагелістага свету вясковага расказчыка. Адтуль і трагізм гарадскіх*

*герояў і апавядальнікаў, якія ў бліжэйшай піўнушцы ці рэстаране разменьваюць на дробныя капейкі свае таленты і прапіваюць свае мары.*

*„Суседскія былі” Віктара Сазонава з суседняй Гарадзеншчыны будуць аж надта зразумелымі і нашаму падляшскаму чытачу. Падобных падзей ды гісторый і ў нашым вымярэнні хоць адбаўляй. Трэба толькі прызямліцца ў любой вёсцы ці маламестачковым парку з расказамі Віктара Сазонава і ўважліва паслухаць, пра што гавораць людзі і каркаюць вароны. А прыемнасці ад чытання жадае*

***Яўген Вапа***

## *Небяспечны дзень*

„Лепш бы я пайшоў зранку ў калгас на працу", — падумаў Пятро Місюкевіч пасля таго, як убачыў праз акно сваю жонку, якая, з заклапочаным як у курыцы-кватухі выглядам, куляй ляцела дахаты. Пятро ў гэты момант гатовы быў пабажыцца, што яго другая палова, з якой ён у сварках і ўзаемных прэтэнзіях, што называецца душа ў душу пражыў дваццаць сем гадоў чатыры месяцы і дзве з паловай гадзіны, ускочыць у хату яўна не з пяшчотнымі словамі кахання.

— Чаго рассеўся, лабідуда, — запішчала тая яшчэ знадворку, нават не бачачы, у якой позе зараз знаходзіцца цела бацькі яе дзяцей. — Усе людцы як людцы, даўно на працы, цягнуць набытае да хаткі як мурашачкі, а табе яшчэ дзень не надышоў, — не супакойвалася яна ўжо, ускочыўшы ў хату.

— А сёння дзень цяжкі, — парыраваў яе нападкі Пятро. — Шаптуха, што каля Багданава жыве, казала, што сёння лепш з хаты не выходзіць. Небяспечна для здароўя і нават для жыцця.

— Хай бы яна гэта нашай свінні сказала, — жонка кінула такі гнеўны позірк на галоўнага ў сям'і, што той мала не самлеў. — Бо наша свіння на гукі паднялася, зараза. Паламала ўсю загародку, хутка дзверы ў хляве высадзіць. Калі не знайсці ёй парсюка, то да вечара ўвесь хлеў разнясе.

— Ну то не бяда, — пачаў супакойвацца Пятро, уцяміўшы, што жончына злосць з-за свінні, а не з таго, што ён учора заседзеўся за пляшкай добрага першаку ў мясцовай сама-

гоншчыцы Аліны. — Свінні пару знайсці проста. Каго прывядзеш, той і добры. Што ні парсюк, то і муж. Гэта не для вас, баб, што каго не падсунь, усякага зганьбіце. У Семярніках ёсць добры племянны кныр у Вярбіцкага. Зараз справу афармім.

Пятро пазычыў у суседа матацыкл з люлькай, разам з ім выцягнулі з хлява, паказаўшую, што і яна мае нейкія правы на прыватнае жыццё, свінню, упхнулі яе ў люльку і моцна прывязалі. А каб не змясіла нагамі шлем, адзелі яго жывёліне на галаву.

Праз нейкі час Місюкевіч рушыў у дарогу. Свіння сядзела ціха. Не брыкалася. І нават шлем не спрабавала скінуць. Хіба з таго, што такі спосаб перамяшчэння яна ўспрыняла за факт, што і яе сталі лічыць чалавекам. А можа проста ведала куды яе вязуць. У самак усякіх відаў на гэта своеасаблівы нюх і інтуіцыя, якія цалкам адсутнічаюць у іх тупагаловых самцоў.

Дарога была не далёкая і ніякіх клопатаў не павінна было ўзнікнуць. Але першая ж машына, якая ехала насустрач, на вачах Місюкевіча зляцела ў роў. Пятро хацеў стаць і памагчы. Але калі другая машына звярнула ўбок і рэзнулася ў першую, вырашыў, хай самі разбіраюцца, як ездзіць не ўмеюць, на роўным месцы разбіліся. Праз нейкі час з дарогі сігануў у кусты сустрэчны матацыкл. А пасля яшчэ дзве машыны, адна за другой гахнуліся ў слуп і дрэва. „Трэба ехаць асцярожна, — падумалася Місюкевічу. — Вельмі небяспечны выдаўся дзень”.

У гэты дзень інспектар ДАІ Іван Пракопчык быў у такой

разгубленасці, якой не было за трыццаць год яго міліцэйскай службы. Калі на месцы першай аварыі збянтэжаныя шафёры расказалі, што насустрач ім ехаў нейкі вар'ят на матацыкле, і вёз у люльцы свінню ў шлеме, і з тае прычыны, заглядзеўшыся на гэтае дзіва, яны і з'ехалі з дарогі, той падумаў: „Чаго толькі людзі не прыдумаюць, каб атрымаць страхоўку і пазбегнуць адказнасці". Калі падрапаны, як пасля бойкі з дзеўкамі, матацыкліст сцвярджаў тое самае, міліцыянт западозрыў, што ў раёне з'явіўся новы гатунак самагону, які выклікае назаўтра ў розных людзей адзін і той жа глюкавы прывід. Ну а калі пабітыя ў сінія яблыкі два наступныя пацярпелыя настойвалі менавіта на гэтай версіі, капітан ДАІ насамрэч яўна ўбачыў перад сваімі вачамі заўтрашнія падзеі: як яго ганебна выганяюць з работы, калі на стол начальства ён пакладзе рапарт з апісаннем дарожна-транспартных аварый з удзелам свінні на матацыкле.

У такім задуменні ён рушыў на сваім матацыкле ў Ашмяны, з недаверам узіраючыся на люльку і разважаючы, як там можна размясціць свінню. А Пеця Місюкевіч ужо вяртаўся назад вельмі задаволены, што ўдалося ўсё, што планаваў, і вёз у люльцы таксама вельмі задаволеную свінню. Інспектар ДАІ вуглом вока заўважыў на дарозе нешта нязвыклае. Яго позірк міжволі ўпіўся ў свінню ў шлеме. Пракопчык аж падняўся ў поўны рост на ножках матацыкла, і, размінаючыся з нязвыклым удзельнікам дарожна-транспартнага руху, развярнуў тулава на 180 градусаў. А праз хвіліну яго матацыкл так рэзнуўся ў слуп, што аж люлька ад яго адляцела і яшчэ метраў дзесяць пацілася ў поле, стараючыся апярэдзіць міліцыянта, які, мацюкаючыся, рабіў тое ж самае.

— Адчыняй старая хлеў, хутка будуць парасяты, — заязджаючы ў падворак такім ганаровым голасам заявіў Пятро, нібыта ў тым факце была яго заслуга, а не кныра.

— Ідзі, паеш, — адказала жонка, якая бліжэй да вечара заўсёды рабілася больш лагоднай. — Як дзень прайшоў?

— У мяне — дзякуй Богу. Але шаптуха мела рацыю. Вельмі было сёння небяспечна. Пакуль я ехаў, безліч аварый здарылася. Прама на маіх вачах. Нават наш інспектар разбіўся на матацыкле. Халера іх бяры гэтых шаптух. Скуль яны ўсё ведаюць?

## *Ачышчэнне душы Кастуся*

Падманам, калі на тое пайшло, трэба лічыць не толькі непасрэдна падман, калі чалавек лжэ, гледзячы ў вочы як гадзюка мышы, і нават не хоча заўважаць, што чорт ужо накінуў на яго аркан. Падманам трэба таксама прызнаваць і затойванне праўды, або калі чалавек сказаў не ўсю праўду, чым перавярнуў рэчаіснасць з ног на галаву, як пераварочвае вантробы ад не таго з'едзенага, — цвёрда і з выглядам дасведчанага ў галіне філасофіі знаўцы заявіў Лявон. Ён кіраваў машынай, якая везла пяцёх гарадзенскіх сяброў у Будслаў на штогадовы рэлігійны фэст. Таму яго думкі былі скіраваны выключна на духоўныя тэмы.

— Правільна. І я за гэта, як камсамол за камунізм, — вырашыў пажартаваць і на гэтую тэму заўсёды вясёлы Юрка, які мала калі рабіў сур'ёзны выраз твару, нават калі даводзіў найважнейшыя рэчы. — Вось ты, Кастусь, — звярнуўся ён да яшчэ аднаго пасажыра легкавіка, які з хмурым тварам падлічваў страты на дарогу і не хацеў далучацца ні да якой спрэчкі: ні да сур'ёзнай, ні да жартаўлівай, — скажы нам, сябрам, толькі праўдзіва, як перад пякельнай брамай, і не лжы, бо язык адсохне, ці расказаў ты сваёй жонцы пра свае прыгоды з той мамзеляй, якую сп'яну злавіў на вуліцы няроднага нам горада?

— Хто ж такое расказвае жонцы?! — схапіўся за галаву напалоханы Кастусь. Ад адной думкі пра такую мажлівасць у яго не толькі далоні ці лоб, але, як казаў класік, і душа спацела. — І вы, прыдуркі, маўчыце як труна на клямцы. Найш-

лі што ўспамінаць. За гэны брутальны загул не толькі мне, нам усім сорамна!

— Вось так. Ты яшчэ скажы, што сорамна ўсяму чалавецтву. Значыць, жонцы салгаў. Эх! Чым мацней у працэсе дарвінаўскай тэорыі эвалюцыі развіваўся інтэлект чалавека разумнага, чым больш каларытнай і дасканалай станавілася яго мова, тым прыгажэйшым і праўдападобнейшым атрымліваўся ў яго падман, — так сама, як і Юрка, стаў пераходзіць на жартаўлівы тон Лявон.

— Чалавек навучыўся лгаць усюды, пра ўсё і ўсім. Пры патрэбе і без патрэбы, з карысцю і проста так, каб прынізіць каго або ўзвысіць сябе, каб не сказаць праўды і каб сказаць няпраўду, каб аблаяць дабро і каб падмануць зло, каб камусьці засмуціць і каб развесяліць... — падтрымаў Лявона Анатоль. — Здаецца, што ні для якога іншага дзеяння чалавечыя мазгі не прадстаўляюць столькі прапаноў, як для хлусні. Але нават калі лгаць прыходзіцца ў імя перамогі праўды і чэснасці, рана ці позна чалавечае сумленне пачынае настойваць, каб яго ўладальнік ачысціў душу ад вылітага з вуснаў бруду, як чысцяць перлы перад продажам. Ды і тут, усё той жа, індывідуальны інтэлект кожнага, які цешыць сябе надзеяй, што ўжо абагнаў эвалюцыю масавага духоўнага развіцця ўсіх, пачынае прапаноўваць на разгляд самаму дасканаламу стварэнню шматлікія варыянты выхаду з духоўнага крызісу. І людзі пачынаюць мітусіцца. Адны выліваюць душу знаёмым, другія публічна прызнаюцца ў тым, што яны гэткія ж як і ўсе. І калі трошкі лепшыя за астатніх, то не нашмат. Іншыя размаўляюць з бутэлькай, а некаторыя не знаходзяць анічога лепшага, чым даверыцца пісталету... Усіх

вытанчана каварных спроб інтэлекту, каб даказаць сваю перавагу над сумленнем, пералічыць немажліва. Не хопіць не толькі сусветных запасаў паперы, але і месца ў бясконцай віртуальнай інтэрнэт-прасторы. Ды духоўнае развіццё чалавецтва знайшло найлепшы варыянт, як супакоіць фантазіі хворых мазгоў. Гэта споведзь. Яна замяняе ўсе іншыя варыяцыі, бо мае таямнічае, незямное паходжанне, і можа прынесці чалавечай душы сапраўдны спакой. Вось так. І прашу гэта, што я зараз казаў, лічыць лёгкім філасофскім адхіленнем ад галоўнай тэмы. А зараз за самае важнае! Скажыце мне, што там за выпадак з нейкай пазашлюбнай Кастусёвай кабетай, пра які Юрка ўзгадваў? Распавядзіце пра яго, а то я не ведаю.

— Хто ж такое расказвае іншым! — так рыкнуў Кастусь, што мала ўсе машыны на трасе не паразляталіся з перапалоху. — Мала што ў жыцці бывае. Але гэта не тэма для размоў. Яшчэ дзе возьме і выплыве. Доўгі язык аж да жонкі давядзе. Шукай тады вінаватых. А знойдзеш, то тут і да новага граху недалёка. Прыйдзецца задушыць таго плеткара, як гадкага ката, што ў гаспадарскія боты мочыцца. Так што я з Толікам згодны. Адзінае месца, дзе можна душу ачысціць, гэта споведзь.

— А ты за здароўе святара не баішся? — не адступаў ад спробы перавесці размову ў смех Юрка. — Ён як пачуе, што ты вырабляў там з гэтай фіфай, то сам цябе задушыць. Проста на споведзі, на вачах усіх вернікаў і верніц, каб іншыя баяліся і ў думках паўтарыць такое. За такія брудныя паводзіны цябе нават сам міратворац Гандзі задушыў бы без шкадавання і згрызот сумлення, як адзінае выключэнне з яго

тэорыі несупраціўлення злу гвалтам. Лепш нам распавядзі ўсё падрабязна, а мы ўжо параім табе як гэта правільна святару паднесці.

— Хто ж такое расказвае ў кампаніі, — адмахнуўся Кастусь і прыгатаваўся выйсці з машыны. — Збірайцеся. Ужо Будслаў.

Рэлігійны фэст у Будславе сапраўды ўражвае. Мноства паломнікаў з усяе Беларусі і з-за межаў, адчуваецца нейкі непаўторны дух, які прымушае задумацца пра вечнае. І толькі на паўдарозе назад хлопцы зноў здужалі аднавіць свае жарты, каб канчаткова так даканаць Кастуся, як на трыццатым годзе шчаслівага сямейнага жыцця жонка дабівае мужа.

— Ну і ці хадзіў ты да споведзі? — першым пачаў Анатоль.

— Так. Аж два разы, — паклаў руку на сэрца Кастусь. — І ведаеце, хлопцы, што я скажу? Так мне зараз лёгка на сэрцы, так добра. Адчуваю сябе як пух з падзёртай падушкі, які вецер, вырваўшы з палону навалачкі, падхапіў і падымае ўсё вышэй і вышэй. А навокал свет ясны і светлы, прыгажосць і мір, спакой і душэўная раўнавага. Адчуванне такое, што ні з чым не параўнаеш. Вось што значыць скінуць з сябе цяжар грахоў. Хочацца рабіць дабро, любіць людзей і нават нелюдзяў. Хочацца ўсім дараваць іх правіны ў дачыненні да мяне і да іншых, і ляцець гэтак як пух усё далей і далей, вышэй і вышэй, уздымаючыся над светам і над сабой...

У хлопцаў аж слязу прабіла, як на пахаванні шэфа. Пасля пачутых слоў, разам з якімі і іх душы ўзляцелі ўвысь нібы той пух, нават у думках не было далей смяяцца над Кастусём.

І толькі Юрка, твар якога ўпершыню хіба што за апошні год стаў сур’ёзным, не ад злосці а так, міжволі, можна сказаць што па інерцыі, бо раней яшчэ сябе на тое запраграмаваў, скінуў з вуснаў застылую фразу:

— А што святар сказаў пра прыгоды з той лярвай?

Сказаў і сам напалохаўся, як вадаплаўны заяц сухапутнага кракадзіла. Нават рот рукамі закрыў, адчуўшы на сабе асуджальныя позіркі сяброў.

— Ну ты зусім ашалеў, — агрызнуўся раззлаваны Кастусь, кінуўшы з вачэй маланкі ў 1225 вольт. — Ты што, лічыш, што я мусіў выдаць сябе святару. Хто ж такое расказвае.

## *Куля*

Сямён Трацяк, па мянушцы Нос, якую яму далі не толькі з-за таго, што ён любіў сунуць гэтую частку галавы ў чужыя справы, як гэта не парадаксальна, вельмі не любіў, калі ў яго асабістае жыццё зазірае хтосьці іншы. Такі быў сакрэтны, што барані Божа. Такіх патаемных свет не бачыў. Яму б з гэтым талентам у шпіёны куды ўладкавацца. І грошы добрыя зарабіў бы, і карысць якую Радзіме прынёс. Ды дзе там. Нос ні на каго не працаваў і не збіраўся. Жыў сваім розумам і сам для сябе. Ну яшчэ пра сям'ю не забываўся. Таму і ўладкаваўся на калгасную свінаферму вартаўніком, нібыта працаваць. А насамрэч, каб было дзе мукі ды буракоў сцягнуць для сваіх парсючкоў. Тым і зарабляў на жыццё. І зарабляў не горш за іншых, якія пупы дзерлі ды спіны гнулі на калгасным полі ды нічога за гэта не атрымлівалі. Хіба з тае бяды і залівалі па вечарах свой гаротны лёс моцнай вадкасцю ўласнай вытворчасці. А Нос амаль зусім гэтае паскудства не ўжываў. Хіба што на вялікае свята. Мужчына ён быў працавіты, калі для сябе, работы не баяўся. Жыў пераважна ўласнай гаспадаркай ды сваім розумам. Сам у сабе. Іншых у свае думкі не ўпускаў. А вось падслухаць дзе хто нешта тут ён не праміне. Яму яшчэ пасавала б мянушка Вуха.

Жонка Трацяка, Ганна, мужам была задаволена. Ну і што, што ён нелюдзімы і негаваркі, затое заўсёды пры хаце. Не тое што іншыя лайдакі, абы толькі да піўнога бара далезці і налізацца горкай, як кот валяр'янкі. А пасля ўжо самастойна і да хаты дапаўзці не могуць без перапынкаў на трох-, чатырохгадзінны сон пад адкрытым небам у цяні вясковых бэзаў. І тое,

што людзі ейнага мужа недалюблівалі, яе мала хвалявала. Абы ёй было добра. А людзі — пляваць ім на грудзі.

Ды людзі праўду кажуць. Увесь час добра не бывае. Не для таго жыццё чалавеку дадзена, каб з яго цешыцца. А ў ціхім балоце, якім доўгі час быў яе муж, як вядома, чэрці водзяцца. Стала Ганна заўважаць, што яе законны і каханы стаў пазней дахаты прыходзіць з фермы. Часам нават добра налізаўшыся, аж на нагах стаяць не мог. Палезлі жанчыне ў галаву дурныя думкі. Можа ўцягнуўся ў нядобрую алкагольную кампанію, а можа, што яшчэ горш, з якой свінаркай зблытаўся там, на ферме. Бабы зараз такія пайшлі, кожнага мужыка схопяць. Не паглядзяць, што ў таго нос як у чорта. І людзей не засаромяцца. Маці Ганны паспрабавала супакоіць дачку. Кажа, маўляў, чаго гэта яна ўжо думае пра сама горшае. Можа Нос проста папаўся на крадзяжы і цяпер выпівае з нерваў, бо хутка пасадзяць у турму. Гэтыя аргументы на нейкі час супакоілі Ганну, але пасля зноў сталі мроіцца чужыя жанчыны. Аж сардэчныя кроплі прыйшлося прымаць па начах. А як тут праўды дазнаешся, калі яе ж каханы такі сакрэтны, што нават пра другіх людзей, пра якіх з-за сваіх якасцей падслухоўваць ды падглядваць ведаў усё, нікому ніколі і нічога не выдаваў.

Пасохшы з тае роспачы месяц-другі, вырашыла кабета дзейнічаць наўпрост. Узяла неяк і прама ў лоб паставіла мужу ўльтыматум, каб той, калі дзе збіраецца затрымлівацца, то толькі з яе ведама і згоды. Назаўтра Нос прыйшоў дахаты са стрэльбай і паведаміў сваёй каханай, што ён стаў паляўнічым і зараз, кожны вечар, ён з яе згоды будзе ганяцца за ляснымі істотамі, якіх можна ўжываць у якасці ежы.

Ганна напачатку нічога кепскага не западозрыла. Хай, думае, гойдаецца сабе па лесе. Гэта ж лепш чым гарэлку есці з мясцовымі лайдакамі, ці, о Божа, нават думаць страшна пра тых свінарак. Але пазней сталі да яе далятаць чуткі, што яе Сямён час ад часу купляе ў Грышкі Спірыды трусоў. Жанчына ледзьве не абамлела. Стала ўспамінаць, як яе муж прыйшоўшы з палявання ганарліва кідаў на стол зайца, але чамусьці без шкуры. Казаў, шкуру так шротам пабіла, што мусіў выкінуць. А пасля, седзячы за сталом, нібыта даставаў з прыгатаванага зайца шрот, хоць самой Ганне той шрот ніколі на зубы не трапляўся.

Палезла патаемна занепакоеная жанчына ў кішэні мужа, у паляўнічую торбу, у стрэльбу зазірнула. Нідзе патронаў няма. А каханы ўсё зайцоў з палявання прыносіць. Адно слова — снайпер. Нават без патронаў б’е без промаху.

Набыла недзе Ганна кулю ад аўтамата Калашнікава і, смажачы чарговага зайца, упхнула яе ў мяса. Падала ежу мужу і назірае. А той, расказваючы, як ён заваліў шэранькага адным меткім стрэлам, сціснуў сківіцу і з крыкам выплюнуў на падлогу тры зламаных зубы разам з куляй. Праз хвіліну і вочы ў яго ледзьве не выкаціліся да тых зубоў, як здзіўлена глядзеў на кулю. А Ганна толькі папрасіла прабачэння, што не здагадалася, што пасля снайперскага мужавага стрэлу трэба было перад прыгатаваннем дастаць са здабычы кулю.

Больш Нос на паляванне не хадзіў. Стрэльбу іржа паела. Затое ў хаце зноў лад, парадак і шчаслівая жонка. Шчаслівай можна быць і пры бяззубым мужу. Адзіны, хто застаўся абдзелены, гэта Грышка Спірыда. Прыйшлося кінуць разводзіць трусоў. Ніхто не купляе. Каму яны цяпер патрэбныя.

## *Генеральскі куст*

Я вырашыў яшчэ зранку, што гэта мой дзень. І не важна, серада гэта ці пятніца, ён мой і толькі мой, як вайсковы білет, табельная зброя і сухпаёк, выдадзены наперад за маючыя адбыцца скокі з парашутам. Сёння, нарэшце, я зараблю на дзесяцідзённыя вакацыі дахаты. Я ў тым ні кроплі не сумняваўся, як не сумняваецца пацыент псіхіятрычнага шпіталя — трынаццатай палаты злева ад кабінета галоўнага доктара — у тым, што ён Напалеон. І нават камандзір, хоць тая частка спецыяльнага прызначэння СССР была надзвычай сакрэтнай, бо знаходзілася за межамі Саюза ў парушэнні ўсіх міжнародных дамоў, і вакацыі для салдат прадугледжваліся як вялікае выключэнне, сказаў мне, што я кандыдат нумар адзін на тое, што змагу на ўсіх пантах падзерці цяльняшку на танцах ля вясковага клуба, чым прывяду ў захапленне аднагодкаў і яшчэ больш падыму аўтарытэт дэсантных войскаў у вачах тых дурняў, хто на тыя свае вочы не бачыў, што там такі самы бардэль і беспарадак як і ва ўсёй арміі ў прыватнасці і ва ўсёй краіне ў цэлым.

Сёння мусіла адбыцца генеральская праверка, а я быў якраз той салдат, які мог ўратаваць гонар людзей у пагонах, трапна адстраляўшы, хутка адлётаўшы, нізка адпоўзаўшы, смела адскакаўшы і бадзёра ды разумна адказаўшы на ўсе прымітыўныя пытанні, прыдзіцінеўшага яшчэ ў палкоўнічыя гады, цяперашняга генерала-маёра.

І ўсё ішло па плане, як у рабаўнікоў банка ў амерыканскім вестэрне. Пасля таго як я, зрэзаўшы дарогу больш чым на

дзве трэція, прабег тайнай сцяжынкай праз лес і пабіў яшчэ не ўзяты спартсменамі алімпійскі рэкорд, генерал-маёр адразу звярнуў на мяне ўвагу як на гонар дэсантных войскаў Савецкага Саюза. Сказаў, што кожны разведчык павінен бегаць так як я і нават яшчэ хутчэй. На стрэльбішчы нам выдалі па тры ражкі патронаў. А ў мяне прыхаванымі былі яшчэ сем. І я так лупіў з аўтамата, што панішчыў усе мішэні, ды засталося тых патронаў больш, чым мне выдалі. І правяраючы занёс гэты факт у свае нататкі як узор эканоміі боепрыпасаў. На скоках з парашутамі вецер грымнуў мяне прама ў цэнтр круга. А калі на паказусе рукапашнага бою, падбухтораныя мной сябры яшчэ да нанясення ўдару падалі на зямлю як птушыны памёт з паднябесся, генерал аж завойкаў ад захаплення. Вось гэта падрыхтоўка! Нам ніякія войскі НАТА цяпер не страшныя.

Я ў сваіх марах ужо бачыў сябе ў самалёце АН-12, які мяне, абвешанага значкамі ды аксельбантамі, у па-дэмбельску нацягнутым на патыліцу блакітным берэце, імклівай птушкай нясе да роднай вёскі. А там... Вось ужо адарвуся! На ўсю катушку. Трымайце мяне ўдзесяцярых! Але...

— Аб’яўляю вам ад камандавання Цэнтральнай групы войскаў удзячнасць! — грымнуў генерал-маёр перад усім роўненькім як палёт кулі шыхтом. А пасля хіба вырашыў здзівіць усіх сваім інтэлектам і спытаў:

— А ці знаеце вы што такое рэчка?

— Так, — імгненна адказаў я, — ведаю!

Такая ўпэўненасць вельмі спадабалася генералу. Але ён вырашыў працягваць апытанне.

— А што такое лес?

— Лес гэта лес, — не маргнуўшы вокам імгненна выгукнуў я.

— Правільна, маладзец! — заганарыўся мной правяраючы. — А што такое куст?

Я на хвілінку задумаўся, каб даць арыгінальны адказ, бо самому непрыемна банальна несці адну і тую ж ахінею. Ды гэта была памылка.

— Ты не ведаеш што такое куст? — зароў генерал як страшыдла, якое ўночы на могілках нечакана сутыкнулася з раздзярылам.

— Ведаю! Я нават суседскіх курэй страляў у дзяцінстве з-пад куста... — пачаў я выпраўляць сітуацыю, ды было ўжо позна.

— Камандзіра роты і зампаліта да мяне, — рыкнуў генерал. — Ваш разведчык не ведае што такое куст! Чым вы тут займаецеся?

— Старэйшы разведчык, — няўдала ўдакладніў зампаліт і выцягнуўся ў нітку. А пасля хіба спалохаўся, што ў такім стане будзе вышэйшы за чалавека з чырвонымі лампасамі на портках і сілай волі зменшыў свой рост да падбародка начальніка.

— Старэйшы за каго!? — не супакойваўся той.

— Старэйшы за проста разведчыка, — заікаючыся прамямліў напалоханы зампаліт і яшчэ больш зменшыўся ў росце.

Я стаў адчуваць, што мае вакацыі пераходзяць з катэгорыі рэалій у спіс няздзейсненых мар. За больш чым паўтара года службы, вопыту ў такіх пытаннях нажыў. І рэагаваць навучыўся на такія каманды як: „Эй, вы трое, абодва да мяне", і да

фраз кшталту: „Заўтра ў пяць пятнаццаць раніцы раптоўна будзе аб'яўлена нечаканая трывога" таксама прывык. І нават сэнс легендарнага і ўсім вядомага спалучэння прасторы і часу ў выглядзе каманды падмятаць пляц ад плоту і да абеду даўно зразумеў. Але што такое куст? Халера яго ведае. Лепш, думаю, у такім выпадку маўчаць, як цвік у крышцы труны, як застрэлены нямы, як пафарбаваная перад праверкай у зялёны колер трава на тэрыторыі часткі, як сапсаваны рухавік баявой машыны дэсантнікаў, як дзірка на пагонах старэйшага лейтэнанта, што яшчэ нядаўна быў капітанам, як...

— Чорт знае што! Можа і вы не ведаеце, што такое куст!? — пырснуў слінай генерал прама ў твар камандзіра роты.

— Ведаю! — выцягнуўся той у стойку „стромка" і шэптам спытаў у зампаліта: — Хутчэй скажы што такое куст?

— А трасца яго ведае, што такое той куст, — адшапнуў той і зменшыўся яшчэ ніжэй. Ніжэй за маленькага камандзіра роты.

А генерал шырокімі, наколькі дазвалялі порткі, крокамі насіўся туды-сюды перад шэрагам збянтэжаных вайскоўцаў і чытаў лекцыю пра тое, што разведчык, які не ведае што такое куст, не зможа выканаць загад цэнтральнага вайсковага штаба.

— Куст, — урэшце падняў ён палец угору і, пад уздых палёгкі камандзіра роты і зампаліта, выдаў ісціну апошняй інстанцыі, — куст — гэта сукупнасць сукоў і галін, якія тарчаць з зямлі з аднаго і таго ж месца.

Усмешка праляцела па тварах салдат ад пачатку да канца шэрагу і вярнулася назад. А я дык хацеў яшчэ і перапытаць: „З якога такога аднаго месца?". Усядно, думаю, вакацыі пра-

палі як здань на раніцы. Я як на яве ўбачыў у слязах пілота таго АН-12, які паглядае на пустое крэсла ў салоне свайго самалёта і ніяк не можа паверыць, што нейкі куст перашкодзіў старэйшаму разведчыку войскаў спецыяльнага прызначэння падзерці ля роднага клуба сваю цяльняшку і яшчэ пару-тройку чужых мордаў сяброў нядаўняга дзяцінства. Ды не паспеў я спытаць. Генерал угледзеўся, укасурыўся, утарашчыўся, указеліўся, упіўся ў мяне падпухлымі вачамі і зрабіў кантрольны стрэл, якога я ўжо сцярпець не змог:

— А для чаго служыць куст? — загарлапаніў ён.

— А куст не служыць, — спакойна адказваю яму такім тонам, нібы мы толькі што сустрэліся ля піўнога бара і ў нас на плячах няма пагонаў. — Гэта толькі дурні служаць. Хтосьці мусіць выконваць ганаровы абавязак грамадзяніна, а хто і па добрай волі ды на ўсё жыццё. А куст проста расце, і нікому служыць не збіраецца...

Генерал-маёр зароў як генерал, якога разжалавалі да маёра. Ён махаў рукамі як млын. Казаў, што баявая і палітычная падрыхтоўка нашай часткі сама горшая і што куст служыць для маскіроўкі, арыенціроўкі, засады, прыстрэлу, абстрэлу, і яшчэ безлічных розных рэчаў. А мая цяльняшка так і засталася цэлай, ні кропелькі не падзертай аж да канца службы.

Затое як я адслужыў і вярнуўся дахаты, пачаў усіх, каго не напаткаю, пытаць што такое куст. Каб душу пацешыць і мудрасць народную пацвердзіць пра тое, што войска розуму дадае. І настаўнікаў пытаў, і паляўнічых, і калгаснікаў, і леснікоў, і тых хто кусты высякае, і тых хто садзіць — усе глядзелі на мяне так, як я тады на генерала. Аніхто не ведаў. Адзін толькі я.

## *Вайна пад стрэхамі, ну*

Стары вясковы жартун Яська Гіль любіў пасмяяцца больш, чым салодка паспаць у ягоныя за восемдзесят з гакам год. І нават больш чым паесці чаго смачнага, да чаго таксама быў даволі ахвочы, як суседскі паскудны кот гэткага ж старога суседа Антона. Жарты Яська любіў больш за ўсё, нават больш чым жонку да таго, як прапанаваў ёй на ўсё жыццё атрымаць легальнае права да папрокаў і здзекаў над сабой. Хлебам не кармі, а распавядзі яму якую смешную гісторыю, ад якой аж пуп прыліпае да спіны ад смеху. То ён тады разнясе яе не толькі па ўсім сваім даволі вялікім мястэчку Гальшаны, але не супакоіцца, пакуль кожны жыхар цэлага раёна не выслухае яго і не пасмяецца разам. І расказваць умеў. Са смакам так, як прафесійны казачнік. Ды і сам рагатаў ад кожнага разу так, што нават не даслухаўшаму той гісторыі чалавеку усядно смешна рабілася ад тога рогату. Асабліва спадабалася адна. Ёй ужо даўно пакою не даваў людзям, па некалькі разоў расказваў. Пра немцаў.

Нібыта нейкія людзі капаліся ў полі, скарб шукалі ці што, ці ведалі што выкапаюць, і знайшлі скрынку ваенных часоў. А там нямецкія мундзіры ды аўтаматы. Было гэта ў сямідзясятыя гады дваццатага стагоддзя. Тады фільмы амаль усе толькі пра вайну паказвалі. З тых стужак маладыя добра ведалі як выглядалі немцы, а старэйшыя яшчэ і не забыліся. Параіліся тыя скарбашукальнікі і вырашылі пажартаваць над іншымі. Ну то пераапрануліся ў немцаў і пасмейваючыся як вучань, што двойку з дзённіка выдзер, на калгасны сход прывалакліся.

— Хон дэ хох, — крычаць нібы абкураныя канаплёй вар'яты. — Хто за савецкій власть давай на выхад. Будзем рабіць расстрэляйнт.

Прысутныя напалохаліся да смерці, як кацяня бульдога. Старшыня сельсавета, нібыта, нават порткі замачыў. А нейкі партыйны актывіст, які толькі што распавядаў пра самы справядлівы на свеце сацыялістычны лад, ускочыў з прызідыума і шпарка, як быццам бы ў яго да азадка матор з прапелерам прымацаваны, угнуўшыся ў тры пагібелі, да „немцаў" падляцеў.

— Нашы прыйшлі, родненькія! Як я вас чакаў, — упэўнівае тых і пальцам паказвае на сваіх толькі што паплечнікаў. — Я вам усё раскажу. І пра ўсіх. Вось гэта старшыня калгаса, вось гэты — кіраўнік партыйнай камуністычнай арганізацыі, а гэны вунь гад — наш мясцовы ўчастковы. Яго бярыце першым, бо можа мець пры сабе зброю.

А камуністы сталі бажыцца, што яны ніякія не камуністы. Гэта, маўляў, той даносчык — сам камуніст. І іх, немцаў, у зман уводзіць. Ну а пасля, як разабраліся, што да чаго, то ўсім хапіла па карку. І „немцам", і камуністам. А праз дзень, як з раёна прыехалі ўпаўнаважаныя асобы, каб разабрацца што там было, усё начальства ў калгасе памянялася. Прыйшло новае. А старое некуды знікла, разам з „немцамі".

Праўдзівая тая гісторыя, ці прыдумка, ніхто не ведаў. Але Яська ёй так задурыў галовы вяскоўцам, што яго ўжо абыходзілі як тыфознага. Першы раз то цікава паслухаць, але калі дзясяты, то хай яно лясне. Казалі Гілю, каб адчапіўся ўжо са сваімі немцамі. Нават палохалі, што накаркае бяды. Зноў немцы, га-

вораць, налятуць, як лівень з неба. Што тады рабіць?

Аднаго разу Яська ішоў па вуліцы і шукаў чарговую ахвяру, каму расказаць пра немцаў. Глядзіць, ля замка жалобная працэсія ідзе. Нясуць труну, а ў труне роўненька, як збіты трактарам слуп, ляжыць яго сусед Антон. Яго больш ведалі ў вёсцы па мянушцы „Ну". Пры жыцці той праз кожнае слова ўсё „нукаў". А зараз маўчыць як рыба на дроце. Ані слова. Ні „ну", ні „ну-ну". Заныла сэрца ў старога Гіля. Антон жа маладзейшы за яго, а ўжо адкінуўся.

— Чаго ён даў дубу? — пытаецца ў людзей. — Яшчэ ўчора размаўляў з ім. Быў яшчэ свежы як агурок на гародзе і нават не смярдзеў.

— Немцы расстралялі, — адказвае нейкі юнак.

— Якія немцы? Смяешся хіба з мяне, — пакрыўдзіўся Яська, а пасля як глянуў убок, аж валасы кепку паднялі ад жаху. Немцы паўсюдна стаялі ў мундзірах з аўтаматамі, на матацыклах з люлькамі ездзілі. І афіцэр нешта ім усё рукой паказвае. Кіруе, значыць, падначаленымі.

Усё, думае Гіль, капут. І так стартануў з месца, што пазайздросцілі б спартсмены, што бегаюць на сто метраў. Малады так не лётаў. Ні адзін сабака не дагнаў бы. Прылятае ў сельсавет ды лямантуе як чорта ўбачыўшы.

— Немцы ля замка! Сам бачыў. Тэлефануйце куды. Трэба вёску бараніць.

— Як ты дастаў усіх сваімі немцамі, — смяюцца там. — Не дуры галавы. Ідзі і не перашкаджай працаваць.

І выпхнулі старога ў плечы за дзверы. А той да ўчастковага.

— Сцяпанавіч! — раве. — Хутчэй едзь за падмогай. Немцы зноў напалі!

— Ідзі праспіся, — кажа той і ходу чым далей.

Яська як з пажару прыляцеў дахаты, хапіў нож, касу і ў хлеў. Жывёлу вырашыў пабіць, каб ворагу не дасталася. І старую сваю прымушае дапамагаць. Тая ў слёзы. Думае, здурнеў муж на старасці.

— Сама дурная, — тлумачыць той. — Антона ўжо замардавалі. Сам бачыў як хаваць яго неслі. А я з Антонам у вайну страляў з лесу і па немцах таксама. Хіба яны за тое Антона і прыкончылі. І на мяне паперу напэўна маюць. Адпомсцяць. Бальшавікі то не даведаліся, што я іх лупіў, як кару з лазы. А немцы ўсё помняць. Народ такі, занудлівы. Кожнае дзеянне запісваюць.

Хацеў яшчэ нешта сказаць, ды словы папярок гарляка сталі. Аслупянеў і пачаў млець. У некалькіх кроках ад яго цягнуў дахаты свае старыя ногі сумны сусед Антон.

— Антон, — ледзьве чутным голасам прасіпеў Яська, — ты жывы?

— А ты, — раззлаваўся Антон. — Чаго гэта, ну, я раней за цябе, ну, зямлёй запахну. Я, ну, на пяць год маладзейшы ад цябе, ну. Ты, ну, хіба ўсіх, ну, перажыць хочаш, што смерці мне жадаеш.

— Дык я ж цябе сваімі вачамі ў труне бачыў, — затрос сусед старымі рукамі пад носам у другога суседа.

— І што, — яшчэ больш раз'юшыўся „Ну". — Я сябе таксама там бачыў, ну. І чаму мушу паміраць з таго? Мяне раніцай у сталовай бачылі, ну. Але ж я там не наеўся, бо грошай ня-

ма, ну. І на пошце, ну, бачылі. Але ж пенсію не далі раней часу. Ці мала хто дзе мяне бачыў. Не паміраць жа мне раней часу з таго, ну.

— А чаго ж ты ў труну палез? — не можа ачуняць разгублены Яська.

— Бо пяць рублёў паабяцалі. Іду па карову, ну, значыць, а тут нейкі чалавек падлятае. Кажа, ну, тыпаж мой яму патрэбны. І апрануты я, ну, так, як у вайну жабрак, ну. Кіно яны здымаюць. А яго, ну, мужчыну таго, рэжысёрам клічуць. Вайна пад стрэхамі, называецца кіно тое, ну. Вось толькі падмануў мяне злыдзень. Не даў грошай. Я ў труне ляжу, ну, як мне казалі, а нехта недалёка гранату ўзарваў. Ну, мала дошкі ў труне не разляцеліся. Так ім хіба для кіна, ну, патрэбна было. Ну я і падняўся паглядзець, хто там такі разумны, што гранатамі кідаецца. А той мужчына, ну, крычыць, што я павінен быў ляжаць, як дамаўляліся, бо сапсаваў яму дарагую стужку. На якой, ну, кіны здымаюць, каб яны папляснелі. І больш няма, кажа, той стужкі, на сёння. Разыходзьцеся, ну, кажа людзям. А тыя, ну, у крык адразу, бо і ім абяцаў па рублю за тое, што за трунoй будуць ісці і плакаць. Хацелі галаву адарваць нашы бабы таму прыдурку за такое, ну. Але тыя, што ў нямецкай форме, бараніць яго, ну, сталі. Ну то пабілі нашы бабы немцаў. Такую ім вайну пад стрэхамі зрабілі, што ім, ну, на век ваяваць расхочацца. І ў кіно, ну, і па-сапраўднаму не здолеюць больш страляць. Нейкія яны не такія, тыя немцы. У вайне былі мацнейшыя. Сам падумай, ад бабаў, ну, не маглі адбіцца. А ты больш не расказвай сваёй байкі, ну, пра немцаў. Бачыш, ну, ужо накаркаў. Пад’язджаць, ну, сталі. Пакуль што, ну, несап-

раўдныя, але, ну, хто яго ведае, як пойдзе далей. Глядзіш, ну, і сапраўдных хутка чорт прынясе да нас.

Яська прысеў на лаўку ля плоту, крыху ачуняў ад спалоху, выцер пот з ілба, падзякаваў Богу, што не паспеў жывёлу парэзаць і зарокся больш пра немцаў не расказваць. Нікому. Нават самому сабе ў думках не ўспамінаць.

— А халера яго ведае, — задуменна прабубнеў ён сабе пад нос. — Можа і сапраўды можна бяды наклікаць такім чынам. Лепш, ну, маўчаць буду, ну.

## *Аўтамара*

Хто з нас не меў сваёй прыгожай мары, якая, толькі з'явіўшыся ў шэрых клетачках субстанцыі, якую людзі нясціпла называюць мазгамі, цалкам забірае ў палон хворую на рамантызм чалавечую істоту. І трымае ў тым палоне аж да моманту, пакуль паслухмяны раб сваёй мары паспяхова не ажыццявіць яе. Або да той шчаслівай хвіліны, калі кволай псіхікай найразумнейшай істоты сонечнай сістэмы, якая нібыта надзеленая правам на выбар, авалодвае новая навязлівая ідэя. І старая нязздзейсненая мара выпусціць тады свайго вязня з доўгіх аж да сэрца кіпцюроў, перадаўшы яго ў не менш моцныя шчупальцы новай гаспадыні. Часамі здаецца, што кожны чалавек на блакітнай планеце ўвесь адведзены яму нядоўгі час, які называецца жыццём, толькі тым і займаецца, што ганяецца за той недасягальнай марай, як беспародны сабака за сваім хвастом. Як вельмі-вельмі беспародны.

Лявон Місюкевіч праз усё жыццё выношваў толькі адну мару. Ён хацеў мець уласны аўтамабіль, хоць які, хоць самы горшы на свеце. Можа быць нават без тармазоў, без руля і сядзення, абы ехаў. Нават проста абы быў. Так хацеў машыну, аж млеў. Начамі не спаў. А дзе ж у тыя часы „развітага савецкага сацыялізму", жывучы ў перадавым калгасе-мільянеры, можна было дастаць легкавіка, калі нават гумовыя боты былі дэфіцытам і прадаваліся толькі па талонах, з папярэдніх спісаў, пры ўмове наяўнасці пакупніка ў жывой чарзе і толькі адна пара ў рукі. Пры гэтым не часцей чым раз на тры гады, без права замены на іншыя, калі не падыдуць раз-

мерам, і з жорсткай забаронай прадаць іх тады, калі яны табе ўжо сталі непатрэбныя. І нават выканаўшы ўсе гэтыя ўмовы, боты, як і іншыя матэрыяльныя каштоўнасці, створаныя рукамі рабочых і сялян самай багатай краіны свету (багатай, па версіі яе кіраўніцтва), можна было набыць толькі па вялікім блаце.

Для таго, каб без чаргі, гадоў гэтак у дваццаць пяць — трыццаць сем, набыць легкавік, вялікага блату ўжо не хапала. Патрэбна было сяброўства ў КПСС, чыстая і прыгожая біяграфія, бацькі партызаны, радня — як мінімум спачуваючыя партызанам і граматы ды іншыя ўзнагароды з месца працы. У дадатак да гэтага неабходна было мець некалькі дзясяткаў гадоў працоўнага стажу і заставацца пры гэтым маладым перспектыўным спецыялістам гадоў дваццаці трох.

З усяго неабходнага для набыцця ўласнай машыны ў Лявона былі толькі грошы. Але грошы былі не толькі ў яго, а аўтамабіля амаль ні ў каго. Усе астатнія неабходныя катэгорыі не вытрымлівалі аніякай крытыкі. КПСС Місюкевічы ніколі не любілі, і, каб Лявон туды ўляпаўся, як у тое што смярдзіць, то ўся радня яго зраклася б. Біяграфія таксама абы-што. Толькі пачэсны добраахвотны абавязак службы ў савецкім войску перад магутнай радзімай давялося выканаць. І то пад прымусам. Бацька нібыта быў у партызанах, але хіба не ў тых, якія змагаліся за савецкую ўладу. Яшчэ пасля вайны гадоў пяць у лесе хаваўся. Баяўся, што саветы зловяць ды заб’юць. Але як іхны сваяк сельсавет узначаліў, удалося, дзякуй Богу, усе паперы падрабіць. Нават медаль за вызваленне Будапешта прыпісалі. Але афішаваць новае гераічнае мінулае было не варта, а то хтосьці з зайздрасці ці па п’ян-

цы данясе, як стары Місюкевіч камісараў ганяў па лясах. Тлумач пасля, чаму той Будапешт так доўга штурмавалі. Радня таксама не з лаяльных да бальшавікоў, ды і з працы адны нараканні. Ну, а стаць маладым спецыялістам і мець пры гэтым вялікі працоўны стаж няшчасны раб аўтамабільнай мары і не спрабаваў. Не ўяўляў, як так можа быць. Нейкая вышэйшая навука не для сярэдняга інтэлекту.

Так і загібеў бы Лявон з адчаю, каб не маладзенькая дачка старшыні мясцовага выканкама. Падарыў ёй бацька на дзень нараджэння „Запарожца", дваццаць гадоў любімай дачцэ споўнілася. Набыў ён тую машыну па лініі дапамогі пакалечаным ветэранам Другой сусветнай вайны, якія ўжо на пенсіі. Начальства ўсё можа. А дачка ў першы ж дзень адляцела на той машыне ад слупа, як мячык, і ў другі слуп. Пасля палічыла тым, што засталося ад „Запарожца", усе стаякі моста праз мясцовую рачулку, зрабіла прама там, на мосце, трайны сальта з падкруткай і двайным бакавым пераваротам рэзнулася ў трактар і зляцела ў раку. Ёй то нічога. Бацька начальнік, таму дактары паднялі яе на ногі хутка. Праз год і сем месяцаў. А вось з машынай праблемы. Увесь гэты час „Запарожац" прымаў рачныя ванны. Успомніў пра яго мясцовы начальнік толькі тады, калі яго дачка зноў адчула сябе чэмпіёнам свету аўтагонак з акрабатычнымі элементамі і стала патрабаваць у бацькі лепшую машыну, спісаўшы няўдачу ў пераездзе моста на тое, што „Запарожац" гэта не машына, а чалавек, які жыве ў Запарожскай вобласці на Украіне. Бацька пастараўся ёй растлумачыць, што „Масквіч" таксама можа быць чалавекам, але пасля абвінавачванняў з боку жонкі, што родная дачка абдзеленая і няшчасная

з такім бацькам, здаўся. Паўстала пытанне, што рабіць з „Запарожцам", бо дзве машыны ў тыя часы нельга было мець нават дачцэ сябра КПСС.

Вось тады і ўспомнілі пра Місюкевіча. Вырашылі тую дабітую разваліну, што валяецца пад мостам, на яго перапісаць і прытым былой датай. Быццам ён ад пачатку тую машыну купіў, як сын ветэрана, параненага ў баях за савецкую ўладу. У ДАІ нават паперы з'явіліся, што гэта менавіта Лявон знёс мост на сваім аўто, а ў мясцовым шпіталі ўжо ляжала медыцынская картка на хворага Лявона Місюкевіча, які лячыўся там год і сем месяцаў пасля аўтаварыі. А той і рады, што нарэшце ў яго здзейснілася мара. Узяў сякеру, малаток, выраўняў усё, што мог выраўняць сваім няхітрым інструментам. З рухавіком дапамог сусед, калгасны спец па рамонтах. Недзе ўдалося сцягнуць акумулятар ад самазвала, і праз нейкі месяц Лявон першы раз у жыцці выязджаў са свайго падворка на ўласнай машыне. Праязджаючы пост ДАІ, яго хацеў спыніць знаёмы міліцыянт. Можа закурыць хацеў папрасіць, а можа так чаго. Але сістэма тармажэння ніяк не рэагавала на панічныя націсканні Лявона на педаль.

— Стой! — крычыць міліцыянт. — Заб'ешся, дурань! Адчыняй дзверы ды выскаквай.

— Не магу! — з жахам у вачах раве няшчасны шафёр. — Дрот не развязваецца!

Міліцыянт, які, хапіўшыся за люстэрка, ляцеў за „Запарожцам", глянуў у сярэдзіну машыны і аслупянеў. Дзверкі, хіба з тае прычыны, што не працавалі замкі, былі звязаны адна з другой дротам, які прама на сваім пупе нервова стараўся

разблытаць Місюкевіч. І як толькі яму гэта ўдалося, абедзве дзверкі адваліліся ад машыны ў розныя бакі, як гарох ад сцяны, і ляснуўшыся аб дарогу, па законах інерцыі працягвалі даганяць сваю машыну. Шлях да ўратавання шафёра быў адчынены, пры тым з двух бакоў. Але шафёр не паспеў выскачыць. Акурат у гэты момант дарожнае скрыжаванне пераязджала на новенькім „Масквічы" ранейшая ўладальніца „Запарожца". Яе былая маёмасць рэзнула ў новую ўласнасць прама па сярэдзіне, спіхнула яе ў роў і абедзве машыны пакаціліся ўніз, таўкучы і ломячы адна другую.

Пашанцавала, што шафёры на гэты раз не пацярпелі. Дачка мясцовага начальніка лётае ля гары разбітага металу як вар'ятка, што аб'елася каноплі, а ўладальнік яе былой маёмасці сядзіць на гэтай грудзе ламачча і курыць.

— Віншую цябе, Лявон, — схіліўся над яго вухам міліцыянт, які добра ведаў гісторыю набыцця Місюкевічам „Запарожца". — Цяпер, хіба, бацька той дурніцы купіць ёй „Волгу", а табе, як ветэрану бітвы з мангола-татарамі, дастанецца яе „Масквіч". Шмат лепшая машына, чым твой „Запарожац".

І тут Лявон зароў як бык паранены ракетай:

— Не хачу машыны! Ні якой не хачу! Хачу каня.

## *Бабулін шаптун*

Схадзіў бы ты ўнучак да шаптухі, — папрасіла Петруся бабка Ганна такім жаласлівым голасам, нібыта пасылала па папа, каб апошні раз расказаць тое, што ўсё жыццё хавала ад бацькоў, мужа, дзяцей, і нават сабе самой трохі лгала. — Зусім мяне схапіла нейкая трасца, дыхнуць не магу. Хіба не дажыву да заўтра. Злётай, ты, унучак, да той, што карову летась на ногі падняла. Карове памагла, то можа і мне лягчэй зробіць. З Гарэцкаўшчыны тая, хоць і бліжэй, але ж шмат бярэ, зараза. А толку з яе, як з казла малака. Вунь, Грышчыхіных цялят замаўляла пасля Пасхі, дык падохлі ўсе. А грошы ўсядно ўзяла. Ты лепш да каменскай шаптухі на ровары з'езджай, хай вады якой загаворыць. Тая, байкі, шмат не бярэ і лечыць добра. На, вазьмі рубель. Хопіць ёй і гэтага.

— Добра з'езджаю, — ляніва адказаў Пятрусь, хоць і не хацеў ехаць, але ж ведаў, што ўсядно прымусяць. А вечарам вернецца дахаты бацька, ды дзяжкі ўсыпе за непаслушэнства, як не падпарадкуецца зараз. Узяў ён бабулін рубель, і праз сілу, як баран на бойню, закруціў педалямі ў бок Каменкі.

— Я хутка прыеду, — тлумачыў ён невялічкім групкам дзяцей, што ішлі хто на возера купацца, хто за вёску пагуляць, спадзеючыся, што нехта адгукнецца і паедзе разам з ім. Не так сумна будзе ў дарозе. Але дзеці не звярталі на яго ўвагі і займаліся кожны сваім. Толькі Толік, трошкі старэйшы суседскі хлопец, як убачыў у руках Петруся рубель, так і падскочыў, нібы яму крапівы ў трусы насунулі.

— Стой, Пецька, ты куды? — кінуўся ён наперарэз старэнькаму ровару.

— Ай, — уздыхнуў той. — Бабуля ў Каменку паслала, да шаптухі. Хоча, каб тая вады якой замовіла. Кажа, што памірае.

— Ну дык пара ўжо ёй, — заінтрыгаваўся сітуацыяй Толік. — Колькі ж можна жыць. Гэтыя старыя дурнеюць з гадамі. Ёй ужо ўсядно нічога не дапаможа. Толькі грошы змарнуе. Што, цэлы рубель дала шаптусе аддаць?!

— Ага.

— І што, ты, як той дурань, аддасі яго той чорнай цётцы за бутэльку вады?!

— А што рабіць?

— Слухай мяне, — Толік стаў азірацца па баках, нібыта амерыканскі шпіён з савецкага фільма, які спрабуе завербаваць начальніка КДБ СССР. Чаго табе валачыся ў тую Каменку? Ты што, дурны? І грошы абы-каму аддаваць таксама няправільна. Лепш хадзем да аўталаўкі. Такія смачныя цукеркі прывезлі, каб ты ведаў! Купім на пяцьдзясят капеек. Хопіць шаптусе і паўрубля.

Пятрусь спачатку вагаўся, але вельмі хацелася цукерак. А яны такія смачныя былі, што праз паўгадзіны хлопцы купілі іх яшчэ раз, на тую палову рубля, што засталася ад першага разу. А як з’елі, бедны хлопчык пачаў плакаць:

— Што я бабцы скажу? Бацька мяне заб’е!

— Не заб’е, спакойна, — аблізваючы ад цукерак вусны, пачаў суцяшаць яго Толік. — Ты ж не кажы, што да шаптухі не

трапіў. Наадварот. Зараз нальём якой вады ў бутэльку, завяжаш яе бабцы. Скажаш, шаптуха сказала піць па тры глыткі перад узыходам і пасля захаду сонца. А таксама абмываць твар, рукі і тое месца, якое баліць. Шаптуны так заўсёды гавораць. Я сам чуў.

Так і зрабілі. Налілі ў бутэльку вады з крыніцы, кінулі туды некалькі вуглёў, насыпалі жменю вапны і кінулі нейкай травы. А праз некалькі гадзін Пятрусь завёз той цуда-лек бабцы.

— Каб табе, мой унучак, заўсёды сонейка свяціла, — пачуў Пятрусь назаўтра зранку бабулін голас. — Каб ты здаровенькі быў! І шаптуха хай будзе здаровая. Як мне тая вада памагла, не расказаць.

І сапраўды, бабуся паднялася і лётала па хаце як маладая каза. Учарашнюю немач як рукой зняло, як карова языком злізала. І калі праз некалькі дзён, як скончылася тая вада, яна Петруся зноў паслала ў Каменку, то ўнучак ізноў завітаў у аўталаўку. А ваду бабцы прыгатаваў па ўжо знаёмым рэцэпце.

З тае пары прайшло каля паўгода. Надумалася бабка сама аддзячыць шаптусе. Акурат нехта на кані ў Каменку ехаў. Зайшла ў хату да шаптухі і давай так хваліць, што мала фотакарткі шаптушыных сваякоў, што на сценах віселі, не паадварочваліся з сораму ад такой ліслівасці. А гаспадыня доўга старалася разабрацца, што да чаго, а пасля і кажа:

— Нічога я табе не замаўляла, і грошай тваіх у вочы не бачыла. Надурыў цябе ўнук.

Што было пасля! Лупіў бацька любімага сыночка як сідараву казу. Усё хацеў дапытацца, у каго той ваду замаўляў. Пятрусь доўга не прызнаваўся. Але ў канцы здаўся.

— Я сам замаўляў, — кажа. — Каб бабка не памерла, баяўся.

Пасля гэтых слоў бабка сапраўды ледзьве не астыла. А як выйшла са стану аслупянення, пляснула далонямі ды як зараве:

— Гэта ж у цябе сіла ёсць, каб лячыць, унучак. А твой бацька, злыдзень, ледзьве не забіў цябе. Ідзі да мяне, маё ты сонца.

Так Пятрусь стаў шаптуном. Яму нават спадабалася. Як вырас, паўсюдна яго запрашалі. У акрузе другіх шаптуноў тады ўжо не было. Пазводзіліся недзе. Таму ўсе звярталіся да яго. Ён на людзях, праўда, эксперыменты не ставіў. Ведаў, адкуль той дар у яго ўзяўся. Ад бацькавай дзяжкі. Таму не рызыкаваў людзей лячыць. Ну а дзе ў каго жывёла зляжа, то прыходзіў. Шаптаў нешта, сабе ў вусны ўсміхаючыся. Людзі казалі, што памагае. Асабліва калі пасля шаптання калгасны фельчар укол той жывёле зробіць. Можа хто і сумняваўся ў здольнасцях цяпер ужо Пятра Іванавіча, але і той усядно запрашаў яго. Якая розніца, аднаму фельчару прадстаўляцца, ці яшчэ і шаптуну. На ўсялякі выпадак клікалі. А пасля перасталі. З'явілася ў акрузе нейкая новая шаптуха. Надта ж добрая, казалі. Кінуліся ўсе да яе. Людзі гаварылі, што Пётр Іванавіч добры шаптун, але тая лепшая. Ну а ў Пятра Іванавіча ад той лекарскай кар'еры толькі мянушка на ўсё жыццё засталася — бабулін шаптун.

## *Лебядзіная песня*

Пасля таго, як вясковыя дзеці закідалі ўсё возера наламаным хлебам і з крыкамі: „Вунь, глядзі, яны зноў выплылі!” перашкаджалі вудзіць рыбу, Генадзь Гур’ян яшчэ цярпеў белую пару лебедзяў, невядома адкуль прыляцеўшых на іх вадаём. Але калі дарослыя, асабліва тыя разадзетыя ў белыя кашулі франты, якія даўно ўжо пакінулі вёску, абзавяліся ў горадзе кватэрамі, машынамі і сем’ямі, і прыязджалі да старых бацькоў выключна для таго, каб вярнуцца ў свет шкла і бетону з пяццю мяшкамі бульбы, свінымі плячамі і грашамі, атрыманымі за бычка, якога яны так і не ўбачылі, пакуль той жыў, пачалі масава прывозіць сваіх гарадскіх жонак з доўгімі кіпцюрамі і наклеенымі вейкамі, каб з замілаваннем параўнаць іх светлае каханне з адносінамі экзатычных птушак, вопытны паляўнічы і рыбалоў зразумеў, што пакуль на возеры будуць плаваць гэтыя пародыі на гусей, пра рыбалку можна забыцца.

Напачатку Генадзь паспрабаваў дамовіцца з людзьмі, наіўна мяркуючы, што тыя — істоты разумнейшымі за плаваючы па вадзе пух і хутчэй зразумеюць яго.

— Чаго вы лезеце да гэтага пачварства, — пачаў ён тлумачыць кожнаму, хто наведваўся на возера. — Гэта ж самае гадкае стварэнне на зямлі. І поскудзь якая, ой-ёй-ёй! Там дзе жывуць лебедзі, не водзіцца аніякая птушка, бо гэтая погань яйкі іншых разбівае. Во ж дзе брыда.

— Але ж яны вельмі прыгожыя, — казалі людзі, не зварта-

ючы ўвагі на аргументы заядлага рыбака пра неэстэтычны выгляд доўгіх шыяў пражэрлівай азёрнай парачкі.

Дзеці таксама не збіраліся здаваць свае пазіцыі, і, спаборнічаючы адзін з другім у каго лебедзі больш возьмуць ежы з рук, працягвалі разганяць рыбу, нервуючы і ўводзячы ў шал старога Гур'яна. А тут яшчэ кіраўніцтва сельсавета вырашыла забараніць на гэтым возеры паляванне, нават як прыйдзе сезон, каб лебедзяў не напалохаць. Маўляў, птушка рэдкая, чалавекам амаль вынішчаная. Трэба зараз спрыяць аднаўленню папуляцыі. А дырэктар мясцовай школы ўжо склаў план экскурсій на вадаём пад назвай „Жывы свет маёй Радзімы", мяркуючы на прыкладзе апекавання лебедзяў выхоўваць любоў да жывёл і птушак у дзяцей, якія ўвесь час дапамагаюць бацькам то парсюка калоць, то авечку рэзаць, то пеўня засячы. А як вяселле якое, то маладыя спачатку да лебедзяў з пячэннем ехалі і толькі пасля ўжо да помніка салдатам-вызваліцелям.

Генадзь зразумеў, што яго манаполія на водныя рэсурсы сваёй мясцовасці скончылася. Зрасходаваўшы ўсе мірныя спробы разабрацца з тлустымі бочкамі сямейства птушыных, ён вырашыў дзейнічаць больш рашуча і радыкальна.

Як сцямнела, Гур'ян ціхенька зняў са сцяны стрэльбу і шмыгануў у бок вадаёма. Чакаць прыйшлося нядоўга. І як толькі з цемры выплылі дзве белыя мішэні, два кароткія стрэлы разрэзалі паветра ціхай вясковай ночы. Вопытны паляўнічы ўсё пралічыў. І ніхто нічога не даведаўся б, каб не прыроднае захапленне Генадзя статыстыкай. Ужо хацеў збегчы дахаты, схаваць стрэльбу і прыкінуцца што спіць, але сталі

лезці ў галаву навязлівыя думкі кшталту: „А ці атрымаецца з двух лебедзяў адна падушка?”, ці „А ці будзе есці мой сабака лебядзінае мяса?”. Вылавіў ён птушак з вады і хацеў уцякаць, а тут участковы міліцыянт. На стрэлы прыляцеў, праверыць, хто закон парушае. Не сезон яшчэ на паляванне.

— Ты што, — кажа, — лебедзяў пастраляў?! Ах ты гад! Такое хараство знішчыў! А ці ведаеш ты, што яны ў чырвоную кнігу Беларусі занесены. Іх забіваць нельга. За гэта судзіць будуць. Лепш бы ты жонку застрэліў, то менш далі б.

— Ды я знайшоў гэтых птушак падохлымі, — пачаў апраўдвацца паляўнічы і рыбалоў у адной асобе. — Гляджу, валяюцца на дарозе, як падзёртыя галошы. Дай, думаю, вазьму дахаты. Праверу ад чаго паздыхалі. Можа эпідэмія якая. Страшна стала за ўсю лебядзіную папуляцыю. Шукаць прычыну бяды трэба. Шкода іх, такія прыгожыя стварэнні.

— А можа ў цябе і біялагічная лабараторыя ёсць для такіх праверак, — вылупіўшы вочы як абкураная сава ад пачутага нахабнага абману зароў міліцыянт. — Пасаджу, заразу! Надоўга сядзеш!

А тут на крык і старшыня сельсавета прынёсся, і дырэктар школы, і ляснічы з інспектарам аховы прыроды і яшчэ паўвёскі ў прыдачу. Крычаць, лямантуюць, нібы канец свету надышоў. Пагражаюць Генадзю жудаснымі карамі, горшымі, чым страшны суд, ад чаго той ледзьве не памёр на тым месцы, на якім стаяў. І жонка яго, Гур’яніха, прыляцела з ліхтарыкам. Пасвяціла і давай плакаць воўчым выем:

— А што ж ты, зваруган, робіш! Нашто нашых гусей пабіў?!

Ці ж я цябе не кармлю, што ты хатнюю птушку б'еш без пары? Ці звар'яцеў на старасці гадоў?

І тут толькі ўсе, і Генадзь таксама, убачылі, што ён трымае ў руках за шыі звычайных гусей. Прычым сваіх. Гур'ян імгненна апамятаўся, зарыентаваўся ў сітуацыі, рэзка, плячом, адпіхнуў аслупянелага як зімовы сноп участковага, плюнуў у бок мясцовага начальства і пачаў помсціць за свой нядаўні перапалох:

— Ах, вы, брыдоты! Як вы маглі падумаць, што я такую прыгажосць пастраляю. А за гэты канцэрт, што вы тут учынілі, і перад людзьмі мяне знеслаўлялі, я вас па судах зацягаю. А гусей сваіх, калі хачу, тады і страляю. Маю права. Я можа так у страляніне практыкуюся. Паляўнічы сезон на дзікіх качак хутка абвесцяць. Вось я і трэніруюся, каб не прамазаць па качках і выпадкова лебедзя не параніць.

Ад такога нахабства ва ўчастковага афіцэра ўнутраных спраў сківіца адвісла ніжэй пупа. Ведае, што лжэ яму Гур'ян, а нічога зрабіць не можа. І астатнія начальнікі напалохаліся перспектыў зняславіцца перад усім раёнам у судах па нейкай лебядзінай справе. Толькі гэтага ім не хапала. А што скажа раённае начальства? Чаго добрага яшчэ і з партыі папруць. Там не любяць скандалаў на падуладнай ім тэрыторыі. Давай яны супакойваць паляўнічага на ўласных гусей. А той разышоўся, як сучка на каня. Ніяк не хоча даравць.

— Папомніце мяне, — крычыць. — Я вам такое зраблю, век памятаць будзеце!

І толькі недзе апоўначы супакоіўся, як усе па хатах разышліся. А праз тыдзень вёска, уключаючы і мясцовае началь-

ства, і ўчастковага міліцыянта, і ляснічага з інспектарам ахо-
вы прыроды, зноў пачула ўночы два кароткія рэзкія стрэлы.
Але ніхто не пайшоў цікавіцца, што там. А на другі дзень
усе ўбачылі, што прапалі лебедзі. Як ветрам здула. Ніякага
следу. Нібы і не было іх ніколі. Але абвінавачваць кагосьці
ў іх знікненні ніхто не адважваўся. Лепш было верыць, што
тыя самі зляцелі. Можа людзі ім не спадабаліся, што занад-
та скандальныя. А праз нейкі час і ўвогуле пра тых птушак
забыліся. Толькі недзе праз год Генадзь Гур'ян неяк паказаў
невядома скуль набытыя веды пра экзатычны від птушак,
сказаўшы за куфлем піва, што каб зрабіць падушку двух ле-
бедзяў хіба што мала. Трэба, напэўна, яшчэ пух двух гусей
дабавіць.

## *Офісная папера*

Калі справа ў кампаньёнаў ладзіцца так, што канкурэнты ад зайздрасці пачынаюць плесці супраць іх гнусныя і каварныя інтрыгі, а звычайныя абываецелі называць зладзеямі, гэта яшчэ больш зблiжае сяброў па бізнесе і абуджае нават у самых скупых на пачуцці душах жаданне зрабіць для свайго калегі штосьці прыемнае і добрае. А Мікола Хадорскі і Лявон Хадарэнка ў дадатак да сумеснай удалай бізнесдзейнасці былі яшчэ і сябрамі з ранняга дзяцінства. Разам хадзілі ў школу, разам служылі ў савецкім войску. А як Савецкі Саюз з тым самым войскам ляснуўся і пачаліся першыя вольнасці, у тым ліку і эканамічныя, сябры вырашылі ўдвух закруціць якуюсь справу. І добра ў іх пайшло. Таму ўзаемныя абмены сямейнымі візітамі і дарагія падарункі адзін другому сталі звыклымі паводзінамі кампаньёнаў.

Але нечакана (а яна заўсёды бывае нечаканай) прыйшла бяда. Яна з’явілася на парозе асноўнага офіса фірмы ў выглядзе дзяржаўнага чыноўніка з чорным партфелем і бязмежнымі паўнамоцтвамі правяраць дзейнасць сярэдняга і найбольш перспектыўнага класа грамадства. Пасля таго, як той чыноўнік адмовіўся ўзяць даволі салідны хабар, унутраныя галасы сяброў сталі ва ўнісон падказваць сваім уладальнікам, што іх справа кепская. І не памыліліся. Праз тры месяцы з усёй маёмасці фірмы застаўся толькі запасны офіс на першым паверсе абшарпанай і бруднай хрушчоўкі, а з трыццаці двух наёмных работнікаў — толькі старэнькая прыбіральшчыца цёця Ніна. Сяброўскія візіты і ўзаемныя

падарункі канулі ў нябыт, як і памяць пра квітнеючую і перспектыўную фірму з заманлівай назвай „Хад і Хад", што папросту азначала Хадорскі і Хадарэнка.

Калі ж справа ў кампаньёнаў „ладзіцца" так, што канкурэнты пачынаюць свой працоўны дзень з чарговай высмешлівай гісторыі пра іхныя антыбізнесоўскія якасці, а звычайныя абывацелі, радасна паціраючы рукі, гавораць „так ім і трэба", тады сябры па бізнесе пачынаюць шукаць менавіта ў дзеяннях свайго калегі прычыну ўсіх сваіх няшчасцяў. І ўжо на чацвёрты месяц пасля таго моманту, калі дзяржаўны чыноўнік упершыню ў іх офісе адчыніў свой чорны партфель, толькі поўная адсутнасць фінансаў прымушала Хадорскага і Хадарэнку цярпець адзін другога на сумеснай тэрыторыі ў трухлеючым хрушчоўскім будынку. Былыя сябры спрабавалі адчыніць кожны сваю справу і марылі як мага хутчэй пазбавіцца штодзённага шчасця бачыць былога калегу.

Аднаго дня Мікола стаў заўважаць, што яго сябра дзяцінства часцей чым ён карыстаецца сумеснай офіснай тэхнікай і абсталяваннем і больш за яго смеціць, хаця за ўборку цёці Ніне яны плацяць пароўну. Гэта яго вельмі нервавала. А яшчэ больш выводзіла з раўнавагі яго псіхічны стан тое, што стала на вачах знікаць агульная офісная папера, а яго кампаньён нават не заікнуўся, каб папрасіць дазволу на яе выкарыстанне. Ну а калі той, нечакана, яшчэ і выказаў прэтэнзіі, што, маўляў, гэта Хадорскі нібыта карыстаецца паперай без агульнай згоды, сарваўся як шалёны сабака з ланцуга.

— Ах ты, падонак! — зароў ён як недастрэлены вяпрук.
— Ты, кавалак нікчэмнасці, яшчэ і прэтэнзіі выстаўляеш?!

Ды каб не я, ты даўно з торбай пайшоў бы па свеце. Патрэбная мне твая папера, як зайцу стоп-сігнал. Тым больш, што папера не твая, а наша.

— Заткні хлябальнік і не рыпайся, пакуль я табе вушы не паабрываў і не прымусіў іх з'есці на вачах цёці Ніны, — парыраваў Лявон. — Калі папера агульная, то браць яе можна толькі з дазволу. Я ўчора яе палічыў. Не хапае трыста дваццаць аднаго ліста. І раней тое ж было. Ты што, яе соліш?!

Цярпенне Міколы скончылася, а спантанна ўзніклая агрэсія сціснула яго далонь у кулак і знайшла мішэнь паміж вачэй нядаўняга калегі. Той не стаў падстаўляць другой шчакі, а пастараўся пяткай левай нагі дастаць да зубоў перакошанага ад злосці твару Хадорскага. А пасля першай удалай спробы вырашыў замацаваць хісткі поспех другой нагой. Праз некалькі хвілін хаатычнага абмену ўдарамі і мацюкамі, хлопцы, трымаючы адзін другога за гарлякі, высадзілі галовамі акно і вываліліся на вуліцу, прама на дарогу, якая адсалютавала ім скрыпам тармазных сістэм напалоханых аўтамабіляў. А разбітае шкло, як быццам хто наўмысна яго скіраваў, пасыпалася безліччу дробных і буйных кавалачкаў прама ў бітон з цёпленькімі беляшамі, якія пад тым акном старалася прадаць сталага веку кабета.

— Міліцыя! Рабуюць! — зараўла тая як зношаная труба гарадской каналізацыі. А міліцыя з'явілася як з-пад зямлі. Адкуль яны толькі ведаюць, што б'юцца не бандыты, а простыя людзі? На бойку бандытаў, дзе можна і самім дастаць, іх і сірэнай не даклікацца. А тут, ужо на месцы. Нейкая прафесійная інтуіцыя. І хлопцаў, з заламанымі назад рукамі, як

баскетбольныя мячыкі закінулі ва ўтулак міліцэйскай машыны. Лявон толькі паспеў папрасіць знаёмага з суседняга офіса, каб перадаў прыбіральшчыцы, што трэба прыбраць пабітае шкло і ўставіць выбітую шыбу.

Цёця Ніна заўсёды вельмі старанна выконвала свае абавязкі. Выклікала майстра, уставілі шыбу, усё прыбрала, а як сцямнела, зноў прыйшла ў офіс. І не адна, а з той прадаўшчыцай беляшоў. Жанчыны ўселіся за стол, узялі офісную паперу фармату А-4, і сталі акуратна раздзіраць яе на чатыры роўныя кавалачкі. І так кожны ліст.

— Ну што маўчыш, суседка, — прабубнела прадаўшчыца беляшоў. — Распавядзі, чаго гэта гаспадары твае, вар'яты, такое сёння ўчынілі! Увесь мой тавар сапсавалі.

— Ай, Мацвееўна, што тут гаварыць, — адгукнулася цётка Ніна, не адрываючыся ад працэсу разрывання паперы. — Жыццё зараз складанае. Не кожны вытрымае. Вось маладыя і дурнеюць. А з чаго яны пабіліся? Халера іх ведае.

— Ды проста злыя яны ўсе зараз. Вось у цябе, Ігнатаўна, душа добрая. Дзякуй табе. Усім ты стараешся дапамагчы. Толькі заўважыла, што мне няма ў што беляшы закручваць, адразу паперу прапанавала. А папера добрая. Ласнёная. Не прамакае нават. Кліенты задаволеныя. А ты ўпэўненая, што тваім вар'ятам яна непатрэбная?

— А нашто яна ім? — уздыхнула цётка Ніна. — Раней усё нешта пісалі на ёй як фірма была. А цяпер фірму зачынілі, то хіба і папера непатрэбная.

— Хіба што так, — пагадзілася Мацвееўна. — Ну што, пайшлі дахаты. Назаўтра паперы хопіць. А з гаспадароў тваіх,

суседка, хоць ты крыўдуй на мяне, хоць злуй, я ўсядно праз суд грошы здзяру за сапсаваныя беляшы. Нельга псаваць чужыя рэчы і ні якой адказнасці за гэта не несці.

І кабеты пасунуліся паціху дахаты, асцярожна несучы з сабой кавалачкі падзёртай офіснай паперы.

## *Чарадзейныя кропелькі*

Той, хто зазначыў, што лыжка дзёгцю псуе бочку мёду, быў вельмі ўважлівым і кемлівым чалавекам. Толькі дарэмна спыніўся на сваіх назіраннях. А то абдарыў бы чалавецтва яшчэ пару-тройкай трапных выразаў, якія ў некалькіх звычайных словах раскрываюць сэнс з'явы і надаюць ёй візуальна-вобразную афарбоўку. Бо бывае і наадварот, калі некалькі кропляў нейкай рэчы толькі дадаюць смаку і непаўторнасці вялікаму аб'ёму чагось там. А то і зусім мяняюць структуру рэчаў у тым кірунку, які патрэбны спажыўцу.

Да такой высновы я прыйшоў пасля трэцяй пляшкі пяцідзесяцітрохградуснай вадкасці з непаўторным водарам мастоўскіх лясоў, дзе яна і была зробленая аб' яднаннем геніяльнасці чалавечага розуму, кемлівасці ды руплівасці яе стваральніка і бяздарнасцю дзеянняў праваахоўных органаў, якія атрымліваюць заробак якраз і за тое, каб такі вадкі цуд не з'яўляўся на белы свет у самаробным варыянце. А майстэрня гарадзенскага мастака Валодзі Касілы, дзе мы сабраліся, каб чарговы раз адзначыць усенароднае любімае свята, прысвечанае двухсотгоддзю гранёнай шклянкі, якраз і была пацвярджэннем велічы чалавечай думкі, якая ў бясконцасці сваёй фантазіі, шляхам эксперыментаў, проб і памылак, надае гэтаму непаўторнаму напою своеасаблівы смак і дазваляе двухногім істотам, што самі сябе залічылі ў вянец тварэння прыроды, зноў перайсці на поўзанне на чатырох канечнасцях і ў гаворцы наблізіцца да гукаў, якімі карыстаюцца браты нашы меншыя.

— А зараз, — кажа Валодзя, загадкава прыжмурыўшы левае вока, нібыта цэліўся з гарматы па вераб'ях, — я прадэманструю вам сваё новае вынаходніцтва. Працаваў над ім цэлы год. Глядзіце. Дабаўляю ў літр самагонкі сем кропляў вось з гэтай бутэлькі і вы не адрозніце нашу самаробную гарэлку ні па паху ні па смаку ад сапраўднага ірландскага віскі дваццаціпяцігадовай вытрымкі, якога і бутэлькі купіць не здужалі б, нават каб скінуліся ўсімі сваімі заробкамі за год.

І сапраўды. Цуд адбыўся. Лепшыя хімічныя лабараторыі свету ганарыліся б такім чарадзеем як Касіла. Усе, хто рэзнуў па кілішку, а гэта былі ўсе, хто быў тады ў майстэрні, не змаглі знайсці аніводнага адрознення ад таго хваленага, вытрыманага гадамі віскі. Праўда, дагэтуль таго віскі ніхто з прысутных, уключаючы і чарадзея, ніколі не каштаваў. Ды гэта не перашкодзіла прызнаць ідэнтычнасць смаку ірландскага напою і мастоўскай балотнай вадзяры.

— А цяпер, — пад гукі апладысментаў і ў прамянях славы і хвальбы, якая сыпалася з усіх бакоў заявіў Валодзя, — навінка сезону! Калі я па пяць кропель дабаўлю вось з гэтай колбы, то прападзе пах алкаголю. Можна хоць за руль сядаць. Ні адзін міліцыянт не ўнюхае, што вы ўжо трэці дзень пахмяляецеся з ранку да вечара.

І гэты эксперымент удаўся. Хлопцы перакулілі кілішкі і сталі нюхаць адзін другога як пародзістыя сабакі, якіх навучылі шукаць наркотыкі. Але паху алкаголю ніхто не пачуў. Ні з горлышка бутэлькі, ні з горла суседа па стале.

— Ды ты можаш стаць самым багатым мільярдэрам, — у захапленні зрабіў выснову нехта з нюхальшчыкаў. — Запатэнтуй ты гэта. Кожны купіць.

— Ні ў якім разе, — гаворыць Валодзя, паспрабаваўшы надаць свайму твару вобраз творцы, што адчувае персанальную адказнасць за сваё вынаходніцтва перад чалавецтвам. — Будуць ездзіць тады ўсе п'яныя. Яшчэ возьмуць і сп'яну мяне пакалечаць.

З гэтым аргументам прысутныя пагадзіліся. Тым больш, што не было часу на пустыя спрэчкі і размовы. Трэба было працаваць, не пакладаючы правай рукі, бо Валодзя працягваў валачы ўсё новыя бутлі і з усё новымі кропелькамі. І ўсе трэба было, як сапраўдным вынаходнікам, праверыць на сабе. А кроплі былі розныя. І ад лішняй вагі, і для павышэння імуннай сістэмы, і ад радыяцыі і для патэнцыі, і нават ад алкагольнай залежнасці. Праўда гэтыя рэкамендоўвалася ўжываць з найвялікшай асцярожнасцю. Бо яны, тыя кроплі, нібыта, дарэчы як і ўсе іншыя, мелі імгненнае дзеянне. І можна было, пры злоўжыванні нормай, імгненна стаць няздольным да далейшай дэгустацыі.

— Маю яшчэ такія, што дапамагаюць ад галаўнога болю, — сцвярджае Касіла і капае ў чарговы трохлітровы слоік мастоўскага цуду роўна сем з паловай кропляў. — Толькі асцярожна з імі. Ні на паўкроплі больш за норму, бо назаўтра не толькі галава не будзе балець з перапою, — тлумачыць, — але ўвогуле можа быць уражанне, што яе няма зусім.

Усе паслухаліся. Кроплямі стараліся не злоўжываць. А вось тым, куды іх капалі, злоўжываць дазвалялася.

— Але мы налізаліся, — схамянуўся нехта з дэгустатараў. — Што жонкі скажуць. Зноў скандалаў наробяць. Бабы ніяк не могуць уцяміць, што мы тут не п'ём, а займаемся выключ-

на выпрабаваннем новых Валодзевых цудадзейных формулаў. Сабой ахвяруем дзеля навукі. Але што ты дурным давядзеш. Зноў пілаваць нас будуць як сухія дровы.

— Не будуць на гэты раз, — упэўнена заяўляе Касіла і дастае пяцілітровы буталь са светла-шэрай вадкасцю. — Гэта мая новая распрацоўка. Дабаўляем на слоік гарэлкі ўсяго тры кроплі і аніводная жонка не здагадаецца, што мы пілі. Назаўтра спытаеце ў іх ці заўважылі яны, што вы п'яныя. Гарантую — ні адна вас п'яным сёння не ўбачыць. Заўтра праверыце. А я ў сваім зеллі ўпэўнены. Спрацуе.

З гэтымі словамі ён накапаў тры кроплі, разліў гарэлку па шклянках і хлопцы іх залілі ў сябе. Пасля паўтарылі гэтыя дзеянні яшчэ некалькі разоў. Першым рухнуў на зямлю сам вялікі маг і чарадзей. Хораша так, як скошаны кулямётнай чаргой. Без слоў. Толькі бутэлька з кроплямі забарабаніла і пакацілася па падлозе. Праз нейкі час і іншыя прымасціліся побач. Хто на стале, хто пад сталом, хто прылёг на падлогу, а хто заснуў там, дзе праводзіў эксперыменты з кроплямі. А назаўтра ўсе пагадзіліся, што апошнія кроплі, каб жонкі не даведаліся, што яны пілі, сапраўды спрацавалі. Жонкі сваіх мужоў у той вечар п'янымі так і не ўбачылі.

## *Веліч традыцый*

Старэнькі дабіты аўтобус, прарываючыся праз трактарныя каляіны і калдобіны невядомага паходжання, насуперак непераадольным законам усіх навук, усё ж змог дацягнуць некалькі пасажыраў да невялічкай кучкі старэнькіх хатак, што па былой звычцы яшчэ называліся вёскай. Ды не паспеў Даніла Супрун вылезці з яго, як апынуўся адной нагой па калена ў восеньскім няўтульным балоце, якое запырскала не толькі неасцярожную нагу, але і ўсе астатнія часткі цела аж па самыя вушы. Другая нага застыла на прыступках незаменнага транспарту міжраённых камунікацый, настойліва адмаўляючыся пакідаць адзінае сухое месца ў радыусе дванаццаці кіламетраў. Даніла вылаяўся самым брудным трохпавярховым матам, які аніяк не адпавядаў апранутаму толькі сёння новенькаму гарнітуру ў камплекце з белай кашуляй, гальштукам і букетам ружаў у руках, і непамернай сілай волі прымусіў непаслухмяную ніжнюю канечнасць адпусціць транспарт у адваротны шлях. І аўтобус, удзячна газануўшы, чым яшчэ больш дабавіў Данілавай постаці адпавядаючага навакольнаму асяроддзю колеру, паскакаў па глыбокіх лужынах, якія па незразумелых прычынах называюцца вясковай дарогай.

— Хіба жаніцца надумаўся, што кветкі цягаеш з сабой, як сабака костку, — пачуў Супрун за плячамі насмешлівы жартаўлівы голас. — Але выгляд у цябе такі, што ўзяць у жонкі хіба хочаш Зосьчыну свінку. Толькі яна за цябе не пойдзе. Ёй вясной кныра прыводзілі, то выглядаў той нашмат чысцей і прывабней ад цябе.

Даніла злосна азірнуўся і ўбачыў на прыпынку дзеда Аркашку, які, седзячы на лаўцы, сачыў за сваёй тоўстай каровай, што пасвілася недалёка ад так званай дарогі. Пра гэтага дзеда юнак шмат чаго чуў такога, што магло б прывесці ў стан панічнага жаху самага вялікага смельчака крывавай бітвы пад Ватэрлоо. Рэпутацыя ў Аркашкі была такой, што нават румынскі граф Дракула выглядаў у параўнанні з ім як нявінная авечка. Казалі пра дзеда, што больш душ загубіў на гэтым свеце, чым засталося. Усю вайну чужакоў страляў. І не толькі чужакоў. Дзе толькі столькі патронаў набраў?! І як яму ўдалося ад астрога ўратавацца? Дзіва з дзіваў! Можа таму, што новая пасляваенная ўлада не ведала пра бурную маладосць Аркашкі. Нават медаль далі яму за партызанскія заслугі. А старую мясцовую ўладу той са сваёй бандай перабілі ўсіх да аднаго. І бальшавікоў, і немцаў. Не было каму справу завесці. Ды і людзі на Ашмяншчыне скрытныя. Іх хоць душы, як паганага ката — нічога не скажуць. А не пытайся, дык тым больш дзюбы не расчыняць. Вось і не даненслі. Можа самі той улады не далюблівалі, а можа Аркашкінай помсты баяліся. Толькі паміж сабой, цішком, і з нейкай незразумелай цеплынёй у голасе, і то як моцна нап’юцца, называлі старога Аркашку кішкалупам.

— Ажэнішся тут у вас, — прабубнеў Супрун, прымасціўшыся на лаўцы ля кішкалупа. — Сёння збіраўся з будучай цешчай пазнаёміцца. Дык бачыш які канфуз! Куды я цяпер такі!

— Што праўда, то праўда, — адказаў уздыхам былы Джэктрыбушыцель. — Зоська ў нас баба спраўная, акуратная. У яе не толькі дачка Зінулька, але і прыбіральня больш прывабна выглядае, чым ты зараз. Ганьба ды і толькі. А чаму

сватоў не прыслаў на пачатку? Глядзіш, ад такога сораму і пазбавіўся б.

— Якія сваты?! — махнуў рукой самы брудны на свеце жаніх. — Хто цяпер гэтай дурнотай займаецца? Часы не тыя. Аджыла тая традыцыя ўжо сваё. Няма часу на непатрэбшчыну. Мы з Зінулькай самі ўжо даўно ўсё вырашылі. Засталося толькі з бацькамі пазнаёміцца бліжэй, і на калі вяселле прызначыць.

— Эх, моладзь, — сплюнуў стары ўладальнік партызанскага медаля. — Вучыш вас вучыш, а вам усё не даходзіць. Не хочаце жыць згодна з нашымі старымі звычкамі. Быў тут адзін такі, царства яму нябеснае. Пасля вайны да Зоські сватаўся. Да гэтай, чыю дачку ты сабе прыгледзеў. Гаварылі яму людзі, прысылай сватоў. А ён кажа, перажыткі гэта, будзем жыць па-новаму, без сватоў жыццё наладзім. Ой, моцна ён мяне тады ўзлаваў. І не таму, што гэта быў савецкі афіцэр з іхняй контрразведкі. Хадзіў, падла, па лясах, нашых хлопцаў вылаўліваў. І не з-за Зоські. Мне то яна і самому падабалася. Ды не толькі яна адна, — тут дзед на хвіліну зрабіў паўзу, паглыбіўшыся ў прыемныя ўспаміны юнацтва, але хутка вярнуўся да павучання. — Узлаваў ён мяне таму, што па-нашаму жыць не хоча. І смяецца яшчэ з нашага, брыда. Ну дык яго напачатку лёс пакараў. Прыйшоў, значаць, гэты афіцэрык да Зоські, з мамай знаёміцца. Так як ты зараз. Зоська на стол збірае, па самагонку некуды паляцела, а жаніх, значыць, думаў што адзін у хаце застаўся. І так яму ад хвалявання бруха схапіла, што не ведае што рабіць. Уздула, небараку, як карову, якая цвік праглынула. Думае, трэба газы выпусціць. Але ж у хаце смярдзець будзе. А на вуліцу

няёмка выходзіць. Зоська казала тут пачакаць. Ды і патрапіць пад кулю баяўся. Тут тады небяспечныя часы былі. Тапілі энкавэдыстаў у балоце як сляпых кацянят. Ну то ён сунуў свой ваенны зад за печку і як даў, што мала посуд не паразлятаўся. А за печкай, акурат у гэты момант, Зосьчына мама спала, Янэчка. Ад такога выбуху спрасонку падумала, што зноў вайна пачалася. Як закрычыць, нібы недарэзаная авечка. А жаніх з перапалоху ногі ў рукі і на пяту. Больш яго тут і не бачылі. Саромеўся нават на вочы патрапіць. Куды ж гэта варта так цешчу абстраляць яшчэ да знаёмства. Яго пасля некуды да латышоў адправілі. Іхных бандытаў лавіць. Ды якія там бандыты. Смех адзін. Але хіба не даехаў ён да тых латышоў. Нехта цягнік у рэчку спусціў. Во дзе сапраўдныя бандыты! Мост узарвалі. А можа і ўратаваўся якім цудам. Халера яго ведае. Толькі тут ён больш не з'яўляўся, — тут дзед крыва ўсміхнуўся, хіба радуючыся таму, што перажыў усіх аднагодкаў якіх ведаў, якія беларускіх традыцый не паважалі і, падняўшы палец угору, зрабіў выснову: — Трэба трымацца старых звычаяў. А то бачыш, як яно! Лёс такіх людзей карае. Вось і ты, чаму думаеш увесь у балоце? Гэта табе першы намёк лёсу. Будзеш і далей прыдурвацца, то могуць і іншыя няшчасці на галаву зваліцца як пярун з яснага неба.

Ад гэтых слоў і ў гэтага жаніха так бруха схапіла, што, кінуўшы ўбок кветкі, куляй паляцеў у бліжэйшыя кусты. А назаўтра старэнькі аўтобус прывалок у вёску сватоў. Таксама ў гарнітурах, пад белымі кашулямі, у гальштуках на тоўстых шыях, якія пасавалі ім як карове konскі падсядзёлак, з ручнікамі праз плячо і ў старанна адшліфаваных керзавых ботах. Пасля ўжо выгляд тых сватоў мала адрозніваўся ад учараш-

няга аблічча жаніха. Адзін, напіўшыся, паваліўся ў балота, не дайшоўшы да прыбіральні. Другі, маладзейшы, усе куты абрыгаў у хаце маладой. Але справу сваю сваты зрабілі. Дзяўчыну сасваталі і дзень вяселля прызначылі.

А вяскоўцы не маглі нацешыцца з Данілы. Во, казалі, які спраўны хлопец. Усё зрабіў па-людску, па-нашаму. Трымаецца старых звычак. А што сваты трохі зашмат загуляліся, то малады не вінаваты. Галоўнае, што не ён сам асароміўся. А сватам можна. Як кажуць, што дазволена кату, то не дазволена сабаку. Нічым асаблівым, маўляў, тыя сваты, калі ўжо быць да канца шчырымі, традыцый не парушылі.

## *Кітайскі компас*

А за што цябе кінулі на нары? — запытаў мяне сусед з непрыкрытай радасцю ад таго, што мне прыйшлося адсядзець сем сутак у смярдзючай камеры з яго сябрамі алкаголікамі.

Мужчына ён быў добры. Калі што трэба, заўсёды дапаможа. Нікому нічога благога не жадаў. Толькі вось занадта любіў чысціню крыштальнага бляску таямнічых агеньчыкаў, якія дае гарэлка, што зіхаціць на рубах гранёнай шклянкі ў святле неонавых лямпаў ліцейнага цэха гродзенскага завода такарных патронаў. Таму яго шлях з працоўнага месца да хаты час ад часу мяняў прамы маршрут і праходзіў праз ласкавасць міліцэйскага пастарунка, дзе Іван, так звалі суседа, набраўся моцнай нястрыманасці да людзей ідэі. Бо тыя, калі патраплялі па нейкіх прычынах з ім у камеру, часцей за ўсё пасля несанкцыянаваных мітынгаў (а гэта стала даволі частай з'явай на пачатку дваццаць першага стагоддзя), увесь час нылі, што Іван зашмат курыць і прасілі не выслаўляцца брудным расейскім матам. А яшчэ нудзілі яго доўгімі размовамі пра раздзяленне галін улады і аптымальнасць выбару эканамічнага курсу Беларусі. Праўда былі ў тым і добрыя бакі. Зараз Іван лічыў сябе палітычна падкаваным чалавекам, які разбіраецца ва ўсіх нюансах знешнеэканамічных стасункаў краіны, і заўсёды ахвотна ўступаў у спрэчкі на тэмы беларуска-расейскіх адносін. Казаў, што галоўная памылка апазіцыі ў тым, што ніяк не можа ўцяміць, што Беларусь без Расеі не пражыве. І хаўруснікаў сабе мусіць шукаць на Усхо-

дзе, а не на сытым Захадзе, дзе мы, маўляў, нікому з нашым трактарам „Беларус" і тэлевізарамі „Гарызонт" непатрэбныя. А ў астатнім цалкам пагаджаўся з існымі апанентамі сённяшняй улады.

— Што, матам на вуліцы лаяўся? — усё весялей дапытваў мяне Іван.

— Так вырашылі ў судзе, — махнуў рукой я і пастараўся хутчэй пазбавіцца ад суседа і бессэнсоўнасці распачатай ім спрэчкі. — Няма мне чаго табе сказаць больш. Хоць ты добра ведаеш, што я па-расейску не размаўляю? І таму ніякім матам гаварыць не мог у прынцыпе. А віна ўсяму — прэзідэнцкія выбары. Скажам так, мяне нейтралізавалі як умелі. Прамаскоўская палітыка, што зробіш.

Апошнія словы былі вялікай памылкай. Сусед ухапіўся за іх як тапелец за саломку.

— А ведаеш, пакуль ты сядзеў, наш урад яшчэ аднаго саюзніка сабе прыдбаў, Кітай! Вось гэта правільны ход. Тут я пагаджаюся. Паглядзі толькі, які гэта вялікі рынак для нашых тавараў. А іхныя рэчы вельмі танныя. Таксама добра будзе, калі ў нас з'явяцца.

Я зарагатаў як абкураны канаплёй панк, бо толькі што ў камеры расказвалі мне два небаракі пра кітайскі танны тавар.

— Паслухай, Ваня, — кажу яму, — ты добры хлопец. Ну і, зрэшты, суседзяў не выбіраюць. Якога лёс паслаў, такога і цярпі. Вось і там, адкуль я толькі што вырваўся і, абганяючы грамадскі і асабісты транспарт, прынёсся дахаты як сабака ад ваўка, былі ў мяне два суседы па камеры. То хачу

табе распавесці пра іх няпросты руцінны шлях, што прывёў бедакоў з сонечнага Казахстана на гарадзенскія нары. Толькі зразу пачну з таго, каб ты не абвінаваціў мяне ў прадузятасці, што я з вялікай павагай стаўлюся да складанага пакутніцкага шляху братняга расейскага народа, гэтак жа як і да старадаўняй шматтысячагадовай кітайскай культуры. Нават не зважаючы на абсурдныя агульнанацыянальныя праекты ў выглядзе Вялікай сцяны, культурнай рэвалюцыі, ці, што нас усіх, на жаль, гістарычна яднае, прыманне непагрэшнасці марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Але гаворка не пра былыя часы, а пра сёння. І тут ужо трэба думаць, да каго мы бліжэй. Ну добра, прабач, занесла мяне ў палітыку. Дык вось слухай. Двум нядолям, якія зараз яшчэ выціраюць сваімі задніцамі камерныя дошкі, вельмі няўтульна стала на сваёй Радзіме, гэта значыць у Казахстане. Хоць яны там нарадзіліся, але вочы мелі завялікія і па нацыянальнасці і знешнім выглядзе не адпавядалі прыроднаму ландшафту. Адзін быў нашчадак рускіх бацькоў, другі — латышскіх. Адным словам, як іх зараз называюць — рускамоўныя. Вось як ты. І здалося ім, а можа і праўда, што ў цяперашнім Казахстане з няправільным разрэзам вачэй перспектывы выбіцца ў людзі адсутнічаюць цалкам. Таму і вырашылі сігануць куды далей ад ласкавага паўднёвага сонца. Ды чамусьці не ў Расею, а на Захад. У іх там і знаёмыя знайшліся, што яшчэ раней збеглі. І гэта добра, бо працу там ужо надбалі сабе, і гэтым уцекачам прыгледзілі цёплае месца ў кітайскім рэстаране недалёка ад Франкфурта. А яшчэ падрабязны план пераходу беларуска-польскай мяжы прыслалі. Гэта ж зараз адзіная мяжа, якую перайсці цяжка. І хлопцы зрабілі ўсё, як іх вучылі новаеўрапейскія шчасліўцы. Прыехалі ў Гародню, пайшлі

да нейкай вёскі, там далей у лес, сядзелі паўночы ў гурбах і ў адпаведны час, калі найбольш спрыяльна, дасталі загадзя набыты компас ды рушылі на захад. Усё як іх вучылі. Ідуць сабе, ідуць, а калючага дроту няма і няма. Хоць па ўсіх разліках ужо і Польшчу мусілі мінуць. А тут раптам беларуская застава як з-пад зямлі вырасла. Памежнікі ўзялі іх, што называецца, цёпленькімі. У самы момант мяркуемага правапарушэння. А пасля ўся застава рагатала, як агульнасаюзны дом вар'ятаў, што ўбачыў палец. Памежнікі даведаліся ў чым справа. Компас быў кітайскі. І паказваў зусім іншы кірунак, чым павінен гэта рабіць дакладны арыентацыйны прыбор. І хлопцы тыя, замест каб перасячы мяжу, увесь час ішлі паралельна ёй. Пакуль не прыйшлі ў прыветлівую камеру для арыштаваных. Ну і скажы зараз мне, ці вабяць цябе тыя танныя тавары, і тыя хаўруснікі?

На маё здзіўленне Іван заплакаў. Я аж запаважаў гэтага чалавека, што лёс двух чужакоў яму неабыякавы. Дзе цяпер знойдзеш такое спачуванне і цеплыню суровай мужчынскай натуры. Але праз хвіліну сусед схамянуўся, вылаяўся, як звычайна перад пачаткам новага сказа, і гаворыць:

— Твая ўзяла. Праўду кажаш. Нельга купляць тавар падазроных вытворцаў. Вось і я, дурань, купіў пральную машыну-аўтамат кітайскай вытворчасці. На апошнія грошы. На танны кошт спакусіўся, балван. Лепш бы я іх прапіў, тыя грошы. Хоць нейкая радасць была б. Як думаеш, шмат тая машына не напрацуе?

— Вось колькі ты на тыя грошы піў бы, столькі яна і папрацуе, — пажартаваў я.

— А халера! — махнуў рукой сусед, і зноў вылаяўся.
— Што ж ты мне раней гэтай гісторыі не расказаў. Грошай шкода.

І зноў заплакаў.

## *Лямпачка прапаршчыка*

Як увесь белы свет, ад мора да мора, ад заходняга паўшар'я да ўсходняга, ад лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі да дзікуноў яшчэ не знойдзенага ў джунглях Амазонкі індзейскага племя са старадаўняй назвай „Важак энд Компані", быў перакананы, што электрычную лямпачку прыдумаў Эдысан, так савецкія людзі не сумняваліся, што гэтае вынаходніцтва зрабіў Ленін. Так як і ўсе іншыя карысныя для насельніцтва Зямлі рэчы і правільныя для ўсіх часоў і народаў ідэалогіі. Яе, тое свяціла, так і называлі — лямпачка Ільіча. А калі папраўдзе, то савецкім людзям было ўсядно, хто там і што прыдумаў. Галоўнае, каб тая лямпачка свяціла. Бяда як перагарыць. Бо бальшавік, хіба каб грамадзянам самай шчаслівай па іх сцвярджэннях краіны жыццё ўжо зусім не здавалася мёдам, і каб яны не забыліся, што суседнія капіталістычныя дзяржавы ўсё ж робяць нам класавыя праблемы і эканамічныя нязручнасці, усе тавары народнага попыту ператварыў у дэфіцыт. І каб набыць новую лямпачку (няважна, Ленінскую ці Эдысонаўскую), трэба было абавязкова мець якогась там знаёмага, які ўкрадзе для цябе на сваёй працы той міні-замяняльнік нябеснага свяціла, цалкам бескарысна, усяго за бутэльку разам выпітага чарніла (так называлі пладова-ягаднае віно). У адваротным выпадку, лепш бы вам нарадзіцца ў „Важак энд Компані" і ратавацца ад начной цямрэчы прымітыўным спальваннем джунгляў.

У мяне такі знаёмы быў. Сусед Пятровіч, які, паміж вечным рамонтам кватэры і пабудовай лецішча, сціпла падпрацоўваў прапаршчыкам у адной з вайсковых частак Гародні. Та-

му, як я парэзаўся пры галенні па прычыне адсутнасці святла, не заставалася нічога лепшага як звярнуцца да яго. Бо ў прапаршчыка заўсёды ёсць запасы. І каб іх усе вывалачы з жылой кватэры, дзе яны захоўваюцца, а пасля паспрабаваць пакласці назад, не ўлезла б і дзясятая частка. Як гэтым дзіўным вайскоўцам, якія не ёсць ні салдатамі, ні афіцэрамі, удаецца рабіць такія цуды з размяшчэннем вялікага аб'ёму ў малым — загадка, якую не можа разгадаць самы вялікі маг Дэвід Коперфільд.

Чаго толькі не прыдумала здольная на вобразнасць і аналіз маладая салдацкая думка дзеля наданню своеасаблівага каларыту і рамантызму нібыта шэрай і занядбанай на першы погляд прафесіі прапаршчыка. Казалі нават, што прапаршчыкамі запалохвалі Амерыку. Амерыканцы тады прыдумалі нейтронную бомбу, пасля выбуху якой усё жывое гінула, а матэрыяльныя каштоўнасці заставаліся. У адказ саветы як быццам бы павялічылі штаты прапаршчыкаў. А пасля іхнай атакі на ворага жывое заставалася някранутым, затое ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, ад ракетнага паліва да даўно спісаных салдацкіх шкарпэтак варожага войска і нават толькі што апранутай ніжняй бялізны салдат супрацiўніка, знікалі ў невядомым кірунку, хутка і назаўсёды. Злыя языкі цешыліся прыдумкамі, што прапаршчыкам хутка новую вайсковую форму выдаваць будуць толькі чорнага колеру. Выключна ў мэтах маскіроўкі — як выйдуць зноў красці ўночы, то каб былі незаўважнымі. І на тым мундзіры будзе толькі адзін пагон на левым плячы, каб другі пагон не перашкаджаў выносіць з вайсковай часткі ў мяхах праз правае плячо тое, што звычайна прапаршчыкі адтуль цягнуць. Гэта значыць усё,

што не ахоўваецца зусім, ці кепска ахоўваецца, або ахоўваецца добра або вельмі добра. Усё, што патрэбна прапаршчыку, і ўсё, што непатрэбна ні яму і нікому. Адным словам — усё. Таму сховы матэрыяльных каштоўнасцей, якія мелі прапаршчыкі-заўхозы, можна смела называць першымі гіпермаркетамі на постсавецкай прасторы. І што-што, а лямпачкі там былі напэўна.

— Дай сусед лямпачку, — кажу яму без нудных цырымоній на ўсялякія там непатрэбныя ўступы кшталту „Добры дзень!", ці „Як здароўе?", якіх Пятровіч пераносіць не мог. Любіў канкрэтыку. — А то наступны раз як буду галіцца без святла, баюся, што галаву адрэжу. А нашто табе сусед без галавы? Мы ж галавой не толькі ядзім, але і п'ем. А як без яе выпіць пляшку, якую я прынясу табе за лямпачку?

— Няма пытанняў! — узбадзёрана адказвае сусед, пачынаючы вачыма ўжо шукаць закуску. — Для добрага чалавека нічога не шкода. Калі хочаш, магу нават пражэктар падагнаць, якім пры ўзяцці Берліна вайной немцаў сляпілі?

Лепш бы я ўзяў той пражэктар. Хто ж мог ведаць, што звычайная лямпачка наробіць столькі клопатаў. Праўда, не сама, а ў спалучэнні з Пятровічавай жонкай. Ды калі шчыра сказаць, то на распаўсюджаную сярод беларусаў думку, кожная, нават самая карысная рэч у спалучэнні з жанчынай прыносіць бяду. Так і сталася.

— Ах ты лабідуда! — залямантавала Аксанка, Пятровічава жонка — хахлуха, як яе тут называлі. Ён жонку аж з Украіны прывёз на сваю галаву. Людзі казалі, што і тут мог знайсці такую вар'ятку. Чаго было цягнуць невядома адкуль? Ніко-

лі нармальна не размаўляла, заўсёды крычала як бензапіла ўключаная паралельна з цыркуляркай. — Як для сябе, дык не можаш знайсці! Ужо тыдзень святла няма ў прыбіральні. А як за бутэльку, дык як піянер, заўжды гатоў.

— Зараз перакручу ў тваёй прыбіральні, — адказвае сусед, а мне тлумачыць, што хутка знойдзе лямпачку і прынясе.

Я пайшоў. А Пятровіч дастаў з бяздонных запасаў усяго на свеце дзве лямпачкі і наважыўся адной залагодзіць жонку. Папрасіў толькі тую, каб табурэтку патрымала, на якую паступіўся дзеля замены цуду навукі.

У вайскоўцаў ёсць некалькі зацверджаных стыляў вопраткі. Палявая, парадная, штодзённая, супрацьхімічная і штосьці там яшчэ. А ў прапаршчыкаў ёсць і яшчэ адна, дадатковая. Хатняя. Яна складаецца з вайсковай кашулі без пагонаў і шырокіх салдацкіх трусоў. І як толькі Пятровіч пацягнуўся рукамі ўвысь дзеля замены крыніцы святла, як з-пад кашулі вываліўся аб'ёмны круглы жывот (у простанароддзі такі называецца бэбух), а з-пад трусоў жончынаму позірку, якая стаяла на каленях і трымала табурэтку, адкрылася панарама ўсёй мужчынскай гаспадаркі мужа. Тая хацела спачатку жартаўліва папляскаць па бэбуху. Маўляў, пара худзець. Але пасля, нечакана нават для сябе, а не толькі для мужа, узяла і дала ласкавую пстрычку прама туды, што выглядала з трусоў. І, здаецца, не першы год замужам! Як яна не ведала, што мужчын туды пстрыкаць нельга!?

Пятровіча як электрычнасцю стукнула. Віртуальны ток прайшоў па ўсім целе аж да кіпцюроў задзёртых угару рук, якія выпусцілі адкручаную ўжо лямпачку і даткнуліся да аго-

леных клемаў. І тут ужо сапраўдны ток праляцеў зваротнай дарогай, ад пальцаў да месца нанясення пстрычкі. Табурэтка выскачыла з-пад ног прама жонцы ў твар, нанёсшы жанчыне лёгкія цялесныя пашкоджанні ў выглядзе сплюснутага носа і двух фанароў пад вачамі, якія кожны паасобку свяціў мацней лямпачкі ў дзвесце ват. А сам няўдалы электрык ляснуўся азадкам на падлогу, а галавой аб унітаз так, што вочы закаціліся ў сярэдзіну як пры першым юнацкім пацалунку з дзяўчынай, сыпанулі феерверкам буйных іскраў, ад якіх мала сцены не загарэліся (добра, што былі абкладзены керамічнай пліткай), а з рота пайшла густая прыгожая пена, раўнамерна разбаўленая бліскучымі бурбалкамі.

Аксанка зараўла як сірэна машыны хуткай дапамогі. Паспрабавала сама прывесці мужа да прытомнасці. І, як зразумела, што не зможа, паляцела выклікаць „хуткую". „Хуткая" ехала доўга. Аксанка, абліваючыся потам як морж у пустыні Сахара, рабіла мужу штучнае дыханне. Не паклікала суседзяў на дапамогу! Ды дзе там. Жанчыны для амурных спраў да суседзяў не звяртаюцца.

Але ўсё неяк абышлося. Прыехалі дактары, далі панюхаць Пятровічу нашатырнага спірту, і вочы ў таго перавярнуліся назад, хоць чамусьці глядзелі толькі на канец носа. Але прапаршчык моршчыў лоб і ўсім сваім выглядам паказваў, што ўжо здольны думаць самастойна. Нават адмаўляўся ў шпіталь ехаць, але лекары настаялі. Паклалі суседа на насілкі і валакуць па лесвіцы з дзявятага паверха. А ў Аксанкі пытаюць, як усё было. А тая з дуру расказала. Ды так падрабязна...

Што тут нарабілася! Лекары так разрагаталіся, што выпусцілі з рук насілкі, якія рэзнулі аднаму з іх па назе і падзёрлі жылы ля пяты. Другі хацеў неяк іх утрымаць і выкруціў сабе руку ў локці і плячы адначасова. А Пятровіч з мацюкамі і праклёнамі пакаціўся ўніз па лесвіцы і зламаў тры скабы і нагу. Толькі Аксанка ўцалела ў той эпапеі. А вінаватым ва ўсім яна прызнала мяне. Казала, што гэта як я па лямпачку прыйшоў, то ўсё з таго і пачалося.

Але Пятровіч лямпачку мне праз тры дні прыслаў прама са шпіталя. Папрасіў нейкага хадзячага хворага, каб даставіў, бо сам не мог выкалупацца з палону бінтоў і гіпсу. А той носьбіт святла ён са шпітальнага свяцільніка скраў.

## *Страх кары нябеснай*

Ай, дзеткі, — уздыхнула бабка Вера, — гэта вам, маладым, здаецца, што жыццё бясконцае. А яно кароткае. Не паспееш акруціцца, як ужо пара ў вырай збірацца. Вось я, жыццё пражыла, як на свінні праехалася. Здаецца яшчэ ўчора кавалеры, што пчолы раіліся ля майго ганку, а сёння ўжо ўнучку замуж выдаваць трэба. Вось так яно. Не паспела вокам міргнуць, як ужо бабка на мяне кажуць. А ад тых маладых гадоў толькі ўспаміны засталіся. Усядно як не са мной гэта было. Як тэлевізар паглядзела.

— То відаць бабуля надта ж бурную маладосць мела, — рассмяяўся Антон, жаніх унучкі бабы Веры. — А то я гляджу, што ў царкву да споведзі ходзіш часцей, чым у хлеў жывёлу пакарміць. Відаць, шмат награшыла.

— А каб ты язык аб плуг падрапаў, — адмахнулася рукой бабка. — Ці ж можна так казаць! Я жыццё прыстойна пражыла. Акрамя майго нябожчыка мужа аніводзін мужчына пляча майго голага не бачыў. Як памірала мінулым годам, людзі думалі, што не ўратуюць, дык і то перад смерцю не дала доктару паглядзець мяне. Прысылайце, кажу, дакторку жанчыну. Гэта ж ганьба, каб чужы мужчына даткнуўся да мяне. Не дазволіла. Я што, жывёліна якая на базары, кажу ім, што мяне кожны пакупнік мацаць будзе, як свінню на продаж. Гэта вы, маладыя, зараз сораму не маеце. Асабліва дзяўчаты. Самыя агідныя месцы на паказ выстаўляюць. Ды яшчэ хваляцца адна перад другой, хто больш з голым пупам ходзіць. Як быццам бы ў тым пупе розум. А хіба ў вас сапраўды розум там,

на чым мы некалі сядзелі. Бо мазгамі ніхто не выхваляецца, а толькі азадкамі. А ў царкву я хаджу за вас, злыдняў, маліцца. Каб прыстойнейшымі былі, разумнейшымі. Каб Божанька дараваў дурноту вашу, ды на правільную дарогу наставіў. За вас, дурняў, сэрца баліць. Бо вы адно толькі зараз ведаеце, як гарэлку ў гарляк, што ў бяздонную бочку, залівачь. Кары Божай не баіцеся. Каб вас, бязмозгіх, зямля завярнула. Нічога святога няма. Бо жывяце як жывёла лясная. Ні малітваў не знаеце, ні праўды людскай не ведаеце.

— Ой, бабка, супакойся, — стаў аджартоўвацца Антон.
— Я ж пасмяяцца хацеў. Але і ты сама казала, што жыццё кароткае як недакураная папяроса. Адзін раз жывём. Чаму б не пацешыцца.

— Адзін то адзін, — раззлавалася бабуля. — Ды ўцехі розныя бываюць. Адны, каб сапраўды душу пацешыць, а другія, каб яе загубіць. Я зараз усё часцей на могільнік хаджу. Там мае знаёмыя даўно адпачываюць, зямля ім пухам. Дай Божа іх душам неба. Дык што ўгледзела. Як чалавек жыў усё ж можна пазнаць па магілцы. Вось адзін усё жонкі баяўся, як агню пякельнага. Дык і помнік ягоны неяк заваліўся, нібыта жончынага баіцца. Другая ўсё лётала, нейкага ражна шукала. Такая і магілка. Пройдзеш каля яе, і не заўважыш. Хоць помнік такі дарагі, што наша вёска столькі не каштуе. З нейкага каменя замежнага.

— Ну тут ты ўжо перагнула, — не пагадзіўся жаніх бабулінай унучкі. — Ды і якая розніца які помнік. Нябожчык жа гэтага не бачыць. Яму гэта так патрэбна, як сабаку пятая нага. Лепш прыклад з жыцця прывядзі, тады можа і паверу, што ёсць на свеце нейкая помста за грэшнае жыццё.

— І раскажу, — не супакойвалася старая. — Вось быў тут адзін паганец, Гена шабашнік. Ні кута свайго, ні сям'і не меў. Адно толькі ў галаве — як гарэлкі нахлябтацца, што паскуда бруду, ды дзеўку чужую сапсаваць. А як вядома — свіння бруду знойдзе.

Скуль ён прыехаў, ніхто не ведаў. Ферму тады ў калгасе будавалі тыя шабашнікі. Грошы добрыя ім плацілі. Кожнаму больш чым усім калгаснікам разам. Ну то ён нап'ецца і дзяўчат шукае, як галодны воўк авечку. Згоршыць дзеўку, кіне, ды яшчэ ходзіць пахваляецца на ўвесь раён. Дзеўцы з хаты потым выйсці сорамна. Бо той усё распавядзе, і што было, і чаго не было дaложыць. З таго і цешыўся, што іншых ганьбіў ды знеслаўляў. А дзеўкі ж, вядома, істоты дурныя. Кожная думае, што з ёй па-іншаму будзе. Ні якой карысці з вопыту іншых сабе не бралі, як конь з навукі. А Генка нап'ецца, гармонік возьме і давай дурніц да сябе склікаць.

Бацькі ў вёсцы, не тое што дзевак, але і маладзенькіх цялушак ды коз ад шабашніка хавалі. Такі быў самец распусны. Ні на што не глядзеў. Зганьбіць дзяўчыну, ды яшчэ на парог наплюе. І рагоча потым як звар'яцелы конь.

Хлопцы, неяк, вырашылі даць яму навукі. Ды што ты з такім кныром зробіш. Ростам пад два метры, плечы як загружаны гноем прычэп ад трактара. Кулакі большыя, чым у нармальнага чалавека галава. Хлопцы дзве аглоблі на яго плячах зламалі і адну на галаве. І толькі як рысорай ад трактара па мордзе праехаліся, тады той зразумеў, што яго б'юць. Раз'юшыўся, брыда, як калгасны племянны бык, і трох чалавек пакалечыў.

Аднаго разу вырашылі мужчыны ў балоце Генку ўтапіць. Паклікалі на паляванне і кажуць, каб ішоў туды і туды. Дык той усё балота прайшоў і нават яго п'яныя бельмы гэтага не заўважылі. Найглыбей было па шыю.

Думалі людзі, што ніякага паратунку няма. Ды кара нябесная мацней за гада таго сталася. Праўда, першы раз пакараць злыдня не ўдалося. А можа тое яму толькі папярэджанне было, каб, брыда, адумаўся. Рэзнула неяк па ім у полі маланка. Проста ў галаву. Такі гром быў, людзі баяліся што канец свету. А таму хоць кол на галаве чашы. Нават не адчуў. Толькі працверазеў крыху. І далей за свае паскудствы ўзяўся.

Ну то другі раз не ўцёк. Клалі яны правады на ферме. Нейкі моцны ток пускалі, каб і сячкарня працавала, і іншыя моцныя рэчы. Правады на зямлі ляжалі. А Генка якраз перад іншымі шабашнікамі выхваляўся чарговым паскудствам, каб ён згарэў. А пасля памачыцца пайшоў за ферму. Ды прама на правады тыя. А там, як пасля даведаліся, трэснуты пластмас быў. Ён акурат на тую трэшчыну і лінуў. А адтуль токам як дасць! Па яго струмені ды па тым месцы, якім паскудзіў, брыда. Нават перажагнацца не паспеў. Так і зваліўся на снег. Счарнеў як вугаль. І яшчэ цэлы дзянёк ляжаў так, вывернуўшы на паказ людзям тое месца, якім паскудзіў. Бо міліцыя доўга разбіралася, як яго забіла. А пасля, як стала ясна скуль смерць прыйшла, то і міліцыя, і ўся вёска, і нават цэлы раён так рагаталі з тае ганебнае смерці, што мала пупы не паразвязваліся. І ніхто не пашкадаваў гада. Адно толькі цешыліся. І пахаваць не было каму. Зарылі як жывёлу і ніхто не ведае дзе. Нават яго байструкі. Бо і магілка з зямлёй зраўнялася і крыж паваліўся. Адна толькі я, бывае, кветкі пакладу. Шкода паскуду.

Чалавек усё ж. Вось такая, унучак, кара. А ты кажаш...

Антону нібыта жэрдку ў горла ўставілі. Такі быў уражаны. Упершыню пра жыццё задумаўся. Ажно цыгарэта да языка, які перасох, прыліпла. А тут і Ленка, унучка бабкі Веры, выскачыла.

— Ну што, Антончык, — кажа. — Я ўжо сабралася. Пайшлі ў клуб на танцы.

А той як гыркне на яе, як на карову, што ў бульбоўнік убілася:

— А ты чаму так апранулася!? Чаму пуп голы!? Хутка пераапранайся, а то іншага жаніха шукаць будзеш. Распусцілася, брыда, сораму не знаеш. І порткі гэтыя ў абліпку здымі. Адзень нармальную спадніцу, каб калені закрывала. А то захочаш за клуб па лёгкаму злётаць, адпявай цябе потым за непрыстойнасць тваю. Там нядаўна святло праводзілі. Ты ведаеш колькі там аголеных правадоў валяецца...

## *Шлях да Марфея*

Тоўсты, павольны і псіхалагічна стомлены невыноснай і нуднай начной зменай, зацяжнымі фінансавымі праблемамі і вечнымі папрокамі жонкі, што ён позна прыязджае дахаты пасля працы капітан міліцыі Язэп Карпенка, яшчэ да выезду па выкліку на нейкі суседскі скандал ужо меў у галаве план нейтралізацыі начнога дэбашыра, што не даваў спакойна зляпіць у салодкім сне без сноў задураныя тэлевізарам вочы ўсяму мікрараёну цэлага абласнога цэнтра. План просты, без хітрыкаў Пінкертона, метаду дэдукцыі Холмса і доўгіх разваг Мегрэ. Ён спакойна пазвоніць у дзверы той кватэры, дзе па сцвярджэнню суседзяў ні то пачалася трэцяя сусветная вайна, ні то канчаецца апошні акт канца свету і запатрабуе ад гаспадара адчыніць іх. Гаспадар, як падказваў набыты гадамі міліцэйскі вопыт, дзвярэй не адчыніць. І тады капітан Карпенка, у прысутнасці сведкаў і мясцовага ўчастковага, высадзіць нагой тыя дзверы, яго супрацоўнікі заламаюць рукі за спіну нейкаму наркаману і адвязуць таго ў пастарунак.

І ўсё вельмі хутка, бо трэба яшчэ скласці пратакол, узяць тлумачэнні суседзяў і вырашыць, што далей рабіць з парушальнікам начнога спакою. А яго змена ўжо закончылася. Значыць, дахаты зноў спозніцца, зноў папрокі жонкі і яго апраўданні пра тое, што праца міліцыянта не мае нармаванага графіка і яе нельга кінуць, калі таго пажадае яго родная каханая. Але тая ўсядно будзе яго пілаваць і лямантаваць, і заснуць атрымаецца не скора, і толькі выпіўшы тры таблеткі снатворнага, а пасля зноў тая тупая праца. Зноў папрокі жонкі. І так з дня ў дзень.

Але нават не даехаўшы да месца здарэння, Язэп зразумеў, што яго план не спрацуе. Праўду казалі суседзі таго начнога гулякі. Яны наракалі на тое, што там так грыміць рок-музыка, што збівае з дрэў лісты на адлегласці двух кіламетраў у дыяметры, а ў машын на вуліцах перагарэла сігналізацыя. І нават той аўтатранспарт, які не меў усталяванай сігналізацыі, нібыта чалавечымі галасамі стаў маліць, каб хоць трохі прыцішыць дэцыбелы двухметровых дынамікаў. Таму званіць у дзверы было без сэнсу. Гром таго, што суседзі назвалі моцнай музыкай, быў такі, што ў міліцыянтаў зляцелі фуражкі, а само тое месца начной бясплатнай прэзентацыі рок-канцэрта за кіламетры абляталі птушкі, напалохаўшыся грымоты, ды абыходзілі бокам здзічэлыя каты.

— У яго дзверы не зачыненыя, — дапамагла ахоўнікам гарадскога спакою нейкая добразычлівая бабулька. — Ён сам замкі летась паламаў, як ключы згубіў.

Гэта аблягчала задачу. Міліцыянты ўвайшлі ў кватэру, дзе перад іх прызвычаеным да ўсякіх нечаканак позірку раскрыўся ўвесь малюнак начнога жаху. У куце стаяў невялічкі магнітафон, якога адразу і заўважыць было цяжка. Затое дынамікі ад яго займалі ўсё астатняе месца ў кватэры. А на двух вольных ад дынамікаў квадратных метрах стаяла канапа, на якой салодка, пад гром барабанаў, спакойна спаў мужчына гадоў дваццаці сямі. Яго нават будзіць не хацелася. Такі гэта быў мілы сон. І калі міліцыянты паспрабавалі разбудзіць таго, нічога не атрымалася. Толькі як Язэп выключыў магнітафон, аматар начной музыкі нечакана прачнуўся сам.

— Што гэта вы тут робіце?! — вылупіў ён вочы.

— Канцэрт прадоўжым у пастарунку, — заявіў Карпенка, і яго падначаленыя павалаклі хлопца на вуліцу, дзе скучыўшыся шчыльнымі шыхтамі ўжо стаялі суседзі, чакаючы працягу спектаклю.

— Ігарок, сыночак, што ж ты людзям спаць не даеш, — заенчыла нейкая бабулька і ўсе астатнія заківалі галовамі.

— А што я такога вам зрабіў, — агрызнуўся Ігарок. — Мне што, музыкі нельга паслухаць?!

— Ну то ж не ўночы і не так моцна, — у адзін голас заляманталі суседзі.

— І вы з-за гэтага міліцыю выклікалі?! — абурыўся Ігар. — Як вам не сорамна! Злыдні вы. Нядобрыя вы людзі. Вось ты, дзядзька Іван, ці не ты да мяне заўсёды ўцякаеш ад сваёй гадзюкі цешчы, каб вінішча глынуць? Хіба я на цябе за гэта мянтоў выклікаў? Ці ты, цётка Зіна! Ці не мяне просіш, каб супакоіў твайго мужа, як ён, напіўшыся, табе рыла чысціць. Да мяне звяртаешся, а не ў міліцыю. Ці вось ты, Пятровіч. Ці не ў маю кватэру, хаваючыся ад усяго свету, ты баб водзіш. Тады вам усім Ігар добры, як патрэбны. А як у Ігара душа пачала рвацца і мне трэба падтрымка, тады вы ў міліцыю звоніце. І не таму вы пазванілі, што музыка спаць перашкаджала, бо можна было заткнуць вушы туалетнай паперай, пры жаданні, і спакойна спаць. Але ж не. Гэнак вы і самі выспаліся б, і мне не нашкодзілі б. Ад таго вы спакою не знаходзіце, што зло ў вас жыве. Вам толькі каб нагода была, і вы ўжо гатовыя камусьці нашкодзіць.

І Ігар, сплюнуўшы на зямлю, сам сеў у міліцэйскую машыну. А за ім і Карпенка, трымаючы ў руках аўдыёкасету з рок-запісамі, як доказ начнога непаразумення суседзяў.

— А што, такая музыка ад нечага дапамагае? — спытаўся ён у затрыманага.

— Ды ад усяго, — адказаў той. — Я ўчора зайшоў у бар кавы выпіць. А там толькі расейскую папсу круцяць. А мяне ад такой музыкі ванітуе. Я ў другі бар, у трэці. А там тое самае. Вось і ўключыў рок на ўсю ноч, каб душу старога рокера ачысціць ад таго паскудства, якое не па ўласнай волі прыйшлося слухаць. Але гэта я бараніўся ад папсы. А ты, мент, можаш бараніцца ад чаго табе трэба.

Капітан на хвіліну задумаўся. Пасля спыніў машыну і выпусціў Ігара на волю. Прыехаўшы ў пастарунак сказаў, што быў ілжывы выклік. Пасля здаў змену, зайшоў у бар, выпіў спакойна піва і недзе пасля абеду, не спяшаючыся, з'явіўся дахаты.

— Ты дзе гэта, гуляка, бадзяешся, — прывіталася з ім невыносна пісклявым крыкам жонка. Раўла так, што былі відаць праз рот усе вантробы. І нават тое, што ела на сняданак, і тое, чаго з'есці не паспела. — Не нацягаешся ўсё ніяк. Работа калі скончылася? А ты дзе быў? Маладосць маю загубіў і ўсё табе мала. Ніяк не супакоішся...

Але Язэп першы раз у жыцці нічога не адказаў. Не стаў апраўдвацца, тлумачыць. А зайшоў у пусты пакой, падпёр дзверы крэслам, уставіў у магнітафон касету і да канца павярнуў ручку гуку. Дынамікі грымнулі так, што аж шыбы выгнуліся. Затое не было чуваць ляманту жонкі. І ўвогуле, нічога не было чуваць, акрамя магнітафона. Капітан, не распранаючыся, паваліўся на ложак і праз хвіліну ўжо быў у ласкавых абдымках Марфея. Упершыню за доўгія гады яму ўдалося заснуць так хутка.

## *Іспыты на кемлівасць*

На чым палягала сяброўства Алеся і Ігара доўгі час ніхто не мог уцяміць, як не могуць зразумець дзікуны племя „Нябесныя мудрацы", чаму еўрапейскія навукоўцы сцвярджаюць, што Зямля круціцца вакол Сонца а не наадварот. Хлопцы былі настолькі супрацьлеглыя па характарах і манерах, што толькі дзень і ноч маглі паспаборнічаць з імі ў гэтым. Алесь заўсёды задумлівы, як сын прафесара-зануды, уважлівы да людзей, разважлівы і ўвесь час з падручнікам у руках. Ігар — вясёлы, бесцырымонны, пустаслоўны як лапатлівая скрынка, і заўсёды з нейкай новай дзяўчынай або адкаркаванай бутэлькай. Або і з тым, і з другім, бо не мог вызначыцца, каму аддаць перавагу.

Сяброўства юнакоў пачалося з уступных іспытаў у Гарадзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы, калі высветлілася, што толькі яны ўдвух здалі ўсе прадметы на выдатна. Гэта таксама было дзівам і для знявераных у геній чалавечага інтэлекту перастарэлых выкладчыкаў, і для ўпэўненых у сваёй разумовай непаўторнасці смаркатых студэнтаў.

З Алесем усё было зразумела. Гэта была хадзячая энцыклапедыя. І хуткасць пошуку ў галаве неабходнай інфармацыі апярэджвала хуткасць найлепшых камп'ютараў тых часоў. А вось Ігар і на трэцім курсе яшчэ не мог дакладна вымавіць назву ўстановы, дзе вучыўся. Не гаворачы ўжо пра прозвішчы выкладчыкаў і хто якую дысцыпліну ўбівае ў галовы няшчасных студэнтаў, якія, адкрыўшы падручнікі, замест таго,

каб вывучаць іх, праклід nалі сваіх праваднікоў у свет навукі, падобна як чарадзеі наводзяць сурокі на ворагаў.

Толькі Алесь ды Ігар з усяго курса не займаліся праклёнамі. Алесь усё вывучаў з такой стараннасцю, нібыта ад гэтага залежыць лёс галактыкі, а Ігар увогуле не адкрываў падручніка і ў снах не ведаў, каго можна праклінаць. Што здаюць заўтра і хто прымае іспыты даведваўся ён толькі тады, калі заходзіў з залікоўкай у аўдыторыю і бачыў перад сабой незнаёмага светача навукі ў вобразе здзіўленага выкладчыка, які, няважна хто гэта быў, напачатку заўсёды пытаўся ў яго адно і тое ж — чаму не бачыў Ігара на занятках на працягу ўсёй сесіі.

Але і адзін, і другі здавалі на добрыя адзнакі. Нават у Ігара ішло крыху лепш, бо выкладчыкі, пачуўшы змястоўны і дакладны адказ Алеся, пачыналі камплексаваць, што гэты студэнт лепш ведае прадмет, чым яны. І міжволі зніжалі адзнаку, каб паказаць, што яны яшчэ больш знаюць, чым Алесь распавёў. А Ігар на іспытах лапатаў гладка і без запінкі, толькі не тое, пра што пыталася ў білетах, а тое, супраць чаго выкладчык не мог устаяць. Настаўніку лацінскай мовы, замест тае мовы, ён доўга распавядаў, як з маленства яго прывабліваі таямніцы гэтага прадмета і што яшчэ ў школе сапсаваў свой зрок, бо перакапаў усе архівы і бібліятэкі, каб пазнаёміцца з веліччу гучання і загадкавасці выслоўяў гэтай непаўторнай старадаўняй мовы. І не ведаючы аніводнага лацінскага слова атрымаў вышэйшую адзнаку. Такую ж самую атрымаў і па тэорыі права, бо выказаў захапленне складальнікамі падручніка, сярод якіх быў і яго экзаменатар. А на логіцы проста заявіў, што лагічна было б яму паставіць у за-

лікоўку пяцёрку, паколькі па папярэдніх здадзеных дысцыплінах ставяць менавіта такія адзнакі. Выкладчыца логікі не магла супрацьстаяць такому лагічнаму мышленню студэнта і больш у яго нічога не пыталася.

Хіба таму і пасябравалі гэтыя юнакі, што шчыра захапляліся адзін другім. Алесь не мог надзівіцца кемлівасці Ігара, а той дзівіўся працаздольнасці і правільнасці сябра.

— Як бы мне навучыцца так працаваць як ты, — разважаў ён. — Не прыйшлося б прыніжацца перад дурнямі.

— А мне б так умець як ты, — ківаў галавой Алесь. — Мог бы і піва папіць, і на дыскатэку з'явіцца. Не прыйшлося б так сядзець за падручнікамі.

Ды бяда звалілася, як заўсёды, падкраўшыся непрыкметна, адначасова і да таго, і да другога. І да ўсіх астатніх. Грымнула як пярун з неба. І прама па лёсе студэнтаў, што па адным і гуртам залёталі па кабінетах і архівах у пошуку неабходнай літаратуры, каб не прапалі бясследна і няслаўна, як прападаюць грошы ў рэстаране, чатыры гады занудлівай і ненавіснай вучобы.

Праблема паўстала ў выглядзе лысага старога прафесара айчыннай гісторыі, якога знялі з загадчыка кафедры і ён пачаў зрываць злосць на студэнтах. Гэты стары камуніст асабліва не любіў тых, хто як Алесь ды Ігар, уваходзіў у нефармальныя арганізацыі. З гэтымі ўвогуле не меў літасці, як кастрыраваны інквізітар да прыгожай вядзьмаркі. Хіба, брыда, адчуваў, што яго ўлюбёнаму таталітарна-забойчаму савецкаму ладу хутка канец надыдзе, бо быў канец васьмідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя, і Савецкі Саюз развальваўся

на вачах як хатка збудаваная з картаў. І хіба прафесар напаследак стараўся як мага больш напаскудзіць тым, хто вітаў надыходзячыя перамены ў грамадстве. Задаваў студэнтам такія пытанні, на якія адказу ніхто не ведаў. Прыкладам, які калібр гарматы ў танка Т-34, або колькі патронаў за дзень мог скарыстаць партызан атрада Каўпака, калі немца адступалі ўночы і пад гару ды яшчэ супраць ветру.

— Кранты нам, — кажа Алесь сябру. — Тут ведамі не здолееш атрымаць і чацвёрку. Ды і кемлівасць твая таксама, хіба што, не дапаможа.

— До ныць. Не хвалюйся, — адказвае той. — Ідзі здаваць пасля мяне. Сачы за ходам маёй думкі. Рашэнне само прыйдзе.

На іспытах прафесар пытае ў Ігара:

— Распавядзіце, як жылі сяляне на беларускіх землях да адмены прыгоннага права. І пабольш канкрэтыкі.

А той не тое што канкрэтыкі, а і што такое прыгоннае права не ведае. Ігар бібліятэчны холад і цішыню на гэтай сесіі замяніў цяплом і вяселлем у кампаніі першакурсніц. Але зараз даволі хутка, як заўсёды, злавіў адносіны да гэтага пытання ў экзаменатара, спахмурнеў, узяўся рукамі за галаву і дрыжачым голасам, ледзьве не плачучы як пакрыўджаны старэйшымі дзецьмі першакласнік кажа:

— Вы ведаеце, сяляне жылі так кепска, ну так блага пры гэтых звярах царах, што я як падумаю пра гэта, адразу слёзы наварочваюцца, ком лезе ад жаху ў горла і гаварыць нават не магу. Добра, што рэвалюцыя дапамагла ім.

Прафесар аж расплыўся ад прыемнасці, як тупая жанчына ад

кампліменту лавеласа (а разумных жанчын, калі на іх сыплюцца кампліменты, хіба што і не бывае) і адразу паставіў пяцёрку.

І тут Алесь не вытрымаў. Ускочыў з месца і заявіў:

— А што, зараз сяляне ў калгасах лепей жывуць? Давайце я параўнаю іх жыццё з прыгоннымі. І хай увесь курс паслухае, калі жыццё на вёсцы было лепшым. Думаю, што пры прыгонным праве.

— Нічога не трэба параўноўваць, — ускочыў з месца прафесар-камуніст. — Вас я сёння ўвогуле ні пра што пытацца не збіраўся. Я вам экстэрнам, заранёў, яшчэ ўчора пяцёрку паставіў. Толькі забыўся папярэдзіць, каб не прыходзілі сёння на іспыты. Давайце залікоўку. Я распішуся.

І хлопцы, даўшы розныя адказы, але атрымаўшы аднолькавыя адзнакі, спакойна пакінулі аўдыторыю, пакінуўшы напалоханых студэнтаў свайго курса сам на сам з раззлаваным выкладчыкам.

## *Футбольны мячык*

Кажуць, што вялікі Мішэль Настрадамус з такой дакладнасцю прадказаў дату развалу Савецкага Саюза, як можна прадказаць вынік матчу па футболе паміж зборнай Вялікабрытаніі і камандай сярэдняй школы вёскі Малыя Балванішкі, якая выйдзе на поле пад кіраўніцтвам маладога настаўніка фізкультуры Анатоля Каспяровіча, які за два гады сваёй трэнерскай працы так і не змог выбіць у адміністрацыі навучальнай установы, дзе ён працаваў, грошы хоць на адзін футбольны мячык. З тае бяды вырашыў купіць тую каўчукавую забаву за свае ўласныя фінансавыя зберажэнні ад зарплаты вясковага настаўніка-інтэлігента. Толькі грошай на штосьці больш-менш талковае не хапала. І тады малады энтузіяст на ніве фізічнай культуры, які жыў навязлівай марай выхаваць хоць аднаго алімпійскага чэмпіёна, вырашыў падзарабіць крыху па-за межамі школы. Яго знаёмы бізнесовец вельмі хутка растлумачыў, што новыя межы пасля скону Савецкага Саюза старая ўлада збудавала, але пакінула там для сябе заканадаўчыя і рэальныя дзіры, каб можна было хутка і без асаблівай напругі разбагацець. І што ўсе іншыя сквапныя людзі вельмі хутка разнюхалі пра гэта ды кінуліся ў тыя разрывы. І зараз някепска паправілі матэрыяльнае становішча ды жывуць у сваё здавальненне на некалі жабрацкай постсавецкай прасторы. Ды вось толькі ні той бізнесовец, ні вялікі прадбачнік Настрадамус, якога Анатоль чытаў з захапленнем, так і не растлумачылі беднаму настаўніку галоўных правілаў новага жыцця. І пра тое, што ён, адразу пасля таго як грошы падзяруць яго

першы кішэнь, не толькі не вернецца працаваць у школу, але і забудзецца, што тая ёсць. І мячык ніколі не купіць. Хіба што толькі абшыты золатам. І то не каб гуляць, а для прэстыжу. Каб папантавацца перад такімі ж новымі гаспадарамі месца пад сонцам, як і ён. І не давялі да яго новых правілаў існавання багатых людзей таго часу — што не трэба плаціць бандытам, што не мусіш даваць хабар тым, хто пры ўладзе, якая ад бандытаў адрознівалася толькі тым, што патрабавала больш.

І неяк Толік выскачыў з поля зроку і тых, і іншых. Не даацанілі, відаць, ні Толіка, ні мажлівасцей яго маладога бізнесу. Заўважылі Касяровіча толькі тады, калі ён у самы шыкоўны менскі рэстаран прыехаў з прыгожай бландзінкай на новенькім джыпе „Чырокі". Убачылі і аслупянелі. Локці сабе сталі кусаць, што чалавек аж так разбагацеў, а яны з яго ні цэнта не знялі. Бандыты аказаліся спрытнейшымі за ўладу і выправілі сваю памылку ўжо праз дзесяць хвілін шляхам экспрапрыяцыі машыны з рэстараннай стаянкі, пакуль законны ўладальнік таго сродку для перамяшчэння доўга тлумачыў афіцыянту, каб зрабіць ураджанне перад сваёй мамзеляй, якім рэдкім і дарагім віном яны будуць сёння запіваць гарэлку.

Застаўшыся без машыны ў першы ж дзень яе пакупкі, Касяровіч ад адчаю зноў узяўся пачытаць Настрадамуса. Але былы прадказальнік нічога не патлумачыў новаму багачу. Відаць, не асабліва падтрымліваў таго цяперашняе жыццё. Затое сябра-бізнесовец усё вытлумачыў. І назаўтра Анатоль ужо сустракаўся з кіраўніком адной з бандыцкіх брыгад Менска ў сталічным бары.

— Мне трэба вярнуць машыну, — пачаў ён адразу з канкрэтыкі.

— Ні праблема, — супакойвае яго бандыт. — Плаціш дзесяць тысяч зялёнымі амерыканскімі купюрамі і машына прыедзе туды, куды скажаш.

— Колькі?! — абурыўся Анатоль. — За сваю машыну і такую суму! Нізашто.

— Як хочаш, — спакойна адказвае бандыт. — Размова не атрымалася. Я пайшоў, спраў шмат. Не ты адзін у мяне. А ты заплаці за столік і ездзі як дурань на „Жыгулях" ці яшчэ якой малалітражцы. І мяне больш не турбуй.

Пакуль Толік шукаў праўды ў міліцыі, бандыты паехалі на яго „Чырокі" ў Расею, недзе ў Валгаград і там прадалі. А як малады бізнесовец убачыў, што міліцыя сама падкормліваецца ў бандытаў і дапамагаць яму не збіраецца, узяў дзесяць тысяч і зноў папрасіўся ўбачыцца з галоўным бандытам сталіцы. Той як убачыў грошы, адразу забраў і паабяцаў на гэтым тыдні вярнуць тэхніку. Бандыты паехалі ў Валгаград, укралі машыну ў таго, каму прадалі, і вярнулі яе Каспяровічу.

Але гэта чамусьці прыйшлося не да спадобы абакрадзенаму, і той звярнуўся за дапамогай да валгаградскіх бандытаў.

— Эй, братан, — тлумачыў па тэлефоне валгаградскі бандыцкі шэф менскаму. — Так не робіцца. Прадалі чалавеку крадзеную рэч і адразу сперлі. Што пра нас, бандытаў, людзі падумаюць. Зусім давер да нас згубяць. Машынку трэба вярнуць.

— Нічога не аддадзім, — адказвае менскі шэф. — Мы ўжо грошы ўзялі за тое, што вярнулі машыну ў Менск. Падманваць кліента нельга. Такі закон бандыцкага гонару.

Ну то валгаградскія прыехалі ўночы ў Беларусь і зноў укралі Толікаў джып. Тады менскія паехалі ў Расею і ўкралі яго яшчэ раз. Гэтую аперацыю і тыя, і другія паўтарылі яшчэ некалькі разоў. А пасля так узлаваліся адны на другіх, што вырашылі правесці перамовы на нейтральнай тэрыторыі, на мяжы, паміж беларускай і расейскай заставамі і пры поўным узбраенні. Памежнікі, як убачылі да зубоў узброеных людзей, кінулі працу, заставы і табельную зброю, ды паўцякалі з мяжы хто куды. Начальнік расейскай заставы, кажуць, ад страху хацеў застрэліцца. Але рука з таго жаху так дрыжала, што не змог папасці сабе ў галаву і, сапсаваўшы ўсе патроны, таксама некуды знік. А бандыты пастаялі гадзіны тры, наставіўшы зброю адны на другіх, і вырашылі перамовы перанесці ў Польшчу ды запрасіць на іх прэтэндэнтаў на джыпа. І ўжо ў беластоцкім бары, пакінуўшы зброю звонку, селі за стол.

— Гэта мая машына, — кажа Толік. — Я за яе плаціў.

— Я таксама, — не здаецца другі прэтэндэнт.

Тады той гэнаму кулаком у рыла. А гэны таму таксама. Ды і бандыты пачалі лупасіць адны другіх. Усю мэблю ў бары аб пабрытыя на лыса галовы пераламалі. А як скончылася чым біцца, параіліся паміж сабой і звярнуліся да прэтэндэнтаў на „Чыпокі".

— Выйсце толькі адно, — тлумачаць. — Джып трэба прадаць, а грошы падзяліць на тры часткі. Дзве часткі вам, а трэцяя, самая вялікая, нам.

— Не! — так зараўлі ў адзін голас уладальнікі машыны, што люстра са столі звалілася бармену на галаву.

— Як не пагаджаецеся на гэтую самую разумную прапанову, — тлумачаць бандыты, — то мы маем другую. Мы машыну зноў скрадзем і пакінем яе сабе.

— Згодны на першую прапанову, — адразу памірыліся ўладальнікі машыны, па-сяброўску паціснулі рукі, абняліся як родныя і зрабілі так, як параілі бандыты.

Але толькі Толік са сваёй доляй вярнуўся ў Менск, як ужо схамянулася ўлада. Выклікаюць яго ў падатковую інспекцыю.

— Вы няправільна падаткі плацілі, — сцвярджаюць, і культурна так размаўляюць, не тое што тыя хамаватыя бандыты — Зараз вам трэба або пакласці пяцьдзясят тысяч даляраў у бюджэт краіны, або дваццаць пяць нам на лапу. Выбірайце.

Каспяровіч толькі крыва ўсміхнуўся. Дастаў сваю долю ад продажу джыпа і разлічыўся з уладай. Абы толькі адчапіліся. І застаўся зноў без нічога. Пасля пазычыў у сябра, купіў новенькі мячык і білет да Малых Балванішкаў. Сеў у першы аўтобус, адкрыў кніжку любімага Настрадамуса і паехаў, чытаючы, зноў у сваю школу. Паехаў са старой добрай марай выхаваць у сваім жыцці хоць аднаго алімпійскага чэмпіёна.

## *Любімы коцік*

Жыхару вялікага горада ўжо ў трэцім пакаленні ніколі не зразумець некаторых простых рэчаў, якія так натуральна ўпісваюцца ў светаўспрыманне вясковага перасяленца ў сталіцу, ці ў якую-небудзь іншую кропку крытычнай перапоўненасці людзей на квадратны метр планеты Зямля. Былы ж вясковец, нават каб прыклаў намаганні, не змог бы асэнсаваць менталітэту карэннага гараджаніна. А пакольки ніякіх намаганняў у тым кірунку ён і не робіць, і не збіраецца рабіць, то і ніколі не зможа ўцяміць прычын, чаму, прыкладам, гарадскія людзі, якія на паветры бываюць у сярэднім не больш дваццаці дзевяці з паловай хвілін у суткі, увесь час цягаюць з сабой парасоны як сабака скрадзеную костку. Бо чыста тэарэтычна (на думку вяскоўца), пры ўмове, што дождж падае з неба ўсе трыста семдзесят пяць дзён у год, патрапіць пад яго можна толькі тады, калі гараджане ідуць са сваёй утульнай кватэры на прыпынак аўтатранспарту і калі з таго аўтатранспарту дабягаюць да цёплага рабочага месца. А за гэты час немажліва растаяць, нават калі ты створаны выключна з цукру, а дождж гарачэйшы, чым вада ў цёплым кране апартаментаў мэра.

Закасцянелы ж гараджанін, прыкладам, ніяк не можа зразумець, чаму ўчарашнія земляробы вытоптваюць гарадскія газоны, зразаючы дарогу да хаты, а не ідуць па адмыслова замошчаных для гэтага дарожках. І чаму яны лепш любяць выехаць купацца на брудную рэчку, чым набыць абанемент у стэрыльны басейн. А найбольшае здзіўленне выклікае тое,

што ўчарашнія дзеці прыроды цярпець не могуць гарадскіх сабак і катоў. Асабліва, калі гэтыя жывёліны пародзістыя.

А ёсць яшчэ і катэгорыя людзей, якія нібы завіслі паміж вёскай і горадам, і нідзе ім ужо няма пакою. Такім быў Слаўка Хвастовіч. На вёсцы, дзе жыла ўся радня і па бацьку, і па маці, яго ўжо лічылі гараджанінам, а ў горадзе, дзе прыстроіліся сваякі жонкі — вяскоўцам. А хто тады дзеці, і поп не разбярэцца. Па матцы — гараджане ў сёмым калене, як сцвярджала цешча, хоць у тыя заявы пра сем мяшчанскіх пакаленняў Слаўка ніколі не верыў. А па бацьку — вяскоўцы ў халера ведае якім там калене. Хіба што падлік трэба пачынаць ад Адама і Евы. Але ў гарадской кватэры, як сапраўдныя дзеці ўрбанізацыі, тыя маленствы вельмі захацелі завесці хатнюю, ды яшчэ і пародзістую, жывёлу. І так дапяклі той бязглуздай ідэяй бацьку, хоць „гвалт” крычы.

Выбар паў на ката. З доўгай шэрсцю і сплюснутым носам. Якой гэта пароды, Хвастовіч аніяк не мог запомніць. Але з болем у сэрцы пагадзіўся набыць, бо сваім самым няўдалым набыткам лічыў жонку. І зараз, доўгія гады пасля з’едзенага вясельнага торта, яму ўжо ніхто не мог сапсаваць жыцця болей. Нават пародзісты непатрэбны ні для чаго абібок у выглядзе кудлатага ката, хоць галава сям’і цярпець не мог у кватэры прысутнасці жывёлы. Слава толькі паставіў умову: калі ён заходзіць у кватэру, то кот каб куды-небудзь хаваўся. Каб было як на вёсцы. Калі гаспадар заходзіць у хату, то кот з хаты, жонка да пліты, дзеці пад ложак, а цешча ў хлеў даіць карову. Вось, маўляў, пакольк і каровы няма, то хай мама жонкі выносіцца разам з катом пакуль цесць не засне.

Ды ўмовы ніхто не датрымаў. Кацянё так разбэсцілі, што няма рады. З галавы не злазіць, пакою не дае. А паспрабуй прагнаць са стала, то пойдзе наўмысна тапкі загадзіць. Адпомсціць так, брыда. І нічога не зробіш. І не выкінеш як анучу, бо коцік пародзісты, гарадскі, і страшна дарагі. У вёсцы свіння менш каштуе, разам з парасятамі. Ды і ўвогуле, у горадзе такіх кацянят выганяць нельга. А то штраф дадуць. Тут пра гэтых чатырохлапых стварэнняў больш дбаюць, чым пра чалавека.

А дзеці вакол кацяняці круцяцца і ўсё: „Любімы коцік, любімы коцік", — інакш не называюць.

— До, кажу, ката па руках цягаць і распускаць, — хоча хоць неяк парадак навесці Слаўка. Ды дзе там. Не туды тое. Жонка з цешчай накідваюцца на яго як каршуны на пісклянё і равуць у адзін голас. Як разявяцца, хоць вушы затыкай гранатамі:

— Хай дзеці гуляюць. Каты для таго і зробленыя, каб маленства цешыць.

— Каты, каб мышэй лавіць, а не каб людзям жыццё псаваць, — спрабуе адбівацца Хвастовіч, але кабеты і дзеці нават слухаць не хочуць мужчыну.

Так папярок гарляка стаў гэты кот Хвастовічу, што ўжо спаць не мог. Усё прыдумваў, як ад яго пазбавіцца. Але нічога не прыдумаў, акрамя як яшчэ больш узненавідзець.

Аднаго разу сабраліся ўсёй сям'ёй на лецішча. Ну і ката валакуць у машыну.

— Пакіньце гэтага ската ў хаце, — папярэджвае Слаўка.

— А то я за руль не сяду.

— Ну і не трэба, — смяецца з яго жонка. — Абыдземся без смаркатых. Я сама за рулём буду.

А яна і правы мае. Гарадская ўсё ж. Як кажа цешча, у нейкім там ажно ці то пятым, ці то шостым пакаленні. Яна сама блытаецца з падлікам. Навучыліся за столькі тых кален на машынах ездзіць. І сапраўды, завяла машыну ды рванула з месца як на гонках „Парыж — Дакар". Слаўка твар адвярнуў у акно, а ўсе астатнія, хіба каб яго за нервы пашчыпаць, з катом гуляюць. І ўсё: „Любімы коцік", ды „Любімы коцік". А кот па галовах поўзае і самым важным сябе лічыць.

— Глядзі на дарогу, а не з катом гуляй, — звяртаецца Слаўка да жонкі. — За такую язду забіваць трэба як паганых прусакоў.

— А ты мне не камандуй тут, — агрызаецца тая. — Як хачу, так і еду. Хто ты такі, каб мне прыказваць?

— Так, так! — улезла ў размову цешча. — Хто ты такі?! Прыйшоў у прымы, дык і маўчы як усе прымакі.

Хвастовіч толькі зубамі скрыгануў ад злосці, але нічога зрабіць не можа. І праўда. Кватэра то цешчына. А ён і сапраўды прымак. Нічога свайго няма, акрамя дзяцей. Жонка так сцвярджае. Ды скрыгануў Слаўка зубамі так моцна, усю душу ўклаў у той скрыгат, што кот з перапалоху зароў як параненны леапард і кінуўся на рукі да яго адзінай, каханай і непаўторнай. Тая ката хапіла, але руль выпусціла. І машына пайшла ўпоперак дарогі. Жонка як зараве ад страху, і нагой на тармазы цісне. Але ад яе крыку кот напалохаўся яшчэ больш, скочыў пад тармазную педаль і не дае націснуць да

канца. Не хапае ў Славікавай жонкі сілы. Добра ката раскармілі. Тоўсценькі такі, кругленькі. І толькі, як патоўкшы тройку другую падобных сабе транспартных сродкаў, машына рэзнулася ў слуп, надаўшы інерцыйнай сілы кабеце за рулём, якая цяпер усёй сваёй вагой навалілася на тармазную педаль, косці коціка паддаліся. Хруснулі ў адзін момант. Жывёліна нават мяўкнуць не паспела.

Дзеці, шкода іх, маленькіх, доўга не знаходзілі пакою. Плакалі па сваім любімцу так, што па бацьку хіба так моцна не перайма́ліся б. Слёзы рэчкай цяклі. Жонка рыдала па сваім разбітым твары, бо збіраліся ў іх на рабоце юбілей нейкі адзначыць. А як яна цяпер пойдзе з такой памятай мордай. (Прападае набытая ўчора новая сукенка). Цешча раўла па машыне, якая ўжо хіба больш не здолее вазіць ні людзей, ні катоў. (Машына, як і кватэра, таксама была цешчынай). Лілі слёзы па сваіх транспартных сродках іншыя людзі, машыны якіх з памятымі бакамі напалохана паглядалі разбітымі фарамі на гаспадароў і не маглі ўцяміць, за што іх гэтак патаўклі. Румзалі, выціраючы рукавамі з вачэй вільгаць, мінакі, шкадуючы бедных дзетак з дохлым коцікам на руках. Толькі два чалавекі не плакалі па „любімым коціку", наадварот рагаталі як звар'яцелыя і не маглі супакоіцца. Адзін з іх быў Слаўка Хвастовіч, які расказваў супрацоўніку аўтаінспекцыі пра дарожнае здарэнне, а другім быў той інспектар дарожнай міліцыі, які слухаў Слаўку і складаў пратакол. Не плакаў таксама і „любімы коцік". Проста маўчаў і не скакаў больш на галовы людзям. Упершыню, дарэчы.

## *Анамальныя з’явы*

У Сцяпана Куліка ўжо з раніцы балела галава. Трашчала як спелы гарбуз, які на гарадзенскім рынку загарэлы азербайджанец, у вялікай як аэрадром кепцы, з разуменнем справы навязліва дэманструе разгубленаму мясцоваму пакупніку. І не з таго паўстала тая галаўная праблема, што Кулік учора перапіў (Сцяпан увогуле не ўжываў горкай па прычыне здароўя), і не таму, што былі праблемы на працы (працу ён згубіў год таму і цяпер цудоўна адчуваў сябе вольным і незалежным прымаком, які жыве за кошт жончынага заробку і цешчыных харчовых перадач у выглядзе свінскіх плячэй). Прычына была да смеху банальнай. Ва ўсім была вінаватая ўсё тая ж цешча. Бо Сцяпанава жонка надумала на гэтыя выходныя зрабіць незапланаваны візіт ветлівасці да матулі, а ў Сцяпанавы планы не ўпісвалася стокіламетровая паездка ў затрачаную сярод лесу вёску, куды дарогу ведала хіба што толькі сама цешча ды яго жонка.

„Каб якая анамалія здарылася, ці што, — разважаў Сцяпан, сумна цягнучы ногі ў бок аўтастаянкі па машыну. — Каб гэтая вёска знікла куды. Каб яе пярун знішчыў! Каб яе дажджом у Нёман змыла! Каб яна пад зямлю правалілася! І чаму яе ў вайну немцы не спалілі?! Гэта ж трэба, надумаліся перціся халера ведае ў якую далеч толькі для таго, каб сказаць „Добры дзень, мама”. Цьфу ты, зараза. Во дзе здзек над чалавекам!”.

Але цуд не здараўся, на анамальныя з’явы Гарадзеншчына даволі бедны рэгіён, і праз пару гадзін Кулік, накінуўшы на твар

выраз неверагодна шчырай радасці і ветлівасці, ужо выходзіў з машыны са словамі: „Дарагая ты, мая цешчанька! Як я даўно цябе не бачыў! Аж засумаваў па табе!". А пасля хутка спахмурнеў, пасунуўся ў хлеў на сена, нырнуў у водар скошаных траў і стаў рабіць дакладна тое, што робіць у сваёй хаце — ляжаць. Адна толькі розніца — у хляве не было яго любімага тэлевізара. Таму Сцяпан валяўся пузам уверх як парсюк, і побач з парсюком, і з абвостранымі пачуццямі нянавісці і помсты працягваў думаць пра анамаліі, якія ўрэшце зруйнуюць маленькую радзіму яго каханай жонкі. А парсюк, відаць, ведаў, што Кулік яго некалі з'есць, і хіба таму наўмысна гучна рохкаў, каб перашкаджаць чалавеку варушыць мазгамі і збіваў таго з думак. Чалавека гэта так выводзіла з сябе, што ён ужо гатовы быў загрызці парсюка прама цяпер, а заадно і цешчу, і жонку, але голас апошняй паведаміў, што можна ўжо збірацца назад, што і ўратавала на гэты раз жыццё ўсім тром.

Назад машына ляцела як ракета будучага, нібыта ўцякаючы ад міфічных монстраў, якіх яшчэ нават не прыдумалі ў фільмах жахаў. Шафёр з усяе сілы душыў на педаль газу, як быццам бы ад гэтага залежыў лёс чалавецтва і марыў хутчэй даляцець да ўлюбёнага блакітнага экрана. Але раптам на дарозе, прама перад яго вачамі, вырас дарожны знак, які абмяжоўваў хуткасць да пяцідзесяці кіламетраў на гадзіну.

— А каб ты... — злосна замацюгаўся Кулік. — Вось і першая анамалія! Накаркаў! Толькі чамусьці з'явілася не тады, як я хацеў. З вялікім спазненнем прыйшла. Ехаў жа па гэтай дарозе раніцай, то ніякіх знакаў не было! Скуль ён узяўся?

Але зніжаць хуткасць не стаў, бо праз гадзіну футбол трансляваць будуць. І тут, раптам, з-за павароту, як чорт з кустоў

выскачыў міліцыянт і стаў махаць нечым падобным на адрэзаную нагу афрыканскай зебры.

— Парушаем правілы. Знак пяцьдзясят бачылі? А ехалі ў тры разы хутчэй. За гэта пазбаўляюць шафёрскіх правоў мінімум на два гады, — паведаміў ён разгубленаму шафёру і ўтапырыў на таго круглыя блакітныя вочы.

А ў тых вачах выразна было напісана: „Плаці хлопец грошы, а то будзе кепска". Ды дзе ўзяць тыя грошы. Сцяпан сваіх не меў, бо не меў працы, і цудоўна ведаў, што ў яго жонкі лягчэй вырваць сэрца з грудзей, чым хоць самую малую купюру Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

— Няма там ніякага знака, — стаў адбівацца ён.

— Ну то вярніцеся і паглядзіце, — спакойна адказаў афіцэр. — А правы ў нас пакіньце. Мы складзем пратакольчык.

Кулік аддаў правы, развярнуў машыну і знік за паваротам. Пад'ехаў да знака, з нянавісцю і праклёнамі вырваў яго з зямлі і выкінуў у лес. Пасля вярнуўся і здзекліва кажа:

— Я ж казаў, няма там нічога акрамя сабачых экскрэментаў.

— Ну то я зараз табе пакажу, — раззлаваўся міліцыянт і сеў у машыну. — Паехалі. Толькі цяпер не адкупішся. Не хацеў па-добраму, то будзе па законе.

Але праз хвіліну яго твар выцягнуўся як у здзіўленай таксы.

— Ну быў жа тут знак, — прашаптаў ён. — Знік! Анамалія нейкая. Я ж сам яго ставіў.

— Як сам? — ухапіўся за яго словы Кулік. — А па якім праве? Знакі нельга ставіць каму дзе захочацца.

— Не-не, — стаў апраўдвацца той. — Я меў на ўвазе, што сам яго тут бачыў. Ну што ж. Няма знака — няма і парушэння. Вось вам правы. Да пабачэння.

— Да якога пабачэння. Вочы мае б вас век не бачылі, — агрызнуўся Кулік і так стартануў з месца, аж завалок дымам ад паленых колаў усю дарогу.

— Пятровіч, анамалія нейкая, знак прапаў, — пракашляў афіцэр падыходзячы да калегі ў кустах.

— Анамалія, анамалія, — буркнуў пузаты Пятровіч, адкрываючы крышку багажніка міліцэйскай машыны. — Прапаў і халера з ім. Вазьмі з машыны другі і пастаў яго да павароту, каб бачна было. І каб ніякі казёл нам больш такой анамаліі не ўчыніў. А то дахаты, з такой работай, зусім без грошай вернемся. З пустымі як у калгаснікаў кішэнямі. Во тады сапраўдная анамалія будзе.

## *Шалёная ліса*

Бабка Ганна ўжо тыдзень сцвярджала, што надышоў канец свету. Напачатку прычынай такіх глабальных высноў была нечакана напаўшая без аб'яўлення вайны жывёльная хвароба яшчур, пасля чаго цэлы раён апынуўся ў палоне каранціну. Не выехаць адтуль без дазволу, не ўехаць туды. Трохі пазней здарылася яшчэ некалькі няшчасцяў лакальнага маштабу, кшталту моцнага граду, што пабіў толькі што налітыя маладой чырванню памідоры ў друшляк, нібыта над імі папрацаваў ашалеўшы ад нацысцкай ідэі кулямётчык Ганс. Пасля Ганна даводзіла вяскоўцам, што даўно-даўно, як яна была малая, яе бабулька раскрыла страшную як ноч у пекле тайну пра тое, што менавіта сёлетні год і ёсць апошнім. А ўрэшце яе высновы стала пацвярджаць сама прырода. У лесе з невядомае прычыны пашалелі лісы ды вожыкі. І ўжо некаторых сабак ды людзей паспелі пагрызці сваімі атрутнымі зубамі.

З сабакамі было прасцей. Іх папросту стралялі, аблівалі бензінам ды пускалі на вецер у выглядзе чорнага дыму і невыноснага смуроду паленай плоці. А вось людзей прыходзілася лавіць і адвозіць у паўпрагніўшую раённую бальніцу з такім наборам антысанітарных умоў, якіх мала ў якой публічнай прыбіральні знойдзеш. А там няшчасным давалі настолькі балючыя ўколы ў жывот, што пацыенты малілі неба, каб прароцтва Ганнінай бабулі хутчэй збылося. Гатовыя былі на ўсё, абы не цярпець такія пакуты, якіх нават фашысцкія начальнікі кулямётчыка Ганса не прыдумалі для ворагаў Трэцяга Рэйха. Адным словам, у раёне народ моцна запанікаваў.

Толькі дзед Астап Дзергачоў пасмейваўся і з раённых улад, і з дактароў, і са сваёй жонкі — бабкі Ганны. І некаторыя з ім пагаджаліся. Чалавек ён быў у вёсцы паважаны, сур'ёзны, але не занудлівы. І цяпер казаў, што дастаткова яго Ганну адну завезці ў шпіталь, вылечыць яе шаленства шляхам прамывання мазгоў, і жыццё ў раёне зноў вернецца ў былое спакойнае і размеркаванае рэчышча.

— Ёлупень ты стары, — агрызалася тая. — Ты то ўжо пажыў, лабідуда, і мяркуеш, што табе няма чаго губляць. Але пра душу падумай. Ідзі лепш паспавядайся перад смерцю.

— А мне на халеру тое здалося, — пасмейваўся стары. — Ты ж кожны дзень да крэўскага папа лётаеш. Адспавядалася хіба ўжо за цэлы раён. Людцы могуць цяпер ісці на неба са спакойным сэрцам, бо ім, з тваіх малітваў, ужо прыгатаваныя ў раі самыя лепшыя месцы. А лепш за ўсё памаўчы, ды не смяшы народ. Бо дурны чалавек павінен слухаць а не гаварыць. Маўчанне дэбіла — найразумнейшая на свеце рэч. А тое што ты звар'яцела — факт, які прымаецца без абмеркавання, бо на старасці гадоў вожыкаў баяцца стала.

— Ну то сам маўчы, — злавалася на мужа Ганна. — Прыйдзе час, яшчэ мяне ўспомніш, як прыпячэ.

І прыпякло. Выйшаў неяк Дзергачоў раніцай на ганак і бачыць, як ліса з яго сабакам грызуцца. Відаць, лясная зладзейка хацела курыцу забраць, а сабака ўгледзеў. Дзед хапіў вілы ды адным ударам зрабіў у лісе чатыры дзіркі. Хоць стары, але спрыту яшчэ не згубіў. Пасля ўзяў рыжую за хвост і павалок за вёску выкінуць у які роў. А як вярнуўся, на падворку ўжо стаяла машына хуткай дапамогі ды санітары ў бе-

лых халатах. Бабка сядзела ў машыне ды раўла горкімі слязамі, перажываючы, што яе ўласны канец надыходзіць на некалькі дзён раней, чым канец свету для ўсяго чалавецтва.

— Сядайце ў машыну, — цвёрда адрэзаў дзеду адзін з санітараў. — Хутчэй за ўсё ліса была шалёная. Рызыкаваць нельга. Сабаку вашага мы ўжо спалілі. Вас будзем лячыць.

— Уколы ў жывот лупіць будзеце? — нямым голасам прасіпеў Дзергачоў. Ён адразу прыпомніў аповеды былых пацыентаў пра жахлівы боль такога лячэння і ад страху ледзьве не развітаўся з душой.

— Лячыць будзем так, каб вылечыць, — паправіў яго мужчына ў белым халаце, але дзед апошніх слоў ужо не чуў. Ён у імгненне вока, як малады напрактыкаваны яфрэйтар, развярнуўся на абцасах на сто восемдзесят градусаў і сігануў у куст агрэсту, нават не адчуўшы калючак. Пасля перамахнуў праз плот і кінуўся да бліжэйшага лесу.

— Стой, прыдурак, — разрываліся лекары, несучыся наўздагон. — Ты ж хворы і небяспечны для грамадства! Шаленства ад чалавека да чалавека таксама перадаецца!

— Пень ты стары, — раўла з машыны хуткай дапамогі Ганна. — Здохнеш у лесе адзін як воўк з пенай на вуснах і не будзе нават каму цябе засыпаць! Вярніся пакуль не позна!

Але дзед ужо стаў часткай ляснога ландшафту і жывым вырашыў не здавацца. Гэта ж на што падобна, на старасці гадоў легчы пад уколы, якіх баяўся з дзяцінства і ні аднаго разу за ўсё жыццё не адважыўся наведаць доктара. Не, гэта не для яго. Лепш палётаць шалёным па лесе і пакусаць пару-тройку вожыкаў, чым аддаць сябе на такія здзекі.

— Лётае як малады, — запыхаўшыся ад пагоні давёў Ганне санітар. — Нічога, мы яго зловім. А як не, то сам вінаваты. Пакуль вас вылечым, ён ужо будзе абмяркоўваць прычыны ўцёкаў са святым Пятром.

Дзеда шукалі ўсе адказныя за тое службы. Мясцовы ўчастковы хаваўся ўночы ў кустах, каля яго хаты. Марыў злавіць старога. Але той не вяртаўся. А праз нейкі час усе вырашылі, што Дзергачоў даў дуба недзе ў лесе, і знайсці яго зараз можна будзе толькі па спецыфічным паху.

Неўзабаве і Ганну выпісалі са шпіталя. Тая, цяжка ўздыхнуўшы, зайшла ў хату, уключыла святло, і хацела памаліцца за душу мужа. Хоць і не заўсёды ладзілася ў яе з ім, але ж пражылі неяк разам добрых некалькі дзясяткаў гадоў. І толькі ўкленчыла яна перад абразамі, пусціла з левага вока салёную як расол з-пад агуркоў слязу, як у хату ўваліўся сам Астап. Жывы і здаровы. Толькі худы, галодны ды заросшы як агарод у гультая.

— Есці давай, — буркнуў ён і вострым нажом адпаласаваў ладны кавалак паляндвіцы.

— А Божачка! Ты жывы! — пляснула ў далоні Ганна. — А дзе ж ты хаваўся? А што ж ты еў?

— У склепе адседзеўся, — жадна жуючы адгукнуўся Астап. — А есці зусім нічога не было. Ну та я тую лісу з’еў, якую вы шалёнай палічылі. Ціхенька агеньчык развяду сабе, падсмажу і грызу. Гадкая паскуда. Але гэта лепш чым у шпіталь. А цябе там папаролі ўколамі? Зараз, напэўна, ты ўжо не шалёная. Ну то добра. Можа перастанеш расказваць байкі

пра сваю бабулю. Хоць пакой будзе людзям у вёсцы і крэўскаму папу таксама. А ты там ад уколаў не загнулася? Каб адкінулася, то я цябе не шкадаваў бы, з-за дурноты тваёй. А вось сабаку шкада. Спалілі яго, злыдні, ні за што. Ён быў здаравейшы за тых лекараў, ды яшчэ і разумнейшы ў некалькі разоў. Прынамсі, хоць лісаў не баяўся. А ты дазволіла яго са свету звесці, як падлу якую. А яму б жыць ды жыць яшчэ. Ай, які быў сабака! Чуеш, усе вясковыя сукі ўжо другі месяц па ім выюць.

## *Наканаваны скарб*

Пятрусь Шанціла ўсё жыццё марыў разбагацець. Казаў, што тое яму наканавана, як іншым прадвызначана некалі пазайздросціць яго шчасцю. І не толькі марыў, як лайдак які, што ляжыць брухам угору і чакае манны нябеснай, хоць не мае ані кроплі габрэйскай крыві, а спадзяецца на габрэйскі цуд, маючы ў радні толькі антысемітаў. Пятрусь усё жыццё цяжка працаваў на тое, каб выйсці аднаго разу ў цэнтр мястэчка і купіць яго жыхарам усё, што тыя пажадаюць. А атрымліваў альбо ашуканства, пры польскай уладзе, або палкай праз плечы, пры немцах, а пры бальшавіках палачку ў ведамасці, што ён, працавіты і сумленны селянін, за год, залазячы аж па вушы ў нечыстоты калгаснай жывёлы, напрацаваў трыста шэсцьдзясят шэсць з паловай працадзён. А што рабіць з тымі працаднямі? Не з'ясі іх і нават мыла не набудзеш, каб ад тых нечыстотаў адмыцца хоць крыху. Не так ужо, што каб не смярдзець, але хаця каб у вочы людзям тое паскудства не кідалася.

Так і жыў, з мазаля прыватнай гаспадаркі і кавалачка зямлі ў трыццаць пяць сотак. Ды і зямля тая з цягам часу карміць перастала. Вычарпала ўжо сябе, нібы помсцячы за здзек над ёй, якую ўчыніў гаспадар штогод, садзячы толькі адну бульбу, якую еў сам, уся сям'я яго і яго жывёла, уключаючы сабаку, ката ды мышэй.

Толькі дзве рэчы грэлі скамянелае ад такога жыцця сэрца старога. Першая — пяць царскіх залатнікоў, якія яму перад

смерцю пакінула прыдзіцянелая бабуля і загадала, як апошняя яе воля, зберагчы і пакінуць іх ужо ягоным унукам. А другая, гэта светлая і нявінная мара разбагацець хоць калі-небудзь. Шанціла толькі ёй і жыў. Усе грошы, што з'яўляліся час ад часу, пускаў на латарэі. Аднаго разу нават выйграў рубель. Такі шчаслівы быў, мала не самлеў. Хваліўся ўсім, як падлетак першай дзеўкай. Аднаго толькі на распавёў, што за латарэі тры рублі аддаў. Але тое няважна, галоўнае, што ўдалы працэс пайшоў.

Што шчасце блізка, Пятрусь цяпер быў перакананы, як упэўнены ў сваім спрыце кот, адпускаючы на тры метры паўпрыдушанае мышаня. І ці то сіла веры, ці лёс свой Шанціла прадбачыў — нарэшце ўсё сталася.

Неяк пачуў малады трактарыст Толік Кастусёў, што ў Шанцілы бульба не родзіць, а старшыня калгаса ў замене соткаў адмаўляе. Пашкадаваў старога.

— Заеду сёння да цябе на трактары і перавярну зямлю, — кажа. — Трактар глыбей бярэ, чым твой дапатопны плуг, якім яшчэ першабытныя людзі каменнага веку грэбавалі. Можа з таго толк які і будзе.

— О, дай Божа табе шчасця, унучак, — узрадаваўся стары, і як Толік засадзіў плугі ў зямлю, паплёўся ззаду за трактарам, апусціўшы гаротную галаву, нібыта ішоў за канём. Прывычка — вялікая сіла.

І тут пад лемехам нешта скрыганула і поле заблішчэла прывабнымі агеньчыкамі ззяючых на сонцы залатнікоў. Іх было так шмат, што і бульба апошнімі гадамі на тым полі не радзіла ў такой колькасці. Нават трактар заглух ад убачанага. А трактарыст толькі выгукнуў нешта нецэнзурнае, зняў шап-

ку як па нябожчыку і на нейкі час анямеў. Толькі Пятрусь укленчыў на сырую зямлю, задзёр рукі ў неба ды плакаў, дзякуючы лёсу за такую ўдачу.

— Што рабіць будзем? — вярнулася мова да збянтэжанага Кастусёва. — Як падзелім? Па чэснаму, па роўнаму ці па справядлівасці?

— Па роўнаму, — не задумваючыся адказаў дзед. — Табе чацвёртая частка, а мне астатняе, — удакладніў ён сваё бачанне роўнасці.

— Ай не! — не пагадзіўся Толік. — Гэта не па роўнаму. Па роўнаму, гэта дзве часткі мне, адна табе. Трактар то мой.

— Трактар калгасны, — упёрся Шанціла. — А поле маё.

— Яно тваё ўжо трыццаць год, — парыраваў Кастусёў. — Але скарбу без мяне ты не знайшоў. І капаўся б яшчэ на гэтым полі без выніку, без золата і нават без бульбы, пакуль цябе самога тут не закапалі б.

Шчаслівыя ўладальнікі скарбу яшчэ доўга і ўпарта спрачаліся, як бабы за невядома чыёй курыцай знесенае яйка. Нарэшце вырашылі — па роўнаму, гэта па палове. Заставалася вызначыцца, што з тымі паловамі рабіць.

— Прададзім на чорным рынку, — прапанаваў малодшы.

— Ты што! Хочаш, каб мяне на старасці гадоў у астрог уперлі, — адмахнуўся старэйшы. — Гэта ж забаронена законам! Здадзім у дзяржаву. Я чуў, што яны за скарб грошы аддаюць. Нешта і сабе бяруць, але гэта дробязь. Тут столькі золата, што хопіць на ўсіх.

Толік доўга пераконваў старога, што нельга так рабіць. Але той упёрся як баран у плот, і ніякай рады з ім. Хоць ты кол на галаве чашы. Усё як гарохам аб сцяну.

— Ну і халера з табой, — не вытрымаў трактарыст. — Едзь і здавайся. Толькі памятай — мяне не прыплятай да гэтага. Грошы дадуць — падзелім потым. Але я думаю, што мала нам кінуць. Сам некалі мяне вучыў, што савецкай уладзе верыць нельга.

Назаўтра Шанціла сабраў золата і паехаў у абласны цэнтр. Паехаў і прапаў, як кот вясной. Доўга не было. Хацелі ўжо службу за супакой душы ў царкве заказваць. А пасля з'явіўся. У суправаджэнні „кампетэнтных органаў". Яны не толькі поле перавярнулі, але і хату, і нават хлеў. І буду сабачую таксама. Пасля зніклі. І тут прыляцеў Толік.

— Ну што, стары, — кажа, — давай дзяліць нашы грошы!

— Даруй мне, унучак, — заплакаў Пятрусь, схіліўшы галаву. — Няма грошай. Усё забралі. І яшчэ пасадзіць у турму пагражалі. Казалі, што я не ўсё аддаў, бо які дурань, кажуць, увесь скарб здасць дзяржаве. А пасля так далі ў косці, што я нават аддаў бабуліны залатнікі, якія яна маім унукам пакінула. Адно толькі радуе — няма ў мяне ўнукаў. Другі раз буду разумнейшым. Ніколі з уладай не звяжуся. Дарэчы пра другі раз. Пазыч мне тры рублі на латарэю. Выйгрыш падзелім па роўнаму. Абяцаю.

## *Прыкметы для сноба*

Хто першы сказаў гарадзенскаму мастаку Алесю Падарункаву пра тое, што жанчына з пустымі вёдрамі гэта кепская прыкмета, ён не ўспомніў бы нават на дыбе. Нават калі б на кол пасадзілі ці пяклі агнём. Не ўспомніў бы і за грошы ці яшчэ за якія падарункі, бо ніколі не верыў у народныя, як ён іх называў, забабоны. Смяяўся з тых людзей, хто палохаецца прыкмет, як з дрымучых, цёмных, сярэднявечных, неадукаваных, прымітыўных, прадстаўнікоў архаічнай, занядбанай, непісьменнай, пераселенай у правінцыяльныя гарады з глухіх вёсак і закінутых хутароў невялічкай і адсталай часткі беларускага грамадства. А сам сябе лічыў натхнёным, мэтанакіраваным, рашучым, працавітым, разумным, праеўрапейскім і надзвычай мудрым прадстаўніком новай фармацыі людзей, якая сама бярэ свой лёс у свае рукі, не ўзіраючыся на прыкметы, гараскопы і прадказанні. Таму, калі на ранку аднаго дня, як ён пасля душа і ранішняй прабежкі, гладка паголены, у накрухмаленай новенькай кашулі, у перавязаным праз шыю чырвоным гальштуку і бялюткім як снег любімым плашчы рушыў да сябе ў майстэрню і яму дарогу перайшла брудная, у падзёртай вопратцы, бяздомная і страшная як сем смерцяў бабулька з двума пустымі вёдрамі, мастак толькі крыва ўсміхнуўся, пагардліва паглядзеўшы зверху ўніз на абяздоленую асобу. Ды яшчэ падумаў, што тая сама выбрала сабе такое жыццё. Ну то сама і вінаватая. А яе пустых вёдраў хай баяцца тупыя інфузорыі. Але не ён, бо не верыць у гэтую тупую бязглуздзіцу, не верыў ад пачатку і ніколі не паверыць.

У гэты жоўта-чырвоны ад кляновага лісця цёплы восеньскі дзень Падарункава цікавілі зусім іншыя асобы і ён, з лісլівай усмешкай на вуснах, інтэлігентна і паважна, час ад часу здымаў па дарозе свой капялюш з шырокімі палямі перад знаёмымі асобамі з багемнай тусоўкі або проста перад маладымі прыгожымі кабетамі.

Алесь сёння меў закончыць працу над чарговай удалай метр на два карцінай і ў думках ужо бачыў шчаслівыя вочы багатага заказчыка, які ў мастацтве дуб дубам і замовіў малюнак пад колер хатніх шпалераў. Мастак так і зрабіў, хутка і халяўна. І цяпер чакаў добрага ганарару ад таўстамордага бізнесмена. Карацей кажучы, дзень чакаўся ўдалым.

Ды так не пайшло, як думалася. Першым настрой яму сапсаваў любімы сынок. Гэта быў падлетак, які лічыў сябе ўжо дастаткова дарослым, каб шэптам пасылаць бацьку ў дупу, і каб не баючыся, адкрыта, лаяцца матам і курыць у прысутнасці маці.

— Я сёння дахаты не прыйду, — паставіў ён па тэлефоне бацьку перад фактам. — Я запрошаны на дзень нараджэння. Грошы ўзяў у шафцы.

— І колькі ты ўзяў? — пацікавіўся галава сям'і.

— Не ведаю, — адказаў Падарункаў-малодшы. — Не лічыў. Колькі там было, столькі і забраў.

Ды на гэтым не скончылася. Праз хвіліну патэлефанавала каханая жонка. Таксама мастачка.

— У нас сёння прэзентацыя, — паведаміла яна. — Таму я крыху затрымаюся на працы. Прыкладна да ранку.

— Ну то і я дахаты тады не пайду, — адказаў муж, камбіную-

чы, дзе і з кім яму лепш правесці час. Тым больш, што атрымае грошы ад кліента. — Таксама маю шмат работы. Буду працаваць цэлую ноч.

Але праз тры гадзіны ён ужо ведаў, што грошай яму не ўбачыць, як сваёй патыліцы. Толькі мастак пакрыў свой „шэдэўр" лакам, як фарба пачала трэскацца і адлушчвацца ад палатна. Прама на вачах. Праз некалькі хвілін карціна стала падобнай на шпалеры заказчыка пасля землятрусу ў таго ў хаце.

— А каб яны паздыхалі, — у роспачы прашаптаў мастак. — Які лак падсунулі паганы. Падам у суд.

Пасля прысеў і стаў думаць, чым яму заняцца. У галаву прыйшоў толькі адзін план. Пазнаёміцца з якой прывабнай жанчынай і запрасіць да сябе на каву. Тым больш, што сёння ўночы кватэра будзе пуставаць. Дачакаўшыся вечара, ён да свайго багемнага прыкіду дадаў аранжавы шалік і паплёўся ў парк Жылібера. Яна была ўжо там. Сядзела на лаўцы, адзінокая, сумная як цень пілігрыма, і рабіла выгляд што чытае часопіс „На экранах Беларусі".

— А можа лепш паглядзець той экран у мяне ў хаце, — прапанаваў мужчына.

— Можа, — пагадзілася яна і паднялася з лаўкі.

Але тут з гнёздаў над імі, ці то спалохаўшыся яе руху, ці то час ім прыйшоў, паўзляталі вароны. І ўсе, нібы згаворваючыся, сталі бамбіць парк птушыным памётам. Але галоўнай мішэнню, па нейкіх, толькі ім вядомых прычынах выбралі чалавека ў белым плашчы.

— Добра, што каровы не лётаюць, — паспрабаваў аджарта-

ваца мастак, гледзячы на шырока расчыненыя вочы і рот сваёй новай знаёмай.

А потым глянуў на сябе і злавіў сябе на думцы, што каб быў абвешчаны конкурс на самы лепшы горшы дзень, то ён заняў бы сёння адно з прызавых месцаў. Белы плашч стаў рабым, як класічная квактуха. А палі капелюша аж сагнуліся ад цяжару птушыных прэзентаў. Мастак быў падобны на пудзіла, якое сяляне ставяць на палі, каб адганяць птушак. Ні пра якое запрашэнне жанчыны цяпер не было і мовы. Тым больш, што тая так сіганула ад яго, нібыта галантны яе герой-палюбоўнік ператварыўся ў монстра з фільмаў жахаў, пра якія яна толькі што чытала ў „На экранах Беларусі".

Алесь, хаваючыся як злодзей ад людзей, прывалокся да пад'езда свайго дома. Ён зняў капялюш і акуратна паклаў яго ў сметніцу. Пасля тое самае зрабіў з плашчом і шалікам.

— Няўжо сапраўды тыя пустыя вёдры спрацавалі, — прабубнеў няўдалы шукальнік прыгод, робячы крок да дому.

І тут яму дарогу пераляцеў кот. Чорны-чорны, як пафарбаваны чорнай фарбай вугаль.

„Нельга мне дахаты, — цяжка падумаў ён і лёг на лаўку побач з домам. — Хіба і мая каханая вырашыла, што сёння ўночы кватэра будзе пуставаць і прыйшла з прэзентацыі раней, чым планавала. Ды і ці была тая прэзентацыя ўвогуле. Хіба нешта ёсць у тых чорных катах ды пустых вёдрах. Трэба было яшчэ на ранку, як дарогу перайшла баба з вёдрамі, вяртацца назад і не вылазіць".

І стаў засынаць, паглядаючы на акно сваёй кватэры, дзе на хвілінку запалілася святло, а пасля зноў патухла.

## *Споведзь свядомага беларуса*

На Беларусі напачатку дзевяностых гадоў дваццатага стагоддзя прызнацца ў сімпатыях да левапалітычных плыняў было амаль раўназначным факту абвяшчэння сябе педэрастам. Крыху пазней, усё тыя ж левапалітычныя плыні, якія сцвярджалі, што чалавек мае права сам выбіраць сабе якіх хоча партнёраў, паспрабавалі знішчыць слова педэраст і сталі на заходні манер называць тую з'яву нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. І яшчэ стараліся даказаць, што гэта не адно і тое. Але тыя тлумачэнні і намаганні далі такія ж вынікі, як і прапаганда банды генералаў савецкага войска ды дзяржаўных чыноўнікаў СССР пад назвай ГКЧП, што спрабавалі зрабіць путч і аднавіць атэістычны Савецкі Саюз, які зноў будзе нацыянальную свядомасць лічыць злачынствам.

І спроба левых штосьці давесці наконт права свабоднага выбару чалавекам таго, чаго ён хоча, нават калі тое не ўспрымаецца традыцыйнай мараллю, таксама ў тыя часы ляснулася. Тады, напачатку залатых і вольных дзевяностых, у маладой рэспубліцы, якая на хвалі нарастання нацыянальнай свядомасці аднавіла сваю незалежнасць, спроба хоць на крок адхіліцца ад традыцыйнасці амаль што прыраўноўвалася да здрады Радзіме. Нацыянальная свядомасць і кансерватызм — вось чым павінен быў ганарыцца чалавек, які не адмаўляўся ад надпісу беларус ці беларуска ў яшчэ не замененым на новы савецкім пашпарце.

Таму прысланы з Расеі новы святар невялічкага праваслаўнага храма, што прытуліўся ў яшчэ меншым, чым тая царкаўка раённым цэнтры на Гарадзеншчыне (які чамусьці называлі

пасёлкам гарадскога тыпу), вельмі хутка пралічыў павелічэнне царкоўнага прыхода, які да нядаўняга часу складаўся пераважна з сагнутых у тры пагібелі ад натхняючай і ўзвышаючай савецкай працы бабулек, год нараджэння якіх згубіўся яшчэ ў мінулым веку. Разлік быў просты, як два плюс два будзе дзве пары. Кансерватыўнага складу людзі не могуць абмінаць храма. І да гэтага наплыву вернікаў бацюшка пачаў рыхтавацца вельмі сур'ёзна. Не менш, чым да візіту мітрапаліта.

Галоўная праблема айца Мікалая была ў тым, што ён не валодаў беларускай мовай. Прыхаджане кансерватыўнага складу, якіх ён у хуткасці чакаў, могуць успрыняць гэты факт як смяротны грэх ды яшчэ самі правесці страшны суд. Прынамсі так пра іх распавядала нядаўняя савецкая прапаганда. Бацюшку было ўсядно, хто якой нацыі і народнасці. Галоўнае, каб гэтыя людзі хадзілі ў храм Рускай Праваслаўнай Царквы. І беларускія нацыяналісты таксама. А як паглядзяць, што ён на мове гэтага народа ні „бэ" ні „мэ", што тады? Пачнуць крычаць, што ім свая аўтакефальная царква патрэбна. А гэтага айцец Мікалай дапусціць не мог. Ён так і казаў: „Не трэба нам аўтакефалій, лепш гарэлкі і кефалій".

Таму бацюшка налёг на падручнікі па беларускай мове і ў хуткім часе сваім валагодскім акцэнтам пачаў смяшыць нават тых старых бабулек, якія былі сагнутыя ў тры пагібелі ад натхняючай і ўзвышаючай савецкай працы, і год нараджэння якіх згубіўся яшчэ ў мінулым веку. Але святар ад свайго не адмовіўся. І як у царкву пацягнулася нацыянальна свядомая моладзь і людзі іншага ўзросту, але не іншага светапогляду, ён гатовы быў да сустрэчы.

І, здаецца, усё пайшло як па масле. Новыя прыхаджане не смяяліся з акцэнту святара, наадварот, вельмі высока ацанілі яго намаганні. Стараліся дапамагаць яму і слухаліся бацюшку як маму. Ва ўсім, бо пасля былога атэістычнага выхавання яшчэ не ведалі толкам, у чым яго трэба слухацца, а з чым можна не пагаджацца. Вучыліся царкоўным канонам і правілам, якія зусім нядаўна ў атэістычнай савецкай імперыі называліся перажыткамі. Многія набіваліся ў сяброўства. Сярод такіх быў і Мікіта — маладзевы лідар нейкай адраджэнскай арганізацыі.

Часамі пагавораць Мікіта з бацюшкам і абодвум становіцца лягчэй. Хлопец усё бліжэй да веры туліцца, новых людзей з сабой прыводзіць. А бацюшка новае даведваецца пра гісторыю Беларусі, пра традыцыі, пра прычыны, з-за якіх людзі не хочуць жыць у складзе вялікай Расеі з яе таннай нафтай і газам, а гатовыя да канца біцца за куды меншую ад той Расеі і па тэрыторыі, і па рэсурсах сваю Радзіму.

І галоўнае, што зразумеў айцец Мікалай, гэта тое, што як заходзіць размова пра нешта беларускае нацыянальнае, трэба быць вельмі пільным, як мышаняці пад печкай, на якой спіць кот. Ляпнеш што-небудзь не тое, то хутка аўтакефальная царква з'явіцца. Не паспееш і вокам мігнуць. І нават бабулькі туды перабягуць. Тыя, скручаныя ў тры пагібелі ад натхняючай і ўзвышаючай савецкай працы, год нараджэння якіх не памятаюць і царкоўныя кнігі.

Таму, як Мікіта прыйшоў да споведзі, айцец Мікалай адразу пастанавіў быць асцярожным, каб хлопца не ўкрыўдзіць, і каб той яго парады не палічыў за здзек над нацыяй. Тут трэба

быць асцярожным як на мінным полі і дзесяць раз падумаць, як сфармуляваць фразу, каб і каварнасць канкрэтнага граху паказаць, і хлопцу дапамагчы, і нацыянальных пачуццяў не закрануць. Вельмі хваляваўся Мікалай. Ды і Мікіта не менш. Прыйшоў белы, як быццам бы цэлае лета загараў у склепе. І так расхваляваліся абодва, што ад пачатку сталі кепска разумець, што адзін другому кажуць. І чым далей, тым усё горай.

— Ну што ў цябе, сын мой? — спытаў святар.

— Грэшны я, бацюшка, — дрыжачым, нязвыклым для яго голасам пачаў Мікіта. — Не ведаю, чаму я такі слабы. Не магу ад граху адмовіцца, хоць і жадаю ўцячы ад яго ўсім сваім сэрцам!

— А ў чым жа ты грэшны?

— Ды вось, і вып’ю, бывае, лішку. І куру я, як сапсаваны расейскі паравоз дзевятнаццатага стагоддзя. Бацькам мала дапамагаю. У царкву рэдка хаджу. Ды і так нешта не тое. Дзяўчат вельмі люблю. Грашу з імі.

— Ну як жа так, сын мой, — уздыхнуў бацюшка. — Што ж ты, стрымацца не можаш?

— Справа ў тым, — пачаў тлумачыць Мікіта, — што я нежанаты. Убачу якую і так закахаюся, як усядно па сэрцы рыдлёўкай стукнулі! Здаецца яна і ёсць тая адзіная. Нават калі яна і замужам. А праз нейкі час іншая падабаецца. Вось так усё ў мяне і атрымліваецца пагана.

— Ну дык ты хоць свой мужчынскі інстынкт стрымлівай, — параіў айцец Мікалай. — Не цягні іх у ложак. А дзеля гэтага, каб і самому не хацелася ў той блудніцкі ложак, ёсць сродкі. Прыкладам, трэба менш ужываць узбуджаючай ежы.

Не еш шмат масла, скварак з цыбуляй, мяса таксама, асабліва свініны, яек смажаных...

— Як жа так, — перабіў яго хлопец і сказаў далей фразу, ад якой бацюшка аж збялеў. — Гэта ж нашы нацыянальныя традыцыі!

— Давай пра гэта паразмаўляем крыху пазней, — прапанаваў айцец Мікалай.

„Пазней дык пазней, — падумаў Мікіта — Толькі чаму ён такія парады мне дае. Як гэта сала з цыбуляй есці нельга? Усе нашы продкі так харчаваліся. Гэта і ёсць кансерватызм у ежы".

„Дзіўны хлопец, — падумаў святар. — І як мне з гэтай сітуацыі выкруціцца. Але ж не магу я апраўдаць яго грахоў. Не магу дазваляць іх рабіць. І нешта тут не тое. Блуд і распусту, тое што ён лазіць па бабах, нацыянальнай традыцыяй называе. Дзіўная нейкая нацыя".

## *Гуманны метад*

Стары Язэп Германовіч скруціў самакрутку з уласнага дамасаду і абрыўка раённай газеты „Пуцём Ільіча", зацягнуўся крэпкім як адляцеўшая ў нябыт сіла маладосці тытунём, узяў вяроўку, аўстрыйскі штык-нож часоў Першай сусветнай вайны і, сагнуўшыся ў тры пагібелі, рушыў у хлеў з хуткасцю, якую яму дазвалялі ягоныя семдзесят дзевяць гадоў. Там ён крыху пастаяў, трымаючыся за агароджу, што раздзяляла свіней ад іншых жыхароў жывёльнай хаты, аддыхаўся, і завязаў вяроўку на назе сумнай свінні, вагай кілаграмаў пад дзвесце. Сабраўшыся з сіламі, Германовіч паспрабаваў выцягнуць напалоханую жывёліну на вуліцу. Але тая, ці то ёй не спадабалася, што Язэп не зачытаў ёй яе правы, ці яшчэ па якой незразумелай прычыне, рванула ў адваротным напрамку і збіла гаспадара з ног. Затым села ў куток і паглядзела на чалавека. У яе вачах, нібыта чорным па белым, як у газеце „Пуцём Ільіча" было напісана: „Калі ты, стары дурань, надумаўся зрабіць з мяне адбіўныя ў таматным соусе або катлеты, запечаныя на чыгуннай патэльні, то мушу табе адказна і сур'ёзна заявіць, што я супраць". Іншыя сведкі гэтай сцэны, пачынаючы ад каровы і завяршаючы курамі, не адрэагавалі на тое супрацьстаянне свінні і чалавека аніяк.

Язэп падняўся, выпаўз з хлява, памыўся, пераапрануўся і пасунуўся ў цэнтр вёскі да будынка з надпісам „Пошта". Там ён узяў бланк тэлеграмы і напісаў толькі адзін сказ: „Сынок, прыязджай па свіныя плечы".

— Нічога, — бубнеў ён сабе пад нос, вяртаючыся дахаты. — Мяне сілы можа і пакінулі. Але ж у мяне ёсць малады, дужы і разумны сын. Прыедзе, тады свінню і заколем. Трэба было зразу яго паклікаць. Я ўжо стары і нямоглы. А жадаць ад свінні, каб яна сама сябе закалола, таксама дурная думка. Я шмат пражыў на гэтым свеце, а такіх выпадкаў не прыпамінаю.

Сын прынёсся ўжо назаўтра, з торбамі і мяхамі. Акрамя свіных плячэй ён меркаваў узяць яшчэ і заднія ногі, таксама ногі пярэднія, паляндвіцу, шыю, скабы, печань, ныркі, сэрца, галаву, капыты, хвост і ўсе астатнія свіныя часткі. А таксама крыху бульбачкі, маркоўкі, часначку, цыбулькі, яблычкаў, і іншых рэчаў, якія не хацелі расці ў яго гарадской кватэры.

— А чаму свіння яшчэ рохкае? — прывітаўся Германовіч-малодшы, прымусіўшы тым самым бацьку пачаць апраўдвацца.

— Няма ў мяне сілы ўжо яе адолець, — растлумачыў той. — Думаю, ты гэтым зоймешся.

— Ну вось табе і раз, — знерваваўся сын. — Не мог каго з вёскі папрасіць, каб дапамаглі? У мяне ж зусім няма часу!

— Ну то чашы сабе адсюль, — раззлаваўся бацька. — Але без мяса.

— Ды не злуй ты, — змяніў тон голасу сын, напалоханы такімі перспектывамі. — Нешта зараз прыдумаем.

— А што тут думаць, — узрадаваўся Язэп, якому і самому хацелася ўжо адведаць свежаніны. — Вось нож, а вунь хлеў. Не забыўся яшчэ? А то да бацькі толькі па мяса і прыязджаеш.

— Не, — не пагадзіўся жыхар горада, зразумеўшы, што ён нажом у сэрца свінні не патрапіць і з тысячнага разу. — Калоць свіней гэта састарэлы метад. І вельмі негуманны. Ды і антызаконны, бо твой аўстрыйскі штык гэта халодная зброя. За яе, чаго добрага, і пасадзіць могуць. Як ты думаеш, колькі трэба было б часу, каб на гарадскіх бойнях жывёлу штыкамі пароліі? Не! Мы заб’ем гэтую паскуду па-сучаснаму. Гуманна. Токам у галаву раз, і капыты ўгору. Жывёліна нават і падумаць не паспее, што яе канчаюць. І мяса тады смачнейшае будзе.

— Нешта я не прыпамінаю, каб ты ад таго мяса адмаўляўся, якое нажом білі, — незадаволена буркнуў Язэп. — Не паспееш пасмажыць, як з патэльні хапаў. І дзе гэта бачна, каб токам калолі свіней. Ты яшчэ прапануй у газавую камеру яе засунуць! Ці расстраляць з танка. У нас жывёлу заўсёды нажом білі.

— Бо вы ўсе састарэлыя і дрымучыя чэрапы, — пачаў настойваць на сваім прыхільнік гуманнага метаду. — Век жыві — век вучыся. Мы ў горадзе лепш ведаем, што рабіць. Бо ў нас прагрэс, новыя тэхналогіі, ноўхавы розныя, а ў вас тут адсталасць ды запусценне. Ні халеры не хочаце развівацца.

Пасля такога навучання нічога не заставалася, як пагадзіцца. Сын дастаў з машыны правады для падзарадкі акумулятара, падаўжальнік, злучыў іх разам і ўключыў у разетку.

— Ну што, бацька, — кажа ён, — сядай на свінню конна і моцна трымай яе за вушы, каб не ўцякла. А я зараз засуну ёй ток у нос.

Як сказаў, так і зрабіў. І тут у хляве бліснула маланка. Бліснула — не тое слова. Святло ад разраду току было такім

моцным, што з кепскім зрокам стары за імгненне паспеў прачытаць газетны артыкул на сваёй самакрутцы. Гэта пры тым, што артыкул быў надрукаваны дробным шрыфтам, а чытач без акуляраў. Адначасова з засваеннем газетнай прапаганды Язэпа як пяро знесла са свінні, падняло ў паветра і маханула ў сцяну. Нават карова паваліласяна бок ад нечаканасці і перапалоху. У курэй пазляталі пёры. Трусы перасталі размнажацца. Гусі ўвогуле здохлі адразу. Святло прапала ва ўсей вёсцы і прылягаючых да яе калгасных пабудовах. А свіння паднялася як чалавек на дзве нагі і завыла ваўкалакам. Пасля рванула ўбок, зламала агароджу, вынесла дзверы хлява і знікла ў кустах чырвонай парэчкі. Толькі гарадскі прыхільнік гуманных метадаў стаяў аслупянелы як статуя невядомаму для яго мужыку на цэнтральнай плошчы ў яго горадзе, і трымаў у руках правады, на канцах якіх смылела шчацінне.

— Сынок, мы каго колем сёння, свінню ці мяне, — прастагнаў стары Германовіч, як толькі да яго вярнулася здольнасць размаўляць.

— Свінню, канечне, тата, — сеў азадкам у гной збянтэжаны „сыночак”. — Як ты мог падумаць, што гэты выбух некантраляванай хаатычнай электрычнасці быў спланаваны супраць цябе?

— Ну то свіння ўжо ўцякла, — уздыхнуў стары. — Яе хіба ваўкі або сабакі даядаюць. Смачна ім недзе. Ядуць і аблізваюцца, бо паляцела яна адсюль ужо добра падсмажаная. Як у духоўцы. Трэба было перад гуманным смажаннем яе яшчэ крыху пасаліць, перчыкам пасыпаць і дабавіць цыбулькі.

— Не ведаю, бацька, што я тут няправільна зрабіў, — задумаўся сын, не падымаючыся з гною. — Можа ток слабы? Ты толькі не хвалюйся. Свіння не ўцячэ. Я яе знайду.

— Добра, сынок, знайдзі, — усміхнуўся бацька. — І на гэты раз, як будзем яе калоць гуманным метадам, току дадзім колькі захочаш. Толькі адна ўмова. Цяпер ты яе будзеш трымаць за вушы, а сунуць правады ў нос буду я.

## *Зуб мудрасці*

І колькі ж табе гадоў? — з захапленнем усклікнуў дантыст Сямён Вінаградаў, як убачыў роўныя, як новенькая школьная лінейка, і белыя, як у негра племя зулусаў зубы Пятра Куплевіча. Вінаградаў лічыўся лепшым зубным хірургам горада, а па сумяшчальніцтве яшчэ цяжка працаваў суседам Куплевіча, з якім сябраваў з маладых гадоў, падмятаў за таго пад'езд, выносіў накіданыя на лесвіцы акуркі і ўціхамірваў сямейныя скандалы, якія з зайздроснай стабільнай перыядычнасцю ладзіла Пятру жонка. А вось у якасці пацыента бачыў таго ўпершыню. — Першы раз бачу кліента твайго перадсмяротнага ўзросту з усімі здаровымі зубамі! І толькі зараз, на старасці гадоў, адзін з іх крыху пачаў пабольваць. І гэта пры тваім нездаровым стылю жыцця і пры тваім злачынным стаўленні да ўласнага здароўя. Гэта ж анамалія! А мо і сенсацыя! Ты ж ужо зямлёй пахнеш, а зубы яшчэ не зжаваў. Хутчэй адкрый мне сакрэт гэтай неверагоднай з'явы касмічнага маштабу, якая ўвойдзе як натацыя для будучых пакаленняў ва ўсе медыцынскія часопісы планеты. А я, нарэшце, змагу напісаць навуковую працу, атрымаць адпаведную прэмію з цэлай кучай нулёў пасля лічбы сто, з'ехаць у Ізраіль, ляжаць брухам да сонца ля Мёртвага мора і ніколі больш не глядзець на гнілыя зубы курыльшчыкаў. І самае галоўнае, змагу не дыхаць водарам іх бясконцых выдыхаў з букету натуральных пахаў, у якія ўваходзяць самагонны перагар, экстракт цыбулі і часнаку ды яшчэ перагніўшай ліварнай каўбасы, засеўшай паміж зубамі адразу пасля апошняй іх чысткі месяцы два таму. Споўніцца мая мара! Я ж з дзяцінства ненавідзеў працу зубнога

лекара. Марыў пра Зямлю Абетаваную і пра міжземнаморскія пляжы, дзе адзетыя толькі ў завушніцы і залатыя ланцужкі на доўгіх шыях турысткі з усяго свету робяць выгляд, што загараюць. Толькі вось бацька мне сказаў, што каб здзейснілася мая мара, трэба стаць менавіта дантыстам. Ім я і стаў, а мара перайшла да маіх дзетак, якія зараз вучацца ў медыцынскіх установах Беларусі лячыць людзям зубы за сотні і сотні кіламетраў ад Іерусаліма.

— Я ўсё табе раскажу, як праваслаўны чалавек на споведзі ў вашага рабіна, — ухапіўся за надзею кваліфікавана і без болю вырваць праблемны зуб Куплевіч і адначасова стаў напружваць мазгі, каб успомніць, калі ён апошні раз еў ліверную каўбасу. Да чысткі зубоў, ці пасля. Але зразумеўшы, што зубы ён не чысціў ніколі ў жыцці, перастаў ламаць сабе галаву і звярнуўся да дыпламаванага суседа з прапановай: — Выдам табе сакрэт за добрую паслугу. Ты мне выдзяры апошні ніжні правы зуб так, каб я не адчуў таго. Мне зубы баляць упершыню. Але зубных лекараў я стаў баяцца яшчэ да таго, як твой разумны і хворы на семітызм бацька з дынастыі дактароў-шкоднікаў намовіў цябе такім стаць. Я іх баюся больш чым начальніка на рабоце, больш чым хваробы, больш чым смерці. Ды што там смерць! Я іх баюся больш чым сваёй жонкі.

— Гэта ўжо сур’ёзна, — уздыхнуўшы, задумаўся Вінаградаў. — Страх перад намі ў цябе сапраўды панічны. Гэта ж трэба! Баіцца нават больш, чым сваёй жонкі. Г-м-м. Выпадак клінічны. Нас многія баяцца. Але каб ажно так... Не ведаю нават чым табе дапамагчы. Вырываць зубы заўсёды балюча. А ў цябе яшчэ ў дадатак зуб мудрасці, які сядзіць у тваёй пашчэнцы невядома колькі і сам адтуль добраахвотна зыхо-

дзіць не збіраецца. Добра. Ёсць адзін сродак. Я ўвяду табе наркоз. А як ты заснеш, разбяруся з тваім зубам. Ачнешся зусім іншым чалавекам.

Пятро пагадзіўся. І салодка засынаючы пасля таго, як вялікая і тоўстая нібы ядзерная электрастанцыя медсястра Вінаградава ўвяла яму наркоз, разважаў пра тое, як тая медсястра праходзіць праз дзверы паліклінікі. Па Куплевічаваму перакананню, наколькі яму дазвалялі гэта зрабіць яго аптычныя здольнасці, яна ні перадам, ні бокам, а тым больш задам, не магла прайсці і праз шырока адчыненыя вароты сярэднявечнага горада...

Ачнуўся пацыент у ложку. Было вельмі цяжка, нібыта апошнія два дзясяткі гадоў без сну і добрай ежы насіў на сабе быка. Правая рука чамусьці была ў гіпсе. Цела сціскаў нейкі тугі панцыр. Над ім схілілася постаць у белым халаце і з устрывожаным выразам твару. Але гэта быў не яго сусед.

— А дзе Вінаградаў? — паміраючым голасам прастагнаў Пятро і яму моцна закалола ў левым баку. — І дзе я? І хто вы? І хто я?

— Я ваш доктар. Вы мой пацыент. Не хвалюйцеся, усё благое ўжо мінула. Вы будзеце жыць, — упэўніла яго постаць, адначасова даючы адказы на пастаўленыя пытанні. — А ваш знаёмы Вінаградаў, хапіўшыся за галаву рукамі і прастагнаўшы нешта незразумелае накшталт таго: „Ніколі я не ўбачу цёцю Хаю", пайшоў да сябе на працу.

— Што здарылася? — напалохана выдыхнуў Куплевіч, так шырока расчыніўшы вочы, наколькі гэта яму дазвалялі крывавыя зацёкі на твары.

— Наколькі я разумею, — адказаў доктар, — вам увялі наркоз. А ён вам супрацьпаказаны. І ў вас спынілася сэрца. Не вытры-

мала такога медыцынскага прэпарата. Вінаградаў адразу паляцеў выклікаць нас. А яго медсястра рабіла вам штучнае дыханне. Вы ж яе бачылі. У ёй кілаграмаў тысяча, не меней. Дык пакуль яна рабіла масаж сэрца, зламала вам тры левыя рабрыны. А пасля хацела перакласці вас з крэсла на кушэтку, але ваша рука засела ў бакавіне крэсла. Дык яна і руку зламала. Пасля кінула вас на кушэтку так, што выбіла вам аб кант пярэднія зубы. Добра што мы прыехалі своечасова. А то яна вам і галаву разбіла б, бо вельмі хацела, каб вы выжылі, і для таго лупіла далонямі па твары з усяе сілы. Толькі не непакойцеся. Трэшчын на чэрапе няма. Мы праверылі. Усяго толькі страсенне мазгоў сярэдняй цяжкасці. А падбітыя вочы з цягам часу пройдуць.

— Божа! — завыў Пятро такім голасам, што сціхлі сірэны на ўсіх медыцынскіх машынах горада і прылягаючых да яго тэрыторый. А нейкі безнадзейна хворы, які ўжо тры месяцы ляжаў у коме, ачнуўся, ды так сігануў са шпіталя, што больш яго ў гэтым раёне ніхто не бачыў. — Што вы са мной зрабілі?! Я ж зайшоў да дантыста ўсяго толькі для таго, каб... Дарэчы, а як там мой зуб мудрасці? Ніжні з правага боку.

— Зараз праверым, — прашаптаў напалоханы доктар. — Разяўце рот.

Пятро з цяжкасцю расчапіў пашчэнкі. Лекар нахіліўся. Паглядзеў. Пасля падняўся з усмешкай на твары і аптымістычным голасам запэўніў:

— Радуйцеся. На гэты раз у мяне для вас вельмі добрая навіна. Не бойцеся. З вашым любімым зубам нічога не здарылася. Ён на тым месцы, на якім і павінен быць. Цэлы і нават непашкоджаны.

## *Німбы для правільных*

Напачатку Адаму Хвастову для поўнага шчасця не хапала толькі грошай. Прынамсі ён у гэтым быў упэўнены больш, чым яго школьны настаўнік матэматыкі ў тым, што два дадаць два будзе чатыры. Адам быў малады, здаровы, высокі, прыгожы, упэўнены ў сабе, працавіты, вясёлы, не піў, не курыў, не меў кепскіх звычак і сувязей, ажно суседзі дзівіліся, чаму над яго кучаравай патыліцай яшчэ не запаліўся німб, што прыводзіла людзей да сумневу ў тым, што німбы ўвогуле існуюць. Прэтэндэнтак стаць міс Хвастовай таксама было больш, чым незамужніх дзяўчат у яго горадзе. Але Адам не мог дазволіць сабе павесіць на шыю кабету, якая яшчэ і дзяцей яму панараджае, усё па той жа банальнай прычыне — ён не ведаў за якія такія грошы ўдасца іх пракарміць. Таму найперспектыўнейшы жаніх на ўсёй заходняй Беларусі, уключаючы таксама і ўсходнія землі і землі этнічнага рассялення беларускага этнасу, а таксама ўсе тэрыторыі, на якіх жыве беларуская дыяспара, найперш вырашыў разбагацець. Для гэтага ён выбраў самы складаны шлях — бізнес. Працаваў шмат і актыўна. І праз дзесяць год ён на заднім сядзенні ўласнага шасцісотага „Мерседэса", якім кіраваў яго ўласны шафёр, разважаў пра тое, што не можа жаніцца і зараз, бо бракуе часу на такія рэчы. Справа забірала ўсё — і час, і сілы, і здароўе, і думкі, і мары, і надзеі. Цяпер грошай было як у некалькіх банкіраў разам узятых, а шчасце ўсядно не спяшалася завітаць у яго двухпавярховы катэдж з высокім плотам, сігналізацыяй, аховай, прыслугай і срэбнымі сталовымі прыборамі. Да яго ў госці завітвалі кіраўнікі горада, начальнікі падаткавай

інспекцыі, калегі па бізнесе, генералы міліцыі і іншых службаў, але гэта не вырашала праблем з адзінотай і роспаччу. Таму Адам вырашыў, што трэба ўзяць невялічкі адпачынак і ўладкаваць асабістае жыццё.

На пасаду спадарыні Хвастовай сябры яму параілі Аліну Сямашку, прыгожую і разумную бландзінку, якая па сумяшчальніцтве была выхавацелем ды псіхолагам і распавядала студэнтам пра веліч аскетычнага вобразу жыцця. Яе лекцыі былі настолькі пранікнутыя ідэямі стрыманасці ды ўстрымання, што німб павінен быў ззяць над яе галавой яшчэ ярчэй, чым у Адама дзесяць год таму. Святары ды манахі маглі б павучыцца ў гэтага чалавека даводзіць да аўдыторыі вялікія ідэі правільнага жыццёвага выбару. А аскеты ўсіх краін, каб даведаліся, што ёсць такая кабета, мусілі б аб’яднацца і вылучыць Аліну на Нобелеўскую прэмію за самаахвярнасць. Ды і арганізатары той прэміі таксама мусілі б увесці гэтую новую намінацыю, першым лаўрэатам якой без сумневу стала б Сямашка.

Гэтыя якасці прэтэндэнткі на званне мамы дзяцей Хвастова былі вельмі да спадобы Адаму. На першым спатканні ён нават прыкінуўся сціплым чыноўнікам аддзела кадраў завода „Аўтаагрэгат” з заробкам ніжэй сярэдняга пражыткоавага мінімуму, у якога няма ўласнага кута і якіх-небудзь перспектыў разбагацець. Хацеў праверыць шчырасць паводзін сваёй каханай. Але дзяўчыне было ўсё роўна. Адам ёй вельмі спадабаўся і яна закахалася ў яго з першага позірку. Казала, што шчасце не ў грашах. І што іх шлюб будзе шчаслівы і вечны, і толькі смерць, не важна нават калі і ад голаду, зможа іх раз’яднаць.

Адам быў на сёмым небе ад шчасця. Ён знайшоў тое, што яму трэба, і ў яго было ўсё, каб гэтае ашчасліваць, бо пра такую

прыгожую, сціплую і сумленную жанчыну марыць кожны мужчына. Але не кожны можа даць ёй тое, што можа ён. Хвастоў нават пачаў камплексаваць ад свайго багацця. Баяўся, што гэтая аскетычная мілая жанчына можа адмовіць яму з-за таго, што ён нават не ведае, колькі сотняў тысяч купюр у валюце розных краін свету ляжыць у яго хатнім сейфе.

На адным са спатканняў Адам падарыў ёй залатое калье з нейкім дарагім каменьчыкам. Аліна была вельмі ўсхваляваная і шчаслівая. Праўда, папракнула свайго абранніка, што выкідваць грошы на ўпрыгожванні не правільны падыход да жыцця. Але, як даведалася пра сапраўдны фінансавы стан кіраўніка трох буйных фірмаў, толькі крыху збянтэжылася і сказала, што самі па сабе грошы не ёсць зло. Дзякуючы ім можна зрабіць безліч добрых спраў. Асабіста ёй, маўляў, яны не вельмі патрэбныя. І яна будзе іх браць толькі на самае неабходнае.

Напачатку самым неабходным стала норкавая шуба, якая магла ўратаваць ад холаду зімой. Яшчэ нейкія замежныя боты і пара-тройка дробязей. Падарункі са шляхетных металаў і не менш шляхетных камянёў былі ініцыятывай Адама. Гэтак жа, як і грошы на кішэнныя расходы ў памеры трох-, чатырохмесячных заробкаў выхавацеля, якія выхавацелька атрымлівала штодзённа. Крыху пазней самым неабходным сталі вячэры ў самых дарагіх рэстаранах горада. А праз паўгода Аліна не магла вынесці таго факту, што яна вельмі мала часу бачыцца са сваім каханым, бо шмат часу губляе на дарогу ў грамадскім транспарце. Таму самым неабходным стаў новенькі аўтамабіль „БМВ". Але і ён не вырашыў праблем з часам, і Сямашка прыняла рашэнне кінуць працу і з тае прычыны павялічыць кішэнныя расходы ў тры разы.

Справа паціху набліжалася да вяселля. Адаму вельмі хацелася зрабіць сваёй каханай эфектны шлюбны падарунак. Ён спытаў яе, што б яна хацела. Дзяўчына ўжо ведала што. Гэта быў круіз па Міжземным моры на параходзе, які плаўна перарастаў у наведванне карнавалу ў Рыо-дэ-Жанейра, каб адпачыць ад вясельных клопатаў, а пасля вылет самалётам у Аўстралію, каб адпачыць ад карнавалу. Пры гэтым кабета не забылася заказаць дзясятак-другі камплектаў адзення для падарожжа і невялічкую кучку дарагіх упрыгожанняў, але выключна толькі для таго, каб Адаму не было сорамна, што жонкі ўсялякіх там Фордаў ды Ракфелераў выглядаюць больш эфектна, чым яго абранніца. А там, пад час падарожжа, яна прыгледзіць сабе які-небудзь сапраўды варты падарунак.

Адам доўга разважаў пасля гэтага, як разважаюць мысліцелі-філосафы над тым, што такое добра, а што такое блага. У канцы размовы са сваімі думкамі ён прыйшоў да высновы, што калі так пойдзе далей, то вельмі хутка для поўнага шчасця яму будзе не хапаць толькі грошай. Таму вяселле не адбылося. Хвастоў зноў залез з галавой у бізнесовыя справы, а Аліна вярнулася на сваю былую працу і стала — як у былыя добрыя часы — апавядаць студэнтам пра веліч аскетычнага вобразу жыцця. Праўда, яе лекцыі не перашкаджалі ёй з'яўляцца на людзях у норкавай шубе, залатых ланцужках і пярсцёнках, ды на новенькім „БМВ".

А суседзі Адама ды Аліны, і іншыя іх знаёмыя пачалі абмяркоўваць тэму німбаў. Казалі, што гэта вельмі правільна, што німбы не запальваюцца над галовамі правільных людзей, бо невядома як яны будуць жыць крыху пазней.

## *Выбар жанатага аўтааматара*

Яна для Анатоля Кавалёва была прыгажэйшай за ўсё на свеце. Харашэйшай чым белы свет, мілейшай чым жыццё, чароўнейшай чым гарэлка і прывабнейшай чым жанчына. Гэта была яго мара, яго спрадвечнае жаданне, яго начныя мроі, штодзённая праца і надзея на змены ў шэрым без прыгод і радасцей жыцці. Гэта была яго новенькая машына колеру зялёнага металіку з надпісам „Ford” на капоце і багажніку. Анатоль цяжка працаваў, каб назбіраць на яе неабходную колькасць купюр з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў. Не спаў начамі, часамі краў на заводзе розныя жалязякі, каб пасля прадаць іх у Польшчы, падбіраў усё, што кепска ляжыць, прымаў падарункі ад цешчы і бацькоў у выглядзе банкнотаў нацыянальных банкаў розных краін свету, капаўся на лецішчы, эканоміў на ежы і адзенні, але нарэшце здолеў рэалізаваць жаданне старога аўтамабіліста, якому, па вушы спэцканаму ў маторным алеі, прыходзілася апошнія дваццаць гадоў больш капацца ў рухавіку старэнькага і наскрозь прагніўшага „Масквіча”, чым сядзець за яго рулём.

Набыў бы Кавалёў аўтамабіль нашмат хутчэй, каб не каханая жонка, якая паходзіла з такой вясковай беларускай сям’і, якая лічыла, што маёмасць гэта толькі тое, што ў наяўных паперках ляжыць у хаце зашытае ў падушку, на якой ніхто не спіць. Таму носьбіту аўтамары прыходзілася выварочвацца як вужу прабітаму віламі, каб схаваць ад каханай свае рэальныя прыбыткі і дзень за днём, месяц за месяцам, гадочак за гадочкам, прытрымліваючыся ўсіх мераў таямнічасці, упо-

тай адкладваць капеечку да капеечкі, грошык да грошыка, цэнцік да цэнціка, і нарэшце набраць такую кучку грошыкаў, каб ключы ад аўтамабіля „Форд" прыемна прытуліліся да яго правай далоні.

— Грошы з сям'і краў, — наракала жонка, убачыўшы новенькі самаход. — З горла ў дзяцей вырываў, абы толькі свой азадак мякчэй прыстроіць. Ну нічога. Цяпер я ўсе твае прыбыткі і страты буду кантраляваць асабіста. Цяпер ты не сапрэш ані кроплі.

І прыляпілася да мужа, як у лазні бярозавы ліст ад веніка прыліпае да задніцы. Ды ні на крок не адыходзіць, нібы той уцякаць збіраўся. Найперш нарабіла ляманту ў страхавой кампаніі. Анатоль хацеў купіць для такой прыгожай і дарагой машыны добрую страхоўку. На ўсе выпадкі жыцця, як гаворыцца. Але родненькая жонка запярэчыла.

— Што, — кажа, — думаеш і далей грошы размотваць. Смеціць грашамі і зараз збіраешся? Не атрымаецца. Страхоўку купляй самую танную.

— Але ж яна не ў кожным выпадку дапамагае, — пачаў адстойваць сваё збянтэжаны Кавалёў. — Прыкладам, калі я буду вінен у аўтадарожным здарэнні, то маю машыну ніхто рамантаваць не будзе. Так больш згублю.

— Не ўмееш ездзіць — сядзі ў хаце, — не супакойваецца кабета. — Я сама за руль сяду. Здарэнні ён надумаўся рабіць, брыда. Забіваць такіх трэба.

І села. За руль. Ды толькі выехала на дарогу, ды як лясне ў нейкую „Мазду". Прыйшлося за свае грошы „Форда" аднаў-

ляць. Але жанчына сваёй віны не прызнае, хоць ты кол на яе галаве чашы. Стаіць на сваім, як псіх ля шчытка з надпісам „Ток. Заб'е", і нічога думаць не хоча. Пляце нейкую лухту, як маку пераеўшы.

— Гэта ўсё таму здарылася, што ты нячэсна грошы адкладаў. Ад сям'і хаваўся. Вось Бог цябе і пакараў. Трэба схадзіць да шаптухі, хай яна замовіць, і машына ніколі ў аварыю не патрапіць. І ніякія страхоўкі непатрэбныя.

— Не, не і не, — вырашыў выказаць свае меркаванні муж. — Мы плацілі таму, што ты грошай на добрую страхоўку пашкадавала. І я думаю, што цяпер лепш у царкву пад'ехаць. Хай лепей поп асвяціць машыну, чым шаптуха будзе над ёй нешта барматаць.

— Ні ў якім разе, — не пагаджаецца жонка. — Ведаеш колькі поп грошай здзярэ? Лепш ужо страхоўку купляць, чым туды сунуцца. Едзем да шаптухі.

Шаптуха пашаптала. Кажа, цяпер усё будзе добра. Толікава жонка расплацілася з ёй самай малой купюрай, якую толькі мела. Ды не паспелі ад'ехацца адтуль і некалькі метраў, як машына правалілася ў глыбокую яму на дарозе ды выламала кола.

— Ну што! — зароў Анатоль такім голасам, нібыта ў яго гарляк уставілі дынамікі новай мадэлі, разлічаныя выключна для аматараў музыкі ў стылі хэві-метал. — Пашкадавала шаптусе даць болей. Вось цяпер і маеш. З тымі шаптухамі трэба асцярожна. А я, на яе месцы, за такую аплату як ты дала, увогуле наваражыў бы, каб машына ўзарвалася разам з табой.

— Добра, — агрызаецца жонка, — не лямантуй. Паехалі да папа. Толькі плаціць буду я.

— Глядзі, толькі не жміся, — папярэдзіў яе Анатоль, — бо скупы плаціць двойчы.

Машына заехала ў адчыненую царкоўную браму. Святар асвяціў яе, папырскаў святой вадой, памаліўся.

— Колькі з нас? — пытае кабета.

— Колькі заахвяруеце, столькі і хопіць, — адказвае бацюшка.

Ну то жанчына і яму ўсунула найменшую купюру, якую мела, ускочыла ў машыну ды камандуе, закрываючы дзверы ўжо пры яздзе:

— Хутчэй паехалі, пакуль не сказаў даць болей!

І тут нечакана рвануў моцны вецер. Цяжкая металічная царкоўная брама не вытрымала яго напору і, зачыняючы ўезд у царкоўны двор, памагла спадарыні Кавалёвай зачыніць дзверы ў яе машыне.

Машынныя дзверы выгнуліся пад такім прамым вуглом, што мала якія вымяральныя прыборы могуць з такой дакладнасцю паказаць вугал у 90 градусаў.

— Стой! — заныла жанчына. — Трэба нешта рабіць!

— Трэба рваць, дзерці адсюль як мага хутчэй, — адказвае муж. — Ты крыж на грудзях у бацюшкі бачыла? Вялікі такі, цяжкі. Ён зараз за такую аплату тым крыжам яшчэ ўсе вокны ў машыне павыбівае. Паехалі на аўтарынак. Прадам я гэты самаход ды буду далей на „Масквічы” ездзіць адзін, бо з табой ад гэтай машыны хутка толькі куча металу заста-

нецца ды такога, які і на металалом не возьмуць. А можа паехаць у загс ды развесціся з табой. Тады „Форда” можна будзе пакінуць. Пагляджзім. Падумаю пра гэта па дарозе, бо сапраўды не ведаю, што лепш: застацца з табой і сваёй марай пра добрую машыну, ці без цябе, але з хоць адной рэалізаванай у жыцці марай.

## *Чорны дзень*

Сказаць, што Максім Мікулка прыйшоў на нашу сустрэчу ў надзвычай кепскім настроі, які даходзіў па дзесяцібальнай сістэме вызначэння роспачы да лічбы трынаццаць, гэта не сказаць нічога. Стан Максіма быў такі, што, здавалася, ён тройчы спрабаваў развітацца з жыццём шляхам самагубства, а злыя сілы не дазволілі яму зрабіць і гэтага, канчаткова загубіўшы яго спадзяванні на тое, што неўтаймаваную душу Мікулкі можна прыстроіць у якім іншым месцы (не мае значэння ў якім), толькі б не ў маленькай кропачцы на мапе Еўропы, якая называецца гарадская кватэра ў Гародні, дзе быў вымушаны пасля цяжкай працы выслухваць прэтэнзіі ад жонкі і дзяцей па прычыне і без яе.

— Не ведаю як далей жыць, — прывітаўся ён са мной дзяжурнай фразай песіміста, які яшчэ нядаўна не мог сабе ўявіць, што будзе належыць да гэтай зняверанай у жыцці катэгорыі людзей.

— А што такога магло здарыцца, — кажу яму, — што ты нават патэлефанаваў мне пасля сямігадовага перапынку?

— Што-што, — буркнуў сабе пад нос Мікулка. — Часу не было раней на сустрэчы. Араў як чорны вол, арандаваны парабкам. Усё дзеля дзетак, каб ім добра было. Свету Божага не бачыў. Думаю, у самога жыццё пайшло наперакос, дык каб хоць ім, спінагрызам, добра было.

— Мэта тваёй невыноснай рабскай працы як у калгаснай кабылы цалкам зразумелая, — пачаў я філасофстваваць сам

з сабой, на хвілінку зусім забыўшыся пра чалавека, які навёў мяне на такія глыбокія думкі. — Толькі нельга ў гэтым кірунку прыпісваць сабе першынства. Практычна ўсе прадстаўнікі двухногіх млекакормячых рабілі гэта пачынаючы ад Адама з Евай. І ніхто не лічыў тое вялікім геройствам.

— Усё так, толькі нейкую ўдзячнасць ад сваіх нашчадкаў таксама мець абавязвае бацькоўскі статус, — яшчэ больш распаліўся няшчасны бацька. — А не так, што ты для іх усё, а яны табе ні дзякуй ні ... сам ведаеш.

— Ты, — кажу яму, — пераходзь бліжэй да справы. А то тэксту шмат, а сутнасці праблемы пакуль што я не ўлавіў. Уяві сабе, што я захачу калі-небудзь напісаць невялічкі аповед пра тваё гора, каб людзі на тваіх памылках трошкі падвучыліся і зрабілі правільныя высновы. І што я напішу? Калі пачну распавядаць пра твае незразумелыя стогны без канкрэтыкі і фактаў, чытач кіне кніжку, не дачытаўшы і да паловы, так і не дайшоўшы да завязкі сюжэту. Я ўжо не гавару пра кульмінацыю.

— Табе абы пісаць, — узарваўся суразмоўца. — Не каб супакоіць чалавека, слова добрае сказаць. Не бачыш як мне кепска. Як пасля тыднёвага перапою і то пры ўмове, што піў самыя кепскія напоі вытворчасці бабкі Веркі са Скідаля, якая цісне самагонку з адходаў цукровай вытворчасці.

— О-о-о, гэта ўжо справа сур’ёзная, калі аж да гэтага дайшло, — тут я і сам напалохаўся, пачуўшы пра ажно настолькі жахлівую сітуацыю. — Давай, выкладвай, што там у цябе на душы. Усё гавары, як на споведзі ў айца Анатоля.

— Скажу. Дзеля гэтага я і патэлефанаваў табе, каб ты выслухаў мяне, і можа што і параіў талковае. Або проста, каб супа-

коіў. І ад добрага слова на душы лягчэй робіцца, — трошкі прыглушыў тэмбр голасу Мікулка, дэцыбелаў так на дзесяць, максімум дванаццаць. — Ну то слухай. Стараўся я стараўся, працаваў я працаваў. Абы на дзетак зарабіць. Сам ведаеш. Фірму прыватную адчыніў. І круціўся як мог. Стараўся, што тая мурашка. Падаткі не даплачваў, дзяржаву абкрадаў, рабочым заробак памяншаў, дзёр дзе толькі мог, партнёраў па бізнесе падманваў, пазыкі не вяртаў, крэдыты не аддаваў, працэнты забіраў сабе, інвестыцыі таксама, прыкідваўся жабраком, пабіраўся як галазады, прасіў грошы дзе толькі мог, цягнуў адкуль толькі мажліва, слова не датрымліваў, партнёраў кідаў, прыдумваў розныя непрыгожыя камбінацыі і хады, абы толькі грошай пабольш удзерці. А для чаго я гэта рабіў? Усё дзеля дзетак, усё дзеля іх! А чым яны мне аддзячылі? Хочаш, распавяду.

— Хачу, распавядзі.

— Ну дык вось. Паколькі я сам краў ды падманваў, то развучыўся верыць іншым, бо ўсе так робяць. Гэта нашая, чалавечая рыса. Скажам так, людскі характар. І не давяраю я банкам. Сам ведаеш, колькі іх такіх было, што грошай набяруцца і прапалі. Шукай днём з агнём, як ветру ў полі. Усядно не знойдзеш. Таму я вырашыў трошачкі грошай трымаць наяўнымі, на чорны дзень. Гэтак лепш за ўсё. Трымаеш у руках пачку зялёных банкнотаў і на сэрцы лягчэй. Нават валяр'янкі ці валідолу не трэба. Я табе кажу праўду. Нішто так не лечыць, як тоўстая пачка даляраў у сваёй далоні. Сабраў я такую тоўстую пачку купюрамі па сто даляраў, ды зашыў у падушцы. І надзейна там, ды і спаць мякчэй ды прыемней чым на пуху ды пёрах. Так яны там і ляжалі доўгі час. Я прыйду, пашчупаю, усё на месцы. Парадуюся ды спаць лягаю. А зусім нядаўна чагосьці мне не

спалася. Дай, думаю, на грошы паўзіраюся. На вобмацак то там было ўсё добра, як заўсёды. Але калі я распароў падушку і дастаў свой скарб, ледзьве душа з мяне не выйшла. Замест стодаляравых банкнотаў, якія я на чорны дзень збіраў, ляжалі аднадаляравыя. Ды яшчэ як ляжалі. Са страшным здзекам нада мной. На кожнай купюры, дзе стаіць адзінка, якая і пацвярджае вартасць банкноты, маркерам былі дамаляваны два нулі. Маўляў, вось табе твае сотні. Толькі адзінка сапраўдная, а нулі дамаляваныя. І як думаеш, хто такое мог зрабіць? Дзеткі мае. Больш не было каму, бо ад іншых той пакой зачынены. І што ты параіш мне цяпер рабіць. Дзе я вазьму грошы, як чорны дзень, дзеля якога я даляры і трымаў, возьме ды надыдзе?

— Усё значна прасцей, чым ты мяркуеш, — падняўшыся з крэсла кажу яму на развітанне. — Проста лічы, што чорны дзень у тваім жыцці ўжо надышоў, і ты выдаткаваў на яго тыя свае соткі. Табе яшчэ пашанцавала. Той чорны дзень табе такую ласку зрабіў, якую мала каму робіць. Даў табе рэшту ў выглядзе аднадаляравых купюр з двума намаляванымі маркерам нулямі.

## *Восьмае сакавіка*

## *або*

## *Міжнародны жаночы дзень*

Калі Лявон Кулік прачнуўся з цяжкай пасля ўчарашняй выматваючай гонкі пад назвай „літарбол" галавой, і пагля-дзеў у ранішняе акно, то са здзіўленнем заўважыў, што з вонкавага боку акна на яго ўзіраўся хоць і той жа самы, што і заўсёды, пейзаж, але ж ён быў нязвыкла, нясціпла і нават непрыстойна ўсыпаны кветкамі розных гатункаў і колераў. І тыя кветкі з надзвычай урачыстымі тварамі кудысьці валаклі пераважна прадстаўнікоў мужчынскага полу.

Здзівіла Куліка не тое, што мужчыны кветкі менавіта валаклі, а не перамяшчалі ў прасторы яксьці па-іншаму. Тое, як мужчыны дастаўляюць гэтыя цуды прыроды да канчатковага месца прызначэння, рэдка можна ахарактарызаваць другімі эпітэтамі. Лявона насцярожыў, і спачатку нават напалохаў, нязвыклы выраз урачыстасці на расчырванелых фізіяноміях мужыкоў з кветкамі.

Версія, што Кулік памёр, і бачыць свае ўласныя паховіны з таго свету, прыйшла першай, але адпала вельмі хутка. Па-першае, ён не мог памерці ад „літарбола", бо быў прызвычаены да гэтай гульні з ранняга юнацтва і ў дадатак яшчэ добра закусваў. Іх мясцовая версія гэтай вясёлай народнай забавы, якую Лявон з суседзямі ладзілі пасля кожнага авансу, прадугледжвала спаборніцтва не толькі ў выпіванні гарэлкі, але і ў паглынанні закускі. Па-другое, ажно на такую колькасць

кветак на свае паховіны сціплы па натуры Кулік ніколі не разлічваў. Тым больш ад мужыкоў, таму што Куліку ў жыцці падабаліся дзве рэчы: гарэлка і жанчыны. Гарэлка, хай на яго не крыўдуюць прадстаўніцы прыгожага полу, падабалася крыху больш. А значыць, на думку Лявона, мусіла адказваць яму ўзаемнасцю і ні ў якім разе не нарабіць шкоды. Таму версія імгненнай смерці ад „літарбола" не вытрымала лагічнага разважання нават непрацвеaccording разеўшых да канца ягоных мазгоў.

Другая версія, якая наведала яго галаву, была яшчэ больш недарэчнай, чым першая. Усяго толькі на сотую долю імгнення Лявон засумняваўся, што можа да іх завітаў кіраўнік краіны, і сам рассмяяўся з гэтай бязглуздзіцы. Беларусы то і раней не любілі сваіх кіраўнікоў, ну а гэтаму добраахвотна кветкі ніхто не пацягнуў бы дакладна. Пад прымусам то так. Але тады гэта былі б збольшага безабаронныя жанчыны, на плечы якіх звычайна айчыннае начальства ўскладвае найбольш непрыемныя абавязкі. А тут з кветкамі адны мужыкі.

Заставалася трэцяя версія, самая кепская і жудасная, пра якую яго інтэлект падазраваў ад пачатку, але не хацеў прыняць і паверыць, шукаючы паратунку ў варыянтах з меншай канцэнтрацыяй сусветнага зла, бо менавіта гэтай версіі баяўся. Таму так інтэнсіўна, з хуткасцю, якая перавышала хуткасць самага прафесійнага камп'ютара, падбіраў другія варыянты. Але ж не. Кепскія навіны прыходзяць заўсёды тады, калі ты найбольш безабаронны. А разбіты, з поўнай галавой болю і абсалютна пустымі кішэнямі Кулік сапраўды быў зараз так безабаронны, як тыя няшчасныя жанчыны з ускладзенымі на іх плечы айчынным начальствам найбольш непрыемнымі абавязкамі...

Сумневаў больш не заставалася. Сёння восьмае сакавіка. Гэта значыць, што жанчыны святкуюць міжнародны жаночы дзень, а мужыкі валакуць ім кветкі. На карысць гэтай версіі ўсё супадала з дакладнасцю касмічнага гадзінніка. Кветкі валакуць мужыкі, твары ўрачыстыя, як на паховінах, бо свята жаночае. А расчырванелыя фізіяноміі ад таго, што сёння кожнаму з іх дазволяць легальна і не хаваючыся ад мілых дам выпіць за іх жа прыгажосць і здароўе.

— Лепш бы спрацавала першая версія, і я зараз узіраўся б на свае паховіны з таго свету, ды з задавальненнем пасмейваўся б з гэтых, яшчэ жывых прыдуркаў, якія мусяць цэлы дзень дарыць сваім бабам кветкі і старацца ўсяляк ім дагадзіць, — ледзьве чутна прастагнаў Лявон, і задумаўся што рабіць далей.

І так. Заставалася спакойна і без непатрэбнай панікі прааналізаваць сітуацыю. Жонка ў яго ёсць. Гэта факт, ад якога можа пазбавіць толькі аддзел разводаў. І то не так хутка як хацелася б. Кветкі прадаюць на кожным кроку. Але вось тыя паперкі Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, за якія кветкі можна купіць, скончыліся яшчэ ўчора. А паперак нацыянальных банкаў іншых краін у яго і раней не заводзілася. Кішэні былі пустыя як учарашнія бутэлькі.

— Ну не забіваць жа жонку з-за таго, што я не магу купіць ёй кветкі, — зноў загаварыў ён сам з сабой. — Ні адзін прадстаўнік моцнай паловы чалавецтва, у якога засталіся яшчэ мужчынскія гонар і годнасць, ніколі не дазволіць сабе забіць жанчыну ў яе жаночае свята. Нават калі гэта яго жонка.

Паколькі версія з радыкальным пазбаўленнем ад жонкі была

непрымальнай, Кулік стаў меркаваць, як ад жонкі пазбавіцца не так катэгарычна. Можна, прыкладам, сказаць, каб паехала на дзень-другі да сваёй старэнькай маці на вёску. Трэба ж і пра старых падумаць у такое свята. Але тады жонка можа запатрабаваць букет яшчэ і для маці. Можна дазволіць пайсці ў кафэ з сяброўкамі. Але тады папросіць грошы на кафэ.

— У гэтых жанчын заўсёды ёсць контраргументы на кожнае наша слова, — ужо больш моцным, крыху акрэплым голасам прабубнеў ён.

Развесціся з жонкай не выпадала, бо на свята аддзелы па разводах не працуюць. Здаць пустыя бутэлькі, якіх было столькі, што ўсе фінансавыя праблемы сённяшняга дня вырашыліся б лёгка, таксама не выпадала па той жа прычыне. У свята і кропкі прыёму шклатары таксама не працуюць. Хоць ты трэсні! Вось табе і міжнародны жаночы дзень! Не свята, а армагедон нейкі.

Была яшчэ надзея адкупіцца добрымі вершамі. Лявон сярод безлічы сваіх прафесій, хобі і заняткаў, як натура разнастайная і неўтаймаваная, быў яшчэ і паэтам. І некалі раней, у маладосці, на беразе старадаўняга Нёмана, у цёплую ноч асветленую поўняй, яна, яго Аксана, яшчэ не маючы статусу жонкі, узахлёб расхвальвала яго творчасць. І кожны новы верш слухала з большымі вачамі, чым тая нябесная поўня. Але з тае пары шмат вады выцекла. І не толькі з Нёмана. А колькі гарэлкі... Не вымераць і адразу не вызначыць чаго болей. А вочы Аксаны, цяпер ужо законнай жонкі, ад новых вершаў больш не расшыраліся. Наадварот, звужаліся да ўзроўню танкавай амбразуры, і заўсёды суправаджаліся

крыкам прыкладна такога зместу: „Што, алкаш, зноў грошы будзеш клянчыць?!". Ды і напісаць новы верш, з будуна, не пахмяліўшыся, не прадстаўлялася мажлівым. П'яным атрымлівалася, ды яшчэ як. Цвярозым таксама пісалася нешта. Крыху горш, але пісалася. А вось паміж гэтымі двума станамі, ніколі нічога не атрымлівалася.

Але з кожнай хвілінай галава Куліка ўсё цверазела і святлела, і ідэі ў яе сталі прыходзіць усё больш цвярозыя і светлыя. Ад былых думак Лявон і сам здрыгануўся, як успомніў іх, нават перажагнаўся.

І вось раптам яго інтэлект наведала ідэя, якую гаспадар гэтага інтэлекту адразу назваў геніяльнай.

— Геніяльна!!! — выбухнуў ён і рашуча махнуў сціснутым кулаком, аж паветра свіснула.

Геніяльнасць ідэі палягала на тым, што грошы на падарунак жонцы трэба было папрасіць у самой жа жонкі. Без вершаў, а проста сказаць праўду. Так маўляў і так, з дуру грошы распазычыў, распусціў, аблічыўся, а без падарунка не магу табе паказацца на вочы. Няўжо яна сама сабе пашкадуе на падарунак. Ну, не дурная ж яна. Жанчыны без падарункаў жыць не могуць, як бізнес без рэкламы. І рэалізаваць гэтую ідэю было не так і цяжка, бо ў словах Куліка было насамрэч больш праўды чым падману.

— Ясна, што грошай у цябе няма, — агрызнулася на прапанову спонсарства самой сябе ў сваё ж свята жонка Лявона. — Дзіўна, што ў цябе яшчэ порткі засталіся. А мог бы і іх прапіць, алкаголік.

— Сапраўдны мужчына ніколі не прап’е таленту, гонару і портак, — парыраваў Лявон.

Ён добра ведаў, што зараз будзе крык, лямант, папрокі... Але мусіў праз гэта прайсці, як праз рэчы, якія ад яго не залежаць, і на якія паўплываць немажліва. Затое ў канцы жудаснага маналогу каханая Аксана шпурлянула прама яму ў морду невялічкую кучку грошай, якіх чыста тэарэтычна мусіла хапіць на букет кветак, бутэльку шампанскага, каробку цукерак і яшчэ што-небудзь неспадзяванае.

— Да жанчын трэба мець адпаведны паэтычны падыход у кожнай сітуацыі, — праз паўгадзіны тлумачыў Кулік сваму сябру і ўчарашняму сабутэльніку Зміцеру Макарэвічу, які зранку пакутаваў ад галаўнога болю, адсутнасці грошай і перспектыў набыць сваёй жонцы кветкі.

— Добра, — кіўнуў ён галавой і ў яго спакутаваных вачах засвяцілася надзея. — Паспрабую зрабіць як і ты.

І ўжо праз гадзіну два шчаслівыя мужчыны, якія мала чым нагадвалі ранішніх спакутаваных істот, весела крочылі ў кірунку кветачных шапікаў. Цюльпаны, канешне цюльпаны. Традыцыйна на гэтае свята, і танна. Шампанскае, як абавязковы атрыбут рамантычнага святочнага вечара з жонкамі, таксама было набытае. А замест цукерак і якойсьці неспадзяванкі мужыкі вырашылі ўсё ж узяць па бутэльцы гарэлкі. Ну, не вяртацца ж дахаты хворымі ад будуна. Лепш жа прыгожымі, вясёлымі, пахмеленымі і закаханымі... Ну і кветкі ў наяўнасці.

— Давай, Лявон, вып’ем за нашых мілых жонак, — прапа-

наваў Зміцер на лаўцы ў гарадзенскім парку імя Жылібера.
— Усё-такі добрыя яны ў нас. Гэта мы крыху не так нешта робім. Гады мы. Свінні…

Стадыя самабічавання пасля ўчарашняй п’янкі ў яго заўсёды прыходзіла прыкладна ў адзін і той жа час. У тры гадзіны трыццаць сем з паловай хвілін пасля поўдня і заканчвалася пасля трэцяга кілішка. Таму Лявон, каб не слухаць таго ныцця, якое чуў ужо безліч разоў, два наступных тосты „за жанчын” і „за каханне” пастараўся агучыць як мага хутчэй. Далей ініцыятыву перахапіў Макарэвіч. І яго інтэнсіўнасць агучвання тостаў была не меншай.

— Можа шампанскае адчынім, — прапанаваў ён, калі гарэлка скончылася.

— Давай, — адгукнуўся суразмоўца.

А як скончылася і шампанскае, Кулік звярнуўся з прапановай.

— Давай крыху прыляжам, ды падрэмлем. Хоць ужо і цемнавата, але жаночы дзень яшчэ не скончыўся. Паказацца каханай на вочы ў такі дзень п’янаму неэтычна для маёй тонкай паэтычнай натуры. Таму гадзінку падрэмлем і… айда з кветкамі да жонак.

Макарэвіча доўга ўгаворваць не прыйшлося. Ён ужо салодка спаў, палохаючы варон і мінакоў сваім устойлівым і крыху арытмічным храпам.

Прачнуліся мужчына адначасова. Быў дакладна такі ж змрок, як і перад сном. Здавалася, прайшло ўсяго хвілінка. Мужчыны падняліся і пасунуліся да прыпынку грамадскага

транспарту. Лявона насцярожвала толькі адно, што людзі, якія там стаялі, былі без кветак. „Хіба ўжо падарылі. А мы яшчэ толькі ідзем дахаты. Трэба спяшацца", — падумаў ён.

— Трэба спяшацца, — нібыта злапаўшы яго думку прастагнаў Макарэвіч. — А ў выходны транспарт ходзіць рэдка.

— Якія выходныя? — звярнуўся да іх нейкі мужчына з прыпынку, які хіба таксама кепска арыентаваўся ў прасторы і часе. — Што, зноў выходны?!

— Вось жа алкашня, — смеючыся адгукнуўся Лявон, аглядаючы ці ў парадку яго букет цюльпанаў. — Піць трэба менш. Сёння свята, восьмае сакавіка, міжнародны жаночы дзень! Хоць і вечар.

І тут нейкая жанчына сталага веку ціха падышла да яго і ледзьве не на вуха заявіла:

— Мужчына, сёння ўжо дзявятае сакавіка, а не восьмае. Раніца. Будні дзень. Восьмае скончылася яшчэ ўчора. А наконт таго, што піць трэба менш, я з вамі абсалютна згодная.

## *Помста Ката*

Казёл — жывёліна звычайная, хатняя і нічога ганебнага ў ім няма. Ну, казёл, нічым ён не горшы за быка, жарабца ці кныра. У некаторых народаў шанаванай жывёлай лічыцца. Сланяецца сабе ля вёскі, як прыблуда бяздомны, галінкі абʼядае, нікому благога не робіць і не жадае. А калі каго бадне, дык бяды вялікай у тым няма. Нідзе я не чуў, каб казлы сістэматычна і з апантанай мэтанакіраванасцю людзей калечылі. Пеўні часцей на двухногіх кармільцаў кідаюцца, асабліва калі дзеці дзеля забавы пакрышаць ім хлеба, самагонкай змочанага. І ніхто не наракае, бо брыдка чалавеку наракаць на жывёлу, ці на яе назву.

Але вось з казламі неяк не так атрымалася. Раней, хіба, такога не было, а вось апошнім часам пачалі людзі адзін другога казламі абзываць, укладаючы ў гэтую мянушку нейкі надзвычай абразлівы і нават адмыслова агідны сэнс. А тыя, каго абазвалі, вельмі злавацца пачалі, нібыта, як паздзекуюцца словамі „дурань", „лось", „лох" або трохпавярховым матам загнуць, паслаўшы туды, адкуль не вяртаюцца, гэта менш закранае гонар.

Антона Козела, па мянушцы „Казёл", якую яму далі з-за таго, што ён увесь час настойваў на тым, што яго прозвішча менавіта „Козел", а не „Казёл", вельмі насіла, калі хто, пахіхікаўшы, абзаве яго мянушкай сугучнай з прозвішчам, толькі націск зменіць з першага склада на апошні. Ён нават, як пацвярджэнне правільнасці стаўлення таго націску, пашпарт насіў з сабой, каб паказаць упісанае прозвішча. Людзей гэта

вельмі цешыла. Ну яны, дзеля забавы, і ўстройвалі з ім дыскусіі, кшталту: „А мая бабуся сцвярджае, што ў твайго дзеда ў пашпарце „Казёл" было напісана. Таму за яго і замуж не пайшла. Так што правільна: „Казёл". Гэта твой бацька прозвішча памяняў. На яшчэ горшае".

Людзі ў заходнебеларускіх вёсках любяць так душу пацешыць, як нехта нервуецца з пустога, не маючага значэння. А на Антона ўся радня наракала. „Дурань ты, — казалі, — а не казёл. З цябе таму і смяюцца, што ты злуешся. Ніхто ж табе не кажа з агідай „казёл". А нармальна гавораць „казёл". Проста без інтанацыі. Чаго тут нервавацца". Той быў неяк супакоіўся. Паразумнеў на час. Як чарговы раз Васіль Кот паддзыгнуў яго ў піўбары: „Казёл, пастаў піва", той нават аджартаваўся. „Ну, я — казёл. Але які? Усе козы мае. Хочаш і твае котачкі маімі стануць?".

Тут ужо людзі з Ката смяяцца сталі, бо той не без падстаў напалохаўся. Яго жонка з Козелам на адной ферме працавала. А Антона перасталі непакоіць. Толькі Кот злосць затаіў, трымаў як гадзюка атруту. Усё чакаў моманту, каб паквітацца. А тут яшчэ адна бяда навалілася нечакана, як пярун з яснага неба. Суседзі хату прадалі. А купіла тую хату нейкая перасяленка з Расеі. За агародам не даглядала, таму лебяда разраслася, палын. І ўсе тыя шкодныя насенні вецер на соткі Ката разносіў, штодзённа і задарма. Той палоць стаміўся. Хоць ты задушыся. Ды яшчэ суседава каза то вішні паабгрызае, то агуркі патопча. Думаў, канца гэтаму не будзе. Але тут нагода з'явілася адпомсціць і ёй ды яшчэ і Козелу.

Добрая ідэя ў галаву стрэліла акурат тады, калі тая перасялен-

ка аднекуль казу вяла дахаты. Васіль палоў свой агарод і адразу яе пазнаў, што называецца, па голасе. Як мясцовыя людзі жывёлу з поля гоняць, то чуваць: „А каб ты здохла! Куды ў чужы падворак лезеш! Каб цябе, зараза, завярнула! Хлява свайго не пазнаеш, падла!". А тая перасяленка сваёй казе казала: „Машанька, Машанька. Не ідзі к чужым. Там гразна. Прыйдзецца мыцца з мылам. Ідзі ка мне. Ідзі к сваёй мамачке".

Васіля мала не званітавала ад такога звароту да жывёлы, але прага помсты вымусіла яго адкласці інтэнсіўнае выкідванне ежы са страўніка да доўгачаканага моманту першай жа вялікай п'янкі і накіравацца да новай суседкі.

— Жывёла ладная ў цябе, суседка. Віншую.

— Да, козачка, — адказала тая замест „дзякуй".

— Гэта добра, — памахаў галавой Кот. — Толькі цяжка табе прыйдзецца, бо тваю казу даўно да казла не вадзілі. Хутка пачне шалець. Жывёлы — яны ж як людзі. Не хлебам адным жывуць.

— А где ж таво казла взяць? — занепакоілася суседка.

— Не перажывайся, — узрадаваўся Васіль, што ўсё ідзе як задумаў. — Ведаю я тут аднаго. Добры казёл. Найлепшы на працягу ўсёй шашы Ашмяны — Менск. А козе як любіць. Толькі падвозь. Не казёл, а аўтамат. Трэцяя хата злева з канца вуліцы. Толькі хутчэй казу туды цягні.

Жанчына, якая ў гэтай вёсцы яшчэ ні людзей, ні іх прозвішчаў не ведала, ніякага падвоху не западозрыла. Узяла казу і паплялася да трэцяй хаты злева.

— Мне казёл нада, — замест „Добры дзень” прывіталася яна з Антонам Козелам.

— Не Казёл, а Козел, — пачырванеўшы ад злосці, паправіў той.

— Какая разніца. Это, навернае, всюду па-разнаму называют. Вот у нас, в Расіі, гаварат „козёл”, — не зразумеўшы ў чым праблема ўцягнулася ў дыскусію перасяленка.

— Я магу пашпарт паказаць, каб ткнуць носам як правільна трэба гаварыць, — скрыгануў ад злосці зубамі, як жалезам па шкле, Козел.

— А ў вас што, казлам паспарта дают? — здзівілася жанчына.

— Чаго хочаш?! — зароў Антон, у якога ўжо на вуснах з'явілася густая пена, як у ашалеўшага ад чырвонай анучы быка.

— Казу нада пакрыць, — спалохана вылупіла вочы расіянка.

Але палохацца было ўжо позна. Козел, які ўсю размову ўспрыняў як здзек, хапіў аглоблю, і толькі ў апошні момант змог перанесці цяжар удару з галавы няшчаснай напалоханай жанчыны на аналагічную частку цела беднай жывёліны. Каза адкінула капыты адразу. Нават не паспела піснуць ні „бэ”, ні „мэ”. А праз колькі гадзін на падворку Антона ўжо стаяў участковы міліцыянер і стараўся нешта зразумець з рэзкіх і глыбокіх іканняў пацярпелай. Прыйшлося Козелу заплаціць грошы за казу. Але тое не бяда для яго. Найгорш, што людзі Антона зноў цкаваць сталі. „Вось, — кажуць, — казёл пайшоў, які коз забівае”. І не супакойваюцца. Кот пастараўся.

## *Пакуты творчасці*

Сымон заўсёды лічыў сябе чалавекам сціплым. Нават больш сціплым, чым свежанькі нябожчык з сям'і інтэлігентаў у сёмым калене. Мабыць, большасць людзей планеты з назвай Зямля таксама залічваюць сябе ў неверагодна кароткі спіс сціплых людзей, пры гэтым публічна сцвярджаючы, што яны валодаюць абодвума важнымі для чалавека якасцямі — вялікай сціпласцю і яшчэ большым розумам. Але тое не пра Сымона. Гэны яшчэ ў школе, нават калі добра ведаў адказ на зададзенае пытанне, ніколі не падымаў руку, каб не дай Бог не палічылі яго выскачкам і нахабнікам. Яго сціпласць ні хвіліны не драмала і пры неабходнасці, у змаганні з кволымі праявамі нахабства ў свайго гаспадара, клікала на дапамогу сумленне, сорам і ўсе іншыя праявы душы, якія лічыла сваімі хаўруснікамі. Сымон быў перакананы, што гэтая якасць яго натуры, з задаткамі якой ён нарадзіўся на сваю бяду і якую паспяхова памножылі і ўмацавалі сярэдняя школа, прыгодніцкія кнігі, а асабліва бацькі, бо лічылі сціпласць гэткай жа абавязковай рысай чалавека як дыплом пра вышэйшую адукацыю ці насоўка ў левай кішэні пінжака, у многім яму перашкаджае рэалізоўваць задумы і планы. І ўсядно мала калі адважваўся пахваліць сябе на людзях, нават калі гэта было неабходна для кар'еры. Але калі рэдактар яго першай кніжкі кінуў на стол перад носам Сымона дзясятак новенькіх экзэмпляраў, якія пахлі свежымі друкарскімі фарбамі, і на вокладцы якіх стаяла Сымонавы імя і прозвішча, нос сам палез угору вышэй столі, а цёмныя сілы сталі бесперашкодна

перапаўняць ужо безабароннае сэрца грахоўнай гордасцю за сябе любімага.

Сымон быў на сёмым небе ад шчасця і яшчэ вышэй, куды і ракеты не далятаюць. Нарэшце яму ёсць чым даказаць, у першую чаргу сабе самому, а яшчэ ў пяршэйшую чаргу чым першая паказаць іншым, што яго жыццё праходзіць не так ужо марна і бессэнсоўна як можа падацца недасведчанаму воку. Непрыяцелі і зламыснікі цяперака заткнуцца як труба пад вадой, а прыяцелі і добразычліўцы павар'яцеюць ад шчасця і гонару за свайго знаёмага. Асабліва хацелася пахваліцца перад роднымі і сябрамі, аж у носе круціла, як у сабакі пасля махоркі. Ён нават прадбачваў, як радня цэлы тыдзень стараецца дазваніцца яму, каб павіншаваць, але тэлефонная лінія безнадзейна занятая з-за перагрузак. Гэтак шмат людзей будуць дамагацца размовы з ім. А сябры і знаёмыя з гарэлкай ды добрай закускай выстраяцца ў калону перад яго канторай, як жабракі за хлебам, каб набыць хоць адну кнігу на пяцёх з неўміручым аўтографам знаёмага аўтара, які вось-вось неўзабаве стане жывым класікам айчыннай прозы, ну і яшчэ каб выпіць з тым класікам кілішак добрага шатландскага віскара за яго творчыя поспехі.

Ну а сям'я! Гэтая тэма вартая асабліва павышанай увагі. На этапе абдумвання моманту прэзентацыі кнігі перад сям'ёй сілы антысціплага лагера, якія яшчэ раней авалодалі сэрцам і розумам Сымона, акрамя ганарлівасці, пасяліўшы туды яшчэ пыху і самаўзвялічванне, пачалі дабірацца і да душы. У Сымона ажно спіна выпрасталася нібы дзіда, а круглы жывот уцягнуўся ўсярэдзіну і аж прыліп да пазваночніка ад уяўлення, якім урачыстым будзе з'яўленне вынікаў яго твор-

часці ў роднай хаце. Нарэшце яго жонка зразумее, што доўгімі вечарамі яе муж не займаецца, як яна думала дагэтуль, інтэнсіўным масавым паглынаннем піва ва ўсіх прыдарожных кнайпах, якія яму трапляюцца па дарозе з працы да хаты. Не губляе час на пустыя размовы з такімі ж п'яніцамі як сам. А рупліва і самааддана кладзе свае гадзіны і здароўе на ніву развіцця бессмяротнай беларускай літаратурнай творчасці, гэтак патрэбнай нашчадкам і асабліва сучаснікам. Цяпер яна будзе ганарыцца сваім абраннікам, і ніколі больш не асмеліцца спытацца: „Дзе ты, валацуга, зноў цягаўся да паўночы?". Бо зразумее, што яе муж кожную вольную ад зарабляння сродкаў хвілінку прысвячае яе вялікасці Творчасці, а не нейкім там прыземленым жывёльным жаданням выпіць усё піва роднага горада і прылягаючых да яго тэрыторый.

У гэтым месцы роздуму Сымонава сумленне пачало нашэптваць, што не ўсё так ёсць, як яму хочацца паказаць. Асабліва з тым півам і сябрамі. Жонка, маўляў, мае трошкі рацыі. Перабольшвае, канешне, як і ўсе жанчыны, але ж не на пустым месцы. І нейкі мізэрны шанс быць пачутым і пастарацца перамагчы самаўзвялічванне сумленне мела. Але вокладка кніжкі! Вокладка, на якой стаяла імя і прозвішча Сымона! Такое кожнаму мазгі завярнуць можа. Лепш не размаўляць з сумленнем нейкі час, а то нагаворыць пра цябе яшчэ чаго, сон прапасці можа. Лепш памарыць як прывітаюць пісьменніка дзеці.

А што дзеці? Дзеці яшчэ больш заганарацца бацькам, чым жонка мужам. Яны будуць хваліцца перад аднакласнікамі і цытаваць фразы з яго твора. Стануць яшчэ больш шана-

ваць і паважаць Сымона. Аўтарытэт бацькі ў іх вачах падымецца да недасягальнасці і нават вырасшы яны будуць звяртацца да яго за парадамі як да мудрага чалавека, які ведаў, што яму трэба было рабіць у жыцці. Яны, хаця б яны, ягоныя дзеці, паставяць для сябе імя бацькі побач з Купалам, Коласам, Караткевічам, Адамовічам, Быкавым...

З гэтымі салодкімі роздумамі і бачаннямі бліжэйшай і далейшай будучынь таксі прывезла самазадаволенага аўтара пад пад'езд яго дома. „Шкада, што зараз ноч, — падумаў Сымон. — Усе спяць. Нічога. Дзеля такой важнай падзеі падымуцца".

Ён важнай хадой увайшоў у хату і ільвіным рыкам разбудзіў сям'ю:

— Пад'ём! Хуценька ўсе да мяне. Важная навіна.

Сонныя дзеці і жонка незадаволена падпарадкаваліся загаду. Але па іх тварах было бачна, што калі навіна будзе не такая ўжо важная, то з іх боку на вінаватага ў парушэнні сну не выключана атака з прымяненнем зубоў і кіпцюроў.

— Вось, калі ласка, мае кнігі, — з бліскучымі ад гонару вачамі прадэклараваў Сымон, сунуўшы кожнаму з сонных слухачоў па экземпляры. — Прама зараз налягаць на чытанне неабавязкова. Не спяшайцеся. Лепей дачакацца раніцы. На свежыя мазгі будзе лепш чытацца.

Жонка зяўнула, паглядзела на кнігу і паставіла яе на паліцу ля кута, там дзе звычайна стаяць кніжкі, якія або маюць кепскі выгляд, або якіх ніхто не збіраецца чытаць. Пасля салодка пацягнулася і, ні слова не сказаўшы, накіравалася ў спальню.

— Бацька, ты здурнеў, ці што? — вяла прабубнелі дзеці, таксама сунучыся да ложка. — Заўтра ў школу, а ты пабудзіў усіх сярод ночы. Ты ведаеш, якая цяжкая цяпер школьная праграма? Нам бы тое, што ў школе патрабуюць, здужаць. А кніжку гэтую нам у школе не задавалі. Няма калі нам на абы-што губляць час. Мы яшчэ па школьнай праграме „Людзі на балоце” не дачыталі.

## *Хрэсьбіны*

Казік вельмі хацеў сына. Аж яму муляла. Аж пякло ўсярэдзіне. Хадзіў і мроіў, як са сваім непаўналетнім нашчадкам будуць разам усюды і заўсёды. І навучыць ён яго ўсяму, што сам умее. І чарку разам вып'юць, і калгасныя буракі разам будуць красці, і на самагонцы падзаробяць. Не жыццё будзе, а рай. Але яго жонка, можа каб адпомсціць за дзесяцігадовую нянавісць да яе з боку мужа, а можа проста не ўмела па-іншаму, чаго тут кабету вінаваціць, за дзесяць год узаемных папрокаў і сумесных пакут пад дахам адной хаты падарыла яму толькі чатырох крыклівых смаркатых дачок, якія, як назло, нараджаліся падобнымі не на самую прыгожую, нават па мерках іхнай вёскі, маму. Таму, калі пасля такіх доўгіх надзей і спадзяванняў на з'яўленне прадаўжальніка прозвішча, у ашмянскім раддоме нарэшце запішчала немаўля з усімі прыбамбасамі, якія ўпэўнена паказвалі на кардынальныя фізіялагічныя адрозненні ад яго чатырох старэйшых сястрычак. Казік, на радасцях, вырашыў здзівіць размахам гулянкі ўвесь Ашмянскі раён і яшчэ мяжуючыя з ім іншыя раёны ды вобласці, і нават тэрыторыі, якія ляжаць блізка ад тых абласцей. Калі акрэсліць больш дакладна з геаграфічнага пункту гледжання, то гэта ўся заходняя Беларусь і мяжуючыя з ёй замежныя краіны.

Нагодай для такога балю сталі хрэсьбіны пятага па ліку дзіцяці ў Казікавай хаце. Шчаслівы бацька аж пішчаў ад радасці як дзве п'яныя кумы, якія толькі што ўбачыліся пасля ўчарашняга. Мала порткі на змачыў ад шчасця. З тае вялікае

падзеі запрасіў на баль усіх сваякоў і суседзяў, а таксама суседзяў сваякоў і нават сваякоў суседзяў. І прасіў, каб і тыя папярэдзілі ўсіх сваіх знаёмых ды чужакоў, і яшчэ ўсіх, каго сустрэнуць, што ёсць мажлівасць так пагуляць, што толькі вушы будуць закручвацца. Нават у тых, хто не прыйдзе. Запрошаных было столькі, што ў пераліку на колькасць рэальна існуючых на гэтым свеце людзей, гэта лічба амаль што супадала з колькасцю насельніцтва на той тэрыторыі, якая з геаграфічнага пункту гледжання ахапляла ўсё тую ж заходнюю Беларусь і мяжуючыя з ёй краіны.

Ды і адгукнулася на запрашэнне не мала. Хоць Гальшаны, дзе жыў Казік, мястэчка вялікае, а ўсё ж былі сумненні, ці ўсе прыехаўшыя памесцяцца. І калі толькі невялікая частка гэтай працэсіі рушыла да касцёла, каб папрысутнічаць пры хрышчэнні адзінага цвярозага сярод іх чалавека, то здавалася, што ў Гальшаны з'ехаліся пілігрымы ўсяго свету. Ажно ксёндз напачатку напалохаўся. Але пасля, разабраўшыся, што гэта ўсе да яго прыйшлі, вырашыў выкарыстаць такі масавы збор людзей для іхнага ж навучання.

На ашмянскай зямлі людзі змешаныя па рэлігійнай прыкмеце, як беспародныя сабакі па генатыпе. Хіба няма радні, каб там не было і праваслаўных, і католікаў. І хоць Казік быў католік, сярод запрошаных на хрэсьбіны праваслаўных ці не была большасць. Таму ксёндз вырашыў паказаць усім прысутным, што каталіцкі касцёл больш патрабавальны да сваіх прыхаджан. З паўгадзіны наракаў на нечалавечы (так хіба ён ахарактарызаваў добра падвыпіты) стан удзельнікаў такога важнага мерапрыемства, а пасля звярнуўся да Казіка:

— Ці браў ты з жонкай шлюб?

Твар шчаслівага бацькі расплыўся ў такой радаснай усмешцы, нібыта жонка толькі што нарадзіла яму яшчэ аднаго сына.

— Ксёндз хіба сёння зранку глынуў лішку, а мо самагонка была замоцная, — памахаўшы пальцам перад носам святара, чапляючыся языком за зубы, іранічна прабубнеў ён. — Ксёндз усё наблытаў. Мы прыйшлі не шлюб браць, а дзіця хрысціць.

— А я не пахрышчу, пакуль шлюб не возьмеце, — упэўнена адрэзаў ксёндз. — І так колькі гадоў у граху з жонкай жывеш.

— Як гэта не пахрысціш!? — вочы няшчаснага бацькі напоўніліся жахам. — Як жа так?! Мой сын — і няхрышчаны?! Што ты пляцеш! Ды і пра жонку... А з кім тады жыць у граху дазваляецца, як не з жонкай? Дзяцей з некім жа трэба рабіць!

— Толькі пасля ўзяцця шлюбу. Хочаш, бяры шлюб, і тады пяройдзем да хрысцін, а як не, то не пахрышчу.

Казік у роспачы выскачыў на вуліцу.

— Людзі, што рабіць? — прастагнаў ён. — Ксёндз дзіця хрысціць не хоча!

— Ну?! Быць не можа! А што гэта яго перакленіла? — пачалі пытацца людзі адзін у другога. — Працаваць не хоча. Гэта ж яго работа!

— Заплаціць трэба было, — параіў нейкі падпіты голас.

— Плачу колькі скажа, усядно не хоча.

— То пайшлі тады да папа, у праваслаўную царкву. Можа ён пахрысціць, — нечакана нават для сябе самой гучна прапанавала хросная, якая была праваслаўнага веравызнання, і ў гэты дзень, акрамя як выконваць ганаровыя абавязкі хроснай маці, па сумяшчальніцтве яшчэ і памагала накрываць сталы. — Не трымаць жа людзей на вуліцы. Ежа астыне. Гарэлка пракісне.

— І то праўда, — узрадваўся Казік. Апошні аргумент быў найбольш пераканаўчы. — Бог то адзін. Разварачваемся ўсе і да царквы.

Бацюшку хтосьці папярэдзіў, што з'явілася мажлівасць папоўніць праваслаўны прыход. Той і рады. Ён, хутка апрануўшы патрэбнае аблачэнне, ужо чакаў шматкалькасную працэсію. Усё было гатова для хрышчэння і праз нейкі час з царквы вынеслі ўжо ахрышчанага Пятра. Вось тут і пачаўся сапраўдны баль. Толькі Казікава жонка паспрабавала трошкі яго сапсаваць, але, пачуўшы аргументы мужа, хіба што першы раз у жыцці пагадзілася.

— Казік, — пачала яна. — Можа не правільна зрабілі. Усе дзеці нашы каталікі.

— Бог адзін, — адказвае муж і падлівае гасцям. — Піце, даражэнькія, за Пятра. І каб ніхто на сваіх нагах з-за стала ўстаць не мог.

— А каб бацюшка адмовіўся? — не здаецца жонка. — Прыйшлося б шлюб браць? Ці не лепш было адразу ўзяць ды людзей не смяшыць? А то ты гарэлкі набраўся, як жаба гразі, і ні халеры думаць не хочаш.

— Ды адчапіся ты, дурная баба, са сваім шлюбам. Адмовіўся б хрысціць і поп, то павёз бы ў мячэць мусульманскую ў Іўе. Ці ў сінагогу на абразанне, — адсек Казік. — Не маглі ж мы дзіця пакінуць без прадстаўлення Богу толькі з тае прычыны, што нам трапляюцца святары бесталковыя.

## *Хатняя закуска*

Радасці не было межаў. Нарэшце збылося! Доўгачаканы дзень навуковай экспедыцыі надышоў. Музейнікі атрымлівалі сутачныя грошы і як шалёныя кулі нesліся ў крамы, распіхваючы кволымі інтэлігентнымі плячамі мужны і моцны савецкі рабочы клас, які з раніцы ўжо стаяў у доўгіх чэргах, спадзеючыся набыць трохі закускі да ўсяго таго, што да тае закускі належала. Навукоўцам у гэты дзень не было калі інтэлігентнічаць з іншымі прадстаўнікамі „квітнеючага" сацыялістычнага грамадства, бо на зборы заставалася менш сутак. Заўтра яны выязджаюць збіраць па зарослых лебядой і лопухам старых знікаючых вёсках народны фальклор, старыя збаны, старыя кросны, старыя свяцільнікі і ўсю іншую старызну, акрамя дажываючых там старых людзей, бабулек і дзядкоў, якія, у адрозненні ад іх старадаўніх прылад працы, нікога не цікавілі і нікому не былі патрэбныя. Хіба што, можа, трохі былі патрэбны мясцоваму папу, які толькі на іх паховінах і мог паправіць сваё матэрыяльнае становішча, якое ўжо семдзесят год было адлучана бальшавікамі ад дзяржавы.

У культурных работнікаў даходы не былі адлучаныя ад дзяржавы, але пражыць на іх маглі толькі тыя, хто перыядычна пераходзіў харчавацца на падножны корм і планктон. Таму, калі раптам з'яўляліся грошы, яны адразу ляцелі ў сталовую. Але ў гэты дзень, у адрозненні ад іншых пакупнікоў, музейнікі набывалі толькі гарэлку, чым да сардэчнага прыступу здзіўлялі нават самых кончаных алкаголікаў. Тыя,

хоць адзін плаўлены сырок на траіх, дзеля выгляду, што будуць закусваць, бралі. Ці хоць адну цукерку набывалі, каб з выгукам „э-э-эх!" занюхаць перакуленую прама ў горла шклянку саракаградуснай вадкасці. А навукоўцы шпурлялі ўсе атрыманыя на камандзіроўку грошы пад нос прадаўшчыцы і рашуча адразалі: „Гарэлкі на ўсе". І хоць гарэлка тады прадавалася толькі ў абмежаванай колькасці і выключна па адмысловых талонах, прадаўшчыца чамусьці задавальняла патрабаванні навуковых супрацоўнікаў, як бы тым самым падкрэсліваючы і сваю ўскосную прыналежнасць і неўміручую прагу да культуры і навукі.

— Ну вось, гарэлкай затарыліся, — нясмелым голасам прапішчаў Сяргей, які толькі нядаўна ўладкаваўся на музейную працу і не падазраваў пра глыбінныя традыцыі правядзення навуковых экспедыцый па маляўнічых абшарах шчодрай Радзімы. — А грошы ўсе спусцілі, што нам выдалі на ўвесь тэрмін. На цэлы тыдзень. За што мы цяпер будзем харчавацца, за якія шышы гатэль возьмем?

— Ты слухай старэйшых і не енчы як шчанё, якому карова на вуха наступіла, — перабіў яго ўсцешаны хуткімі закупкамі Андрэй. — Мы куды едзем? Правільна, у экспедыцыю. На вё-ёску. Сячэш? Няўжо на вёсцы не знойдзем дзе пераначаваць? Ага! Бачу да цябе пачало даходзіць як да жырафа анекдот. Галоўнае ў навуковай экспедыцыі што? Тлумачу — га-рэл-ка! І чым больш яе — тым лепш. З гэтай крыштальнай цуда-вадкасцю не прападзеш. І тое праверана безліччу нашых экспедыцый і прымаецца як аксіёма. З гарэлкай цябе кожны на начлег возьме і маліць будзе, каб не сходзіў. Са скрынкай гарэлкі самага сквапнага раскруціш. А якую ежу паставяць на стол! Вяско-

вую! Хатнюю! Ты такой не еў з таго часу, як у тваім пашпарце ў графе прапіска словы „вёска Старыя Баруны” замяніліся на „горад Гродна”. Тут табе і каўбасы пальцам піханыя, і паляндвічка, і сала з цыбулькай ды часначком, і памідоркі. Дзе ты так яшчэ паясі? Ад гатэльнай ежы толькі гастрыт заробіш. А тут, і ежа смачная, і паспіш на духмяным сене, і ставіцца да цябе будуць як да кармільца і паільца. І што таксама не малаважна, гарэлка і для свайго ўжытку рэч не апошняя (у гэтым месцы аповеду расказчык мала не захлынуўся слінай). Памятаю, як адзін селянін, як мы гарэлку дасталі, пакуль адкаркавалі, ужо барана зарэзаў. Дык вось, запамінай там усё, што бачыш і рабі так як мы, старэйшыя. А то з цябе добры навуковец не атрымаецца, гэтак як з сабачага хваста сіта.

Сяргею нічога не заставалася, як паверыць мудрасці і вопыт старэйшага калегі. Тым больш, што вобразна намаляваны Андрэем вясковы стол з хатняй ежай пачаў маладому навукоўцу мроіцца яшчэ да таго, як той закончыў расказваць пра тыя прысмакі. Сапраўды, Сяргей не цешыў падобнымі стравамі сваё пуза ажно з тае пары, як дабіты па ўсіх параметрах аўтобус абдаў дымам яго родную вёску і назаўсёды вывез яго ў абласны цэнтр, каб ён, вясковы чалавек, атрымліваў нейкія камандзіровачныя грошы і арганізоўваў экспедыцыі па зборы старых вясковых збаноў, якія ягоная маці некалі выкідвала як непатрэбшчыну, набываючы ўзамен стандартныя шкляныя слоікі і завадскія эмаляваныя вёдры.

Назаўтра, наглытаўшыся вясковага пылу і наперапісваўшы песень ды баек, навукоўцы сталі прыглядацца, дзе б ім пераначаваць. Тым больш, што страўнікі ўжо даўно нагадвалі пра жаданне пасмакаваць той расхваленай вясковай ежы. На пы-

танне, дзе тут жыве адзінокі дзед, які нядаўна закалоў свінню, вяскоўцы неяк незразумела паўсміхаліся ў вусы і параілі звярнуцца да дзеда Антося. Але папярэдзілі (відаць людзі чэсныя), што надта скупы той Антось. Галодныя гарадскія госці неяк неабдумана не звярнулі ўвагі на іх папярэджанні і з хуткасцю ката, які разбіў слоік смятаны, кінуліся шукаць таго дзеда.

На пытанне, ці можна пераначаваць, Антось загнуў такі трохпавярховы мат, і так далёка паслаў няпрошаных гасцей, што Сяргей адразу стаў перакананы, што застанецца і без начлегу, і без вячэры. Ён ужо бачыў, як будзе змушаны піць ненавісную гарэлку, не закусваючы, недзе ў полі, без даху над галавой і без надзеі на паляпшэнне жыллёвых умоў. Але як Андрэй памахаў сеткай з гарэлкай перад носам дзеда, у таго сківіца мала да каленяў не адвісла.

— Заходзьце, госцікі дарагія, — расплыўся яго твар. — Начуйце, хоць да смерці.

Госці ўвайшлі ў хату. У нос даў пах свежасмажаных скварак. Над печкай віселі нядаўна зробленыя каўбасы. З паветкі прабіваўся пах кумпяка і паляндвіцы. А з драўлянай скрыні ўсміхалася толькі што спарадкаванае сала.

— Ну, дзед, бачу, мы ў цябе не прападзём, — на ўсю шырыню твару ўсміхнуўся Андрэй і паставіў на стол гарэлку.

— Ага-ага, — пагадзіўся дзед і паставіў некалькі дзвесцеграмовых шклянак.

Гарэлку дзед глынуў першы. Хлопцы дзеля прыстойнасці крыху памачылі вусны. На стале з прадметаў харчавання нічога яшчэ не было.

— Не блага было б і закусіць, — падміргнуў дзеду Андрэй.

Гэта трэба было бачыць. Стары змяніўся на твары, як мяняецца краявід пасля моцнага землятрусу. Здавалася, ён счарнеў мацней, чым яго гумовыя боты. Скрыгануўшы зубамі, Антось зняў каўбасы і занёс іх у склеп. Тое самае зрабіў з салам і іншымі прадуктамі, а склеп замкнуў на ключ. Пасля ўзяў талерку, схадзіў у агарод, вырваў два агуркі і паставіў на стол.

— Ешце, дзеткі, мне не шкода, — працадзіў ён праз зубы, наліваючы з бутэлькі ў сваю шклянку. — Усё ешце. І агуркі таксама ешце.

## *Недарэчнасці статыстыкі*

У Гарадзенскай вобласці, паводле папярэдніх дадзеных перапісу 1999 года, налічвалася 1 166 958 чалавек, якіх з лёгкай рукі перапісчыкаў сталі называць насельніцтвам. Скрупулёзныя аж да зубнога болю статысты гэтую надзвычай сухую лічбу ўмудрыліся падзяліць яшчэ на дзве, якія таксама не выдзяляюцца сакавітасцю і паэтычнасцю: 545 032 — колькасць моцнай паловы жыхароў, і 621 926 — наканаваны Небам лёс той моцнай паловы. Але я з упэўненасцю, памножанай на квадрат, бяруся разбіць ушчэнт гэтае сцвярджэнне шэрых слуг занудлівых лічбаў, якія ў свае, нібыта беспамылковыя, разлікі вераць больш, чым каталікі ў беспамылковасць рымскага папы.

Дарэчы, мае словы можа пацвердзіць Яўген Сініцкі. Тагачасны біч усіх студэнтаў-выпускнікоў, імя якога „Размеркаванне", накіраваў Яўгена адразу пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Ашмянскі раён у якасці маладога спецыяліста шырокага профілю. Што азначае той шырокі профіль, ні Сініцкі, ні хто іншы не ведаў. Хіба таму Яўгенаў начальнік, які не мог ніяк вырашыць, чым гэта павінны займацца маладыя спецыялісты, надзяліў таго правамі перапісчыка і паслаў занатоўваць прозвішчы і імёны жыхароў маленечкай вёсачкі Вялікія Равы. Акурат тады праходзіў перапіс насельніцтва.

Сініцкі паставіўся да першага прызначэння з поўнай адказнасцю, чым не на жарт здзівіў сваіх калег. Тыя, убачыўшы

яго імпэт, пачыналі пераглядвацца і круціць указальнымі пальцамі ля скроняў. Ды Яўген стараўся не звяртаць на іх увагі. У дзень перапісу ён апрануўся як франт ва ўсё новенькае і накіраваўся аўтастопам да месца прызначэння. Але толькі ён саскочыў з грузавіка, як адразу патрапіў абодвума новенькімі сандалямі ў неверагодна вялікі, нібыта адмыслова для яго падстаўлены, каровін блін, заляпаўшы аж да дзяжкі свае белыя порткі. Хлопец менш балюча ўспрыняў бы гэтую недарэчнасць, калі б не звонкі смех маладзенькай дзяўчыны, гадоў дзевятнаццаці, якая, як на зло, у гэты момант намагалася праводзіць тую карову.

— Дзе тут можна памыцца? — запытаў збянтэжаны юнак, і, глянуўшы ў вочы дзяўчыны, аслупянеў. Якія гэта былі вочы! У сталіцы такіх ужо даўно не знайсці. Вось толькі тут, на перыферыі, так бы мовіць, на канцы свету, у глухой дрымучай правінцыі і можна нарвацца на нешта такое... Шчырае, чыстае... Шкада толькі, што ныраць у тыя вочы сваім позіркам прыходзілася стоячы ў сярэдзіне каровінага круга.

— У нашай хаце зможаце пачысціцца. Тут недалёка. Больш у вёсцы ўжо ніхто не жыве. Бесперспектыўная, кажуць, — перастала рагатаць дзяўчына, яўна зацікавіўшыся патаемным сэнсам позірку маладога хлопца.

А той, нясмела пакінуўшы свой аэрадром, паспяшаўся хутчэй схаваць свае смярдзючыя сандалі падалей ад насмешак юначкі. Праўда, паабяцаў сабе вярнуцца да пачатай размовы адразу як пераабуецца. І слова датрымаў.

Яшчэ абмываючыся ля плыткай студні Вялікіх Равоў, Сініцкі, выконваючы абавязкі перапісчыка, разведаў у гаспада-

ра як завуць яго дачку. Той быў добра пад шафэ, але змог, чапляючыся языком за зубы, адказаць на гэтае простае для кожнага бацькі пытанне. І роўна праз тры дні і дваццаць чатыры хвіліны, юны правобраз маладога спецыяліста, часова выконваючага абавязкі перапісчыка, у гумовых ботах і портках цёмнага колеру стаяў як штык ля ганка адзінай жылой хаты Вялікіх Равоў і патрабаваў паклікаць яму Валю. Адзінае, што адрознівала яго ад сапраўднага калгасніка, гэта купленыя ў раённым цэнтры кветкі, гваздзікі, якія на фоне вясковых вяргінь і гладыёлусаў, што буялі тут паўсюдна, глядзеліся як падыхаючае з голаду худое кацянё на фоне сытых бліскучаскурых тыграў.

Гаспадар быў у дакладна такім стане як і мінулы раз і гэтак жа, чапляючыся языком за тое самае, што і тады, з цяжкасцю прастагнаў:

— Табе якую Валю?

— Як якую? — збянтэжыўся нядаўні студэнт-выдатнік, якому хіба ўпершыню задалі такое закручанае пытанне, на якое той не змог бы адказаць нават карыстаючыся шпаргалкамі. — Вядома ж якую! Дачку вашу.

— Ведаю, што дачку! Але якую? — пачаў нервавацца бацька тых глыбокіх выразных вачэй, якіх у сталіцы ўжо даўно не знайсці днём з агнём і вось толькі тут, на правінцыі... Ну ды Бог з імі, тымі вачамі. Не пра іх зараз.

— Што значыць якую? — юнак пачаў лыпаць вачамі. — Я ж кажу, Валю.

— А-ах, — махнуў рукой гаспадар, нібыта канчаткова расча-

раваны інтэлектам прэтэндэнта ў будучыя зяці, і выгукнуў усёй моцай сваіх грудзей, — Валі, дочачкі, ідзіце сюды абедзве. Тут да нейкай з вас прыйшоў пустагаловы хлопец.

З хаты выйшлі дзве дзяўчыны. Адна, кінуўшы на Яўгена зняважлівы позірк, вярнулася назад. А другая, з тымі вачамі, якіх у сталіцы... Тая падляцела да Яўгена, і, з ласкавай усмешкай, прывіталася.

Яўген працягнуў ёй кветкі (відовішча, ад якога яе бацька, з агідай плюнуўшы, адвярнуўся), і нясмела, ужо разумеючы, што не змог выканаць абавязкі перапісчыка нават у маленькай вёсцы, дзе людзі жывуць толькі ў адной хаце, спытаў:

— Вы родныя сёстры і абедзве Валі? Як так атрымалася? А я пытаў у твайго бацькі, для анкеты, хто з ім яшчэ жыве. Ён два разы сказаў, што дачка Валя. А я толькі раз запісаў. Думаў, ён п’яны так загаварваецца.

— Не, не загаварваецца, — спакойна адказала дзяўчына, хіба што даўно прывычная да такіх пытанняў і адразу растлумачыла: — Як мая сястра нарадзілася, яе назвалі Валя. Пасля я нарадзілася праз тры гады. А бацька яшчэ першай дачкі не перастаў замочваць. Так і паслала мая маці яго, п’янага, зарэгістраваць мяне ў сельсавеце. А там кажуць: „Але ж і п’яны бацька прыйшоў! Ці хоць памятаеш імя дачкі?”. Бацька пытае: „Маёй дачкі?”. Там пагаджаюцца: „Тваёй”. „Канечне, памятаю, — сцвярджае бацька. — Імя маёй дачкі — Валя”. Вось так мяне Валяй і назвалі, як і маю сястру.

— А чаму ж не выправілі памылку пазней? — збянтэжана запытаў няўдалы перапісчык, які зараз зразумеў, што зблытаў

усім статыстам лічбу жанчын у вобласці, і, адпаведна, агульную колькасць усяго, так званага, насельніцтва.

— Што ты ўсё выведваеш, — засмяялася дзяўчына. — Пайшлі лепш на рэчку. А не сталі мяняць імя таму, што бацька наступныя тры гады замочваў маё з'яўленне на белы свет. І мама баялася, што як пашле яго ў сельсавет, то ён з дуру мяне возьме і назаве якім Іванам ці Арыстархам. Лепш, вырашыла, хай дзве Валі будуць.

## *Беларускі бегемот*

Першыя два-тры дні даследчай экспедыцыі, звязанай з вывучэннем мінуўшчыны беларускай правінцыі, звычайна не абыходзяцца без праверкі асаблівасцей смаку і псіхалагічных уздзеянняў мясцовай самагонкі на мазгі і светапогляд людзей, якія прэтэндуюць на званне навуковай эліты нацыі. Чарговая экспедыцыя, арганізаваная ў канцы васьмідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя міністэрствам культуры БССР, ад самога пачатку не збіралася парушаць даўнейшых традыцый беларускіх навукоўцаў. Таму, калі на трэці дзень цяжкіх навуковых даследаванняў і смелых эксперыментаў малодшы навуковы супрацоўнік Віктар Самчук абудзіўся ў дзіравым намёце ад невыноснага галаўнога болю, то гэты факт ён расцаніў з традыцыйным для навукоўцаў філасофскім падыходам, прыняўшы яго як пабочныя, але неабходныя ўздзеянні сваёй прафесіі на неакрэплы малады арганізм.

Фізічны стан Валодзі Касілы, яшчэ адной жывой істоты ў гэтым намёце, ні кроплі не адрозніваўся ад Віктаравага, з той толькі розніцай, што Касіла яшчэ спаў, і з тае прычыны не ведаў, што яго галава таксама развальваецца ад болю на дзве сіметрычныя часткі.

„Спіць як пшаніцу прадаўшы, — нечакана для сябе самога зноў набыў здольнасць разважаць Віктар, хоць кожная заляцеўшая ў галаву думка патройвала і без таго звышбязлітасны боль. — Пайду да ракі. Скокну ў ваду. Можа ад гэтага палягчэе".

Ён выпаўз на чатырох канечнасцях на Божы свет і стаў прыпамінаць учарашнія прыгоды. Вясёлы жартаўлівы дзядок,

у якога носьбіты навукі куплялі самагонку, папярэджваў, што тая зараза вельмі моцная. Градусаў так пад сто сем — сто дзесяць. Як нальеш у шклянку, то адразу трэба піць. А то сама загарыцца ад доўгага сутыкнення з кіслародам. Вечарам з таго жарту было вельмі смешна. А зранку... „Лепш бы яна сапраўды згарэла ўчора! — падумаў Віктар, зразумеўшы, што кароткая летняя ноч не выветрыла з галавы ўчарашняй выпіўкі і пастараўся стаць па-чалавечы. На дзве нагі. І прабубнеў: — Цікава, ці выжылі астатнія?".

Самчук, хістаючыся як перажраўшы кныр, кінуў затуманеным вокам на іншыя намёты і не змог знайсці адказу на сваё пытанне. Ніякіх прыкмет жыцця адтуль ніхто не падаваў. Аднак і пра смяротныя выпадкі таксама ніхто не дакладваў. „Гары яно ўсё сінім агнём, — буркнуў ён сабе пад нос і пасунуўся ў бок ракі. — Навучыліся ж такую самагонку рабіць! Мацнейшая за спірт! А што тут дзіўнага. Вякамі гналі. Вось і адшліфавалі майстэрства".

Праз некалькі хвілін вузенькая сцяжынка прывяла навукоўца з перакошаным, як у дэбіла, тварам да левага берага невялічкай рачулкі. Самчук асцярожна, каб не паваліцца, прысеў да вады. І тут валасы яго падняліся дыбам, як у самцоў шакалаў, якія б'юцца паміж сабой у перыяд спарвання. Вочы прынялі форму дакладна правільных кругоў, павялічыліся ў тры разы і мала не выкаціліся з чэрапа, які ад убачанага імгнення перастаў балець. Пасярод ракі, ні трошкі не звяртаючы ўвагі на вышэйшае стварэнне эвалюцыі, спакойна стаяў бегемот.

Вышэйшае ж стварэнне эвалюцыі гопнулася мяккай часткай свайго цела на зямлю і ліхаманкава пачало рабіць спро-

бы асэнсаваць сітуацыю. „Так! Я бачу бегемота! Але ж гэта немагчыма! — стаў панічна разважаць Самчук. — Бегемота ўбачыць не так проста. Гэта выміраючая жывёла. І жыве яна ў Афрыцы. Там, каб яе знайсці, афрыканскія навукоўцы цэлыя экспедыцыі ладзяць. А я беларускі навуковец! І экспедыцыя наша ў Менскай вобласці, самым цэнтры Беларусі! Скуль тут могуць узяцца бегемоты! Значыць, гэта не бегемот! Гэта здань, прывід, глюк ад перапітага!".

Віктар пастараўся разагнаць здань. Ён перакрыжаваўся, памахаў рукой у паветры, але бегемот не прапаў. Няшчасны навуковец пачаў плакаць: „Божа мой! Я ж яшчэ малады, а мне ўжо прывіды ад гарэлкі мрояцца. Я хіба хворы на белую гарачку! Я алкаголік! Гэта ж не лечыцца. Трэба скарэй ісці спаць, пакуль у раку чэрці не прыйшлі купацца. Галоўнае, каб ніхто не даведаўся, а то з работы папруць".

Ён ціхенька вярнуўся ў намёт і накрыўся з галавой. Але разбудзіў пры гэтым Валодзю Касілу, які адразу ж як пралупіў вочы даведаўся, што ў яго цэлую ноч балела галава ад колькасці выпітага. Касіла на каленях пачаў выпаўзаць з намёта.

— Башка трашчыць. Пайду да ракі, памыюся, — паведаміў ён свайму калегу.

— Ага, — дрыжачым голасам адказаў той і яшчэ мацней заплакаў у коўдру, шкадуючы свой малады, загублены алкаголем лёс. Але праз некалькі хвілін плач прыйшлося перарваць.

— Бегемот! — закрычаў прыляцеўшы з ракі Касіла. — Ідзі паглядзі! У рацэ купаецца бегемот!

— А такія рагатыя з хвастамі і капытамі там не купаюцца? — збіў яго імпэт Самчук. — Ты чаго равеш? Зараз дырэктара пабудзіш. Вось яму будзе цікава даведацца, што ты ўжо настолькі сеў на шклянку, што пасярод Беларусі бегемотаў стаў заўважаць.

— Ідры маю панчоху, — збялеў Касіла. — І праўда! Скуль жа тут возьмецца бегемот? Гэта што, мне прыглючылася? О Божа! Я ж яшчэ малады! Што рабіць?

— Рабі што і я, — параіў Віктар. — Я як бегемота ўбачыў, адразу вырашыў: трэба праспацца. Гэта адзіны лек.

— Пачакай, — зморшчыў лоб Валодзя. — Значыць, ты таксама бегемота бачыў. Але ж ці можа такое быць, каб адзін і той жа прывід бачыўся розным людзям?

— А гарэлку мы аднолькавую пілі, — з навуковым падыходам разбіў аргументы Уладзіміра Віктар. — Вось і мроіцца тое самае.

Касіла на хвілінку задумаўся, а пасля ў знак згоды кіўнуў галавой і накрыўся коўдрай. Абодва навукоўцы глыбока і цяжка ўздыхнулі. Збіраліся заснуць, але ў намёт уварваўся дырэктар экспедыцыі.

— Эх, алканаўты, спіце! — закрычаў ён. — Так усё цікавае праспіце. Ідзіце лепш да ракі. Там бегемот.

— Бегемот?! — у адзін голас і так моцна зараўлі хлопцы, куляй ускочыўшы на ногі, што кіраўнік экспедыцыі параўнаў іх крык з ровам дыназаўраў, параненых разрыўнымі кулямі і доўгай чаргой з кулямёта „Максім". — Адкуль на Беларусі бегемоты?!

— Як адкуль? — дырэктар спалохана адсунуўся ад сваіх падначаленых. — Я ж вам яшчэ ўчора казаў, ды вы так набраліся гарэлкі, як свіння бруду, што хіба не чулі. Чэшскі цырк начаваў на тым беразе ракі. У іх там бегемот ёсць. Зараз яго цыркачы на раку мыць прывялі. А вы чаго такія напалоханыя? Што здарылася? Няўжо бегемотаў баіцеся? Не бойцеся. Той бегемот прыручаны і цалкам бяспечны.

## *Палескае вяселле*

Пасля таго як паштальёнка прынесла Яхімовічам запрашэнні на вяселле іх сваячкі, уся радня толькі тым і займалася, што плявалася ды брудна абгаворвала Верку, матку той маладзенькай дзявухі, якой ужо так замуж прыспічыла, што надумалася жаніцца летам, калі столькі працы, хоць задушыся. Па-ўсялякаму лаяліся. І дурной абзывалі, і плячамі пацiскалі, каб падкрэсліць нечалавечнасць яе неабдуманага ўчынку. Ды кожны ведаў, што сутнасць такога перапалоху палягае толькі на тым, што Яхімовічы не змогуць пацешыцца гэнай вялікай падзеяй з тае прычыны, што свята будзе вельмі далёка. Далёка ад Ашмяншчыны, дзе яны жывуць. Недзе аж на Палессі, ля самога Брэста. Столькі клопатаў, каб туды дабрацца, што пасля і весяліцца не захочаш. І гуляць, спяваць ды піць гарэлку за іх будуць іншыя. А так хацелася, аж у носе круціла. Толькі Мішка заступіўся за Верку.

— Вы, — кажа, — на куму мне не брашыце. І іншых не нацкоўвайце. Яна кабета паважная, спачувальная. Неяк у мяне свінаматка здохла ад невядомай страшнай хваробы, халера яе бяры, то кума мне дапамагла. Верка тады ў Ашмянах на мясакамбінаце рабіла, прыёмшчыцай мяса ад насельніцтва. Дык прыняла тую смярдзючую тухляціну як жывую. І грошы налічыла па вышэйшай катэгорыі мяса.

— Вось, вось, — зараўла старая Антоніха. — Мая дачка тады ў тэхнікуме ў Ашмяне вучылася на бухгалтарку. Дык ад каўбас у студэнцкай сталоўцы ўсе патруціліся як ад муха-

мораў. Ледзьве дактары ўратавалі. Я так і ведала, што гэта вы з Веркай тваю пратухлую свінню на каўбасы пусцілі. Судзіць вас трэба! А то людзей на той свет пазводзіце!

— Але, — сталі падтакваць ёй іншыя. — Не паедзем нікуды. Верка да радні ніколі не тулілася. Нелюдзімая была заўсёды. Як воўк са смаргонскага лесу. Сама па сабе ўсё жыццё. А дачкі яе мы зусім не ведаем. Як з'ехалі яны з вёскі ў Астравец, тады ёй, напэўна, няпоўных гадоў дванаццаць было, дык з тае пары ні слыху, ні дыху. Ведаем толькі, што вучылася ў Брэсце. Там, відаць, жывот і нагуляла, што спяшаецца так хутка распісацца. Маладыя цяпер усе такія...

Жарсці распальваліся ўсё мацней, пакуль аграном, таксама Яхімовіч, і таксама запрошаны на вяселле, у адно імгненне не памірыў радню. Проста паведаміў, што ён дамовіўся з калгасным аўтобусам, які ўсіх завязе на тое Палессе як важных і пачэсных людзей. І ў дадатак яшчэ прывалачэ назад, незалежна ў якім стане хто будзе. Хоць гатовых як дровы, складзеныя ў бярэма.

Усе адразу пачалі збірацца ў дарогу. Сказалі, што лета найлепшая пара на вяселлі, Верка — сама добрая радня, а дачка яе — найпрыстойнейшае дзяўчо на свеце, якое, калі і надумалася выходзіць замуж, то абавязкова дзяўчынай, не ведаўшай мужчыны, толькі па глыбокім і ўзаемным каханні, як і яе ніколі не быўшая замужам матуля, а летам таму, што абраннік вельмі яе прыспешвае. Ды і паглядзець, ці гэтак на Палессі вяселлі робяць як на Ашмяншчыне, таксама варта.

У прызначаны дзень Яхімовічы, апранутыя ў старанна адпрасаваныя гарнітуры, пад гальштукамі і ў белых кашулях,

гладка паголеныя як маладыя салдаты, са сваімі святочна разадзетымі жонкамі ўжо стаялі на прыступках Брэсцкага ЗАГСа. Чакалі маладых. Неўзабаве з’явілася і Верка.

— Ай,родненькія мае! — залямантавала яна, угледзеўшы радню, нібы апошні раз іх бачыць. — Прыехалі! А я вас так чакала, так чакала! Вачэй не магла заплюшчыць.

— І мы цябе помнім, — адгукнулася Антоніха і аж слязу пусціла. — Маркоцімся, што з’ехала ад нас у чужыя людзі. Молімся за цябе і дачку тваю. Дай Божанька вам здароўя.

Жанчыны кінуліся абдымацца, нібы толькі што вайна скончылася. А мужыкі скучкаваліся ды закурылі, з агідай узіраючыся на жаночыя аханні.

Праз нейкі час Верка растлумачыла што да чаго. У Брэсце толькі распісваюцца. Затым едуць у вёску да бацькоў маладога. Там і будзе гулянка аж да ранку. Трэба, як маладыя выйдуць з ЗАГСа, сядаць у аўтобус і ехаць за ўсімі.

Яхімовічы так і зрабілі. Прыстроіліся ў хвост калоны машын з начэпленымі стужкамі ды шарамі, і так даехалі аж да вёскі. Паводзілі сябе з гонарам. У хату ламацца не сталі. Стаялі на падворку як укапаныя слупы. Дачакаліся пакуль гаспадары запросяць самі. Селі збоку, перад тым доўга робячы выгляд, што ўпіраюцца і не хочуць на пачэсныя месцы. Хай лепш маладыя там сядаюць, казалі. Зрэшты, так усе рабілі. Не толькі яны. Ну а як гулянка пачалася, тут ужо сябе паказалі. І чарку замахнуць за каўнер не горш іншых маглі, і пажартаваць, і ў танцах не апошнія.

— А вы з боку маладой, ці маладога? — пацікавіўся ў Мішы адзін з добра падпітых сватоў.

— Ад маладой, — адгукнуўся вясёлы госць, наліваючы і сабе, і новаму знаёмаму.

— І я таксама, — уздыхнуў той, перакуліўшы адным махам кілішак з такой асалодай, нібыта гэта была першая чарка ў яго жыцці, а ў ёй мёд. — Вось як яно атрымліваецца. Абодва ад маладой, а не ведаем адзін другога. Радні не ведаем сваёй! Во, жыццё пайшло! Нашы дзяды сабе ніколі такога не дазволілі б. А мы... Абы-што мы. А нашы дзеці і блізкіх пазнаваць ужо не будуць. Добра хоць на вяселле не забыліся запрасіць. Ну, давай, даражэнькі ты мой, знаёміцца. Я — Мікола Міхнюк.

— А я — Міхась Яхімовіч. Слухай, Мікола, а дзе гэта Верка падзелася? Нешта пасля ЗАГСа я яе не бачыў.

— А на халеру табе нейкая Верка? — таямніча падмаргнуў Міхнюк. — Табе што, другіх баб тут мала!

— Твая праўда, — зарагатаў Міхась і наліў чарговую.

Але клапаціўся пра Верку не толькі ён. Праз нейкі час да яго падышла Антоніха і таямніча, на вуха, нібы намаўляючы на кепскае, прашаптала:

— Нешта Веркі нашай не відаць. Ды і дачка яе, маладая гэтая, нейкая не такая. Па маіх падліках, дай Бог памяці, ёй гадоў дзевятнаццаць. А гэтай усе дваццаць будуць. Штосьці тут не так.

Ды яе ўжо ніхто не слухаў. Вяселле было ў самым разгары. Музыка, гарэлка, танцы. Абавязкова бойка з вырванымі з платоў ляскамі. Пасля зноў музыка і танцы. І так аж да ранку. Усё як мае быць. Усё як у людзей.

І толькі пад раніцу Міхась зваліўся недзе на кушэтку і зас-

нуў. Толькі не ўдалося добра выспацца, не паспеў першы сон дагледзіць, як пачуў, што нехта трасе за плячо.

— Падымайся, Міша, — пачуў ён глухі голас Міколы Міхнюка. — Ты ўчора пра нейкую Верку ўзгадваў. Паглядзі, можа пра тую.

Паўпрытомны вясельны гуляка працёр вочы і скіраваў затуманены позірк у тым кірунку, на які паказваў крывы, пажаўцелы ад тытуню, указальны палец Міхнюка. Там ён убачыў сваячку, якая, махаючы рукамі як звар'яцелы млын, штосьці даводзіла групе гасцей. А тыя, ад яе слоў, аж па траве качаліся ад смеху.

— Ну, яна. Верка. І што? А дзе гэта яна ўчора бадзялася, што відаць не было? Ды халера з ёй, з гэтай Веркай. А вяселлі, я табе скажу, у вас такія ж добрыя ладзяць як і ў нас, на Ашмяншчыне. Я, папраўдзе гаворачы, яшчэ на адно такое з'ездзіў бы.

— Ну то маеш такую мажлівасць, — таямніча ўсміхнуўся сабе ў вусы Мікола. — І патрапіш. На вяселле да Верчынай дачкі. Яна, Верка ваша, сваю радню, прыблудаў, цэлую ноч шукала, пакуль вы тут балявалі. Нарэшце знайшла пад раніцу. Прыехала забраць, а то там, у яе, свята не атрымліваецца без сваякоў з боку маладой. Справа ў тым, што вы ў Брэсце, як ад ЗАГСа ад'язджалі, не за той калонай прыстроіліся. І не на сваё вяселле прыехалі. А на нашае, хоць мы вас і не запрашалі. Так што жадаю добрай дарогі і ўдала пагуляць на вяселлі Верчынай дачкі. А на зваротным шляху заязджай, калі ласка. Працягнем нашае знаёмства за чаркай добрай гарэлкі, госцік ты мой дарагі. Бо мы, як ніяк, параdніліся ўчора. Сваякі цяпер. Радня. З боку маладой.

## *Каціны кат*

Здавалася, што Сцяпан Занкавец нейкім патаемна-магічным, трэцім, як у індуісцкага бога Шывы вокам, заўважыў праз бетонныя сцены і жалезныя дзверы, што я збіраюся выходзіць на вуліцу. Прычым на дзве хвіліны раней, чым я надумаўся гэта зрабіць. І як толькі я адчыніў дзверы свайго пад'езда, ён ужо заканчваў прамаўляць свой знакаміты выступ пра тое, што ўжо пайшлі другія суткі, як ён кінуў піць, уладкаваўся на працу і зараз просіць даць яму пару купюр Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь выключна на хлеб для хворай жонкі, якая таксама кінула піць у знак салідарнасці з ім.

— Эх, Сцяпан! — кажу. — Няўжо ты думаеш, што штодзённыя аповеды пра замену твайго абедзеннага рацыёну з алкаголю на хлеб у гэтым мікрараёне гучаць аж настолькі пераканаўча, што ўсцешаныя суседзі з удзячнасцю хатняга сабачкі пароды чыхуахуа, змешанага з тойтэр'ерам, будуць бясконца працягваць фінансаваць твой падпад'ездны выступ. Хаця, хачу табе давесці, што нават самыя знакамітыя пісьменнікі і артысты гумарыстычнага жанру не зарабляюць аж так шмат як ты на паўторах адной і той жа гісторыі.

Пасля маіх слоў на твары Занкаўца сталі адбывацца нейкія незразумелыя генетычна-мутанцкія змены. Яшчэ ўчора я думаў, што счарнеўшы ад ужывання празрыстай вадкасці Сцяпанаў твар больш пацямнець ужо не можа. Ды памыліўся. Твар колеру ўрадлівай зямелькі Магілёўскай вобласці стаў як толькі што асушаны кавалак палескага балота.

— Эх, сусед! — у роспачы прастагнаў Занкавец. — Шкода грошай, не давай. Але смяяцца з гора бедных не трэба. І хатніх жывёл прыплятаць да таго, што я алкаголік, таксама не зусім этычна для чалавека, які і сам любіць выпіць, і звяроў тых, як нармальны вясковы перасяленец, у гарадской кватэры не трымае.

— З чаго ты ўзяў, што я смяюся? — разгубіўся я. — І ў думках не было!

— Праўда?! — бліснуў нясмелы прамень святла на Сцяпанавым анфасе. — А то я з тае бяды падумаў, што зноў мяне тым катом папракаюць. Злыя людзі ў нас жывуць, скажу я табе папраўдзе. Злыя і гадкія. Душагубам мне называюць, скуралупам, каціным катам. А чаго? Без дай прычыны! Нават гаспадар таго ката ніякіх прэтэнзій да мяне не мае. Наадварот, задаволены. Кажа, што я найлепшы дрэсіроўшчык хатняй жывёлы ў свеце.

— То ж я гэтай гісторыі ўвогуле не ведаю, — заінтрыгавала мяне. — Ты мне лепш пра ката раскажы, а не тую ману, дзе ты штодзень кідаеш піць. Калі цікава будзе, на піва гарантую.

— Ну то слухай! Толькі з півам не падмані! — узбадзёраны надзеяй на доўгачаканую пахмелку ажывіўся Занкавец. — Летась неяк заходзіць да мяне Генка Сасімовіч. З трэцяга паверха. Ведаеш ты іх, зладзеяў. Ён на мясакамбінаце нейкі начальнік. З той работы і нажыўся, брыда. На грашах спіць і грашамі накрываецца. І жонка яго, фіфа, кіпцюры нафарбавала як у фільме жахаў. Цьфу, брыда! Глядзець агідна. Яна там жа нейкай канторскай сцервай падпрацоўвае.

Не мелі яны куды грошы дзець, то надумаліся за мяжу адпачываць паехаць. Як быццам бы там гарэлка таннейшая. Ды што з дурняў возьмеш, акрамя аналізаў. Ну, а ката свайго не ведалі куды дзець на гэты тэрмін. Прыйшоў да мяне той каціны тата і давай смаркацца. Дагледзь ката, просіць. Вось такі гад! Як на піва, то ў яго не выкленчыш, а як што трэба, то да мяне ляціць. Сцяпан, тады, Сцяпан! Выходзіць, што без Сцяпана нікуды. А я чалавек не злапамятны. Добры я. Пагадзіўся. Дагледжу, кажу, твайго мышаеда. А ягоная фіфа праз плечы ўжо лямантуе. Маўляў, наш коцік мышэй не есць і ў вочы іх не бачыў. Мы, кажа, яго толькі паляндвічкай кормім, і абавязкова свежанькай. Другой наш Васечка нават не нюхае. Васечка — гэта яна на ката. Уяўляеш, да чаго дадумаліся! Катам імёны даваць сталі. Хутка, хіба, і пашпарты выдаваць пачнуць. Зусім пашалелі, брыдоты. Гадка нават глядзець на такіх людзей.

Грошы на мяса далі, тут нічога не скажу. Што праўда — то праўда. І шмат. Ты не паверыш! — тут Сцяпан хацеў хапіцца рукамі за галаву, але рукі не паслухаліся гаспадара. Адна слізганула па лбе, а другая крыху прычасала патыліцу. — Людзі не зарабляюць столькі, колькі ў іх кот з'ядае! Ну і паехалі сабе адпачываць. А да мяне іншы сусед прыйшоў, Скапец, таксама Васька, як той кот. Ну мы з гэтым Васькам і ўбіліся ў грошы на ката. Якая розніца, думаю, якога Ваську карміць. Гэты нават менш есць. Праўда п'е, барані Божа! Як цэмент ваду. Толькі налівай. Гарэлка ідзе як у сухую зямлю. А як грошы скончыліся, Скапец пенсію атрымаў. Зноў крыху загулялі. Пра ката зусім забыліся. Ды і хто ён такі, каб пра яго людзі помнілі. Ён, што, карысць якую тут, у горадзе,

прыносіць? Не! Зусім непатрэбная жывёла. Толькі жарэ, спіць і сам ведаеш... Прыбірай пасля за ім.

Праўда, за гэтым катом прыбіраць не прыйшлося. Хіба ён і сваё паскудства таксама з'еў, бо прыляцела фіфа да мяне і давай скандаліць. Кажа, што я грошы ўзяў, а ката не карміў. Маўляў, іх бедны Васечка ўсіх мух пералавіў у хаце і нават лупіны ад сырой бульбы, што ў сметніцы былі, усе паеў. І запіваў, сцвярджае, вадой з унітаза. А Генка дык наадварот. Дзякуй, кажа, табе Сцяпан. Нарэшце хоць хто жончынага любімчыка надрэсіраваў так, што той стаў вегетарыянцам, бо ад гэтага ката пакою ў хаце не было. На галовы людзям скакаў. А зараз, дадуць скарынку хлеба, ён і задаволены.

Сцяпан глянуў прама мне ў вочы, каб стала зразумелым, што аповед ён закончыў, а піва яшчэ не выпіў. Не ведаю як бы зрабілі вы, але я, ад душы пасмяяўшыся, даў яму аж на два куфлі. А той так узрадаваўся, што з удзячнасці вырашыў расказаць гэтую гісторыю да канца.

— Недзе праз тры дні, — перайшоў ён на шэпт, — фіфа на работу пайшла і прынесла дахаты вялікі кавалак мяса для ката. Той з галадухі так накінуўся на ежу, што еў без перастанку, пакуль не здох. Ну і добра. Не трэба было мяса яму даваць. Хай бы ўжо і заставаўся, як казаў Генка, вегетарыянцам. А Сасімовічы цяпер можа хоць менш мяса стануць красці на рабоце.

## *Чарадзейныя лекі*

Ужо трэція суткі два маладзенькія студэнты медыцынскага інстытута, якіх прага набыць добрую прафесію і планавая савецкая сістэма адукацыі занесла амаль за трыста кіламетраў ад іх любімай навучальнай установы, шукалі мясцовую шаптуху бабку Зоську. Непрадказальны лёс закінуў будучых медыкаў у балотную беларускую правінцыю не таму, што зноў над планетай павісла пагроза эпідэміі шаленства жывёл ці чалавечай воспы, а толькі для таго, каб дапамагчы калгаснаму сялянству сабраць з няўдзячных да калектыўнай гаспадаркі палёў ужо падмерзлую і непрыгодную для ўжытку, але яшчэ маючую мажлівасць падняць калгасныя паказальнікі бульбу. А шаптухай хлопцы зацікавіліся па прафесійных поглядах пасля размовы з гаспадаром, у якога жылі.

— Вось вы кажаце, лекары, — задуменна ўздыхнуў неяк дзед Васіль, накладаючы ім засоленых грыбоў. — Вам толькі ў рукі дайся, самага здаровага загубіце. І як у вас гэта атрымліваецца? Калі б медыкаў увесь час адмыслова вучылі людзей зводзіць з белага свету, і то так не выйшла б, як вы ўмееце. Сам бачыў, як адзін здаровы чалавек зайшоў у шпіталь, каб хіба што каго са знаёмых адведаць. Дык яго вораг аж скакаў ад радасці. Казаў, жывым адтуль не выйдзе. Так і сталася. Вывалаклі, небараку, наперад нагамі. Адразу на могільнік. Ледзьве бацюшка паспеў кадзілам памахаць. Медык, гэта найгоршая работа. Лепш магільшчыкам працаваць. Больш чэсна.

— Ну што вы, дзеду, — сціпла запярэчылі будучыя дацэнты. — Проста вас ніколі здароўе не падводзіла, таму так кажа-

це. А як схопіць хвароба за жабры, то па-іншаму заспяваеце той матыўчык.

Сціплым юнакам не хацелася вельмі жорстка тыкаць у вочы гаспадару старэнькай халупы яго невуцтвам. Тым больш, што вясковы барадаты старажыл добра да іх ставіўся. Карміў усім, што сам еў. Падліваў, час ад часу, запіць сухую вясковую ежу старога ўдаўца сіваватай моцнай вадкасці ўласнага вырабу. І ніколі не прымушаў разувацца, нават у ложку. А ў той дзень, у дзясятую гадавіну смерці былога вясковага фельчара, якога Васіль цярпець не мог ні пры яго жыцці, ні пасля смерці, нават грыбоў не пашкадаваў. Такі быў радасны.

— Мяне?! — дзед пусціў іранічную ўсмешку ў правы вус і падняў палец угору. — Зараз я вам раскажу. Было гэта тады, калі мая старая, дай Бог яе душы неба, яшчэ жыла. Добрая была жанчына, ды толькі занадта разумная, як цвярозы поп з Крэўскага прыхода. Нават газеты часамі чытала. З таго розуму мала мяне на той свет не адправіла. А наш вечна п’яны фельчар, разам з іншымі белакрылымі прусакамі, якія зарабляюць на людскіх хваробах, толькі на гэта яе і намаўляў. Нейкая хвароба тады мне ў бок убілася. Слабець я стаў. Сох, як скошаная крапіва пры плоце. Ужо і хадзіць сіл не было. Дык яны мяне ў шпіталь сілком зацягнулі. І давай здзекавацца, як кот з мышаняці. То, як яе па-вучонаму называюць..., ага, успомніў, мачу патрабаваць. А то яшчэ да большага сораму дайшлі. Кажуць, у каробку з-пад запалак, ну, ведаеце, каб па цяжкому схадзіў. А я ў прыбіральні месяц ужо не быў. Не хацеў. А тут давай! Як я змагу, па загадзе. Ні ў войску ж. Ну дык тады давай яны кроў з мяне смактаць. То з пальца, то з жылы. А замест крыві нейкую ваду залівалі

па кроплях. І прасіў я іх, і маліў, і сваю старую таксама, каб лепш да шаптухі якой звазілі. Дык рагатаць сталі, як вар'ят у цырку. Перажыткі гэта, кажуць, забабоны. Самі цябе на ногі паставім, без вашых вясковых шарлатанаў.

— І што? — шчыра зацікавіліся ходам лячэння хлопцы.

— А тое! Праз нейкі час, як нацешыліся з маёй бяды, як бабыль з маладухі, адправілі дахаты паміраць. Нічым, гавораць, памагчы не зможам. Хіба што час прыйшоў. Старасць. А якая там старасць! Мне тады ўсяго трохі за семдзесят было. Хто ж у такі век у вырай збіраецца?

Дзед злосна сплюнуў на падлогу, зацягнуўся самакруткай, і, супакоіўшыся, працягнуў аповед пра сваё цудадзейнае выздараўленне.

— Неяк пасля сёмухі прыходзіць мая старая ды кажа. Хадзіла, маўляў, да шаптухі. Дала яна нейкай стравы. Трэба з'есці. Можа дапаможа. Я тады есці зусім не мог. Кавалак папярок горла ставаў, як чорту просвіра. Але, думаю, шаптуха ведае, што робіць. Не тое, што вашы калегі лекары. Сабраўся з сіламі ды і з'еў усю патэльню. А назаўтра нейкі вялізны гліст з мяне выйшаў. З тае пары хутка на папраўку пайшоў. Ужо і старую сваю пахаваў, хай зямля ёй будзе пухам, і фельчара, заразу. А сам усё жыву. І добра чуюся. Вось так, хлопчыкі. Лепш у нашай шаптухі павучыцеся людзей лячыць. Можа не ўсіх са свету пазводзіце. Каго і пакінеце для размнажэння чалавечага роду.

Цудадзейнае зелле мясцовай чарадзейкі так заінтрыгавала студэнтаў, што пакою сабе не знаходзілі. Яны зразу зразумелі, што ў дзеда завёўся гліст саліцёр. Але чым шаптуха яго вывела? Трэба ж было неяк рэцэпт таго вялікага леку адшукаць.

Во будзе сенсацыя ў медыцыне! Юнакі ўжо бачылі будучы лек у аптэках, які назавуць іх імёнамі. А родны інстытут ганарыцца будзе медычнымі свяцiламі Андрэем ды Косцем, партрэты якіх будуць вісець у кожным шпіталі побач з Фрэйдам, Бітнерам і Скліфасоўскім. Толькі большых памераў.

Ды вось бяда, ніхто з вяскоўцаў не ведаў, дзе тая шаптуха падзелася. Ужо месяц як прапала, як праз зямлю правалілася. Апантаныя комплексам вялікасці хлопцы ўсе навакольныя вёскі абышлі, нават участковага распыталі. Ніхто не ведаў. І толькі ў гэты дзень выпадкова даведаліся, што яна ляжыць у мясцовым шпіталі і амаль ужо не дыхае. Нехта нават пажартаваў, што месяц як зямлёй пахне. Сябры кінуліся туды, пакуль захавальніца медычнай тайны яшчэ зусім не астыла, і адразу пачалі пытаць пра цудадзейны лек. Маўляў, адкрый сакрэт, колькі людзей вылечыць можна будзе.

— Які там лек, — цяжка ўздыхнула бабуська. — Скажу вам, як яно было. Толькі Васілю не кажыце. А то ён такі, што раззлуецца, прыйдзе ды даб'е мяне. Не даруе, зараза. Прыйшла неяк да мяне яго жонка, ды вые як галодны воўк зімой. Кажа, стогне цяжка мой Васька. Высах у нітку, даходзіць ужо, а смерць не бярэ. Дай якой атруты, гаворыць, каб не пакутаваў. Шкадавала яна яго. А я думаю, дай дапамагу людзям. Я заўсёды людзей любіла і як магла дапамагала. Набрала мухамораў, насмажыла, і дала ёй. Кажу, як з'есць, то без болю на той свет адыдзе. А ён наеўся, ды палепшаў. Толькі нейкі вялікі гліст здох. А Васіль, хіба, усіх перажыве. Толькі вы, дзеткі, так нікога больш не лячыце. А то я яшчэ некалькім хворым тых мухамораў давала. Думала, калі Васілю дапамагло, то можа і іншых на ногі падыме. Але, чамусьці, больш нікому тое не дапамагала.

## *Філасофскія развагі*

Даследчыкі, гэта добра, — загадкава ўсміхнуўся Валодзя, наліваючы нам па чарговым кілішку празрыстай саракасяміградуснай вадкасці вырабу 2006 года, прыгатаванай на левым беразе невялічкага ручая без назвы, у паўночнай частцы Налібоцкай пушчы. Тое чарадзейнае зелле, формулу і рэцэпт прыгатавання якога ніхто ніколі не трымаў у сакрэце, заўсёды схіляе да філасофскіх разваг. А па іранічна скрыўленай усмешцы на твары майго суразмоўцы я зразумеў, што той доўгачаканы момант таямнічага сутыкнення з адной з самых старадаўніх навук ужо надышоў. — Толькі што яны даследуюць? — развёўшы рукі ў бакі і з цяжкасцю стрымліваючыся, каб самаму не рассмяяцца ад прыдуманай версіі агляду даследаванняў, працягваў Валодзя. — Ну, некаторыя, хай сабе. Тэмы выбіраюць даволі патрэбныя для нейкага там канкрэтнага чалавека асобна і грамадства ў цэлым. Прыкладам, „Выкарыстанне квантавага эфекту „зваротнай сувязі" для ахаладжвання кампанентаў нанапамерных механічных прылад". Адна назва чаго варта! Ці, скажам, „Уздзеянні лінейнага паскаральніка на запуск інжэктара сінхрафазатрона ОИЯИ на 10 БэВ пры яго запуску аж да 1962 года па грыгарыянскім календары". Я думаю, што такія тэмы прыдуманы для павелічэння аб'ёму мазгоў і глыбіні памяці. А яшчэ для паляпшэння лагапедычных здольнасцей чалавека. Бо калі ў чалавека ёсць дэфект мовы, а ён гэтыя назвы зможа выгаварыць, лічы што вылечыўся. І каб тыя назвы запомніць, трэба напружыць увесь чэрап, а не толькі

складкі на лбе. Гэта табе не прымітыўны папсовы матыўчык і не тупарылыя выступы праслаўленых тэлегумарыстаў, дзе той момант, калі трэба засмяяцца, аўдыторыя вызначае па выразе морды выступоўцы, а не па змесце сказанага.

— Пагаджаюся, — стаў падыгрываць я калегу, заінтрыгаваўшыся накірункам яго філасофскіх думак. — А што ты прапаноўваеш? Якія даследаванні, на твой погляд, зараз найбольш актуальныя?

— Як гэта якія? — з такой інтанацыяй выгукнуў Валодзя, што нават фары ў машын на аўтастаянцы, дзе мы, адужаўшы першую паўлітруху, ужо адкаркоўвалі наступную, адразу ж застылі ў выразах спалоханага здзіўлення. — А што зараз найбольш актуальнае для выжывання нашай еўрапейскай цывілізацыі?

— Хіба што праблемы з пагрозай яе краху, — пастараўся я не сапсаваць кірунку яго думак, выславіўшыся ў стылі нашай размовы.

— Правільна! — узрадаваўся ён маёй падтрымцы. — А што можа яе ўратаваць? Нашу цывілізацыю? Я табе здраджу сакрэт, — тут ён даў пстрычку бліскучай бутэлечцы і прыжмурыў левае вока. — Уратаваць нас можа толькі даследаванне культуры ўжывання гарэлкі. Ніколі не слухай тых занудаў язвеннікаў, якія сцвярджаюць, што гарэлка шкодная. Каб было так, то людзі яе не пілі б. Мы ж гомасапіенсы, ці як гэта гучыць у перакладзе, людзі разумныя. Ці сталі б разумныя ўжываць тое, што шкодзіць? Ясна, што не! А калі ўжываем, значыць, яно карыснае! Лагічна? Мы ж не ядзім воўчага лыка ці белых паганак. А раз нашы прашчуры, дай Бог іх

душам неба, прыдумалі гэты непаўторны напой, то пра каго яны дбалі? Пра нас! А нам, каб быць вартымі іх памяці, засталося толькі даследаваць метады і мажлівасці карыстання гэтым цудам. Вось у Заходняй Еўропе зараз людзей адвучылі ад моцных напояў. І што сталася? Кучамі пераходзяць у іслам. А тыя не п’юць. Зусім. Ім забаронена. І да чаго гэта прывяло? Не маюць занятку, то ходзяць і ўзрываюцца. Тэрарызм развялі, бо гарэлкі не п’юць. Во да чаго дайшло. Ды яшчэ наркату глушаць. Хоць такім чынам уздзейнічаць на развіццё інтэлекту. А нам гэта трэба? Нам гэты шлях не падыходзіць. У нас свая вялікая і непаўторная культура. А гэтым ніхто не займаецца. Вось ці ты ведаеш, што наша цывілізацыя вынайшла ў гэтым алкагольным кірунку?

— Даволі шмат, — радасна падтрымаў новага кандыдата ў прафесары філасофіі я. — Рэстараны, бары, кнайпы, шынкі, хатнія застоллі, офісы, выезды на прыроду, рыбалкі, паляванні, сталовыя, віна-гарэлачныя крамы, піўнушкі, забягалаўкі, пад’езды, завуголлі, ванітавалаўкі...

— Так! — падхапіў падпіты мысліцель. — А яшчэ для хранічных алкаголікаў існуюць выцвярэзнікі, кары, сямейныя скандалы, а для тых, хто хоча пазбегнуць скандалаў, прыдуманы санаторыі, прафілакторыі, камандзіроўкі, гатэлі, сустрэчы з сябрамі, дні народзін, вяселлі, дзяржаўныя і духоўныя святы... А самае лепшае, што вынайшаў чалавек, гэта платныя аўтастаянкі. Няма на свеце анічога больш прыстасаванага да псіхікі мужчыны, які хоча спакойна, у добрай сяброўскай размове перакуліць кілішак-другі, чым аўтастаянка. Чалавек ужо паставіў сваю жалязяку, супакоіўся, калі трэба большая кампанія, то ўключыў аўтамагнітолу і нікога не

баіцца. У сваёй машыне, ды яшчэ ахова звонку. Ні міліцыя цябе не дастане, ні жонка прэтэнзій не выкажа. У разе чаго, тут можна і заначаваць. А хто займаецца даследаваннем гэтага феномену ? Ніхто! Шкода, што я не працую ў навуковай сферы. Бо пра гарэлку ведаю ўсё — усе хады ды выхады. Як начальніка на працы абдурыць, што не піў, як перад жонкай прыкінуцца цвярозым, як выпіць у цэнтры горада, каб міліцыя не заўважыла. Напісаў бы якую працу, ганарар атрымаў бы за свой божы дар. У гэтай галіне роўных мне няма...

Яго развагі перабіў істэрычны гук рухавіка забуксаваўшай машыны. Мы павярнулі галовы ўбок, адкуль валіў чорны густы дым. Там адзін з суседзяў па аўтастаянцы стараўся прыпаркаваць машыну на нерасчышчаным ад снегу месцы. У яго нервовых рухах адчувалася нейкая няўпэўненасць і паніка. Нарэшце машына вырвалася са снежнага палону, выраўнялася і дала задні ход. А яе гаспадар, адной рукой спраўляючыся і з рулём, і з пераключэннем перадач, адным вокам зазіраючы ў люстэрка задняга віду, а другім некуды на ўезд на аўтастаянку, другой рукой дастаў бутэльку, зубамі здзёр корак і нагбом асушыў яе. А пасля рэзкім рухам шпурлянуў пустую пасудзіну некуды ў гурбу падалей ад машыны. Ён выканаў свае дзеянні так рэзка і хутка, што, здавалася, тыя рухі ў яго адпрацаваныя як у салдата ганаровага каравула Вялікабрытаніі, які на парадзе дэманструе ўменне валодаць карабінам. Падзенне бутэлькі ў гурбу і выключэнне рухавіка машыны па часе супалі хвіліна ў хвіліну. А ў наступны момант шафёр шпарка выскачыў са старэнькага „Опеля” і памаршыраваў на выхад. Ад здзіўлення вочы ў нас сталі як у істоты, народжанай ад савы, скрыжаванай з лемурам. Мы не згаворваючыся кінуліся наўздагон, каб неяк па-

спрабаваць высветліць прычыны тых незвычайных паводзін. А той ужо падыходзіў да выхаду.

— Ну што, замерзлі? — спытаўся ён у двух жанчын, якія чакалі на вуліцы, хаваючы галовы ад лютаўскай завеі ў шубы. І патлумачыў: — На гэтай стаянцы правілы дурныя. Не дазваляюць заязджаць з пасажырамі.

— Ой, зяцёк! — пляснула ў далоні адна. — А ты зноў выглядаеш як п’яны!

— Ну што вы, мама, — прастагнаў той. — Калі ўжо перастанеце чапляцца да мяне, і дачку вашу зводзіць. Вы ж цэлы дзень са мной ездзілі. Назіралі ўсё. Калі я мог выпіць? Колькі вам тлумачыць, што праца ў мяне цяжкая. Стамляюся ў канцы дня. Таму і выглядаю так, як п’яны. Сёння самі пераканаліся ў гэтым. Ні кроплі ж не выпіў. А вы ўсё не верыце. Ты хоць скажы сваёй маме, каб супакоілася, — звярнуўся ён да другой кабеты. — А то ўсё крычыць, што наша сям’я з-за гарэлкі развальваецца. А пагроза для сям’і гэта яна сама. Вечна скандалы правакуе.

— І праўда, мама, супакойся, — адгукнулася тая. — Сёння ж мы самі бачылі, што і ў рот не ўзяў.

І яны паціху пацягнуліся ў бок аўтобуснага прыпынку.

— Вось табе і на! — пачасаў патыліцу Валодзя. — Нават у маім вялікім досведзе прыбавілася. Я ж кажу, справа патрабуе сур’ёзнага вывучэння і даследавання. За такое можна і Нобеля атрымаць. Ну пайшлі назад, у машыну. Абмяркуем гэты выпадак з філасофскага пункту гледжання. У мяне там, пад сядзеннем, яшчэ адна пляшка засталася. Паразважаем.

## *Навагоднія падарункі*

Першы раз у жыцці, шпарка перастаўляючы маленькія ножкі, Ігарок шыбаваў хутчэй чым яго матуля. Ён нават спрабаваў цягнуць яе за руку, ірваўся наперад як шчаня, якому ўпершыню пачапілі на шыю вяроўку, а яно ўбачыла ката. Маці толькі ўсміхалася і тлумачыла шасцігадоваму сынку, што спяшацца няма куды. Яшчэ рана. Адкрыццё святочнай ёлкі для дашкольнікаў распачнецца толькі праз гадзіну. А Дзед Мароз прыйдзе яшчэ пазней. Ды Ігарок нічога не хацеў слухаць. Яго жвавыя вочкі былі шырока раскрытыя і, здавалася, зусім не маргалі. Ручкі аж трэсліся ад нецярпення, як асінавыя лісточкі на пачатку восені. Яшчэ мінулым годам ён убачыў, як Дзед Мароз нейкаму хлопчыку падарыў машынку. Чырвоную, з мігаючымі фарамі. Дакладна такую, як Ігарок мроіў набыць. І вось ізноў Новы год. Зноўку Дзед Мароз будзе раздаваць падарункі. Ігарок цэлы год вучыў на памяць вершык, які тады расказваў ля ёлачкі той хлопчык. І марыў атрымаць машынку. І не можа быць інакш! Бо і ліст пісаў таму чарадзейнаму дзеду, і ялінцы ў хаце нашэптваў пра сваё жаданне. Толькі б паспець. А то можа хто першы парупіцца расказаць той вершык, і тады ўсё прапала. Дзе тады ўзяць такую машынку, якая ёсць толькі ў Дзеда Мароза.

Акурат у гэты час у непрыбранай кватэры на другім баку вуліцы ледзьве жывы Віктар Ляховіч з жахам узіраўся ў люстэрка на выяву твару пакутніка і стараўся адгадаць, хто гэта можа быць. Ён, накруціўшы на галаву мокрую анучу, каб хоць неяк зменшыць галаўны боль ад непамерна шмат учора выпітага,

стараўся, дрыжачымі як у неўротыка рукамі прыстасаваць на і так непаголены твар дзедамарозаўскую бараду. Бо сёння ў яго ёлка для дашкольнікаў. А ўчора... Хай яно згарыць, тое ўчора! Хай яго завернуць камяні! Трэба ж было так уляпацца. Сам вінаваты. Ведаў жа што так будзе. Падпісаўся ў ролі Дзеда Мароза разносіць падарункі па заказах. А ў кожнай хаце налівалі. Без келіха не адпускалі. Невядома, нават, ці ўсе заказы выканаў. Ці ўсе кватэры, якія мусіў наведаць, абышоў. Хто гэта сёння памятае? Ды гэта не самае горшае. Ёсць і яшчэ больш жахлівы ўспамін.

У Віктара ажно валасы сталі дыбам, як у шалёнага сабакі ў перыяд спарвання. У вачах, як прывіды з труны, сталі паўставаць учарашнія гісторыі. Снягурачка так была налізалася, што на нагах не стаяла. Так і даплялася, абняўшы Віктара за шыю, аж да яго хаты. А ён сп’яну, каб яго трасца ўзяла, нават не падумаў, што яго жонка можа неадэкватна ўспрыняць аж настолькі ўнуччыны адносіны Снягуркі да Дзеда Мароза. І, ляпнуўшы па закаханым мужавым сэрцы дзвярамі, пайшла з дзецьмі сустракаць прыход Новага года аж у лагер самага ваяўнічага ворага — да цешчы.

Ды і гэта можна перанесці. Неяк наладзіцца само па сабе. Усё можна сцярпець. Немажліва вытрымаць толькі той невыносны боль, які разрываў галаву на дзве роўныя часткі і праблемы з неданесенымі падарункамі і прапаўшай жонкай адсоўваў на другое месца. А пачуццё абавязку прымушала яшчэ ісці на ёлку. Там можа дзеці даўно гарланяць: „Дзед Мароз, Дзед Мароз!”. А Дзед Мароз усё ніяк не можа прымайстраваць да свайго зморшчанага твару кудлатую белую бараду.

Нарэшце атрымалася. Віктар накінуў чырвоную шубу, пачапіў такога ж колеру шапку, узяў у рукі кій, які быў зараз вельмі дарэчы і, абапіраючыся на яго, пацягнуў за сабой па мокрым снезе мяшок з падарункамі ў гарадскі дом культуры.

Дзеці з нецярпеннем яго ўжо чакалі. „Дзед Мароз!" — запішчалі яны. А ў таго дзеда ад крыку галава пачала трашчаць як спелы гарбуз, на які ўселася абшырным азадкам стодвацацікілаграмовая прадаўшчыца.

— Дзеці! Дзеці! — пачалі самі маліць ягоныя губы. — Не крычыце, дзеці. Каб вы толькі зналі, як мне хранова. Як мне хранова!

Добра, што ў Віктара сілаў не было зусім. Таму яго просьба прагучала так ціха, што шчаслівыя дзеткі не пачулі апошняга выдыху адчаю таго чарадзея з падарункамі. І не даведаліся, што Дзед Мароз выслаўляецца дакладна так, як і іх таты пасля кожнага вясёлага свята. Яны далей працягвалі весела скакаць вакол расхрыстанай постаці, якая, павесіўшыся на кій, нерухома тарчала ў цэнтры залы. А Ігарок, выбраўшы зручны момант, калі ўсе ўжо пачалі стамляцца, падляцеў да Дзеда Мароза і стаў спешна расказваць завучаны вершык.

Дзед шырока, як спалоханы філін, раскрыў вочы і пачаў напружваць мазгі, каб уцяміць, што тут адбываецца. Пасля, яшчэ трымаючыся рукамі за кій, рухнуў на калені перад Ігарком і прашаптаў:

— Хлопчык, каб ты ведаў, як мне хранова!

Збоку гэта выглядала так, што нібыта чалавек у чырвонай шубе ўбачыў перад сабой святога. І моліць таго, каб урата-

ваў грэшную душу на страшным судзе. І ніяк не выглядала на тое, што можа нешта падарыць таму святому.

Хлопчык з жахам паглядзеў на спакутаваны твар паўночнага чарадзея. На вочы навярнуліся буйныя слёзы. Няўжо ён не атрымае машынкі?! І вершык расказваў з інтанацыяй, як мама вучыла, і рукамі махаў. А Дзед Мароз кажа нешта пра „хранова". Як жа так!

— Ага! — раптам успомніў пра свае абавязкі белабароды. — А вось табе і падарунак!

Ён палез у торбу, доўга капаўся і нарэшце дастаў адтуль... машынку! Чырвоную, з бліскучымі фарамі. Яшчэ большую і яшчэ лепшую, чым мінулым годам падарылі нейкаму незнаёмаму хлопчыку. Ігарок аж запішчаў ад радасці. А стары дзядуля паглядаў на падарунак і думаў, каму гэта ён учора мусіў тую машынку занесці. Бо на гэтую ёлку адміністрацыя гарадскога дома культуры такіх дарагіх падарункаў не набывала.

А Ігарок ужо нёсся з усіх ног дахаты. У яго галаве была толькі адна думка. Як дапамагчы гэтаму чарадзею, які падарыў такую прыгожую машынку, а сам застаўся стаяць ля навагодняй ёлкі такі няшчасны і адзінокі. І што самае важна, Ігарок нават ведаў як дапамагчы.

— Тата, тата! — закрычаў ён яшчэ не пераступіўшы парога. — Дзеду Марозу хранова. Трэба дапамагчы. Ён такі добры! Машынку мне даў.

А яшчэ праз некалькі хвілін хлопчык зноў быў у доме культуры.

— Дзед Мароз, — звярнуўся ён да ўсё той жа спакутаванай постаці. — Дзякуй за машынку. А гэта табе. Ад мяне і майго таты падарунак. Як тату бывае хранова, ён гэта заўсёды купляе. Я думаю і вам дапаможа.

І ён, кволенькімі ручкамі, ледзьве спраўляючыся, каб не выпусціць з рук, падаў Дзеду Марозу свой няхітры падарунак ад усяго дзіцячага сэрца — бліскучую бутэлечку халоднага светлага піва.

## *Вясковы Фабержэ*

Ніхто так рупліва і старанна не рыхтаваўся да таго Вялікадня, як дзед Антон. Да шлюбу ў свой час гатаваўся нашмат менш старанна. А каб ведаў, якім бокам той шлюб вылезе, то здох бы як апошняя скаціна, а не дазволіў бы былой самай прывабнай вясковай прыгажуні даць легальную мажлівасць кантраляваць свой сямейны бюджэт. Бо гэта не толькі сапсавала ёй той мілы тварык, ад якога Антон аж млеў, як пень па ёлцы, але і канчаткова зглуміла яго колішнюю эканамічную самастойнасць на ўсё жыццё. Знішчыла ўшчэнт ад таго самага моманту, калі ён у царкве на пытанне святара, ці бярэ Ганну ў жонкі, сказаў „так", і хіба будзе нішчыць аж да той хвіліны, калі доктар, пашчупаўшы яго пульс, скажа „не". Такая скупая жонка патрапілася, усе грошы забірала. Ён нават вайну лічыў больш шчаслівым часам, бо тады за невыкананне загаду, ці правіннасць якую, маглі толькі расстраляць. Але не мучаць вось так цэлае жыццё. Ды яшчэ і пасля смерці хіба што пакладуць іх разам. Які жах! Хоць ты ў балоце ўтапіся, каб знайсці ніхто не змог. Ды нельга самому тапіцца. Царква забараняе. А ён лічыў сябе чалавекам набожным.

Дзед Антон нават прыдумаў сваёй бабцы мілую і ласкавую, па яго вызначэнні, мянушку. Называў яе „мая інквізітарачка". Пра інквізітараў яму ўнукі расказалі. А бабцы хіба што не. І таму яна гэную мянушку лічыла нечым асаблівым і ўзвышаным, нечым на ўзроўні тых кампліментаў, якія яшчэ за польскім часам ёй нейкі варшаўскі і вельмі інтэлігент-

ны кавалер на вуха шаптаў. Але ў няпростым для яе юнацкіх гадоў выбары над кім здзекавацца ўсё жыццё перамог Антон. Бо ў таго варшавяка надта ж ужо шырокія галіфэ былі. І хоць гэны вельмі ганарыўся імі, Ганна лічыла гэта верхам безгустоўнасці і несяброўства з уласнымі мазгамі. Ды яшчэ баялася, што вяскоўцы некалі адарвуць яму ногі за тыя шырачэзныя порткі і падзяруць іх на анучы. На ўсю вёску хопіць і нават суседнім хутарам прыпадзе нешта. Але каб Антон ведаў, як яно пойдзе далей у жыцці, то пашыў бы сабе яшчэ шырэйшыя, абы толькі пазбегнуць таго неабдуманага кроку, які калісьці зрабіў, купіўшы Ганне пярсцёнак.

Вось і зараз, схапіла бабка Ганна пенсію ды кажа:

— Не разлічвай, што хоць капейка табе прыпадзе.

— Пабойся Бога, — узмаліўся Антон. — Вялікдзень на носе. Людзі гуляць будуць. А я што, прымак які? Што, на чужую чарку буду ўглядацца?! Усё што ёсць у нас, зрабіў сваімі рукамі, акрамя дзяцей. Якую хату паставіў, як звон будыніна. У калгасе пуп дзёр, каб сваім свіначкам камбікорму якога ўкрасці. І краў сам, нікога памагаць не прасіў. І пенсію з мазаля выпрацаваў. А ты мне нават на Пасху не выдзеліш якога няшчаснага рубля?

— Табе абы гуляць ды бадзяцца, — не здаецца Ганна. — Хопіць у маладосці нацярпелася тваіх паходаў. Лепш унукам цукерак куплю, ці дам па пяцёрцы на свята. А ты абыдзешся.

Крыўдна стала Антону, аж кішкі перавярнуліся. Ды нічога не зробіш. Узяў ён нож, дастаў з бярэма нейкае дубовае палена і давай стругаць. Да свята рыхтуецца, кажа. Неўзабаве атрымалася яйка. Ён яго і шкурачкай пацёр, і пафарбаваў

на чырвонае. Сам нацешыцца не можа такога хараства. Як сапраўднае. Не адрозніш і трое акуляраў начапіўшы. А Ганна і тут язык суне, як гадзюка. Ніяк не можа, каб мужа не зачапіць.

— Здурнеў ужо на старасці гадоў, абібок. Лепш справай заняўся б. Думаеш, нехта тваё яйка купіць? Тут жа адна галота. Толькі на гарэлку не шкадуюць. А за тваё яйка і мінулагодняга снегу не дадуць.

А Антон толькі ўсміхаецца ў вусы. А як надышло тое светлае свята цудоўнага Божага ўваскрэсення з мёртвых, узяў ён яйка і на вуліцу. Панаклікаў дзяцей ды кажа:

— Хто маё яйка сваім паб'е, таму рубель. А як я патаўку чыё, з таго капейка.

Дзеці ажно ў чаргу выстраіліся. Так рубля хочацца выйграць, аж вочы залатымі царскімі чырвонцамі гараць. Ды яшчэ і забава якая для іх. Хто на тую вёску калі атракцыён прывозіў? Ніхто. Ну то яны хоць тут знайшлі занятак. І ўсё да бацькоў лётаюць, каб капейку далі. І тыя капеечкі ўсё Антону ў шапку кідаюць. А яйка ў таго самае моцнае. Ніхто пабіць не ў змозе.

Толькі старая Стэфка напалохалася, што яе ўнукі па капейцы зараз грошы, што на чорны дзень збірала, выцягнуць усе да апошняй манеткі. Пайшла паглядзець, што там за яйка ў Антона. Вярнулася ўзрушаная, напалоханая.

— Пасадзяць мяне мусіць, — кажа. — Я Ганне галаву растаўкла.

— За што ты яе? — пачалі пытацца людзі. Шмат іх тады было ў Стэфчынай хаце. Сабраліся свята адзначыць.

— Ай людцы вы мае, — лямантуе Стэфка. — Пайшла я да гэтага злыдня, Антона, паглядзець на яйка. А яно драўлянае. Кажу яму, што ж ты, нелюдзь, робіш. Дзяцей абіраеш. Усё ўчастковаму скажу. А ён мне гаворыць, што гэта яго Ганна прымусіла так зрабіць, ад скупасці сваёй. А грошы, што ў дзяцей павыйграваў, вярнуў усе. Я яго аж запаважала. А ён гаворыць далей, што не жывадзёр, кажа, не падманшчык. Толькі загад сваёй сквапнай жонкі выконвае. Ну то я ў іх хату заляцела і пусціла тым яйкам Ганне ў галаву. А яйка такое моцнае аказалася, як збан чыгунны, нашмат за галаву мацнейшае. Ляжыць зараз Ганна пасярод хаты. Не ведаю ці жыве.

— Жыве-жыве, — супакоіў заходзячы ў іх хату Антон. — Халера яе не возьме. Такую і плугам не заб'еш. Гузак зараз адмочвае. Добры гузак атрымаўся, як гусінае яйка. І чырвоны такі, з сінімі пералівамі. На вясёлцы такіх прываблівых колераў не ўгледзіш. Паплакала крыху мая інквізітарачка, а пасля супакоілася. Нават мне грошы дала. Ідзі, кажа, Антончык, выпі з людцамі. Усё ж такі свята вялікае. Паразумнела ад удару. Трэба было мне раней ёй па галаве заехаць чым цяжкім. Гадоў так трыццаць таму. Ну дык я вось да вас і прыйшоў пагуляць. Ды не з пустымі рукамі, а як належыць.

Пагуляў у той дзень Антон слаўна. І не дзіва, бо доўга да свята рыхтаваўся. Толькі нейкія маладзёны яго пасля гэтага выпадку назвалі Фабержэ. Што гэта такое, ці хто ён такі, той Фабержэ, Антон не ведаў. Але ўжо з той мянушкай і дажываў.

## *Хто ў хаце гаспадар*

Прыйду дахаты праз гадзіну. У дзесяць, — радасна праінфармаваў Алесь жонку, якая аж запішчэла ад шчасця ад такой навіны, як кот, якому наступілі на хвост. — Сёння „Азот" не працуе, каб ён ляснуўся. Няма сыравіны. Таму нам далі выходны. Складзі якія планы на гэты дзень. Можа сходзім куды разам. І зрабі мне чаго смачнага паесці. Каб такога, што пальчыкі абліжаш.

— Зраблю такое, што язык праглынеш, — зашчабятала ўсхваляваная жонка, бо і ў яе быў сёння выходны, і нарэшце можна будзе правесці час у коле сям'і, пра што яна марыла ўжо паўгода.

Яна куляй, як шалёная мяцёлка, паляцела на кухню, адначасова прыдумваючы, што такое смачнае прыгатаваць, і як найцікавей правесці гэты дзень з мужам. Нават з тае радасці матулю паслала ў краму па піва для зяця.

Але ў дзесяць раніцы дзверы іх кватэры ніхто і не падумаў адчыніць, акрамя матулі, якая ўжо і піва прынесла, і па гарэлку злётала. Стол быў накрыты як на свята, па ўсіх пакоях гуляў дурманячы пах „мяса па-французску",ззяючы ў сонечных праменях крыштальныя кілішкі чакалі напаўнення моцнай вадкасцю, а матуля, з таго хараства ўрачыста расстаўленых талерак, праз кожныя паўхвіліны глытала сліну ў прадчуванні смачнага сняданку. Але зяць недзе прапаў як мінулагодні снег і не спяшаўся ашчасліваць устрывожаных кабет сваёй прысутнасцю. Хоць моцнае пачуццё абавязку

перад сям'ёй прымусіла яго перазваніць. Праўда гэта адбылося тады, калі пах смачнага з кватэры знік як здань пасля малітвы, два кавалкі французскага мяса спёр кот, а ўстрывожаная прапажай кармільца жонка збіралася тэлефанаваць у гарадскія службы здарэнняў, паліклінікі і міліцыю, каб даведацца, дзе знік яе каханы. Той адгукнуўся ў дванаццаць. І па прабачальным голасе было чутна, што ён ужо закусіў. Ды не адзін раз.

— У мяне невялічкая затрымка, — заікаючыся паведаміў ён. — Мы тут з нашай працоўнай брыгадай абмяркоўваем праблемы завода. Буду ў хаце ў дзве гадзіны дня.

— Ах ты, злыдзень, — залямантавала жонка. — Дзе цябе, прыблуду, чэрці носяць. Ты абяцаў быць у дзесяць.

— Не рабі праблем з нічога, — раззлаваўся той. — Буду праз дзве гадзіны. Я сваё слова заўсёды датрымоўваю. Ты ж мяне ведаеш.

— Ведаю-ведаю, — раззлавалася другая палова чалавека, што лічыць сябе валадаром сваіх абяцанак. — Ты сапраўдны гаспадар свайго слова. Хочаш даеш, а хочаш забіраеш назад.

Хоць у душы яна яшчэ крыху спадзявалася, што яе абраннік праз дзве гадзіны ашчасліваць родную хату прыходам. Але ашчасліваў тую хату толькі яго голас. Ён зноў выйшаў на сувязь праз тэлефон у сем вечара.

— Ужо выклікаю таксі, — запэўніў той голас. — Разагравай вячэру.

— Ты казаў будзеш у дзесяць, нягоднік ты, — усхліпнула

кабета. — Нават мама не можа прыйсці ў сябе, пасля тваёй хлусні.

— Хто ў хаце гаспадар, я ці мышы?! — рыкнуў мужчына. — Ці можа твая мама ўжо стала галавой нашай сям'і?! Кажу табе — хутка буду, праз дваццаць хвілін. Ужо машына пад'ехала па мяне. Еду дахаты. Усё. Рабі вячэру.

Але і праз дваццаць хвілін муж таксама не з'явіўся. І праз дзве гадзіны дваццаць хвілін і дваццаць секундаў яго прысутнасць таксама заставалася толькі пад вялікім спадзяваннем на нечакана мажлівы цуд і пад слабой надзеяй на яго наяўнасць. Цешча разам з катом даела ўжо здзервянеўшае „мяса па-французску" і касілася на яшчэ не адкаркаваную бутэльку. А ў дзевяць вечара жанчыны, ужо без ката, заплакаўшы і паскардзіўшыся адна другой на мужоў і на свой гаротны лёс, самастойна прыступілі да спажывання змесціва той бутэлечкі. І хутка, гадзін да дванаццаці ночы, з гэтай задачай справіліся. Паплакаўшы самім сабе ў каўняры, яны разабраліся і з півам, пасмажылі кату паляндвічкі і скварак з цыбулькай і іншымі прыправамі, як для адзінага самца сёння ў хаце, самі абмежаваліся салатам з капусты і чарговы раз вырашылі, што больш мужчынам нельга верыць. Аніводнаму іх слову. І толькі ў гадзіны дзве ночы, ужо не турбуючы ні паліклінікі, ні міліцыю, ні іншыя службы пошуку прапаўшых мужоў, сталі ўкладвацца спаць. І нават п'яны голас мужа з тэлефоннай слухаўкі не турбаваў іх расказамі пра неверагодныя гісторыі сваёй нечаканай затрымкі. Тэлефон маўчаў, як смажаная на аліўкавым алеі рыба. Нават і не думаў зазвінець. Зазваніў не ён, а званок ва ўваходных дзвярах. Было чатыры гадзіны ночы.

— З’явіўся, бадзяка, — адкрыла дзверы жонка і сама зазвінела як сірэна міліцэйскай машыны, толькі ў некалькі мільёнаў разоў мацней. — Вось ён, паглядзіце на яго. Гаспадар свайго слова. Скот ты бязрогі! Колькі я цябе цярпець буду! Ты што абяцаў, жывёла. Мы з мамай так рыхтаваліся. Табе не сорамна, свіння ты. Ты ж казаў будзеш у хаце ў дзесяць. А калі ты прыйшоў, свінчо?!

— Ну і колькі зараз, — спакойна і з цяжкасцю разумеючы сэнс прэтэнзій да яго спытаў Алесь.

— Цяпер ужо пятая гадзіна ночы! — істэрычна запырскала слінай жонка.

— Не лжы! — упэўнена адрэзаў муж, ад чаго ў яго другой паловы перахапіла дыханне, і ўжо яна, заікаючыся, перайшла на здзіўлены шэпт.

— А колькі зараз па-твойму? — прабубнела няўпэўненым голасам жанчына.

Алесь паглядзеў на гадзіннік на сцяне, пасля параўнаў камбінацыю яго стрэлак з гадзіннікам на руцэ, пасля глянуў у акно, нібыта ўмее вызначаць час па зорках, і толькі пасля ўсіх праверак і доследаў упэўнена, хоць і п’яным, але такім голасам, які не пацерпіць сумневаў у яго праваце, заявіў:

— Дзесяць!

І, кінуўшы на падлогу куртку, пасунуўся ў спальню. Жонка хацела аспрэчыць яго высновы. Але не паспела адчыніць рот, як муж разгадаў яе намер і гукнуў яшчэ раз.

— Я сказаў дзесяць, значыць дзесяць! — і, зваліўшыся на ложак, заснуў спакойным сном гаспадара хаты.

## *Філасофскі досвед*

Што такое рамонт памяшкання не ведаюць толькі тыя людзі, якія па волі лёсу нарадзіліся або пад шчаслівай зоркай або ў вігваме. Што, зрэшты, адно і тое. І іхны нябесны агеньчык хіба што аберагае сваіх любімцаў ад усіх бытавых праблем, што ўшчэнт псуюць нам і так не асабліва вясёлае жыццё. Прыкладам, калі ў вас зламалася машына, вы можаце аддаць яе майстру або зацягнуць свой транспартны сродак на аўтастаянку. Прычым гэта можна зрабіць на гнілой вяроўцы, на якой ваша жонка сушыць бялізну, парушаючы ўсе правілы дарожнага руху, і хутчэй за ўсё да вас не прыдзярэцца нават самы занудлівы міліцыянт. Пасля стукнуць нагой па коле, брудна вылаяцца і забыцца на нейкі час пра гэтую праблему. Калі зламаўся гадзіннік, то можна проста выкінуць яго ў сметніцу або падарыць знаёмаму на дзень нараджэння, зрабіўшы выгляд, што вы яго толькі што купілі і самі жудасна абураныя тым фактам, што кітайцы па-ранейшаму прадаюць на гарадзенскім рынку няспраўныя рэчы.

Але рамонт памяшкання, гэта нешта іншае. Тут так проста яго не закінеш. І нікуды не ўцячэш ад віду вашага любімага пакоя, які стаў на нейкі час падобны на зямлю ў другі дзень пасля апакаліпсісу. Лепш гэты час, пакуль ідуць рамонтныя работы, прабыць у доме вар'ятаў з псіхічна хворымі пацыентамі, называючы сябе Уінстанам Чэрчылем, чым штодзённа хапацца за галаву ад жаху, што з кожнай гадзінай ваша будыніна становіцца горшай, чым да рамонту. Лепей скакаць па прыбітых да падлогі табурэтках і крычаць: „Я — кенгуру",

чым узірацца, як брыгада будаўнікоў ніколі не з'яўляецца на працу ў цвярозым стане і ў поўным складзе. І жудасць яшчэ і ад таго, што дакладна ў той дзень, калі вы запланавалі адзначыць наваселле, брыгадзір будаўнікоў толькі пачынае вас пытацца, што канкрэтна вы хочаце зрабіць са свайго гнілля.

Дакладна з такімі праблемамі сутыкнуўся Сямён Тарасаў, дырэктар музея, калі выбіў бюджэтныя сродкі на рамонт аднаго з выставачных залаў. Напачатку, калі працоўныя адзін за другім пачалі лётаць у краму, Тарасаў і не падазраваў, што яны носяцца не па ежу. Пасля, як прадстаўнік маленькай праслойкі савецкай інтэлігенцыі навучыўся адрозніваць пачуццё голаду чалавека працы ад галаўнога болю пасля ўчарашняга перапою і непераадольнай смагі і прагі да пахмелкі, то пачаў націскаць на працоўнае сумленне і пачуццё абавязку пралетарскага класа. Як і гэта не дапамагло, стаў страшыць брыгадзіра нявыплатай заробку. Далей пагражаў усёй брыгадзе скаргамі да іх кіраўніцтва, адказнасцю за парушэнне дамоў, умоў і дысцыпліны. А ў канцы нават палохаў мардабоем, страшным судом і пеклам. Толькі і гэта не прынесла плёну. Тыя пагрозы адскоквалі ад галоў гегемонаў савецкай краіны як гарох ад сцяны. Будаўнікі за першыя тры дні выбілі старыя дзверы і вокны ды супакоіліся. Згубілі да свайго аб'екта ўсе прыкметы хоць нейкай зацікаўленасці. На гэтым праца і стала як дохлы конь. А ў наступныя два дні рэстаўратары музейных сцен загналі налева будаўнічыя матэрыялы, і цэлы месяц пілі горкую на атрыманыя ад продажу сродкі.

Тарасаў прыйшоў у стан адчаю і ўжо думаў, што ніколі не зможа знайсці тыя нітачкі, якія паўплываюць на сумленнасць будаўнічай брыгады. Але паратунак прыйшоў нечакана, як

выйгрыш у латарэю. Да Тарасава зайшоў па сваіх справах знаёмы міліцыянт. Будаўнікі вырашылі, што дырэктар выклікаў гэтага хлопца ў фуражцы па іх чыстыя, як бутэлька гарэлкі, душы і, нечакана нават для сябе, за адну змену адрамантавалі месячную норму. Пасля гэтага Тарасаў больш не капаўся ў псіхалогіі пралетарыяту, а адразу, калі што не па ім, пагражаў выклікаць міліцыю. Справы на будоўлі пайшлі значна лепш. Брыгадзір штодзённа стаў лічыць сваім абавязкам паказацца цвярозым як шкло на вочы дырэктара і нават даваў справаздачу па адсутных на працы, пералічваючы важкія прычыны такога рэдкага і недапушчальнага ўчынку як прагул. Сярод тых прычын былі выключна смерці: смерць бабулі, ці смерць дзядулі, або смерць самога прагульшчыка. Хоць часта здаралася, што на наступны дзень нябожчык ажываў і з'яўляўся на працы, як быццам бы нічога не здарылася, але музейнага работніка такі стан рэчаў ужо з большага задавальняў. З ім лічыліся, будавалі і рамантавалі ў адпаведнасці з графікам, на рабоце піць, без дазволу, баяліся, а калі што, пыталіся і стараліся не злоўжываць аказаным даверам.

— Сямён Георгіевіч, — падышоў неяк да Тарасава брыгадзір. — Тут такая справа, гэта. Юбілей нашай брыгады, разумееш. Трэба было б адзначыць. Халера яго вазьмі. Толькі ты не думай чаго, а то. Мы акуратна, не нап'ёмся да свінячага піску, з графікам работ укладзёмся, а заўтра будзем усе да аднаго на працы. Даю слова. Ты міліцыю толькі не выклікай, каб яе зямля завярнула.

— До заліваць. А чаго вартае тваё слова, — задумліва кажа музейшчык. — Вось, бачу, Івана Асіповіча сёння на працы няма, а ты яго так і не звольніў за прагул.

— Ну дык невядома ж чаму няма, гэта, — не здаецца брыгадзір. — Можа ён памёр. Каб ён згарэў. Тады Ванька як бы і не вінаваты, знаеш. Няма за што звальняць, гада гэнага. Ну а калі Ванька жывы, то заўтра звольню, брыдоціну. Усю брыгаду бяру ў сведкі, во. Папомніш маё слова. Зуб даю.

Тарасаў падумаў яшчэ пару хвілін і пагадзіўся. Хай, думае, адзін дзянёк пап'юць. А будаўнікі, радасна ззяючы вачыма, уселіся на газон ля музейнай сцяны і пачалі раскладаць закуску. І тут, ледзьве перасоўваючы ногі і слаба спраўляючыся з каардынацыяй рухаў у двор заваліўся п'янюткі Іван Асіповіч.

— Ваня, ты гэта, давай валі дахаты, — раяць яму астатнія. — А то брыгадзір цябе звольніць. Ён так музейшчыку абяцаў.

— Мяне Пятровіч звольніць!? — скрыгануў зубамі Асіповіч. — Ды ніколі! Дзе ён? Пайду разбяруся.

І паваloкся на другі паверх будоўлі шукаць брыгадзіра. А там, пераблытаў акно з дзвярамі і з вышыні ляпнуўся аб асфальт. Плюхнуўся як мяшок з гноем. Нават не войкнуў. Ляжыць у лужыне крыві і не шавеліцца. А ў работнікаў недапітыя шклянкі застылі ля вуснаў ад такога відовішча.

— Ну што, кранты Ваньку, — кажа нехта з будаўнікоў. — Адстраляўся.

— А мо ён жывы яшчэ, — прыляцеў запыханы і напалоханы дырэктар музея. — Але ж не! Вунь і мазгі вылезлі. Трэба выклікаць міліцыю.

— Ты што! — разявіўся на яго як на благую карову, што лезе

ў бульбу, брыгадзір. — Якую міліцыю, каб яны павыдыхалі! Ашалеў, ці што?! Яны ж нас усіх забяруць і дапіць не дадуць, гады.

— А што рабіць? — збянтэжыўся Тарасаў. У яго ад перапалоху, як ва ўсіх разумных, мазгі пачалі працаваць з перабоямі. — Можа хоць хуткую выклічам?

— Хуткую можна. Тым да нас не будзе справы, — буркнуў брыгадзір, у якога мазгі, незалежна ад таго здарылася што ці не, заўсёды працавалі аднолькава.

Пасля таго як дактары, уключыўшы сірэну, павезлі Асіповіча ў шпіталь, Тарасаў сумна пасунуўся дахаты. Праз цемру ночы да яго даносіліся вясёлыя песні ўжо добра п'яных будаўнікоў, але яму было не да іх. Так перажываў ён ад таго трагічнага здарэння. І назаўтра нідзе не мог знайсці сабе пакою. Нерваваўся як перад расстрэлам, рукі трэсліся. Ні пра што не мог думаць. З такога гіпнатычнага стану яго вывеў манатонны бас брыгадзіра.

— Сямён Георгіевіч, што рабіць з Асіповічам, каб ён здох. Звальняць яго, як мы надумаліся ўчора, ці не, халера яго бяры. Калі па законе, то звольніць мы яго не маем права, бо ён учора ў шпіталь трапіў і зараз мае на руках усе дакументы, якія апраўдваюць яго за прагул, ската гэтага. Хоць мы ведаем, што гэта няпраўда. У шпіталь ён папаў вечарам, а прагуляў цэлы дзень.

— А ён што, жывы?! — падняў здзіўленыя вочы Тарасаў. — Ён не забіўся!

— Смеяцеся ці што, — брыгадзір плюнуў на зямлю. — Што

з ім зробіцца? Вы граматныя людзі ні халеры ў жыцці не разумееце, туды вас растуды. Каб ён быў цвярозы, то забіўся б. Факт. Вожыку зразумела. Але ж ён быў п'яны! Дык чаго ж ён заб'ецца? Дзе гэта вы бачылі, каб п'яны сам забіўся? Сёння са шпіталя, брыда, уцёк. Пахмяліцца, падла, хоча.

— І сапраўды дзіўна, — вылупіў вочы дырэктар. — З такой вышыні пляснуўся і застаўся жывы.

— А чаму, вы думаеце, мы п'ём, — развёў рукі брыгадзір. — Каб не забіцца. Ну і яшчэ, каб выжыць у гэтым паскудным свеце. Але вы зараз не зразумееце пра што я гавару, курыныя вашы мазгі. Для гэтага трэба з намі пажыць і папіць, каб яго ў аглоблі.

— Ну то піце, колькі вам улезе, — здаўся Тарасаў, радасна выцершы пот з ілба. — Толькі не забівайцеся. І нікога не звальняй.

І тут будаўнікі такі загул заладзілі, што за здадзеныя пустыя бутэлькі пасля яшчэ тыдзень пілі. Нават сам дырэктар музея чарку з імі пацягнуў. Пасля, казалі, як куды высока лез, то заўсёды выпіваў, каб не забіцца. Пасля піў, каб выжыць. Так навучылі яго. А пасля, расказвалі, як на пенсію пайшоў, то яго з тым брыгадзірам, таксама ўжо пенсіянерам, часта бачылі ў абдымках ды з песнямі. Усё нешта пра жыццё гаварылі. Філасофствавалі.

## *Сваяцкія разборкі*

А каб ты здох, паскуда! — пачаў дзень з гэтай фразы Вацюк Ляшкоўскі, як убачыў каля сабачай буды абарваны ланцуг, які, бездапаможна звісаючы з крука, сведчыў пра тое, што начны ахоўнік Вацюковай гаспадаркі з другой паловай ланцуга зляцеў недзе на вёску чужых курэй паганяць, ці яшчэ якую мясцовую хатнюю жывёлу панерваваць сваім брэхам. А мо пашукаць сабе пару надумаўся? Тузік, так клікалі сабаку, толькі тыя дзве забавы і ведаў. І, вырвашыўся на волю, заўсёды стараўся скарыстаць іх на ўсе сто адсоткаў. — Во дзе брыда, во дзе падла, — працягваў лямантаваць Ляшкоўскі. — Ланцугоў на цябе не напасешся. Злаўлю, то задушу падлу сваімі рукамі.

Вацюк гучна вымавіў яшчэ пару-тройку фраз нелітаратурнага зместу, перакінуў праз плячо касу і пасунуўся ў поле. Але толькі глянуў на свой агарод, як тыя фразы, якімі толькі што завяршыў сваю думку, зноў здрыганулі паветра. У бураках, заблытаўшыся ланцугом за яблыню, стаяла чужая цялушка і спрабавала на смак малады бурачнік.

— Што за людзі! — не супакойваўся касец, перайшоўшы на больш лагодныя словы. — Калі яны за сваёй жывёлай глядзець ужо будуць?! Гэтая ж скаціна мне ўсе буракі ўжо вытаптала. Заб'ю брыду, хай тады наракаюць на сябе. Ці я садзіў буракі, каб чужых цялушак падкормліваць? А ну пайшла, брыда, адгэтуль!

Але каманда падзейнічала на цялушку адваротна жаданням чалавека. Тая, напалохаўшыся, стала скакаць па агародзе як

дрэсіраваны конь па цырку, яшчэ больш змясіўшы ўсё, што траплялася пад капыты. А заблытаны ланцуг паздзіраў усю кару з любімай яблыні Ляшкоўскага.

— Ну то зараз табе дакладна капец! — зароў той і раз'юшыўшыся да апошняй ступені трывання нерва, хапіў палку і стаў мясіць няшчасную жывёліну.

Як доўга ён здзекаваўся б над ёй — невядома. Са стану шаленства яго вывеў чалавечы вокліч.

— Жывыя ў хаце ёсць? — данеслася да Вацюка з падворка.

Кінуўшы палку як мага далей, Ляшкоўскі паспяшаўся адляцецца ад пабітай цялушкі, каб суседзі, убачыўшы такія неўраўнаважаныя дзеянні, не абвінавацілі яго ў садызме.

— А, кум! — накінуўшы на твар выраз звышласкавасці, выгукнуў ён, убачыўшы на падворку Аркашку Крупу, свайго сваяка. — Добры дзень! Якая сёння цудоўная раніца, праўда. Сонейка ласкавае, спякоты няма. Вось надумаўся пайсці пакасіць. Добра што ты зайшоў. Памятаеш, прасіў я ў цябе пазычыць грошы на парсючкоў. Можа прынёс?

— Не хвалюйся, кум, — адказаў той, махнуўшы рукой. — Пазычу. Ды і грошы там якія. Дробязь. Ты ж парсючкоў у Мішкі Гулякі бярэш. Ён жа табе радня па жонцы. Прадасць танна. Амаль задарма. Вечарам зайдзі да маёй Зінкі. Яна дасць. А я цялушку сваю шукаю. Сарвалася з ланцуга і недзе прапала. Не бачыў?

— Як не бачыў. Бачыў, канешне, — Вацюк выцер з ілба халодны пот. — Стаіць у мяне ў агародзе. Заблыталася бедная ланцугом за яблыню і не можа даць сабе рады. Я хацеў ад-

вязаць, то не даецца. Напалоханая нечага. Нехта, бедную, добра пабіў. А мне яе так шкада стала, так шкада, аж сэрца забалела. Во толькі што хацеў вады ёй прынесці, каб супакоілася. Ведаеш, кум, людзі зараз горшыя за звяроў. Пабілі жывёліну ні за што. Нават кроў з носа пайшла. І хто яе так? Чым жа гэтая нявінная жывёліна некаму не дагадзіла?

— Ты мне лухту не вярзі, — спахмурнеў Аркашка. — Я чуў як ты там равеш і некага сцябаеш. Толькі не ведаў каго. А гэта мая цялушка аказваецца. Во табе, а не грошы, — і ён падсунуў пад нос куму вялікую дулю.

— А ты чаго за сваёй жывёлай не глядзіш? — агрызнуўся Ляшкоўскі. — Яна мне ўвесь агарод вытаптала. Зараз і табе будзе як ёй. А грошы свае ў дупу засунь. Мне Гуляка парсючкоў і так дасць. Ён мне як ні як радня добрая. Не тое, што ты, сквапняга, які за сваёй гаспадаркай прыгледзіць не ў стане.

— Не, гэта табе будзе зараз так, як маёй цялушцы, — не вытрымаў Крупа і з размаху да Вацюковага носа яшчэ раз падсунуў руку, толькі ўжо не з дуляй, а з вялікім як конская галава кулаком.

Праз некалькі хвілін кумы, качаючыся па падворку, ужо добра мясілі адзін другога, суправаджаючы ўдары страшнымі праклёнамі і яшчэ больш жахлівымі пагрозамі. Можа пазабіваліся б, калі б не бабка Верка, якая акурат у гэты час праходзіла побач.

— Што вы робіце?!! — залямантавала яна. — Ратуйце, людцы. Мужыкі пазабіваюцца. Гвалт! Ратуйце!

— А чаго ён сваю цялушку ў мяне на агародзе прывязаў?

— стаў апраўдвацца раззлаваны Вацюк.

— Якую цялушку, дурні? — заківала галавой бабка Верка. — Яго цялушку Зоська ўжо знайшла і дахаты завяла. Гэта твой сабака напаў на цялят, то яны і пазрываліся з ланцугоў. Разляцеліся куды якая.

— То гэта не кумава цялушка? — падняўся на ногі Ляшкоўскі. — А чыя тады гэта паскудная скаціна, з-за якой сваякі ні за што пабіліся?

Бабка Верка зайшла за вугал, паглядзела на пабітую жывёлу і пляснула ў далоні.

— Дык гэта ж цялушка Мішкі Гулякі, сваяка тваёй жонкі, у якога ты парсючкоў узяць хочаш.

Вацюк узяў касу, зноў перакінуў яе праз плячо і, ні слова больш не сказаўшы суседзям, пацягнуўся ў поле.

— Каб ён здох, той сабака, — каторы раз пачаў ён гаворку сам з сабой і з тае самае тэмы, з якой пачаў дзень. — Павешаю на тым кавалку ланцуга, паскуду, які застаўся на яго паганым карку. Са сваякамі з-за гэтага гада пасварыўся. Грошай больш няма ў каго пазычыць. Ды і з цялушкай неяк не па-людску атрымалася...

І зноў, перайшоўшы на нелітаратурную фразеалогію, знік за гарой.

## *Важныя лектары*

Арганізатары семінара абяцалі ўдзельнікам хіба што ўсе радасці нашай галактыкі акрамя пазнання нірваны. У звышадпрацаванае меню навучальнага працэсу ўваходзілі цікавыя лекцыі, на якіх не засумуеш нават не спаўшы тры тыдні, да тупасці незразумелыя інтэрактыўныя дзіцячыя гульні для дарослых, кава-паўзы са смачным печывам і непрыстойнымі жартамі ў адносінах да прыгожай часткі чалавецтва, сытныя сняданкі ды абеды, дзеля якіх сюды і сабраліся як мінімум кожны чацвёрты, цудоўны начлег у лепшым гатэлі Гародні, у такім дагледжаным, дзе прусакі з’яўляюцца не раней чым праз паўгадзіны пасля засялення гатэльнага нумара чалавекам, і безліч усялякіх забаўляльных мерапрыемстваў, кшталту экскурсій па месцах разбурэння новымі ўладамі гістарычнай часткі старога горада.

Але самым галоўным раздзелам мерапрыемства была ўсё ж адмыслова прыгатаваная вячэра ў рэстаране „Беларусь”, на якой акрамя салата „Папараць-кветка” і адбіўной з сырам і грыбамі ў незлічонай колькасці, падавалі малдаўскі каньяк „Белы бусел”. І ўсё гэта толькі дзеля таго, каб няўдзячныя на працягу цэлага года навучэнцы хоць зараз, калі на праверку правядзення міжнароднай адукацыйнай праграмы прыехалі інспектары са Швецыі, паказалі невыносную прагу да ўсялякага роду ведаў, рэальныя вынікі павышэння ў некалькі разоў за апошні год свайго інтэлекту і набытага за час навучання бязмежнага розуму. А дзеля гэтага ім трэба было проста праяўляць актыўнасць і задаваць лектарам хоць

якія-небудзь пытанні. Можна нават самыя тупыя і не па тэме. Усядно шведскія інспектары беларускай мовы не ведалі і рабілі высновы толькі зыходзячы са знешніх паводзін навучэнцаў, як прыдзіцянелы стары генерал ацэньвае баявую здольнасць давераных яму вайсковых частак па ўзроўні падмеценасці пляца перад казармай, акуратнасці запраўленых ложкаў, белізны падшытых падваратнічкоў маладога салдата і чысціні гарнізоннай прыбіральні

Але існавала адна вялікая праблема. На апошні дзень заняткаў чакаўся прыезд лектараў з Польшчы. А тыя і самі разбіраліся ў размовах суседняга народа ды яшчэ з сабой перакладчыка беларускай мовы прывалаклі. Гэтых голымі рукамі не возьмеш і на мякіне не правядзеш.

— Калі вы сядзеце пры гэтых лектарах сваімі разумнейшымі за вашы галовы азадкамі ў лужу, то можаце быць упэўненыя, што хутчэй убачыце дапатопных блох за вухам ажыўшага маманта, чым дыпломы пра заканчэнне нашых курсаў, — рашуча заявіў Артур, адзін з гарадзенскіх арганізатараў семінара.

— І больш мажлівасці будзеце мець стаць першымі зямлянамі, патрапіўшымі на арбіту Сатурна на дзеркачы вядзьмаркі з забытага хутара ў Валожынскім раёне, чым прыняць удзел у нашых наступных, гэтак жа цікавых і карысных праграмах, — падтрымаў таго Дзяніс, другі мясцовы арганізатар.

Такія жахлівыя перспектывы даволі моцна напалохалі аматараў дармовых вячэраў, добрых каньякоў ды прыгожых дыпломаў, і яны рашуча ўзяліся за падрыхтоўку пытанняў да тых важных, як трыста семдзесят шэсць мэраў, прыпёр-

шыхся з-за мяжы звышразумных лектараў. Нават дамовіліся пра тое, хто будзе прыкідвацца разумнейшым, а хто дурнейшым, каб паўстала неабходнасць працягу адукацыйнай праграмы. Ды і арганізатары не спалі ў шапку. Як толькі важныя госці з'явіліся вечарам напярэдадні заўтрашняй лекцыі, ім адразу арганізавалі добрую вячэру з разлікам на ўсё таго ж малдаўскага „Белага бусла".

— Не, не, — спачатку загаласілі ў адзін голас навукоўцы. — Заўтра лекцыя. Піць нельга. Трэба яшчэ рыхтавацца.

— А хто кажа піць? — развёў рукі ў бакі Артур. — Пяцьдзясят грамаў толькі паспрыяюць працы мазгоў.

— Ну хіба што толькі пяцьдзясят, — пагадзіліся тыя і з задавальненнем пераліліі ёмкасць кілішкаў сабе за каўнер.

Артур быў чалавекам слова. Раз паабяцаў больш за пяцьдзясят грамаў не наліваць, то па больш і не накапваў. І па менш таксама. Стараўся, праўда, паўтараць гэтую аперацыю як мага часцей. Але толькі па пяцьдзясят грамаў. У канцы ўжо і сам пашкадаваў пра сваю настойлівасць, бо прыйшлося ў гатэльныя нумары дастаўляць свяцілаў навукі ў гарызантальным стане і класці на ложак не разуваючы. Але ўсё ж гэта здавалася тады меншым злом, чым каб тыя мегамазгі на цвярозыя вочы ўбачылі навучэнцаў, якія пару гадзін таму і не думалі губляць час на развагі пра абмежаванне перад заўтрашнімі заняткамі колькасці „Белага бусла".

А назаўтра лектары недзе прапалі, як карова языком злізала. Зніклі як бабры з пустыні. Дзе ні шукалі — нідзе няма. Хоць ты трэсні. Пад пагрозай было ўвогуле правядзенне адукацыйнага дня. Але перад самым заканчэннем замежнікі

ўсё ж з’явіліся. Вясёлыя, шчаслівыя і з бутэлькамі „Белага бусла” ў руках.

Артур хацеў растлумачыць, што пад час лекцыі, асабліва калі сядзіць інспекцыя са Швецыі, ужываць алкаголь не рэкамендуецца. Ды знакамітым выкладчыкам ужо было напляваць з высокай гары на ўсіх інспектараў свету. Яны ні за што не пагаджаліся на перапынак ва ўжыванні моцных напояў. У такой сітуацыі мясцовым арганізатарам прыйшлося напружыць усе клеткі галаўных мазгоў, падключыць нават спінныя, каб знайсці хоць нейкае выйсце.

— Давайце зробім наступным чынам, — урэшце прапанаваў Артур. — Я налью каньяк вам у кубкі з-пад кавы. Хай усе думаюць, што вы п’яце гэтую гадасць з кафеінам. А вы, як захочаце яшчэ каньяку, гаварыце гучна, каб я прынёс кавы. І ўсё будзе добра, як у Яські з Янькай.

Такі сцэнарый задаволіў усіх. І праз некалькі хвілін выкладчыкі ўжо тлумачылі студэнтам разумныя рэчы, перыядычна пацягваючы „каву” з кубкаў. І вельмі часта прасілі арганізатараў даліваць у тыя кубкі. Здавалася, што цяпер усё нейкім чынам утрасецца. Але на сярэдзіне лекцыі, яшчэ адпіўшы некалькі глыткоў „кавы”, перакладчык перастаў тлумачыць лектарам пытанні навучэнцаў, а навучэнцам адказы лектараў, а папросту стаў сам на іх адказваць. І самае дзіўнае, разумных выкладчыкаў такі ход падзей цалкам задавальняў. Ды гэта была яшчэ не кульмінацыя. Пасля таго, як адзін з лектараў пачаў чытаць новы раздзел на польскай мове, перакладчык пачаў перакладаць яго па-ангельску, хоць гэтую мову сярод прысутных ведалі толькі сам перакладчык ды

яшчэ інспектары са Швецыі. Артур з Дзянісам вырашылі, што пасля такога казусу больш ім ніхто не даверыць праводзіць навучальныя праграмы. Тым больш, што адна шведка рашуча накіравалася да іх.

— Чаму пераклад ідзе на ангельскую мову, — спыталася яна праз перакладчыка.

Але той не стаў нават выслухваць арганізатараў і ўпэўнена адказаў сам:

— Так запатрабавала аўдыторыя.

— Якую інтэлектуальную аўдыторыю вам удалося сабраць, — у задуменні прабубнела шведка і дадала: — Можаце разлічваць на нашу падтрымку ў наступнай серыі адукацыйных праграм.

І пайшла. А Артур з Дзянісам пабеглі. У краму. Па каньяк. Каб аддзячыць перакладчыку і тым важным лектарам, пасля чыіх выкладаў інспектары са Швецыі засталіся задаволенымі больш чым Янька Яськам.

## *Бацькава навука*

О Божачка ж ты мой, ой людцы вы мае! Вочкі б мае таго не бачылі, вушы б не чулі! А за што ж мне такая доля, за што такая кара, — загаласіла Слаўкава жонка, як толькі муж расчыніў дзверы сваёй хаты. — Во дзе кроў якая, паганая! Усядно сваё возьме. Хоць ты маліся, хоць прасіся, толку ніякага. Казала ж мне мама некалі, што жыцця з Супрунамі не будзе. Увесь род алкаголікі. Уся радня да аднаго. Ад малога да вялікага — усе абы толькі рыла заліць. А я ж дурная была, маладая. Не паслухала маму. Так усё жыццё і змарнавалася!

— Што праўда, то праўда, — не разабраўшыся ў чым справа ўклініўся ў спрэчку галава сям'і. — Маладая была дурная і зараз не паразумнела. Яшчэ больш мазгі высахлі. Уся стала як твая тупая мама. З той уся вёска смяялася і з цябе цэлы горад.

— Злыдзень, ты, — яшчэ больш загаласіла жанчына. — Як у цябе язык паварочваецца так гаварыць. Усё жыццё рабыняй у цябе была. Толькі і знала, што дагаджаць і табе, і радні тваёй спітай, і сябрам тваім, такім як ты п'яніцам. А падзякі ні якой. А за што ж мне такія пакуты! О Божачка ж ты мой Божачка! Ой людцы вы мае!

— Добра-добра, не лямантуй, — стаў супакойваць жонку Слаўка. — Чаго разышлася, як свіння на дождж? Я ж сёння цвярозы як шкло ў акулярах тваёй мамы. Што зноў здарылася?

— Ты то можа адзін дзень і не налізаўся, — уткнулася носам у ручнік тая. — А вось сынок твой увесь у цябе пайшоў.

Не паспеў школу закончыць, яшчэ ў войску не быў, жыцця не бачыў, а ўжо прыйшоў дахаты ніякі. Чорны як зямелька. Набраўся гарэлкі недзе, паскуда, то нават лыка не вяжа. Ажно мову адняло. Праўду людзі кажуць — яблык ад яблыні далёка не адкоціцца. Увесь у тату.

Супрун скасіў вочы на канапу і ўбачыў непрытомнага сына. Той быў так напіты, што нават лямант матулі, ад якога ўсе суседзі сабраліся пад хатай даведацца з чаго такая паніка, ці не пачалася новая сусветная вайна ці якая яшчэ глабальная катастрофа, а птушкі са страху зляцелі ў другі раён, не даходзіў да вушэй маладога Супруна. Ён ляжаў тварам уніз і ціхенька соп сабе ў дзве дзюркі. Салодка так спаў, як пшаніцу прадаўшы.

— А каб табе было добра! — плюнуў бацька на падлогу. — Ну нічога, няма тут чаго енчыць. Хлопец малады, не спрактыкаваны яшчэ. Нюхнуў і паваліўся як падла. Нічога страшнага, не канец свету. Проста не ўмее адпачываць. Не навучаны, бо не было патрэбы вучыць. Заўтра я гэтым займуся. Трэба дзіцяняці растлумачыць, колькі можна выпіць і чаго. Ён жа ўжо мужчына. А ў кампаніі, дзе людзі культурна адпачываюць, не будзеш жа сядзець і жаваць смаркачы. А ён, не ўмеючы, глынуў лішняга, вось і зарыгаўся. Я заўтра яму ўсё растлумачу — і з кім трэба піць, і колькі, і як пры гэтай справе застацца чалавекам. З раніцы яму будзе галава балець, па сабе ведаю. Вось і сходзім на піва. Там усё і давяду хлопцу. Ці лепш віна вазьму, каб паказаць, што з кілішкам добрага віна можна правесці час як чалавек. І не трэба пры гэтым напівацца. А гарэлку есці яму яшчэ рана.

Супрун быў чалавек слова. Калі паабяцае што, то разаб'ецца ў дошку, а зробіць. Такі быў яго мужчынскі гонар. Нават чужому слова датрымае. А тут родныя. І як толькі сын на раніцы абудзіўся, бацька ўжо быў на нагах як штык на аўстрыйскай стрэльбе.

— Ну што, апівош, — ласкава сказаў ён. — Галава баліць?

— Крыху, — глянуў на бацьку мутнымі як багна вачамі малодшы Супрун.

— Ну нічога, — усміхнуўся Супрун-старэйшы. — Хадзем на піва. Дам табе навуку як з алкаголем сябе паводзіць. Гэта ж табе не жарты. Так і дакаціцца можна да самага дна гэтак хлябаючы, як ты ўчора. Гарэлка — ядзерная бомба. Тут асцярожна трэба захоўвацца, як на разведцы.

У бары бацька з разумным, і разам з тым з заклапочаным паводзінамі сына тварам заказаў два бакалы віна. Супруны селі за столік.

— Ты не глядзі на розных там, лабідудаў. З бакалам віна можна разумна прасядзець цэлы вечар і радавацца сяброўскай размове ў кампаніі, ды іншымі добрымі рэчамі цешыцца. А што толку з тае гарэлкі. Вось хораша, як набярэшся той гадасці, як свіннюка гразі, і людзі з цябе смяюцца як з блазна, — пачаў навуку бацька, але нечакана і для сына, і для самога сябе па прывычцы асушыў бакал нагбом.

— Ты на мяне не глядзі, — схамянуўшыся, працягваў ён. — Я ўжо стары. А табе трэба яшчэ жыць. А жыццё, я табе скажу, вялікая навука. Жыві не так, як я жыву, а так, як я вучу. Пайду вазьму сабе піва.

Праз нейкі час і бацька, і сын ужо сядзелі з некалькімі пустымі бакаламі ад піва, а навучанне працягвалася.

— Я ў твае гады, — падняў Слаўка палец угору, — ужо працаваў як вол на млыне. І ведаў колькі трэба піць, каб чалавекам застацца. Гэта зараз вы, маладыя, поўзаеце ўсюды як прыблуды і нідзе прыбіцца не ў змозе. Так нельга. Трэба працаваць і слухаць бацьку як поп матушку. І не злоўжываць гарэлкай. Дарэчы, па сто пяцьдзясят гарэлкі не пашкодзіць. Півам душу не падманеш. Але гэта мне сто пяцьдзясят. Табе хопіць і сто трыццаць пяць. Глядзі ў мяне, паскуднік ты такі.

І бацька памахаў кулаком перад тварам сына. Пасля яшчэ раз узялі па сто пяцьдзясят і сто трыццаць пяць. Пасля яшчэ нешта бралі.

— Ай, трэба яшчэ піва, — ужо недзе за поўдзень, чапляючыся языком за зубы, прамямліў настаўнік. — Гарэлка без піва — грошы на вецер. Толькі ты ў мяне ўзірайся! Табе малы кубак. І ні-ні. Каб нават і не думаў больш выпіць.

А жонка Славіка ўжо ўсе вочы праглядзела, дзе гэта дзеліся мужчыны. Цэлы дзень прайшоў, а яны зніклі як сасіскі з шыі ў сабакі. Ужо і вячэра на стале астыла. А іх няма і няма. Прапалі як ранішні туман. Дакладней, разам з ранішнім туманам. Ды нарэшце ля дзвярэй пачуліся няўпэўненыя крокі.

— Эй, жанчына, — пачула яна голас мужа. — Біць цябе няма каму, і мне няма калі. Адчыняй хутчэй дзверы, пакуль мы іх нагамі не вынеслі.

Перапуджаная кабета хутчэй паспяшалася да дзвярэй. Куляй падскочыла і гэтак жа імгненна адчыніла. У хату, аб-

няўшыся і падтрымліваючы адзін другога, увалiлiся бацька з сынам. Не разуваючыся і не распранаючыся, і не гаворачы больш ні слова, з каменнымі як у статуй тварамі і расхрыстанымі да пупоў кашулямі яны накіраваліся да канапы, ледзьве перасоўваючы забруджаныя балотам ногі. Пасля, гэтак жа абняўшыся, паваліліся ўпоперак канапы тварам уніз і захраплі ў чатыры дзюркі. Салодка так заснулі, як пшаніцу прадаўшы.

## *Лекцыя па хіміі*

Хто не ведае спецыфікі вайсковага жыцця, той ніколі не зразумее, чаму капітаны ды маёры напіваюцца звечара, а прапаршчыкі — зранку. Адказ просты як вайсковы салат з квашанай капусты без дабаўлення солі. Як толькі ўзыходзіць сонца, людзі з вялікімі зорачкамі на плячах мараць хутчэй распачаць вайну і ні пра што больш думаць не ў стане. А пасля, як сонца пачынае заходзіць, а вайну распачаць так і не ўдалося, ім нічога не застаецца, як заліць сваё гора моцнай вадкасцю, адчуваючы пры гэтым невыносную віну за тое, што не выканалі свайго прамога абавязку перад народам і атрымалі заробак ні за што.

Прапаршчык жа пачынае працаваць толькі тады, калі рабочы дзень закончыўся і начальства распаўзлося па барах і завуголлях пакутаваць на ўсе афіцэрскія грошы. Лічыць яны сваім абавязкам цішком прыватызаваць у асабістую ўласнасць усё, што спрыяе павышэнню баявой здольнасці войскаў, акрамя хіба што ідэалогіі. Таму час на выпіўку ў яго застаецца толькі зранку, калі ён можа ў сваім гаспадарчым памяшканні закусіць галоўкай цыбулі і спакойна, пакуль афіцэры ганяюць салдат па пляцы, збудаваць планы на вечар.

Дарэчы, трэба крыху распавесці і пра салдат. Гэта найбольш колькасная катэгорыя вайскоўцаў краіны з добраахвотнапрымусовай прызыўной сістэмай, якую чамусьці называюць ганаровым абавязкам. І яны мрояць хутчэй памяняць боты на красоўкі, ды не звязваюць больш свой лёс з тым,

на што іх цяпер заклікаў урад і дзяржаўная машына. Таму людзі ў пагонах з вышэйшай адукацыяй любяць тых жаўнерыкаў, якія ні пра што не думаюць, а толькі бязмоўна выконваюць загады, бо вышэйшае кіраўніцтва толькі так бачыць мажлівасць распачаць і выйграць вайну. А вось прапаршчык любіць разумнага байца. Такога, з якім можна дамовіцца як з грамадзянскай асобай і мець з таго немалую карысць у выглядзе вывезеных, выцягнутых, вывалачаных, выкінутых і перапраўленых за межы вайсковай часткі ў грамадзянскі сектар матэрыяльных каштоўнасцей.

Таму старэйшы прапаршчык войскаў супрацьпаветранай абароны Іван Круцікаў ужо даўно прыглядаў радавога з агеньчыкам практычнага інтэлекту ў вачах, каб разам вырашыць адну задачу дзяржаўнай важнасці. Круцікаў быў адказны за дастаўку ў вайсковую частку паліва і тэхнічнага спірту, а таксама за выкарыстанне гэтых гаручых рэчаў. Але салдаты, што вазілі тыя вадкасці, хутка пачыналі дэградаваць. Тыя, што вазілі бензін, прадавалі яго па дарозе прыватным асобам і куплялі спірт у тых, хто вазіў гэтую рэч для прамывання тэхнічных вузлоў звышдакладнай ракетнай тэхнікі, якая, пры ўмове яе правільнай абслугі, мусіла збіваць самалёты ворага на кожнай вышыні яшчэ да таго, як яны ўзляцелі з аэрадрома. Ну, а тыя, што вазілі спірт, і так не мусілі нічога прадаваць. Яны прыязджалі заўсёды п’яныя ў дошку, а бывала і не прыязджалі зусім. А па заканчэнні тэрміновай службы іх адразу накіроўвалі на лячэнне ад алкагалізму, хоць выпадкаў вылячэння ніхто прыпомніць не мог.

Але Круцікаў, які лічыў, што прадаваць спірт і паліва ды зарабляць на тым грошы гэта толькі яго прывілея, знайшоў

выйсце з гэтай сітуацыі. Ён выбіў грошы ў штабе, звязаўся з самым прэстыжным інстытутам і заказаў прыдумаць апарат, які раздзяляе спірт ад бензіну. Навукоўцы доўгія гады нешта канструявалі, нарэшце вынайшлі. І цяпер прапаршчык загадаў змешваць спірт і бензін разам і перавозіць у такім стане. Гэтую сумесь не прадасі ні як паліва, ні як спірт. І не вып'еш. А вышэйшае дасягненне беларускіх навукоўцаў — разумны апарат ААСАБ-1 ужо на тэрыторыі вайсковай часткі, пад пільным наглядам Круцікава, аддзяляў адно ад другога. А ў дадатак да навуковага дасягнення Круцікаў пасадзіў за руль бензаспіртавоза яфрэйтара Пятра Шумскага, які выглядаў на дастаткова разумнага, каб на прапанову прапаршчыка рабіць больш рэйсаў чым трэба за пэўную аплату адказаць: „Слухаюся, гер будучы маёр".

Так і пайшло. Круцікаў стаў багацець і жыў у шыкоўнай шматпакаёвай кватэры з неверагодна дарагімі і гэткімі ж безгустоўнымі шпалерамі, а Шумскі сядзеў за рулём машыны паміж складамі і аэрадромам. І ўсе напачатку былі задаволенымі, як кот з сабакам, калі ім удаецца пасябраваць. Але праз пэўны час яфрэйтар стаў прыязджаць п'яны як цэп. А гэта перашкаджала так доўгачаканаму і добра адладжанаму бізнесу.

— Не магу ў тое паверыць, — пачаў нервавацца Круцікаў. — Няўжо ты п'еш бензін змешаны са спіртам?

— Я што, дурны, — смяецца яфрэйтар. — Я п'ю толькі спірт без паліва, а бензін прадаю дзеля закускі.

— Але як у цябе атрымліваецца? — стаў маліцца прапаршчык. — Лепшыя навукоўцы гадамі сядзелі над апаратам

раздзялення адно ад другога. Я ўжо думаў, што канец свету хутчэй надыдзе. Здрадзь мне сваю таямніцу і я табе гарантую, што дазволю піць колькі хочаш, бо мне і пасля цябе служыць. Мушу ведаць гэтую звыштэхналогію.

— Ну то слухай, — адказвае Шумскі. — Не трэба тут ні навукоўцаў, ні тэхналогій. Бярэш звычайнае вядро і робіш у дне дзірку. Затыкаеш яе палкай і вешаеш на сук. Пасля наліваеш палову вядра гэтай бензінава-спіртавой сумесі і амаль гатова. Даліваеш звычайнай вады і ўсё.

— Як гэта ўсё?

— Проста ўсё. Бензін лягчэйшы за ваду, так. Ён аддзяляецца ад спірту і ўсплывае наверх. А на дне застаецца спірт. І пасля трэба толькі вырваць з дна вядра палку і зліць алкаголь.

— Вось табе і на! — у захапленні прастагнаў прапаршчык. — А я адразу заўважыў, што ты разумны хлопец. У цябе хіба ў школе па хіміі адны выдатныя адзнакі былі, бо лепш за тых навукоўцаў разумееш хімію.

— Ды не, — пацiснуў плячамі яфрэйтар. — У мяне па ўсіх прадметах аднолькава было — двойкі і тройкі. Ледзьве школу закончыў. Але пры чым тут хімія. Я ж тлумачу, што трэба дабавіць вады і ўсё. Злівай пасля алкаголь і пі. І прычым тут хімія?

## *Зачараваныя індыкі*

Ах вы, злыдні, ай вы брыдоты, чарнакніжнікі паскудныя, чарнэлі недарэзаныя, погань прыезджая, прыблуды бяздомныя, дрэнь басяцкая, галота жабрацкая, скаціна бязрогая і рагатая, — раўла нямым голасам цётка Каця, барабанячы кулакамі ў дзверы вясковай школы, дзе мірна і спакойна, нікога не чапаючы, спала, салодка сапучы ў дзюркі пад насамі, брыгада маладых студэнтаў. Спала салодкім глыбокім сном, як выканаўшы на выдатна невыканальную місію па ўратаванні цывілізацыі марсіян. Гэтая група маладых людзей прыехала на летнія вакацыі ў калгас „Шляхам Ільіча", каб падзарабіць крыху грошай на рамонце будынка мясцовага клуба, які быў будаваны як фальварак яшчэ да нараджэння таго Ільіча, а пры ім, пры Ільічу, адабраны ў тутэйшага ні то графа, ні то пана. І з таго часу да яго не датыкалася рука рамонтніка...

— Каб вы ўсе падохлі, каб вас пярун пабіў, каб вас зямелька завярнула, каб вы хаты сваёй не пазналі, каб вас чорт забраў, каб вы свету Божага не бачылі, — не супакойвалася жанчына. — А бадай вам усё жыццё на таблеткі працаваць, а каб вам сваёй долі не мець, хай вам усе гадочкі без пакою і сну спакойнага пройдуць...

— А што здарылася, цётка? — адчыніў дзверы заспаны Толік. Яго апухшы твар яскрава і недвухсэнсоўна паказваў, што пасля ўчарашняга бурнага адзначэння першага авансу, кожная дробная думка, а не тое што дзікі крык ашалелай ба-

бы, выклікае жудасны галаўны боль у сярэдзіне яго чэрапа, дзе, калі верыць яго дыпломнаму кіраўніку прафесару Кастусёву, мазгі ўжо даўно высахлі ад надзвычай ранняга ў гісторыі чалавецтва выпадку бязмернага ўжывання алкаголю.

— Што вы з маімі індыкамі зрабілі? — яшчэ мацней залямантавала кабета. — Забаву сабе знайшлі, хатнюю птушку труціць? Дзе начальства? Дзе старшыня? Дзе яны! Дзе хоць хто-небудзь?

Яе енк быў такі моцны, што неўзабаве прынёсся і старшыня, Станіслаў Пятровіч, і ўсё калгаснае начальства зляцелася як на пажар. Акурат працоўны дзень пачынаўся і ўсе былі на месцы.

— Што здарылася, Сямёнаўна? Чаго нашых работнікаў непакоіш? — стаў залагоджваць апантаную жанчыну Станіслаў Пятровіч. — Без іх працы цябе некалі ў клубе насмерць заваліць прагніўшым дахам. Ты ж там прыбіральшчыцай лічышся.

— А з імі я з галаду памру, пайду па свеце з торбай, — пачала Сямёнаўна так махаць рукамі, аж старшыня пашкадаваў, што не ўзяў з сабой некалькіх мяхоў збожжа. Памалола б не горш добрага млына. — Навошта яны маіх індыкоў патруцілі. Вунь, ляжаць без руху, нібыта і не жылі ніколі.

Старшыня паглядзеў спачатку на нерухомых птушак, а пасля зірнуў у вочы Толіку такім позіркам, нібыта той здрадзіў немцам месцазнаходжанне яго партызанскага атрада. Хоць вайна скончылася так даўно, што малады хлопец і немцаў тых, і партызанаў, бачыў толькі ў савецкім кіно.

— Нічога ні пра якіх індыкоў я не ведаю, — пацiснуў плячамі хлопец. — Была, праўда, учора пра іх размова. З намі муж гэтай цёткі выпіваў. Самагонку нам уночы купляў недзе. Паскудная такая самагонка была, лепш бы мы пілі салярку. Відаць, з апілак нехта гнаў. Ды і апілкі хіба што гнілыя былі, як зубы ў гэтай кабеты. А мы яе мужу за тое, што прыносіў нам тую атруту, налівалі задарма. Ну то як закончылася закуска, ён і кажа, што можа індыка прынесці. Але як пайшоў па індыка, так і сам прапаў, як карова языком злізала. Больш мы яго не бачылі. Знік так хутка, як наш аванс.

— А хто тут у нас продажам самагонкі займаецца? — пацікавіўся ўчастковы, які таксама прысунуўся паўзірацца на тую ранішнюю забаву.

— А то ты не ведаеш? Ай-яй-яй! — замахала галавой цётка Каця. — Якая авечка! Нічога не ведае. А яшчэ ўчастковы! Ну то скажу табе, па вялікім сакрэце. Гэта я прадаю гарэлку людзям. Ды не тое слова, прадаю. Можна сказаць, аддаю за так. За капейкі. І дзякуй ніхто не скажа. А ты сам мала яе ў мяне выцягнуў. А з цябе, як з улады, я нічога не брала! Што, няпраўду кажу?!

— Што ты, цётка, вярзеш пры людзях, — пачаў хавацца ў натоўпе ўчастковы. — Не пра гэта зараз размова. Трэба напачатку высветліць, хто тваіх індыкоў пабіў.

— Вось і высвятляй. На тое ты і міліцыя, — зноў улез у размову старшыня, напалохаўшыся, што знерваваная жанчына прылюдна абвесціць і пра тое, у каго і колькі ён сам набывае алкаголю. — Мае работнікі сцвярджаюць, што не душылі тых індыкоў, каб яны падохлі, і не наводзілі на іх сурокаў

ды чараў, каб яны, падлы, паздыхалі. Вочы б мае іх не бачылі. Можа спытаць у Кацькінага мужа, што з імі здарылася. Па ўсім відаць, што менавіта ён апошні бачыў тых індыкоў жывымі.

— Я і сам хацеў гэта прапанаваць, — высунуўся на паўкорпуса з натоўпу ўчастковы і закрычаў у бок Кацькінай хаты, што стаяла акурат побач са школай: — Раман, хопіць спаць! Сонца ўжо ў небе. Выйдзі да людзей.

На ганку з'явілася заспаная постаць, у трусах, майцы і гумовых ботах, з добра памятым тварам, і якую тутэйшыя людзі называлі Раман. Постаць падышла да нерухома ляжачых на падворку індыкоў, узяла аднаго з іх на рукі і пачала гладзіць.

— Раман, — звярнуўся старшыня, — тут твая жонка маіх работнікаў абгаворвае. У вёсцы ўжо не засталося людзей, на каго яна не наракала б. Вось, узялася зараз і за прыезджых. Можа ты ведаеш, ад чаго індыкі ногі адкінулі?

— Ведаю, — ляніва адказаў Раман. — Ад таго, што мая Кацька самагонку паскудную цісне з абы-чаго. Трохі мы ўчора з хлопцамі прычасціліся. А закуска скончылася. Пайшоў узяць чаго з'есці. Зайшоў у хлеў, і там мяне званітавала ад такой гадкай гарэлкі. А індыкі, гляджу, не такія дурныя, як мы думаем. Пачулі алкаголь, і давай дзюбаць, што я нарыгаў. Гарэлку мая баба хоць і няякасную робіць, але моцную, халера яе бяры. Тут на яе наракаць няма чаго. Вось індыкі і панапіваліся. Зараз адаспіцца закуска мая дарагая.

І тут той індык, што быў на руках у Рамана, падняў галаву і заклекатаў. Астатнія, пачуўшы крык галоўнага, паўскоква-

лі на ногі і сталі, хістаючыся, лазіць без толку туды-сюды. Студэнты, узяўшыся за галовы, пацягнуліся спаць далей. Іншыя прысутныя на бясплатным ранішнім канцэрце на работу пасунуліся, а цётка Каця замаўчала і пацягнулася да сябе ў паветку ціснуць чарговую партыю моцнай, але няякаснай самагонкі.

## *Барацьба з зялёным змеем*

Антыалкагольны курс Савецкага Саюза, абвешчаны ці то генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам Гарбачовым, ці то ягонай жонкай Раісай Максімаўнай, прывёў усю краіну ў стан змешаных эмацыйных пачуццяў. Гэта быў глыбокі шок ад разумення безнадзейнасці і непатрэбнасці працягу далейшага жыцця і дзікае захапленне настолькі смелым і рашучым учынкам, на які, паводле думкі звычайнага і незвычайнага абываццеля, не меў права адважыцца ніхто, нават кіраўнік самай таталітарнай краіны свету з бязмежнымі запасамі ядзернай зброі і самым шматкольскасным войскам, міліцыяй і КДБ.

Пазней казалі, што менавіта гэты курс і прывёў да поўнага развалу СССР. Маўляў, на цвярозую галаву людзі пачалі недапушчальна шмат думаць, і дадумаліся да таго, што камуністычны лад не з'яўляецца той мажлівай светлай будучыняй, якую прапагандавалі савецкія ідэолагі. Вось так, таварышы камуністы! Хацелі мець сваю дзяржаву, не трэба было змагацца з гарэлкай. Яе яшчэ ніхто не здолеў перамагчы. Гэта можа пацвердзіць любы доктар, які лечыць алкагалізм.

Але тады камуністы думалі, што могуць перамагчы ўсіх і ўсё. Гэтая самаўпэўненасць іх і пагубіла. Ды не толькі іх, але і парушыла баланс сіл ва ўсім свеце. Паводле меркаванняў усё тых жа ўжо цвярозых абывацеляў, вясёлы і вечна падвыпіўшы народ, які меў чым бавіць час, ніколі не змагаўся б з уладай. Ды і часу не было б на гэта. А што тычыцца міфічнай пагрозы ядзернай вайны, што нібыта зыходзіла ад

саветаў, то і яна была немажлівай, бо п'яны палкоўнік ракетных войскаў, які адказваў за ядзерную кнопку, ніколі не націснуў бы на яе. Па-першае, дрыжачай ад перапою рукой ён не здолеў бы папасці на тую кнопку. А па-другое, загад п'янага генерала распачаць ядзерную атаку палкоўнік расцаніў бы або як псіхічнае ўздзеянне белай гарачкі на яго камандзіра, або як уласную пасляпахмельную галюцынацыю. Такім чынам, паводле гэтай тэорыі савецкіх грамадзян, менавіта гарэлка захоўвала спакой у краіне, ядзерны баланс сіл між дзяржавамі з рознымі палітычнымі сістэмамі і мір ва ўсім свеце. А так, як яе піць забаранілі ў неабходных для міру і спакою колькасцях, пацярпела ўся планета.

Але першымі, хто меў праблемы з-за антыалкагольнага ўказа, былі гарадзенскія студэнты Уладзімір Макараў, Зміцер Дудко і Эльдар Айзенман. Хлопцы, як даведаліся пра гэтую знакавую падзею, адразу зразумелі яе гістарычнае значэнне і замест ісці на лекцыі прафесара Ісаака Абрамавіча Габрусёва, вырашылі адзначыць яе кілішкам-другім празрыстай горкай вадкасці. Правёўшы ў гарачых спрэчках і філасофскіх разважаннях першую пару заняткаў, добра пасмялеўшыя студэнты наважыліся папасці на другую пару, каб даказаць прафесару, што зямная сіла прыцяжэння, і ўвогуле гравітацыя, не ў стане перашкодзіць чалавеку самастойна падняцца да нябёсаў, калі той гэтага вельмі хоча. Але як толькі яны выйшлі на вуліцу, іх спынілі ахоўнікі антыалкагольнага ўказа ў міліцэйскіх мундзірах і паставілі такім чынам крыж на распрацоўцы новай навуковай тэорыі.

А ў міліцэйскім пастарунку капітан Нарушэвіч у ненавязлівай, але даволі даходлівай форме давёў юнакам, што тыя па-

рушылі апошнюю пастанову ўрада і з вучобы іх выкінуць як шкодных і нямытых кацянят з палаца ідэальнай чысціні.

— Задалбаюцца пыл глытаць, — заявіў Эльдар Айзенман, ужо адпушчаны з моцных лапаў праваахоўных органаў. — У мяне ўся радня — дактары. Пойдзем да дзядзькі Сямёна. Ён якраз працуе ў наркадыспансеры. Зробіць нам заключэнне, што мы не ўжывалі гарэлкі ад моманту нараджэння, і хай мянты нас у азадак пацалуюць. Будзе выглядаць так, што нас абгаварылі.

Дзядзька Сямён сустрэў сваяка з неславянскай ветлівасцю, выслухаў і ўзяўся дапамагчы.

— Толькі трэба ўзяць у каго-небудзь цвярозага аналізы сліны, крыві і мачы, выдаць іх за вашы і паслаць у лабараторыю, якая і дасць заключэнне вашай невінаватасці, — заявіў ён.

— То, дзядзька, сам наплюй у прабірку, — прапанаваў Эльдар. — Мы то не можам, бо пілі сёння.

— Я сёння таксама крыху замахнуў за каўнер чыстага медыцынскага спірту, — скрывіўся дзядзька, даўшы зразумець, што знайсці сліны цвярозага чалавека нават для аналізаў у гэтай краіне не так проста.

— Можа медсястра твая.

— Яна квасіла разам са мной. І астатнія супрацоўнікі не могуць. Тыя на работу ўжо выйшлі пад шафэ. Трэба шукаць каго на вуліцы.

— О не! — у адзін голас зараўлі хлопцы. — Ну дзе ў дванаццаць гадзін дня ты на вуліцы знойдзеш каго цвярозага!

— Гэта праўда, — пагадзіўся доктар. — Ведаеце што, у суседнім аддзеле працуе адна дакторка. Яна цяжарная, на сёмым месяцы ўжо. Хіба яна будзе цвярозая.

Усе ўзрадаваліся, як дурань фарбам, купілі дакторцы кветкі і падарунак з шакаладкі і двух плаўленых сыркоў і ўпрасілі здаць аналізы. Здавалася, пагроза згубіць вучобу адышла ў нябыт.

Але назаўтра да іх у інтэрнат прыляцеў дзядзька Сямён, напалоханы як чорт крыжа.

— Хлопцы, вам канец, — заявіў ён замест „добры дзень". — Аналізы паказалі, што дакторка была п'янейшая за вас.

— Дык што ж рабіць?! — заенчылі юнакі. — Няма выйсця, трэба купіць бутэльку каньяку і ісці ў міліцыю. Дадзім ім каньяк і будзем прасіць, каб не прысылалі паперу нам на вучобу.

Так і зрабілі. Капітан узяў каньяк, на іх вачах адчыніў, жахнуў кілішак і весела падміргнуў.

— На халеру каньяк куплялі? Толькі грошы выкінулі, — вяла прамямліў ён. — Хапіла б і звычайнай гарэлачкі. А наконт свінні па месцы вучобы, то не хвалюйцеся. Не вышлем. Няма чаго высылаць. Учора ў аддзеле мы так наклюкаліся гарэлкі, што залілі вашы пратаколы соусам ад селядца. Прыйшлося іх выкінуць у сметніцу як непатрэбную анучу. Не пасылаць жа такія, залітыя, а то скажуць, што ў міліцыі адны алкаголікі працуюць. І так пра нас лгуць абы-што. Так што ідзіце і не пападайцеся нам больш п'янымі. Самі разумееце. Антыалкагольны ўказ выйшаў. Так сказаць, распачалася барацьба з зялёным змеем. Пападацца цяпер п'яным у рукі міліцыі нельга.

## *Свінячая гісторыя*

Што такое для беларускага селяніна свіння? Усё! Гэта і мяса, і сала, і занятак, і надзея, і будучыня, і ўвогуле жыццё. Беларускі селянін за свіныя плечы і дзяцей гадаваў, якія, няўдзячныя да бацькоўскай працы, усё жыццё наракалі, што іх душаць свініяцінай, ад якой таліі вясковых супермадэляў саступаюць гарадскім, і вяселле ім рабіў, калі белая фата згладжвала ўсе хібы твару і фігуры маладой, і вышэйшую адукацыю ім даваў, бо прафесары сталічных універсітэтаў таксама людзі, і таксама хочуць есці мінімум тры разы на дзень. А больш за ўсё любяць есці свініяціну. Гэтак жа, як і іншыя беларусы, незалежна ад навуковых тытулаў і ўвогуле адукацыі. Таму, калі ў Рыгора Міхасёва палеглі свінні, то той палічыў гэную падзею больш страшнай чым канец свету.

І сапраўды, што там той апакаліпсіс для ўсіх у адзін і той жа час у параўнанні з тым, што ва ўсіх людзей свінні як свінні, рохкаюць сабе і жыццём цешацца, пакуль гаспадар іх печань не далучыў на патэльні да цыбулі. А ў Рыгора тыя свінні з пячонкай на тым месцы, якое забяспечвае натуральнае функцыянаванне ўсіх органаў, на ногі не ўстаюць. Паляглі, небаракі, як бульбоўнік увосень.

Што было рабіць? Адказ адназначны. Выклікаць ветэрынара. Балазе ў калгасе такі быў. Праўда, казалі, што дыплом жывёльнага лекара ён купіў усё за тыя ж свіныя плечы, ну але ж не да галоўнага доктара раённай бальніцы звяртацца ў такой справе.

Ветэрынар прыйшоў праз гадзіну. Соўгаўся недзе паблізу, ну і завітаў да Міхасёва. Памераў тэмпературу жывёлам, нібыта гэта былі людзі, ды кажа:

— Ні халеры не магу разабрацца. Здаецца, усё нармальна. А на ногі чамусьці не ўстаюць. Ляжаць як п'яныя.

— А вось у чым справа! — хапіўся рукамі за галаву Рыгор. — Як я сам да таго не дадумаўся. Яны сапраўды п'яныя!

— Як гэта, — здзівіўся жывёльны лекар. — Ты ўжо са свіннямі піць стаў? Зусім апусціўся. Калі маеш гарэлку, то трэба было мяне паклікаць. Я б прыйшоў і дапамог табе. Усё ж такі я чалавек. Гэта шмат лепш чым брудная свіння. І пілі б як людзі, за сталом, а не з карыта як чатырохногія рылы.

— Ды не, — замахаў рукамі Рыгор. — Як ты мог так пра мяне падумаць. Я што, свіння, каб з карыта піць. У мяне ўсё на сваіх месцах. Я п'ю за сталом, як сапраўдны чалавек з разуменнем сваёй чалавечай вартасці. А свінні ў мяне ядуць з карыта, і за стол іх ніколі ніхто не пускае, за выключэннем таго выпадку, калі яны становяцца закускай. Я нічым за цябе не горшы, і гэтак жа як і ты ў карыта не залезу.

— Дык ты хочаш сказаць, што свінні ў цябе самі ў краму па гарэлку ходзяць і самі п'юць без гаспадара і не пытаючыся ў цябе дазволу? — здзівіўся ветэрынар. — А кот у цябе можа таксама алкаголік?

— Кот?! — задумаўся на хвілінку Міхасёў. — Здаецца не. Неяк не заўважаў яго п'янага. Хоць адзін раз было. Забылася мая баба неяк валяр'янку закаркаваць, то кот яе ўсю злізаў. Пасля да мяне біцца кідаўся, такі быў п'яны. Але больш за ім такога не заўважаў. Ды і свінні ў мяне не п'юць.

— Дык чаму ж яны п'яныя?

— Усё проста. Я самагонку сёння зранку гнаў. Націснуў аж дзесяць літраў. А брагу, як пабочны прадукт, не ведаў куды дзець, бо ўчастковы хадзіў па хатах і ўсё вынюхваў, хто самагонку цісне. Выльлю на гарод, думаю, то ўнюхае падла. Вось і вырашыў свінням аддаць, каб з'елі. І хто думаў, што там яшчэ алкаголь застаўся. Вось так яны і напіліся. А я адразу і не зразумеў у чым справа. Захварэлі, думаю. А ўжо як ты сказаў „як п'яныя", тады да мяне дайшло, што тут да чаго.

— Колькі, ты кажаш, націснуў самагонкі? — перабіў аповед Рыгора лекар.

— Дзесяць літраў.

— Дык чаму не наліваеш?

— Дык пайшлі. Пап'ём як людзі.

— Вось гэта ўжо размова. Пайшлі.

Недзе праз гадзінку, калі самагонкі было ўжо восем літраў, ветэрынар вырашыў аддзячыць гаспадару і пачаў рабіць выгляд, што ён добра памятае, дзеля чаго яго сюды паклікалі.

— Пайшлі паглядзім, што там са свіннямі, — прапанаваў ён. — Можа праспаліся ўжо. А можа патрабуюць граматнай дапамогі ветэрынара.

— Пайшлі, — пагадзіўся гаспадар.

Мужчыны выпілі яшчэ па шклянцы, не забыліся бутэльку ўзяць з сабой і пасунуліся ў хлеў. Свінні былі бадзёрымі як эстрадныя спевакі. Але ветэрынар проста так не адмовіўся ад поўнага агляду пацыентаў. Ён перагнуўся праз агароджу

і ўзяў свінку за вуха. Тая не зразумела, што гэта клопат пра яе і рванула ўбок. А лекар пераляцеў праз агароджу і ляпнуўся ў гной як каровін блін.

— Я зараз дапамагу табе, — кінуўся на дапамогу Рыгор.

Ён адчыніў брамку агароджы і хацеў падаць лекару руку. Але не ўстаяў на нагах і ляпнуўся побач з ветэрынарам. А свінні рванулі ў адчыненую брамку на вуліцу, унюхалі на стале ежу ды вырашылі закусіць.

Рыгорава жонка ў гэты момант акурат вярталася з работы. Зайшоўшы дахаты, яна ўбачыла малюнак, які, каб узяць яго ў рамку, стаў бы самым наведвальным у кожнай мастацкай галерэі свету. На лаве, за сталом, сядзелі дзве свінні і салодка даядалі капусны салат ды памідоры з агуркамі. Напалоханая лёсам мужа жанчына куляй кінулася ў хлеў і ўжо там убачыла другі малюнак, які па наведвальнасці і жаданні яго набыць нават перамог бы першы. У гноі, на свіным месцы, паклаўшы галовы на карыта, салодка спалі два чалавекі.

## *Разумны лекар*

Ніхто так не раздражняў на гэтым свеце Флёру Бабкевіча як лекары. Цярпець іх не мог больш чым вайны. З той далёкай вайны, папраўдзе кажучы, гэная непрыязь і пайшла. Нեяк адарваўся Флёра ад свайго ляснога атрада. Што гэта быў за атрад ні ён, ні хто іншы не ведалі. Хаваліся ад ворагаў па лесе і ўсё тут. А хто тыя ворагі так і не вызначылі. Вырашылі, што непрыяцелі для іх усе, хто ў гэты лес зойдзе без папярэдняй дамоўленасці і заранёў складзенай просьбы ў выглядзе сала, яек і некалькіх літраў пахучай гарэлкі, настоенай на зверабоі, ядлоўцы або бальзаме. Так і жылі. Гэная стратэгія мела як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Добра тое, што атрадам ніхто ніадкуль не камандаваў і байцы самі вырашалі як ім жыць і з кім ваяваць. Але было ў тым і благое — стралялі па іх і немцы, і саветы, і такія ж як яны нявызначаныя атрады, ды нават мірныя жыхары, што ў лес па грыбы хадзілі.

Вось аднойчы, як Флёра збочыў з партызанскай сцежкі, каб справіць у кустах натуральную патрэбу, адзін з такіх мірных грыбнікоў і пальнуў па ім са старэнькага абрэза. Ці то страляць таму не было куды, ці можа палічыў, што як Флёра зняў порткі гэта быў здзек з яго, але патрапіў прама ў мяккае месца ды ўцёк куды падалей, нават „добры дзень” не сказаўшы і не пазнаёміўшыся са сваёй мішэнню асабіста.

Сябры прыляцелі на стрэл, доўга з прастрэленага небаракі рагаталі, а пасля адправілі ў бліжэйшую вёску падлячыцца.

Вось тут і пачалася нянавісць Бабкевіча да людзей у белых халатах. Справа ў тым, што той доктар, які лячыў і немцаў, і саветаў, і партызанаў, і людзей пацыфісцкіх поглядаў, і нават вясковую жывёлу, працёр рану прастрэленага гарэлкай, а выпіць не даў. Для ляснога байца большай абразы не было. Гэта ж трэба, мые гарэлкай азадак, а піць дае выключна горкія лекі.

Колькі ўжо гадоў прайшло з тае пары, а злосць былога партызана толькі ўзмацнялася. А ўсё таму, што кожны наступны лекар, які трапляўся на жыццёвым шляху ветэрана Вялікай Айчыннай, рабіў або тое сама, або яшчэ горшыя рэчы.

— Няма сярод іх разумных, — наракаў стары Флёра ўжо з вопыту пражытых гадоў. — Аднаго дня пайшоў, каб што параілі, бо моцна ў баку балела, дык яны кажуць, што гэта печань уздулася. Гавораць, што гарэлкі ўжываць мне нельга. Смех мне з іх. Нічога не стаў я гаварыць, толькі думаю сабе, якія яны бязмозгія. Мне ж акурат тады і баліць, як гарэлкі не п'ю. А як перавярну кілішак-другі, то ўсё праходзіць. Той доктар, што летась працаваў у нас, таксама быў дурань. Неяк спытаўся ў яго, што мне рабіць, бо моцна баліць левая нырка пад раніцу. А ён кажа, што на тое ёсць дзве прычыны. Першая прычына — старасць, а другая — гарэлка. Мяне такі смех узяў з яго дурноты. Другая нырка ў мяне таго ж узросту што і першая, але ж не баліць ад старасці. А гарэлку я п'ю горлам, а не ныркамі. Гнаць тых дактароў трэба. Толькі задарма хлеб ядуць.

Як толькі ў вёску прыязджаў новы лекар, Бабкевіч першы ляцеў да яго. Хіба што, каб чарговы раз пацвердзіць сваю тэ-

орыю наконт глупоты прадстаўнікоў гэтай прафесіі. Стаяў пад дзвярамі як дубовы слуп, пакуль яго не прымуць. І ўсё дзеля таго, каб пераканацца, што і гэты дурань. Нават наперад шчабятаў людзям, што ведае, які дыягназ яму паставіць чарговы медыцынскі свяціла. Вельмі просты дыягназ. І забароніць піць гарэлку.

— Яны сваё няўменне лячыць людзей на гарэлку спісваюць, — тлумачыў Бабкевіч іншым пацыентам. — У іх што ні хвароба, то ад гарэлкі. А як тады растлумачыць тое, што жывёла хварэе? Яна ж гарэлкі не ўжывае. Вось у мяне калісь карова здохла. І не старая была ды не піла зусім, толькі ваду хлябтала. Гатовы пабажыцца хоць перад бацюшкам, што ніколі яе за шклянкай не бачыў. А яна ўзяла, ды здохла. Пахварэла крыху, ды адкінулася. Нават дарэзаць не паспеў, бо ў кума свята было і мы тры дні гулялі, пакуль яна хварэла. Дык вось, мы пілі, і жывыя засталіся. А яна здохла. Разрэзалі, бачым, цвік з'ела, дурніца. Выходзіць, што здохла не ад гарэлкі, а ад кепскай закускі. А каб я цвік праглынуў? Ніхто і разбірацца не стаў бы. Сказалі б, што падох ад гарэлкі.

Неяк прыслалі ў вёску чарговага лекара. Папярэдняму хіба што сумна стала там жыць, а новы яшчэ не ведаў куды патрапіў. Ну і Флёра адразу да яго. Людзі таксама сабраліся ля палiклінікі, каб пасмяяцца з аповедаў Бабкевіча наконт інтэлекту маладога доктара. Гэта за доўгія гады ўжо стала вясковай традыцыяй. Стаяць усе разявіўшыся ля пабуранай канторы, ды чакаюць выхаду артыста Флёры. А той заўсёды выскаквае з усмешкай на вуснах ды сцвярджае, што і гэты доктар дэбіл. Маўляў, знайшоў у яго хваробу, якая называецца алкагалізмам. І што ўсе яго праблемы і болі ад таго, што

ўчора шмат выпіў. А калгаснікам весела. Рагочуць, цешацца. Не так ужо шмат ёсць чаго ў тым калгасным жыцці, каб можна было пасмяяцца. Вось і ловяць кожны момант.

Але на гэты раз Флёра выйшаў з паліклінікі вельмі сур’ёзны.

— Ну што? — пытаюць у яго вяскоўцы. — Што сказаў гэты дурань? Што піць нельга?

— Хлопцы, гэты лекар неверагодна разумны, — задумліва вымавіў збянтэжаны ненавіснік медыкаў, высока падняўшы палец угару для надання важнасці сказанаму. — Я ўжо і не чакаў сустрэць сярод іх разумнага, але напаткаў. Гэты ўсіх нас вылечыць. Яму верыць можна. Разбіраецца ў хваробах як цыган у конях. Які разумны! Відаць, вучоны, не тое што тыя прыдуркі. А гэты дык і распранаць мяне не стаў. Толькі глянуў у вочы і адразу паставіў правільны дыягназ.

— А што там было? — заінтрыгаваліся прысутныя. — Распавядай хутчэй.

— А што распавядаць, — буркнуў усхваляваны Флёра. — Кажу вам, што чалавек разумны. У хваробах разбіраецца. Дарма я грашыў, наракаў на ўсю медыцыну. Думаў усе да аднаго там бязмозгія. Цяпер мушу павініцца. Не праў я быў. Ёсць і сярод іх спецыялісты. Вось як гэты. Такі разумны, што Божа барані. Не галава, а Дом саветаў. Геній пакуль што нікім не прызнаны. Я першы яго адкрыў. Добра што пайшоў сёння лячыцца. Прыйшоў я да яго і гавару, што галава мне моцна баліць. Але, сцвярджаю, што ён мяне не вылечыць. І з тае прычыны ўсё спіша на гарэлку. Скажа, што каб не балела галава, трэба не піць. А ён глянуў мне ў вочы, засмяяўся,

ды кажа, што галава мне баліць не ад таго, што я выпіў гарэлкі, а ад таго, што яшчэ сёння не піў. Вось дзе разумны чалавек, які ва ўсім разбіраецца добра. Так і параіў мне. Ідзі, кажа, дзед, пахмяліся, і галаўны боль прападзе бясследна. Знікне, як карова языком зліжа.

7 • Небяспечны дзень
12 • Ачышчэнне душы Кастуся
18 • Куля
22 • Генеральскі куст
28 • Вайна пад стрэхамі, ну
35 • Аўтамара
41 • Бабулін шаптун
46 • Лебядзіная песня
52 • Офісная папера
58 • Чарадзейныя кропелькі
63 • Веліч традыцый
69 • Кітайскі компас
75 • Лямпачка прапаршчыка
82 • Страх кары нябеснай
88 • Шлях да Марфея
93 • Іспыты на кемлівасць
99 • Футбольны мячык
105 • Любімы коцік
111 • Анамальныя з'явы
116 • Шалёная ліса
122 • Наканаваны скарб
127 • Прыкметы для сноба
132 • Споведзь свядомага беларуса
138 • Гуманны метад
144 • Зуб мудрасці
149 • Німбы для правільных

154 • Выбар жанатага аўтааматара
160 • Чорны дзень
165 • Восьмае сакавіка
або Міжнародны жаночы дзень
174 • Помста Ката
179 • Пакуты творчасці
185 • Хрэсьбіны
191 • Хатняя закуска
197 • Недарэчнасці статыстыкі
203 • Беларускі бегемот
209 • Палескае вяселле
215 • Кацiны кат
220 • Чарадзейныя лекі
225 • Філасофскія развагі
231 • Навагоднія падарункі
237 • Вясковы Фабержэ
242 • Хто ў хаце гаспадар
247 • Філасофскі досвед
254 • Сваяцкія разборкі
259 • Важныя лектары
265 • Бацькава навука
271 • Лекцыя па хіміі
276 • Зачараваныя індыкі
282 • Барацьба з зялёным змеем
287 • Свінячая гісторыя
292 • Разумны лекар